*Ігар Германчук — самы гераічны рэдактар самай гераічнай беларускай газэты.*

Васіль Быкаў

*Я павінен сказаць, што Ігар — гэта чалавек беларускай гісторыі.*

Зянон Пазьняк

*Незалежная Беларусь стала мэтай і зьместам ягонага жыцьця зь юначых гадоў… Мне здаецца, ён проста задыхнуўся ад вострага недахопу свабоды.*

Уладзімер Арлоў

Сяргей Астраўцоў

# спадар свабода

## Жыцьцё і сьмерць
## Ігара Герменчука

Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

**Сяргей Астраўцоў. Спадар Свабода: Жыцьцё і сьмерць Ігара Герменчука.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2020. – 328 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Сяргей Дубавец*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Мікола Раманоўскі*

«Спадар Свабода» — драматычны аповед пра Ігара Герменчука, журналіста і палітыка, аднаго з бацькоў незалежнасьці Беларусі, рэдактара газэты СВАБОДА. Газэта пісала праўду пра чынавенства, таму выходзіла пад пастаянным ціскам з боку кіраўніка ўраду Кебіча, а ў часы прэзыдэнта Лукашэнкі была забароненая. Рэдактара-прафэсіянала звольнілі з пасады «за непрафэсіяналізм», што, магчыма, прычынілася да ягонай раньняй сьмерці.


FOL

ISBN 978-0-929849-55-3

# Зьмест

## Курс свабоды

Год быў 1990-ты, Ігар Гермянчук зайшоў у мой кабінэт у Доме друку, дзе мы нешта абмяркоўвалі зь яго аднакурсьнікам Сяргеем Навумчыкам, і яны раптам кінуліся насустрач адзін аднаму і абняліся як абдымаюцца салдаты пасьля вайны: «Дзядзька, віншую, узаемна!» — абодва перамаглі на выбарах у самы важны парлямэнт у гісторыі Беларусі, проста ніхто яшчэ ня ведаў, што ён стане самым важным і што іх галоўная перамога наперадзе. Памятаю, як разам зь лёгкай зайздрасьцю ў мяне ўзьнікла выразнае адчуваньне, што яны ўжо ў іншым вымярэньні, зь незнаёмай адказнасьцю, невядомымі ўзаемаадносінамі з будучыняй, на нейкай новай вайне.

Так і сталася.

Гэтая кніга прысьвечаная адной асобе, але партрэт атрымліваецца групавы: курс журфака, які даў героя, аўтара і рэдактара гэтай біяграфіі, іх сяброў і сяброўак, якія стваралі новы час у літаратуры, журналістыцы, гісторыі.

Ігар рэдагаваў самую папулярную ў краіне незалежную беларускую газэту так, як вядуць баявыя дзеяньні адначасна на сушы, на вадзе і ў паветры, бо газэту з назвай «Свабода», верагодна, можна рэдагаваць толькі так. Яго біяграфія чытаецца як франтавы раман, таму што вайна за Беларусь — заўсёды вайна за свабоду.

Хоць гэтая вайна ня скончаная, ён перамог.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

## Час пісталетаў

За пераездам пачыналася вуліца Шырокая. Зрабіўшы правы паварот, кіроўца паволі перасякаў шэрагі чыгуначных рэек. У сьвятле самотнага ліхтара яны паблісквалі, быццам халодныя лёзы. І само гэтае марознае лютаўскае цемрыва таіла ў сабе трывогу, на якую боем адгукалася сэрца. «Я гатовы», — звыкла сказаў сам сабе ўголас.

Няспынная гатовасьць сустрэць небясьпеку твар у твар жыла ў ім, колькі сябе памятаў. Чакай нечаканага. І сустрэнь зь яраснай зацятасьцю, амаль радасна. У вялікім і малым. Вясёлая ярасьць рабіла яго шмат дужэйшым за іншых і таму — пераможцам. Заўсёды і ў кожнай сытуацыі ён мусіў перамагчы.

Ён вяртаўся дахаты — з тлумнага гораду ў свае ціхія аднапавярховыя Калодзішчы. Калі праца ў рэдакцыі зацягвалася дапозна, вяртаўся адзін, жонка з сынам начавалі ў горадзе ў цешчы зь цесьцем, як гэтым разам.

Спыніўшыся перад плотам, ён абмацаў за пазухай пісталет. Выйшаў з машыны, азірнуўся. Быццам нідзе ні душы. Толькі з рота вырываецца жывая пара. І толькі ён, адзін на ўсёй гэтай вуліцы. Рэдактар галоўнай апазыцыйнай газэты СВАБОДА (так, прапіснымі, называла сябе сама газэта, каб ня браць важнае слова ў двукосьсе) Ігар Гермянчук.

Калодзішчы — прадмесьце сталіцы і самі сталіца тутэйшых цыганоў. А яшчэ тут чыгуначны вузел, дзе на пад'езьдзе да Менску разыходзяцца шляхі пасажырскіх і таварных цягнікоў. А папраўдзе, дык звычайная вёска, дзе большасьць хат ня маюць ні ацяпленьня, ні цёплага клязэту. Нацепліць дом трэба самому. Пасьля можна запарыць кавы і закурыць.

Азарт штодзённае барацьбы не адпускае. Спакою няма. Ды ён і ня ведае, і ніколі ня ведаў, што такое спакой. Гэта азарт, які нараджаюць у ім асадка і чысты аркуш паперы (ён адчувае сябе героем раману Ўладзімера Караткевіча «Чорны замак Альшанскі», які прачытаў яшчэ ў студэнцтве). Дзёрзкія і трапныя выкрывальніцкія артыкулы з-пад ягонага пяра чытаюць усе. Што праўда, мала каму вядома, хто аўтар, ён падпісваецца псэўданімамі. Але тэксты — заўсёды чытэльныя, рэдактар піша толькі такія. У кагосьці яны выклікаюць гнеў, а камусьці перадаецца ад іх гэты самы азарт, выкладзены на паперы прафэсійнай журналісцкай рукой.

Не запальваючы сьвятла, ён схаваў пісталет за кнігі, якіх на паліцах шмат, нібы ў бібліятэцы. «Песьня пра зубра», «Пан Тадэвуш», Статут ВКЛ, «Францыск Скарына», «Збор помнікаў...». Гэтыя тамы для яго як абарончы замкавы мур — ад тых, хто гэтага ўсяго ня ведае й ня цэніць. Для яго гэта — праўдзівыя скарбы. Зь іх бярэцца ягоная энэргія пераможцы.

Адкуль у яго пісталет, натуральна ж, незарэгістраваны? У той час, калі за адзін патрон могуць пасадзіць як за крымінальнае злачынства?

Пісталет зьявіўся пасьля стрэлу ў вакно.

У краіну прыйшоў той самы люты 1997-га... Вуліцу ў Калодзішчах замятала. Каля дому рэдактара «Свабоды» можна было адчуць сябе нібы ў далёкай глухмені. Здавалася б, да кухні сучаснай гісторыі адсюль далёка. Але ў гэтым ціхім, на першы погляд, месцы быў варштат, дзе таксама рабілася гісторыя, калі ён вяртаўся сюды з рэдакцыі. Прынамсі, і тут аказваўся супраціў, каб гісторыя не пакацілася назад.

Аднойчы рэдактар зь сям'ёю вярнуўся ўвечары дахаты і пабачыў, што вакно працоўнага кабінэта прабітае куляй. Разгледзеліся. Сама куля паблісквала на падлозе. Міліцыя вызначыла: ад дробнакалібэрнай зброі. Суседзі нічога ня бачылі й ня чулі. Так напісалі газэты.

Прагучала даволі важка: вакно працоўнага кабінэта. Але ніякага кабінэта па-за рэдакцыяй у яго не было. Тут, дома, ён пісаў і правіў тэксты за невялікім абедным сталом, які стаяў у перадпакойчыку, злучаным з маленькай кухняй. Побач лядоўня. Назваць гэта кабінэтам? Сам ён так часам яго і называў, любіў пажартаваць.

«Акно працоўнага кабінэта» — будзе са словаў самога Ігара... Сказаць замежным агенцтвам, радыёстанцыям, што за кухонным сталом ён робіць «Свабоду» — несалідна. Ігар ня ведаў пыхі, але і цану сабе знаў. Прынамсі, прафэсіяналізм быў для яго крытэрам у кожнай справе, у журналістыцы найперш. Таму ўсё мусіла быць на найвышэйшым узроўні — у тым ліку ў ягоных інтэрвію.

Стрэл быў вышэй галавы (калі б чалавек сядзеў за сталом). Апроч таго, стралок напэўна ведаў, што рэдактара няма дома, што ўвогуле нікога дома ня-

ма. Гэта было папярэджаньне. Але Ігар успрыняў яго як выклік.

На выклікі ён не ішоў — зрываўся. Толькі так можна было апярэдзіць і ўрэшце перамагчы. Натуральна, перамагчы не ў страляньні, а на газэтнай паласе — хвостка, ярка, забойча. Стрэл у вакно для рэдактара «Свабоды» быў сэнсацыяй.

«Знайшоўшы кулю (выстрал быў зроблены з дробнакалібэрнай зброі), я патэлефанаваў у міліцыю. Дзяжурная сьледчая група Менскага РАУС склала ўсе неабходныя паперы, забрала кулю і паабяцала праз пару тыдняў паведаміць аб выніках расьсьледаваньня.

Я перакананы, што гэта быў не выпадковы стрэл. Хто і за што вырашыў мяне такім чынам папярэдзіць — здагадацца няцяжка, паколькі нічым, акрамя журналістыкі, я не займаюся. Але мушу расчараваць тых, хто, магчыма, хоча запалохаць мяне падобнымі мэтадамі. Усё гэта бессэнсоўна».

Падпісана: Ігар Гермянчук.

Рэдкі выпадак, калі пад публікацыяй у «Свабодзе» стаяла ягонае прозьвішча. Рэдактар мусіць прысутнічаць не на паверхні, а ўнутры газэты, пад яе скурай, у крывацёку. Яму трэба быць і галавой «Свабоды», і яе душой.

Пазьней мы даведаемся, пра што папярэджвалі Герменчука і ў які шэраг пакладзецца гэтае здарэньне. А тады...

Яшчэ ня зьніклі сярод белага дня нязгодныя палітыкі, бясьсьледна растварыўшыся ў новай рэчаіснасьці. Кандыдатаў, што наважваліся ўдзель нічаць у прэзыдэнцкіх выбарах, яшчэ не саджалі ў турму. Яшчэ ня быўануляваны Дзень Незалеж-

насьці беларусаў. Але паліцэйская дзяржава ўжо будавалася на ўсю хаду.

Вось што яшчэ было ў тым нумары «Свабоды» за 12 лютага ў нататцы пад загалоўкам: «Стрэл у Калодзішчах. Галоўнага рэдактара СВАБОДЫ папярэдзілі...»

«Куля прабіла дзьве шыбіны і прайшла акурат праз тое месца ў маім доме, дзе я звычайна сяджу вечарамі і працую. Натуральна, калі б у той момант я сядзеў там, то гэтыя радкі давялося б пісаць некаму з маіх калег. Але стрэл зроблены ў той час, калі ў доме нікога не было. Мы прыехалі з жонкай і сынам дахаты а дзявятай гадзіне вечара і, пабачыўшы дробнае шкло на стале, адразу зірнулі на вакно: шыбіны былі прабітыя навылёт».

Праз паўтара года ён скажа ў інтэрвію:

«Я думаю, што гэты стрэл быў зроблены ў папераджальных мэтах. З мэтаю запалохаць, паўплываць на мяне як на рэдактара, каб газэта стала больш ляяльнай да прэзыдэнта і яго палітыкі. Супрацоўнікі міліцыі, якіх я выклікаў, прыехалі, усё пабачылі і знайшлі кулю. Яны пацікавіліся ў мяне: „Хто гэта вас такім чынам папярэджвае?“ Я сказаў: „У мяне няма іншых ворагаў, апрача прэзыдэнта Лукашэнкі і ягоных людзей!“»

Злачынства засталося нераскрытым, дадасьць Гермянчук. Гутарыла зь ім Паліна Сьцепаненка для бюлетэня «Права на волю».

Гэта быў час пісталетаў.

Увосень 1993 году ад рукі кілера ў Горадні гіне абласны начальнік Дзьмітры Арцыменя. Панічныя настроі сярод начальства. Прэм'ер Кебіч дае каманду: выдаць пісталеты! І прыставіць ахову да ўсіх

старшыняў аблвыканкамаў. Хто мог пра гэта паведаміць? Толькі «Свабода» Герменчука. І нечаканае супадзеньне — Арцыменя судзіўся са «Свабодай». І такое здарэньне раптам. Мараль першая: не судзіся са «Свабодай». Не пішы супраць начальства — другая.

Будуць дазволеныя газавыя пісталеты, чым скарысталіся тыя ж бізнэсоўцы, на вуліцы час рэкету. Газавы з выгляду не адрозьніваецца ад звычайнага.

Пасьля стрэлу ў вакно ў 1997-м пісталет Герменчуку даў выдавец «Свабоды» Павал Жук, так гэта выглядае зь ягоных словаў. Ці трэба было тое рэдактару? Пытаньне. Ён не бізнэсовец, не рэкецір, ён робіць газэту, і зброя ў яго ёсьць, але іншая. «Мая зброя — пяро», — мог іранічна сказаць Ігар, робячы глыток кавы, перад тым, як зацягнуцца цыгарэтай. Тут гучала і праўда, і сьцёб з савецкага штампу «прыраўняць да штыха пяро».

Сам Жук успамінае тую гісторыю па-свойму:

«З Герменчуком у нас такіх цёрак, злобных разборак, што ты такі-сякі, у прынцыпе не было. Ён, ледзь што, бег да мяне — што будзем рабіць? Нават калі ў яго стралялі некалі, я яго таксама з гэтай сытуацыі выцягнуў. Па тым часе я яго ўзброіў да зубоў. І прыставіў людзей, якія сачылі яшчэ тыдзень. Сядзелі, дзяжурылі...

...Першы раз стрэльнулі, калі дома нікога не было. Калі быў узброены, прыйшлі другі раз да яго. І калі сказалі: давай выходзь пагаварыць, то ён адказаў — калі ты думаеш, што ў цябе ёсьць „мялкашка“, то ў нас таксама нешта ёсьць. А там яшчэ хлопцы дзяжурылі нашы. Хай бы паспрабавалі руку падняць хаця б, ён ім: у нас ёсьць і наразное,

і гладкае, і якое хочаш, так што будзь свабодзен... І пасьля гэтага адсталі. Ну, гэта гэбуха была, што скажаш. Папужаць хацелі проста».

Сяргей Грыц, фотакарэспандэнт, успамінае са словаў самога Герменчука — што адбылося, калі неўзабаве пасьля інцыдэнту з куляй да Ігара ўвечары прыйшлі незнаёмыя людзі: «„Адчыніце!“. А ён — „Я зараз адкрыю агонь!“ І там нейкія чувакі, якія, можа, хацелі яму па галаве настукаць — „Слухай, які яшчэ агонь?“ І пайшлі. І ён літаральна праз дзесяць хвілін расказваў у эфіры: вось нам кажуць, што літаральна пятнаццаць хвілін назад да рэдактара „Свабоды“ Герменчука ламіліся невядомыя ў ягоны дом у Калодзішчах».

Неспакойна было на вуліцы Шырокай.

Пра зброю быў і ўлюбёны анэкдот Герменчука. Дзед у садзе палівае кветкі машыннай алівай. На немае запытаньне ўнука важка тлумачыць: «Галоўнае, хлопча, каб зброя не заіржэла...»

Іншы анэкдот яму таксама падабаўся. Барадатыя партызаны затрымалі на ўзьлеску хлопчыка: «Немцы ў вёсцы ёсьць?» — «Якія немцы, вайна даўно скончылася...» — «Халера, а мы ўсё яшчэ цягнікі пад адхон пускаем...»

Любіў пасьмяяцца.

## Усе Герменчукі

Нарадзіўся Ігар 1 студзеня 1961 году. Так у дакумэнтах, а ў жыцьці — а палове дванаццатай ночы 31 сьнежня 1960 году. Калі б запісалі дакладна, у армію трапіў бы на год раней. Паходзіў зь вёскі

Стракавічы каля Шацілак-Сьветлагорску. Бацька, Іван Гермянчук, памёр, калі старэйшай дачцэ было восем гадоў, малодшай — два месяцы, Ігару — два гады. Засталіся пяцёра малых дзяцей. Падымала ўсіх маці, Марыя Пятроўна, але галоўным у сям'і быў дзед — Пятро Гвозьдзь.

Паступаць Ігар паехаў у галоўную ВНУ краіны — Белдзяржунівэрсытэт. Балазе было ў каго спыніцца.

Старэйшая сястра Валянціна працавала ў мэдычнай установе. Яна любіла малодшага Ігара, дапамагала. Яна для яго была як другая маці. Памерла першай, у сярэдзіне 1990-х. Не магла не перажываць за яго.

Старэйшы брат Мікалай пасьпяхова рабіў прафэсійную кар'еру судзьдзі, стаў чальцом Вярхоўнага Суду. Часам Ігар выкарыстоўваў у газэце пачутыя ад яго гісторыі. Сярэдні Васіль з адукацыі быў гісторыкам. Самая малодшая сярод братоў і сясьцёр Людміла працавала бухгальтарам.

Ігара любілі. Яго посьпехі цешылі. Праца ў сталічных рэдакцыях, цікавыя артыкулы. Затым зусім нечаканае: ён трапляе ў парлямэнт! Гэта напаўняе гонарам за малодшага, што ён такі здольны, мэтаімкнёны, што робіцца вядомым у краіне чалавекам. Што, Гермянчук ваш брат? — пыталіся зьдзіўлена.

Жонка Ігара Марыя скончыла фізфак БДУ, дзе загадчыкам катэдры ядзернай фізыкі быў Станіслаў Шушкевіч. Пачынала кар'еру ў Інстытуце ядзернай энэргетыкі Акадэміі навук. Займалася чарнобыльскімі справамі, дапамагала Ігару, калі ён браўся за гэтую тэму. Пасьля яго сьмерці пра-

цавала на кіраўнічых пасадах. Кандыдат тэхнічных навук, прафэсар.

Сын Міраслаў будзе заканчваць школу, калі Ігара ня стане. Вучобу працягне на журфаку, але душа да яе ня будзе ляжаць: журналісты пры Лукашэнку зноў зрабіліся «прываднымі рамянямі». Міраслаў пойдзе ў рэкляму, дзе няма палітыкі, але захавае бацькаву жарсьць да фотасправы.

Будучы дэпутатам, Ігар атрымае ў рукі газэту «Свабода». І пасьля маскоўскага путчу 1991-га адчуе сваю місію. Сваю адказнасьць за свабоду. Нібы пройдзе чарговую сваю ініцыяцыю. Зазнае моцнае ўзрушэньне ад уласнага чыну.

У час путчу ініцыяцыю прайшла і сама газэта. Гэта было гартаваньне перад будучай барацьбою.

І з таго дня пачнецца асабістая барацьба Герменчука зь вялікімі чынамі, у чыіх руках былі дзяржаўныя рычагі, была сама краіна. За свабоду слова, за дэмакратычныя зьмены, за эўрапейскую Беларусь. Барацьба зробіцца зацяжной. Больш за тое: усё вастрэйшаю, бо супраціў будзе няўхільна мацнець.

Пастаянныя справы супраць газэты, выклікі рэдактара ў суды, патрабаваньне пазбавіць дэпутацкай недатыкальнасьці, зьбіцьцё ў парлямэнцкай залі — усё гэта немінуча адбівалася на сям'і. Перш на жонцы з сынам. На братах і сёстрах — таксама. Родныя пабойваліся за яго, перажывалі. І адчувалі дыскамфорт уласны: гэта магло пашкодзіць ім самім.

Яго любілі, і ён любіў. Сям'я для яго значыла шмат, была тым прыстанкам, які патрэбны кожнаму, асабліва калі ён «гарыць на працы». Драмай

было тое, што ягоная місія пакідала для гэтага прыстанку вобмаль часу.

Сіла прыкладу, сіла перакананьня Ігара падштурхнулі цесьця, Рыгора Іванавіча Зайцава, дапамагаць яму. Цесьць бачыў, як яму цяжка даецца «Свабода». Ігар з павагаю называў яго заўсёды менавіта — Рыгор Іванавіч, і ўсе яго так называлі. Ён, былы афіцэр марской авіяцыі, служыў на Поўначы, у Севераморску, што дадаткова іх лучыла. Адстаўнікі звычайна былі дружна за Кебіча, пасьля перамогі Лукашэнкі — дружна за яго. Рыгор Зайцаў быў не такі. Сьціплы, спакойны, нешматслоўны. Ён стаў у рэдакцыі «Свабоды» загадчыкам гаспадаркі. Хаця і на званкі адказваў, бывала, з чытачамі размаўляў.

Рыгор Іванавіч памёр на тры месяцы раней за Ігара, ня вытрымала сэрца. На пахаваньні ўжо сьмяротна хворы Ігар сказаў жонцы: «Я думаў, што сыду, дык з вамі дзед застанецца, а тут...»

## Мірскі замак. Пачаткі героя

Раз на тыдзень на факультэце журналістыкі БДУ зьяўляўся някідкі чалавек, Адам Шыдлоўскі. Ён вёў мастацкі пераклад. Тлумачыў, што прозьвішча ў яго ад слова «шыдэлак». Гэта быў чалавек з моцным беларускім гартам. Вучыў перакладаць не мэханічна, а творча. Нібы шыдэлкам зьвязваць словы ў прыгожы тэкст.

У савецкай школе галоўнай кнігай пра герояў лічылася «Як гартавалася сталь» Мікалая Астроўскага. Ангельскі пераклад яе фатальна

не пайшоў, распавядаў нам Шыдлоўскі. Бо для ангельцаў гэта была назва падручніка вытворчасьці сталі. Назву зьмянілі — «Як становяцца героямі». І чытач «клюнуў». Каму ж не цікавая рэцэптура кухні герояў?

Пазьней Ігар будзе не аднойчы згадваць тыя адметныя лекцыі. А таксама займальныя лекцыі яшчэ аднаго «моўніка», Пятра Садоўскага, які адкрываў вочы на тое, што беларуская мова мае свае адметныя фарбы, якіх у зрусыфікаваных слоўніках не заўсёды знойдзеш. Што па-беларуску «золушку» лепей назваць папялушкай, што «дзюймовачка» будзе — цалёўка, а «лятучая мыш» — кажан. Мы сядзелі тады ўтрох — Гермянчук, Дубавец і я — на галёрцы. У аўдыторыі на Маскоўскай, 15, вокнамі на юрфак БДУ, пазьней — акадэмію пры прэзыдэнту.

Ігар быў вельмі ўсьцешаны, што мы слухаем цікавую лекцыю таго самага Садоўскага, зь якім яны, здавалася б, зусім выпадкова пазнаёміліся далёка ад радзімы, на расейскай Поўначы. За тысячы кілямэтраў, дзе наш сукурсьнік, будучы ў казарме, умацоўваўся ў сваёй нязгодзе з тым, каб Беларусь рабілася ўсё менш беларускай.

Герменчуку выпала нарадзіцца ў савецкай рэспубліцы, якая нястомна сеяла, жала, стаяла за канвэерам і старанна рапартавала Маскве, дзень і ноч на працоўнай вахце. Самая саветызаваная рэспубліка нібы саромелася сваёй назвы, ёй карцела ўсё беларускае ў душы канвэртаваць у расейскае, выціснуць па кроплі зь сябе нацыянальнае. Такі быў час і трэнд.

Насамрэч такі быў страх.

Вынішчэньне пад корань усёй нацыянальнай эліты адбылося яшчэ перад вайной. Пра гэта можна было забыць ці ня ведаць. Але страх застаўся — як нейкі новы орган у целе. Ігар прагнуў праўды. Днямі праседжваў у «Ленінцы» (так тады называлася Нацыянальная бібліятэка), вывучаючы тую гісторыю краіны, пра якую не казалі ні ў школе, ні ва ўнівэрсытэце.

Прынята лічыць, што ягонае пакаленьне было першым нябітым пакаленьнем. Нябітым — значыць, бясстрашным.

Наймагутнейшым узрушэньнем для Ігара на ўсё жыцьцё стаў Мірскі замак. Здавалася, што ў аднастайны шэры краявід калгасных вёсак ён перанесены зь нейкай іншай, дзівоснай краіны, з таго Залатога веку колішняй рыцарскай Беларусі, пра якую ня ведаў ніхто і пра якую нішто не нагадвала ў сучаснасьці. І тут раптам такая раскоша. Знаёмства адбылося ўвесну 1978 году і перавярнула сьвядомасьць.

Вырваная з гісторыі велічная пабудова, зьмешчаная ў бляклы сучасны кантэкст. Эпічны замак сустрэў сурова і змрочна. Пакінуты і занядбаны, ён, тым ня менш, хваляваў душу, абяцаў мноства неверагодных адкрыцьцяў, клікаў да творчасьці, перапаўняў гонарам за Беларусь. Пра Мір і замак карцела дазнацца ўсё, што толькі магчыма.

Паэт Алег Мінкін у сваім вершы ўбачыць замак вышчарбленым, з пустымі вачніцамі, ашчэраным ротам і чэрапам — прытулкам кажаноў. І замак чуе, як па растрэсканым муры ступае Копша, паганскі бог, прызначэньне якога — ахоўваць старавечныя скарбы.

Той вясною ў Мір са сталіцы Гермянчук паехаў са сваім новым сябрам Сяргеем Дубаўцом. Яны пазнаёміліся ва ўнівэрсытэце, апынуўшыся разам на вячэрнім аддзяленьні факультэту журналістыкі. На дзённае не прайшлі.

«У Міры, проста на местачковай вуліцы па дарозе ў невялічкі гатэль, мы пастанавілі з гэтага моманту заўсёды і паўсюль размаўляць толькі па-беларуску», — згадае пра тую паездку Дубавец.

На кадры, зробленым тады з замкавай сьцяны, — шыфэрныя дахі мястэчка, маркотныя здранцьвелыя дрэвы. Дарога. Абапал запоўненыя талай вадою нізіны. І нечаканы, спынены фотааб'ектывам рух. Сцэна з таго далёкага правінцыйнага жыцьця. Грузавік з апушчанымі бартамі. У кузаве ўгадваецца труна. За грузавіком нястройным цугам ідуць людзі.

На іншым здымку — Гермянчук з даўгімі белымі валасамі. Стаіць на замкавай сьцяне. Трымае раўнавагу. Здаецца: меч яму ў руку, латы — і будзе рыцар. Такім ён сябе ў душы і адчуў. І пасьля пранёс гэтае адчуваньне праз усё жыцьцё.

Мовазнаўца Вінцук Вячорка Ігара Герменчука ведаў ад пачаткаў моладзевага адраджэнскага руху. Пазнаёміў іх Дубавец. Хутка Гермянчук увайшоў у вузкае кола пасьвячоных, успамінае Вячорка. Назваліся групай «Незалежнасьць».

Увечары вучоба, удзень праца. Гермянчук на паліграфкамбінаце развозіў электракарам грузы. Тут і скарыстаўся доступам да наборных касаў. На працягу некалькіх месяцаў вынес поўны камплект шрыфтоў. Абмінаючы ахову і кантроль, не без павагі зазначае Вячорка.

Жонка Вячоркі Арына пашыла фартух наборшчыка з мноствам кішэняў. Кожная адпавядала пэўнай літары. Паэт і бард Сяржук Сокалаў-Воюш вырабіў гумовы валец. Дапамог швагер, які працаваў на заводзе ў Наваполацку. Дубавец замовіў пад выглядам формы для эксьлібрыса медзярыт са словам «Вястун». Можна было выдаваць сваю падпольную газэту. Чаму не дайшлі рукі? Пачалі браць у войска. Спачатку Дубаўца, а праз паўгода і Герменчука.

Ён якраз трапляў на веснавы прызыў 1979-га.

## Капэрта на конкурс

Якім ён тады быў, 17–18-гадовы Ігар Гермянчук?

«Што да адметнасьцяў характару, — разважае Вінцук, — то гэта аптымізм, іронія, самаіронія. Я прыгадаў, як Гермянчук да мяне зьвяртаўся, ён мне казаў: „Вячорка, ня вумнічай...“ Калі я пачынаў разважаць глыбакадумна, то ён мяне такім чынам вяртаў на рэальную жыцьцёвую глебу. Не прамінаў падкрэсьліць, што ён, у адрозьненьне ад нас, менчукоў, лепей ведае жыцьцё, таму што прыехаў са Сьветлагорску. У большай ступені, відаць, лічыў сябе self-made, чым мы тут у Менску. Гэта заўважна было. Так што ён сваю вартасьць ведаў і годнасьць вытрымліваў. Ён быў самадастатковы».

Дубавец успамінае, што заплянаванае нелегальнае выданьне яны ў ліставаньні называлі кодавым словам «капэрта». Калі ён, Дубавец, увосень 1978-га трапіў у войска, Гермянчук займаўся даўкамплектаваньнем падпольнай друкарні.

«Запуск выданьня, якое мусіла зьмяшчаць маніфэст, мы называлі ў лістах „адпраўкай капэрты на конкурс“, — кажа Дубавец. — Гэты запуск раз за разам адкладаўся, спрэчкі вяліся пра спосаб распаўсюду. Напрыклад, быў такі варыянт — пакідаць на століках у цягніках, або — раскідаць у паштовыя скрыні».

Безагляднасьць Ігара ў ягоных учынках спалучалася з засьцярогамі ад неабачлівасьці. Дзейнічаць трэба было максымальна прадумана.

5 сакавіка 1979 году Гермянчук напіша Дубаўцу ў войска: «Ты зноў трымаесься сваёй пазыцыі па распаўсюджваньні капэрт. Вельмі ты ўжо наіўна глядзіш на адпаведныя ўстановы, на іх магчымасьці. Адмаўляеш іх выхад на нас. Штосьці і ты, і мой Вінцук мне не падабаецеся гэтымі сваімі прапановамі. Але зразумейце, што праз гэтыя вашыя шляхі распаўсюду мы вельмі хутка будзем там, дзе камусьці гэта патрэбна. Патрэбны трэці шлях. Трэці! Прамежны! Я ўжо рабіў некалькі сынтэзаў, але вынікі незадавальняючыя. Зразумей, што для сучаснай крыміналістыкі нават папера пахне целам яе ўладальніка. Тут яшчэ думаць, думаць і думаць...»

Хлопцу толькі васямнаццаць, а ён з такімі думкамі — «папера пахне целам яе ўладальніка».

Дубавец адказвае яму ўзаемнасьцю:

13.02.79. «Каб быў я богам, першае, што зрабіў — гэта надзейна забясьпечыў вашую асьцярожнасьць. Ты б ведаў, як мяне гэта непакоіць».

Гэта рэакцыя на папярэдні ліст ад Герменчука: у яго ідэя — перакласьці з польскай кнігу «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» Уладзіслава Сыракомлі (гэта павінен быў зрабіць Дубавец), напісаць

да кнігі артыкул, што зробіць ён сам, і самім выдаць. Ды «ўсё зрабіць па-хуткаму». Самім выдаць! Гэта тады гучала саманадзейна, але найперш даволі неразважна, бо самім у СССР было нельга. Кнігі выпускала дзяржава. Толькі яна.

Сёньня кніга Сыракомлі даўно перакладзеная, выдадзеная і стала краязнаўчай клясыкай. А тады яна, зусім забытая ў Беларусі, успрымалася як крамола, і «нябітыя», натрапіўшы на яе ў бібліятэчных сховах, глядзелі на выданьне, як на авантурную прыгоду. Ну, і наіўнасьць нэафітаў адыгрывала тут сваю ролю.

І просьбы ад Дубаўца-салдата. Перш прыслаць абяцаны твор Купалы, перафатаграфаваны. А для трафарэтаў — здымкі Мірскага замка. «З Гарэцкага пераздымі, калі ласка. Апавяданьне „Рускі“ (гэта ўсяго тры старонкі). Як бачыш, шмат працы фатаграфічнай».

26.02.79. «Брату ў хату добры дзень. Маю некалькі новых прапаноў. Па-першае, сыстэматызацыя нашага ўласнага архіву па Міры. Гэта рэч няпростая, але патрэбная, і таму вось табе мае меркаваньні. Спачатку ўсе копіі дакумэнтаў і выпісы варта пранумараваць (кожны), а таксама здымкі. Усё гэта патрэбна, бо архіўчык наш можа ператварыцца ў архіў».

Тут «дакумэнты» — гэта сотні старонак, перапісаных ад рукі з даўнейшых крыніц.

Уся перапіска стракаціць інфармацыяй пра кнігі і паліграфію: радкаадліўныя машыны, шрыфты, марзаны, шпацыі... Хлопцы сур’ёзна рыхтаваліся да друкарскай і дасьледніцкай дзейнасьці, прысьвечанай пазнаньню і выратаваньню Беларусі.

## «Няхай цябе спасьцігне лёс Кейстута»

Аднойчы перад самым адыходам у войска Ігар атрымае тэлеграму:

ВІНШУЮ СА СВЯТАМ НЯХАЙ ЦЯБЕ СПАСЦІГНЕ ЛЕС КЕЙСТУТА АБ,ЯЗДЖАЮЧЫ ПАКІНЕШ РЭЧЫ=Вітаўт=

Даслана з 50-га аддзяленьня сувязі, што значыць, з Галоўпаштамту. Адрас адбіты па-беларуску: «Мінск, 103, Цікоцкага, 34, корпус 2, кв. 165. Герменчуку Ігару». Гэта адрас кватэры, дзе Ігар наймаў пакой «на пару зь іншым хлопцам» (так ён напіша Дубаўцу ў войска).

Дата — 9 траўня 1979 году.

Даслаць у БССР тэлеграму на беларускай мове ня ў кожнага хапіла б упартасьці і нэрваў. Тэлеграфных апаратаў зь беларускімі літарамі не было. Усё залежала ад добрай волі ці настрою працаўніцы пошты.

Тэкст гучыць як выклік, можа, першы такі на ягоным шляху грамадзкага дзеяча. У невялікім асабістым архіве, які Ігар трымаў у рэдактарскім партфэлі, гэтая тэлеграма захоўвалася да канца жыцьця.

Хто мог быць адпраўнікам — загадка. Хоць і выбар, нібыта, невялікі: чалавек папрасіў (ці дамогся нават) набраць па-беларуску, дасьведчаны ў лёсе Кейстута, кажа пра «рэчы» — відавочна, пра той падпольны выдавецкі рыштунак. Колькі такіх людзей было ў іхнай невялічкай групе? Вінцук ды Арына. Але яны ня сталі б віншаваць яго з савецкім сьвятам, ня сталі б пісаць савецкім пра-

вапісам, дый чыста з кансьпірацыі ня сталі б слаць тэлеграму, прычым з аднаго канца Менску ў другі. Хоць «рэчы» ў выніку засталіся ў Вінцука.

Сяргей Дубавец, які на той момант паўгода служыў у Вільні, кажа, што паміж Ігарам і Вінцуком часам узьнікала напружанасьць, што натуральна ў суіснаваньні двух юнацкіх максымалізмаў. Але гэта былі кароткія канфлікты, якія хутка зьмяняліся канструктыўнай супрацай. Справа, прынцыпы і тая ж кансьпірацыя былі вышэй за сваркі.

Верагодна быў нехта яшчэ, зь Ігаравага асяродку, каго мог ня ведаць Вінцук, але каго Ігар, як яны тады казалі, «апрацоўваў» і каму мог даверыць свае тайны, і хто з усёй безагляднасьцю мог пажадаць яму такога лёсу. Магчыма таксама, што нэафіт у мове пераблытаў словы «спасьцігнуць» і «пазьбегнуць» — магчыма, меў на ўвазе гераічнае жыцьцё князя, а не ягоную жахлівую сьмерць. Такія здагадкі выказвае Дубавец.

Мяне як аўтара яны не пераконваюць, я ня веру, што ў справах, якія рыхтуюць скрупулёзна, можна пераблытаць зусім розныя словы. Для мяне важна тое, што магія, адна з таямніц жыцьця майго героя, трапляе пад вокладку кнігі непрыдуманай, робячыся магіяй літаратуры.

Уражвае параўнаньне ў той таямнічай тэлеграме. 18-гадовы хлопец — і гістарычная асоба, якой адмерана было 85 гадоў. І якой ня стала амаль сямсот гадоў таму.

Сын Гедыміна і сам кароткі час вялікі князь літоўскі, Кейстут хадзіў з паходамі на Мазовію, ваяваў зь лівонцамі, трапляў у палон да тэўтонскіх рыцараў. Сядзеў у замкавых лёхах у Марыенбургу.

Уцёк! Дапамог Ягайлу, пляменьніку, стаць вялікім князем.

Пазьней сытуацыя рэзка зьмянілася, так часта бывала ў сярэднявеччы. Ягайла дзейнічаў як яму заманецца. Кейстут захапіў яго ў палон і змусіў прызнаць сябе, роднага дзядзьку, вялікім князем. Ягайла падпісаў паперу і быў адпушчаны. Але вырашыў адпомсьціць.

Неўзабаве людзі Ягайлы захапілі Вільню. У сталіцу прыбыў ён сам. А на дапамогу яму — крыжакі. Кейстуту з сынам Вітаўтам не ўдалося сабраць моцнае войска. Якое было выйсьце? Перамовы. Ягайла завабіў сваякоў і зьняволіў іх. Турмою стаў Крэўскі замак. Сыну, аднак, удалося ўцячы, а бацьку задушылі. Проста пальцамі пераціснулі горла. Гэта адбылося 15 жніўня 1382 году. Польскія і нямецкія храністы пакінулі пра Кейстута запісы як пра бездакорнага рыцара.

Загадкавая тэлеграма тоіць у сабе мноства сэнсаў і сакрэтаў, а параўнаньне лёсаў Кейстута і Германчука з вышыні часу наводзіць на роздум. Бо і Ігар быў бездакорным рыцарам і як дэпутат парлямэнту, і як журналіст-прафэсіянал.

Аднойчы ў Цэнтральнай кнігарні яго чакала навінка. Ён тады ўжо вярнуўся з арміі і жыў ва ўнівэрсытэцкім інтэрнаце на Кастрычніцкай. На паліцы ў ягоным пакоі зьявілася кніжачка з выявай Вітаўта на вокладцы. Вядомы почырк: мастак Мікола Купава. Дзьве драматычныя паэмы пад адной вокладкай. «Курганьне» і «Крэва». Напісаў іх паэт Мікола Арочка. Кейстут і Вітаўт зьняволеныя — пра гэта другая паэма. Сьмяротны лёс Кейстута гэтак жа засмучаў, як захапляла гісторыя ўцёкаў Вітаўта.

Ігару ня йшла з розуму тая тэлеграма. З Кейстутам. Ад Вітаўта.

Зычэньне ў тэлеграме — быццам атручаная страла, запушчаная ў будучыню. Перад тым як хлопца забяруць на службу, перад значным жыцьцёвым выпрабаваньнем. Калі на дарогу звычайна кажуць зусім іншыя словы.

Галіна Жарко вучылася на вечаровым журфаку разам зь Ігарам, запомніла яго ў плашчыку, а ўжо маразы пачаліся...

«Сабраліся былі праводзіць яго ў войска, гуляем... а ён раптам позву ўзяў ды спаліў. Нейкая адтэрміноўка там была невялікая.

Яшчэ ўспамінаецца: ішлі разам па мосьце над Сьвіслаччу, ён ужо ў форме салдацкай, насустрач афіцэр — Ігар казырае, а мне так сьмешна стала, бо дзеўка-пустасьмех...

Стаіць проста ў вачах ён. Пра Ігара Герменчука той сантымэнт застаўся не перайначаны. Бо шмат іншых сантымэнтаў неяк пабляклі, ня вытрымалі цяперашняга ўспрыняцьця чалавека.

Маладосьць і шчырасьць, гэтым запомніліся мне Ігар, а таксама Сяргей Вітушка (з 1987-га кіраўнік менскай „Талакі“, затым — адзін з тых менчукоў, хто адраджаў беларускае жыцьцё ў Вільні, дзе пазьней асьлеп у выніку цяжкай хваробы і памёр у 2012 годзе. З Герменчуком у іх быў агульны любімы паэт — Максім Багдановіч — С.А.). Успамінаю абодвух, і бачыцца нейкая аднолькавая вакол іх... ну, хай гэта будзе аўра».

Спаліць позву, — у кожным разе, — у далёкім 1979-м было выклікам. Можа крыху й позай, бо перад дзяўчынай.

## Белыя армейскія ночы

У ваенкамаце сказалі: або Ўкраіна, або Ленінград. А пасадзілі ў цягнік — і як пайшоў, пайшоў. І зусім не ў паўднёвым кірунку. Значыць, суседняя Ўкраіна адпадае. Але што тады? Ленінград? Абяцалі ж. Але пайшлі чуткі, што ніякі Ленінград ім ня сьвеціць. «Архара» вам, хлопцы! Што такое «Архара»? Архангельск.

Рана журыцца, запэўніў афіцэр. Калі ў Архангельску пакінуць, лічы, шчасьлівы білет дастаўся. Архангельск — гэта яшчэ не канец. Іншыя з вас паедуць, куды Макар цялят не ганяў. Да белых мядзьведзяў. Як трапіце на кропку, у дывізіён, у завею па вяроўцы ў сарцір хадзіць будзеце, каб не згубіцца. Струмень на марозе замярзае. Навокал толькі тундра. І нікога, і нічога.

Архангельск? Значыць, на моры, як спачатку здалося? (Горад стаіць у дэльце Паўночнай Дзьвіны, што ўпадае ў Белае мора.) Гермянчук паспрабаваў утрымаць настрой у руках.

«Купацца будзем, таварыш капітан?» — «Купацца? Калі для цябе пятнаццаць градусаў — не пытаньне, можна і акунуцца. Улетку, калі разагрэе».

На гэтым размова абарвалася. Сустрэў горад за Палярным кругам. Эмблемы і шаўрон са скрыжаванымі гарматамі часоў Пятра І. Такія мелі што артылерысты, што ракетчыкі. Для «маскіроўкі». У 10-й арміі супрацьпаветранай абароны яны таксама былі найбольш распаўсюджанымі.

Сокалаў-Воюш успамінаў пазьней пра адраджэнскія, «майстроўскія» часы: «Гермянчук у той час служыў у войску. У Архангельску, ягоная мя-

нушка была Архангел, адпаведна. І я ведаю, што каб ён не выпадаў зь беларускага кантэксту, каб не выпадаў зь беларускага жыцьця, Вячорка і Дубавец досыць часта адсылалі яму беларускую прэсу. Набывалі ўсё, што выдаецца ў Беларусі, і пасылалі яму туды ў войска».

Сам Ігар напіша, перад тым як пайсьці ў ваенкамат: «Я ўжо амаль лысы. Заставіў толькі 2–3 см... Слухай, Сяргей, у партыю табе трэ ўступіць абавязкова, і мне таксама. Таму што першым пакараньнем нашым у якім-небудзь выпадку будзе выключэньне з партыі. Strata nievialikaja».

Гэта будзе 10 траўня 1979-га. Яшчэ не салдат, а ўжо такія, зусім «не адраджэнскія» думкі. А мне здавалася, што першы раз такое прыйдзе яму да галавы пазьней, калі апынецца ў вайсковай рэдакцыі: а ці не застацца ў газэце? Табе і за пасаду, і за званьне, і ганарар, а тым жа часам ты рэальна не на службе, як астатнія.

З уласнай «партыйнай» парады ён з часам і скарыстаецца. Пазьней і ў іншых акалічнасьцях.

А гэта пачатак першага вайсковага ліста ад Герменчука: «Дзень добры, браце. Вось ужо з 14 траўня я сапраўды твой калега. Але самае горшае, што лёс закінуў мяне за цэльных дзьве тысячы кілямэтраў ад родных мясьцін. Як тут называюць, у „город трески, город тоски“. Зараз стаю днявальным. Тры гадзіны ночы. А на вуліцы сапраўдны дзень».

З шараговым, пазьней яфрэйтарам Герменчуком ліставаліся некалькі адрасантаў, вузкае кола прыяцеляў, якія рабілі гэта на беларускай мове, што ў тыя часы выглядала амаль архаічна. У пэўным сэнсе і лісты тыя нярэдка нагадваюць сваім ла-

дам стылізацыю пад вясковыя гутаркі даўнейшых пісьменьнікаў. Альбо прыпадабненьне да стылю, скажам, «Хрыста», які «прызямліўся ў Гародні». Бо не абысьціся было без падспуднага пытаньня: калі пісаць «не як усе савецкія людзі», то тады як?

Вінцук Вячорка ўспамінае: калі Герменчука забралі ў войска, слаў яму газэтныя выразкі, што датычылі беларушчыны, культуры, пісаў пра свае знаходкі ў віленскіх бібліятэках. Вінцука абавязковасьць службы абмінула, бо вучыўся на дзённым філфаку.

Пачак карэспандэнцыі, атрыманай Ігарам у архангельскай казарме, захаваўся. Ён стане парлямэнтарыем, затым рэдактарам самай значнай апазыцыйнай газэты, а лісты захаваюць для яго сваю пачатковую каштоўнасьць. Большасьць пошты была ад Дубаўца.

18.9.79. «Ты, спадзяюся, напішаш нарэшце падрабязнае пісаньне пра гэты Архангелагорск, бо ўжо войска — мне зразумела, а вось як места і людзі — не», — рабіў запыт Герменчуку Дубавец наконт наступнага ліста — пра што хацелася б даведацца.

І — крыху высакамоўна — парада ці заклік — трымаць у галаве іхні Мір у далёкім Архангельску:

*«Бо — Як Мір скажа,*
*Як Мір асудзіць —*
*так і будзе».*

Насамрэч гэта народная прыказка, ад якой нібыта паходзіць назва мястэчка Мір.

Цяпер даводзіцца пісаць шмат на вайсковыя тэмы, «хлусіць», называе гэта Дубавец. Але такая ахвяра вартая іхнай будучыні, і вось чаму: у астатнім пісаць неабходна толькі тое, што падказваюць

сэрца, сумленьне, твая самасьвядомасьць! Галоўнае: не падмануць сябе!

І парада-развага, што пісаць наогул варта пра ўсё. Але. Большасьць «пісак» цяпер пішуць «несьвядомыя творыкі». Таму што і сам народ ня мае ні самавызначэньня, ні сьвядомасьці. Чаму ж тады самавызначыўся Караткевіч? Адказ-дапушчэньне: «Ведаеш, вельмі хворы чалавек. Хвароба пазбавіла яго ўсялякае пэрспэктыўнае думкі. Яму няма чаго губляці, і таму ён піша сумленна, сьмела».

І нечаканая ў гэтым месцы настойлівая парада пад заслону — пісаць вершам, наогул спрабаваць пісаць вершы.

## Як стары дзед

Гэтае параўнаньне для Герменчука было параўнаньнем з ідэалам.

17.05.79. «Прывітаньне, Вінцук. Вось ужо з 14.05 я — вайсковец».

3.07.79. «У Архангельску мяне знайсьці даволі проста. Трэ спытаць, дзе прашпект Ленінградзкі. На яго можна трапіць на другім трамваі (яны тут нейкія дакастрычніцкія) ці на 48-м аўтобусе ехаць да прыпынку „вуліца Летнікавая“, а там сысьці і спытаць, дзе знаходзіцца мясакамбінат... Насупраць яго частка 02449. Мая, значыцца. Мяне ўсе ведаюць... Служу ва ўзводзе аховы. Так сказаць, стралок. Маю магчымасьць час ад часу тэлехванаваць у Менск».

11.08.79. «Зара сяджу тут на мяшку і чакаю адбыцьця адсюль. Справа ў тым, што прыйшоў запрос

з „Часового Севера“. Чакаюць толькі ахвіцыйнай паперкі».

29.08.79. «Вось ужо два тыдні, як працую ў рэдакцыі карэспандэнтам. Нарэшце адпусьцілі мяне туды».

10.02.1980 «З маімі старымі па-ранейшаму. Дзед, як ён заўсёды кажа, крыху ачуняў. Але ўсё роўна ня тое здароўе. Не працягне доўга. Толькі б яшчэ пабачыць яго!»

Бяз даты. «Буду ляцець ерапланам (як кажа мой дзед) адразу ў Менск».

4.11.79 «Тут, кілямэтраў дзесяць ад Архангельска, на гарыстай мясцовасьці зрабілі (і зара яшчэ працягваюць рабіць) музэй драўлянага дойлідзтва Поўначы. Ёсьць там і ветракі. Толькі калі іх паставіць побач з нашым, атрымаецца лялька і стары магутны дзед».

Дзеду Герменчука на той момант 95 гадоў. Для Ігара Пятро Панкратавіч — больш чым аўтарытэт і арыенцір у жыцьці. Здаецца, Ігар выйшаў зь дзеда, як тыя расейскія раманісты з гогалеўскага шыняля. У газэце «Свабода» імя Пятро Панкратовіч будзе галоўным рэдактарскім псэўданімам.

Вятрак — яшчэ адно моцнае захапленьне праз усё жыцьцё. Побач зь ветраком ва ўяўленьні малюецца рыцар. Дон Кіхот. Ветракі на карцінах уразяць Ігара ў майстэрні маладачанскага мастака Кастуся Харашэвіча, да якога журналіст прыедзе па інтэрвію. Крыху вобразнага мысьленьня, і ў старым магутным ветраку ён распазнае свайго ўласнага дзеда.

Стары магутны дзед, падумаўшы, — гэта ж і пра Мірскі замак таксама.

## «Талерачца з блакітнай каёмачцай»

Вайсковыя лісты, дзясяткі, калі ня сотні аркушаў, сьпісаных дробным почыркам. Часам яны не даходзяць, і гэта падрабязна абмяркоўваецца ў наступных лістах. Адзін з прыяцеляў, Ш., у змрочных настроях: «што ты ўжо дзесьці загінуў». Другі, В., празь дзень наведвае паштамт. І марна...

Ш. — гэта Віталь Шхіньян, аднакурсьнік на вячаровым аддзяленьні, адзін з групы беларускамоўных нэафітаў, сам армянін. Гэта зь ягонай мовы Ігар пакепліваў: «Талерачца з блакітнай каёмачцай», ці «пішталет», ці «На плошчы Леніна расьце хмызьняк». Працаваў Ш. пасьля апэратарам на Беларускім тэлебачаньні. В. — гэта Вінцук.

Дубаўцу здаецца, што Гермянчук зашмат жыцьцёвай энэргіі аддае «вайсковым пісаньням», і ён кажа, што лічыць гэта нявартай справай. Зрэшты, не пытаючыся думкі самога Герменчука. Хаця само сабой зразумела: маладога салдаціка ўзялі ў вайсковую рэдакцыю, вызваліўшы ад казарменнай «лямкі», і трэба сябе зарэкамэндаваць.

Маленькая чырвоная марка з гербам СССР перакрэсьленая чорнай асадкай.

З адваротнага боку капэрты карычневы трохкутны штамп: «Письмо военнослужащего срочной службы. БЕСПЛАТНО». На менскім штампе 15.01.80.

Лісты ад Герменчука сталі даходзіць толькі Дубаўцу. Прапанова Дубаўца — пісаць толькі яму, але абавязкова замоўнымі лістамі. Калі ў адваротным адрасе будзе «Архангель.» — значыць, ліст прызначаецца В., калі «Архангельск» — Ш., калі «Ар-

хангельск-60», то самому Дубаўцу. Элемэнтарнае разьмеркаваньне. Ці кансьпірацыя.

Герменчуку не да лістоў. З аднаго боку, у салдацкім жыцьці адбылася рэдкая ўдалая падзея. На службу цяпер як на працу — у рэдакцыю армейскай газэты. У казарме зайздросьцілі. Аднак было цяжка. Пісаць рэгулярна, выдаваць на-гара. Дагэтуль ён такой практыкі ня меў. Другое: галава занятая думкамі пра Мір, Радзівілаў, гісторыю, беларушчыну, а пісаць трэба зусім пра іншае. Таму настрой не-не ды робіцца прыгнечаным. Не зважаючы, што новая служба — для іншых мара.

«Ня трэба пісаць „я папросту абавязаны даць у дзень гэтых 250 радкоў“. Лічу, што абавязкі нашыя зусім іншыя. І калі ты вымушаны абставінамі. Гэта яшчэ не абавязаны», — націскае Дубавец.

Але ніхто цябе не вінаваціць, супакойвае сябра... Бо сам ён у такой жа сытуацыі: калі трапляеш у невялікую газэту, у вайсковую, у заводзкую шматтыражку ці ў раёнку — будзеш мець абавязковую норму 200–300 радкоў тэксту. Штодня. А гэта, можна сказаць, катарга. Бо абавязалаўка не выклікае натхненьня, проста ня можа падабацца.

## Пісаць пра парцянкі

Мора, што ні кажы, цешыла. Не бываў ён на моры ніколі. А чаму Белае? Бо вечна пад ільдом. Больш за паўгода.

Вятры дзьмуць. Але назвы іх цікавыя, блізкія нават чымсьці. «Сіверка» — што значыць паўночны — з найгоршых. «Поўнач» — гэта паўночна-ўсходні,

нічым ня лепшы. «Полудзен», «летнік» — значна весялейшы, бо паўднёвы. Назва саграваΛа.

На палітзанятках, потым у газэце, давялося спасьцігаць усю армейскую геаграфію.

10-я асобная армія супрацьпаветранай абароны. Поўная назва такая. Архангельская, карацей. Называлі яшчэ «паўночнай». Паўночны тэатар ваенных дзеяньняў. Тэарэтычна-патэнцыйны. Зона адказнасьці: ад мяжы зь фінамі і Нарвэгіяй да самай Чукоткі. Чукотка ўжо належыць Хабараўскай арміі, адзінаццатай. А тут табе Ледавіты акіян, Зямля Франца-Іосіфа, Новая таксама. Увесь гэты бясконцы край, неабсяжныя льды і сьнягі. Вечны мароз. Бязьлюдныя суцэльна абшары, толькі часам чумы аленяводаў. Унутры калатун. То палярны дзень, то палярная ноч. Ні дарог, нічога. Надзея толькі на лётчыкаў і ў цяплейшы час — на рачных капітанаў. Такая экзотыка. Хай сабе не зусім па-добраму, але маштаб захапляў.

«Пісаць пра парцянкі», як казаў Ігар, ён не любіў. Хочаш ня хочаш, галава напаўнялася зусім непатрэбнай інфармацыяй. Але цяпер гэта было яго жыцьцём, калі, вядома, служба і жыцьцё — гэта тое самае.

Самая горшая — чацьвёртая дывізія. Палярная. Штаб на Новай Зямлі. Як там можна жыць? Гэта як пакараньне.

Самая лепшая дывізія — тая, што лічыцца Петразаводзкай. А «наша» — гэта якой штаб у Васькове, пасёлак такі. Ардэнаносная, «сувораўская». Паветраны шчыт штабу арміі. Баявы шлях на палітзанятках вучылі на памяць. Сталінград, Курская дуга, «Багратыён». Твае мясьціны, Гермянчук, выз-

валяла, ганарыся, нагадваў камузвода. Сапраўды, называлася «Гомельскай».

Авіячасьці арміі калісьці дайшлі з баямі да Бэрліну і Прагі. У Ленінскім пакоі ўсе этапы былі адзначаныя.

Але штурм Бэрліну быў даўно. Цяперашнія гераічныя старонкі складаліся ў тым ліку зь неафіцыйнай часткі: армія абараняла ад падступнага праціўніка Салаўкі і Беламорканал. Ужо нястрашныя Салаўкі. І Беламорканал больш не называўся ўдарнай гулагаўскай будоўляй. Але Гермянчук ужо нешта чуў пра кнігу Францішка Аляхновіча «Ў капцюрох ГПУ».

## Здымак у кіцелі Пятрова

У рэдакцыі чакаў сюрпрыз. Намесьнік рэдактара Пятроў быў зь Менску. У Архары апынуўся крыху раней за Герменчука. Па падвышэньне прыбыў. І пачаліся размовы! І супадзеньні знайшліся, як жа бязь іх.

Хто б мог падумаць, што Гермянчук езьдзіў трамваем зь Зялёнага Лугу на паліграфкамбінат міма Пятрова? А старшы лейтэнант Пятроў у гэты час у сваёй армейскай газэце правіў салдацкія нататкі. Рэдакцыя была на вуліцы Якуба Коласа, па якой і хадзіў трамвай.

Яны, лічы, пасябравалі. Розьніца ва ўзросьце — некалькі гадоў. Розьніца ў званьні, вядома, ролю адыгрывала. Але адносіны былі сапраўды прыяцельскія. Гермянчук нават зрабіў дэмбельскі здымак у афіцэрскім кіцелі Пятрова.

Папяросы «Беламорканал» былі фірмовым курывам 10-й арміі. Пра гэта ведалі ўсе і кожны. А самай фальклёрнай была байка пра «НЗ» сталінскіх часоў. Ледзьве не на Паўночным полюсе быў склад зь «Беламорканалам», які ніяк не маглі скурыць. Нехта гаварыў, што ў 1950-м яго стварылі, а іншыя — што яшчэ на два гады раней. Ва ўсякім разе — пры Сталіну.

У рэдакцыі любілі пажартаваць: «Гермянчук, паляціш у камандзіроўку з прапаршчыкам на Грээм-Бэл? Раз „Бэл“ называецца, беларусы лепшыя госьці будуць. І не забудзься на „Беламорканал“. Ён мацнейшы за каньяк там, прамарожаны. Мы дамо на абмен цыгарэт зь фільтрам».

Герменчуку што жарты? Сам любіць кепікі. Але пра Грээм-Бэл чуць даводзілася. Ва ўсякім разе, што ахвотных туды трапіць у прыродзе не існавала.

«Зробіце фотарэпартаж: салдацкія будні на скрайняй Поўначы». Гермянчук, вядома ж, фатаграфаваць аматар. Афіцэр жартаваў. На Грээм-Бэл проста так ня трапіць. Да Новай Зямлі даляцець спачатку трэба. Няблізкая дарога. Адтуль гелікоптэрам. З дадатковымі бакамі. Восем гадзін у адзін канец. Адурэеш. І навокал лядовая пустэльня.

Тады лічылася, што амэрыканская авіяцыя з атамнымі бомбамі зможа некалі атакаваць цераз Паўночны полюс. На востраве Грээм-Бэл (архіпэляг Зямля Франца-Іосіфа) зрабілі самы паўночны вайсковы «аэрадром падскоку», своеасаблівы склад з узьлётнай паласой. Для дазапраўкі і папаўненьня боекамплекту, у тым ліку самалётаў супрацьпаветранай абароны, якія будуць сустракаць у паветры бамбавікі патэнцыйнага праціўніка.

## Барадаты зь беларускім вымаўленьнем

Апошнія дні лета. 1980 год. Надвор'е гарачэйшае, чым звычайна. Сухмень. Гарапь тарфянікі. Па Белым моры плыве цеплаход. Курсам на Архангельск. На борце група менскіх турыстаў. Вяртаюцца з Салавецкіх астравоў. Уражаньне пасьля былой сталінскай турмы ў манастырскіх мурах прыўзьнятым не назавеш. Зь цеплахода — у сталоўку. Называлася яна прымяншальна-ласкава: «Лебёдушка».

Згаладнелі ў дарозе па-сапраўднаму. І зьнянацку турысты чуюць беларускую гаворку, і вачам цяжка даць веры — зьвяртаецца салдат. Пагоны чорныя, сам сьветлы.

— Смачна есьці ды быць дабру, — як вам расейскія прысмакі? І называецца затым: — Ігар Гермянчук, студэнт журфаку БДУ, шараговец тэрміновай службы.

Салдат! «Ды гаворыць неяк так з фасонам, не раўнуючы Лёсік ці Станкевіч, — успамінае Пятро Садоўскі. — Так і сказаў — шараговец. Я тады гэтае слова не ўжываў. Вось, думаю, як трапна лягло». А сам салдацік — «худзенькі-худзенькі, шыйка, як у жорава, што выглядае, як кветка з гарлачыка, аздобленага зьверху вайсковым „падваратнічком“».

Што яшчэ запомнілася? За сталом усе, нават хто ніколі слова беларускага не сказаў, пачынаюць хапацца за родную мову, не адставаць. «Нарадзілася нейкая пяціхвілінная архангелагародзкая беларуская дыяспара...» Размаўлялі нядоўга, Гермянчук сьпяшаўся ў казарму. Пра што гаварылі? Пра бе-

ларускія навіны, пра любімую газэту «Літаратура і мастацтва». «Мы пазнавалі сваіх аднадумцаў па чытаных кнігах, па роднай мове, якая тады гучала менш, чым цяпер», — падсумуе Садоўскі.

27 верасьня 1980 году Гермянчук напіша Дубаўцу: «Прывітаньне, братка. Зь месяц таму ў мяне была адна з самых прыемных сустрэч за апошнія паўтара года. Неяк зайшоў павячэраць у сталовую. Стаю ў чарзе. Уперадзе невялічкая група. З выгляду турысты. І тут пачуў, што барадаты, які стаіць наперадзе мяне, павёў гаворку на мове, з прыемнейшым беларускім вымаўленьнем. Я да яго. Сапраўды, зь Менску. Яго і астатніх зьдзівіла, што на мове размаўляю. У іх было дужа мала часу. Сьпяшаліся ў аэрапорт. Ужо дамоў ляцелі. З хвілін дзесяць-пятнаццаць (пакуль стаялі ў чарзе і елі) гаварыў зь імі. У асноўным з гэтым барадатым. Назваўся Садоўскім, навуковы супрацоўнік з інстытуту мовазнаўства. Да халеры знаёмае прозьвішча, думаю. Толькі адкуль, не магу ўспомніць. А неяк, перачытваючы „ЛіМы“, якія апошні раз даслаў Вінцук, зноў прагледзеў артыкул аднаго з чэрвеньскіх нумароў, у якім ідзе гаворка аб мове і вымаўленьні дыктараў бел. радыё, TV, артыстаў тэатра і г.д. Аўтар — гэты ж Садоўскі. Яшчэ больш стаў паважаць яго».

Пра тую сустрэчу Ігар нагадае Садоўскаму праз пятнаццаць гадоў. Яны, дэпутаты Вярхоўнага Савету, разам будуць удзельнічаць у галадоўцы супраць першага рэфэрэндуму прэзыдэнта Лукашэнкі. Галадаць не дадуць. Уначы іх чакаў хапун.

«Брутальна выцягнулі ва ўнутраны двор Дому ўраду, зьбівалі дручкамі і ботамі і запіхалі, кідаючы адзін на аднаго, у цесныя закратаваныя варанкі.

Я аказаўся ў адной кампаніі з Алегам Трусавым, Лявонам Баршчэўскім, Аляксандрам Шутом ды Ігарам, — напіша пазьней Садоўскі. — На нас з Трусавым зьверху кінулі Баршчэўскага і Германчука. „Ну, Вінцэнтавіч, мы з вамі і сустракаемся, як у хапун, — пажартаваў Ігар, — то на Салаўках, то ў міліцэйскім варанку“. На другі дзень у жывым эфіры прэзыдэнт скажа, што нас вывозілі з будынку Вярхоўнага Савету на мяккіх аўтобусах...»

## Заняты аздараўляльным сном

12.03.81. Архангельск, в/ч 28136, «р», І.Германчуку. Адрас адпраўшчыка: Мн.

Набліжаецца час заканчэньня службы, чаканьне якога ператвараецца ў сэнс жыцьця для кожнага салдата. Ад яго зноў ужо некалькі месяцаў няма лістоў, і Дубавец дапускае лёгкую іронію:

«Разумею, што ты там дзед зараз, кароль, заняты аздараўляльным сном, дэмбельскай лянотай і альбомам. Клопатаў поўная галава. А што? Праз два месяцы ўбачымся. І табе галоўнае — да лета ўсталявацца. Чэрвень — экзамэны. Ліпень — практыка. Я запісаўся ў Мазыр, на сваё Палесьсе, жнівень вольны, верасень — бульба, а тамака зноў школа. Спадзяюся, што ты добра ўсьвядоміў — прыедзеш на самыя экзамэны».

Пасьля службы Дубавец вярнуўся ва ўнівэрсытэт, зрабіў высілкі, каб перайсьці на стацыянар. Запісаўся на летнюю творчую практыку ў мазырскую раёнку і думаў пра наступны навучальны год, які пачнецца з «бульбы». І тлумачыць Германчуку

пасьлядоўнасьць дзеяньняў, каб далей вучыцца на стацыянары разам.

«Школай» ён называе «альма матэр», БДУ імя Леніна, журфак. Раіць выкарыстаць канец службы на кнігі, перш на Дастаеўскага, якога адкрыў для сябе сам.

У архангельскай «Лябёдушцы» будзе яшчэ адна сустрэча зь земляком, таксама выпадковая. З мараком. Ігар пазнаў яго з акцэнту, загаварылі: аказалася, прызываўся зь Менскага раённага ваенкамату. Датэрмінова адпусьцілі на дэмбель. Чатыры разы хадзіў у далёкі паход, у падводнае плаваньне, перасякаў экватар. Камандзір лодкі, зямляк зь Віцебску, пытаўся: можа давай апошні раз яшчэ? Лодка рыхтавалася выходзіць у мора. За пяць паходаў давалі мэдаль. Не, не хачу, адказаў. Тады на тры месяцы пазьней дамоў, пражыву без мэдалька. Адмовіўся.

Гермянчук вярнуўся ў казарму. Сам рыхтаваўся да дэмбелю, дый размова ў думках працягвалася. Гэта ж трэба: гаргара пад вадою такая — вышынёю зь пяціпавярховы дом, сказаў марак, сямнаццаць мэтраў! Лічбы ўражвалі. А яшчэ больш — што такая лодка каштуе тры мільярды. А пішуць, што гадавы бюджэт на армію — сямнаццаць мільярдаў. Значыць, хлусьня. Гэта адно. Другое: за тры мільярды можна цэлы райцэнтар пабудаваць. Вось бы напісаць пра гэта ў газэту! Хацелася пісаць такое, вострую праўду...

Некалі ён зможа гэта ажыцьцявіць у сваёй «Свабодзе», дакладна праз дзесяць гадоў. І ў тым далёкім халодным Архангельску некалі нібы прарасьце насеньне, пакінутае шарагоўцам Германчуком, складзецца беларускае зямляцтва, і «Каласы

пад сярпом тваім» стануць галоўнай ягонай кнігай, а Караткевіч — пісьменьнікам нумар адзін, і «Свабода» будзе трапляць таксама і ў «город трески, город тоски».

Маладзён Гермянчук быў у тым Архангельску нібы добраахвотны грамадзкі консул сваёй краіны. Хто зь ім сутыкаўся, так і лічыў — першым сапраўдным беларусам, бачаным у жыцьці. Вядома, землякоў на Паўночным флёце хапала. Але сьвядомых не траплялася. Беларусу была ўласьцівая мімікрыя, што датычыць нацыянальнага паходжаньня: хацелася не вылучацца лішне, быць як усе, савецкім, рускім. А Гермянчук быў не такі, тым і адрозьніваўся. Пры выпадку адукуе цябе, што ў беларусаў старажытная гісторыя, Мірскі замак, рыцары былі. І мова адметная, прыгожая. І пісьменьнік Караткевіч ёсьць.

З таго часу многае зьмянілася. І беларусы сьвядомыя ёсьць цяпер. І нават клімат, што нібы адпавядаў той халоднай вайне, становіцца лагаднейшым. Аднойчы (2018) вада ў моры прагрэлася да 20–21 градуса, у другой палове ліпеня. Мне трапіўся здымак з суседняга Северадзьвінску: тырчаць з вады галовы, мноства адпачыньнікаў у моры, нібы пляж на Балтыцы. Людзі купаюцца на фоне гаргары атамнай падводнай лодкі.

З учорашнім падводнікам Ігар таксама правёў кароткі «лікбез» у беларушчыне. І ня выключана, што ў свой час матрос прагаласуе на выбарах за Герменчука альбо за іншага ненамэнклятурнага кандыдата. Далучыцца да Руху БНФ, будзе чытаць «Свабоду» і ўспамінаць часам колішнюю размову ў «Лябёдушцы».

Нядаўна наша былая аднакурсьніца даслала мне зь Віцебску армейскі здымак Германчука. Нечаканы, цікавы. Гэтаму здымку сорак гадоў. Зроблены ў рэдакцыі армейскай газэты. Ігар за сталом, з асадкай у руцэ, адарваўся ад нататкі пра баявую вучобу. Усьмешлівыя дапытлівыя вочы.

На стале адразу два тэлефоны. Адзін для ўнутранай сувязі, другі — гарадзкі. Неверагодная раскоша для салдата! Таксама перакідны каляндар, газэтная падшыўка. Сам Германчук у парадней форме, пад гальштукам. Ня можа ў рэдакцыі працаваць чалавек у паўсядзённым хэбэ. Наогул у парадней форме салдаты толькі пры штабе, прывілеяванае становішча.

Такім, пры гальштуку, ён цяпер будзе на людзях і на здымках заўсёды, на працягу ўсяго свайго жыцьця.

## Аўтаспынам на журфак

Ва ўнівэрсытэце пасьля арміі ён зьявіўся ўвосень 1981-га. Прыехаў на заняткі з «бульбы» аўтаспынам. Малой групай вырашылі, што так больш рамантычна, не захацелі разам з усімі «студэнцкім» дызэлем.

Дубавец некалі напіша пра гэта так: «Пасьля „бульбы“ з-пад Клімавічаў мы выпраўляемся ў сталіцу без капейкі грошай і не магістральнымі, а ўсялякімі бакавымі дарогамі, дзе пад'яжджаем, дзе проста ідзем, начуем у сьціртах, харчуемся папрашайніцтвам. І ні ў чым ня маем адмовы».

Без капейкі грошай... Насамрэч мелі 10 рублёў, але з умовай — толькі на кнігі, бо прачэсвалі ўсе

кнігарні, што трапляліся на шляху. А тады такіх было нямала, нават у вёсках.

«Раскручвалі» бабуль на песьні ды расповеды і ўсё гэта старанна запісвалі. Сапраўдная фальклёрная экспэдыцыя. Дзе вышываным ручнікам разжываліся, дзе гліняным збанком, найбольш было розных дэталяў ад кроснаў — зьбіралі свае этнаграфічныя экспанаты. Пасьля прачытанай у войску кнігі пра Міхала Федароўскага (фальклярыста, этнографа, археоляга) проста не ўяўлялі сабе больш важнага занятку.

Закончылі з арміяй, перавяліся на стацыянар. І разам зь імі пасялілася беларуская мова.

Хаця трэба сказаць, што на журфаку беларуская мова не была чужой. Многія выкладчыкі валодалі ёю і ставіліся прыхільна, калі хто гаварыў па-беларуску. Глеба існавала, не было запатрабаваньня сярод студэнтаў.

Карацей, выкладчыкі спрыялі зь беларушчынай. Толькі ў Герменчука здарыўся маленькі канфлікт аднойчы. Любіў прыказку «што занадта, то ня здрова». І стаў даймаць яго стары выкладчык са строгіх, Пыжкоў Васіль Андрэевіч, калісьці рэдактар «Звязды», між іншым. Што гэта, таварышы, «пальшчызна», беларусам гэтага ня трэба. Але «занадта» — такога слова ў польскай мове няма, не здаваўся Ігар. Выкладчык быў сакратаром партбюро і чалавекам вельмі партыйным. Аднак нечакана яго звольнілі. Стары быў? Мажа. Але Гермянчук прыводзіў сваю вэрсію: разьнюхалі, што брат быў у «Самапомачы», а ён у біяграфіі не ўказаў, схаваў ад роднай партыі і органаў. Ігар у душы адчуваў, што хоць і ўскосна, але перамог.

Мы гаспадары тэкстаў, не карыстальнікі, пераконвалі сябе журфакаўцы. Дакладней, яны яшчэ толькі рабілі першыя крокі, навобмацак. Ім трэба было натаваць у тоўстых сшытках у кратачку пра «люстэрка рускай рэвалюцыі» Талстога, «вучыцца стылю ў Ільліча».

Ленін быў ясным сонейкам у публіцыстыцы, як вынікала зь лекцый. За што ні браўся, усё выходзіла бліскуча, зьедліва. Апанэнтам даваў у косьці рашуча: «А вся ваша писанина, господа, — севрюжина с хреном!», «политические проститутки!»... Толькі потым выпадкова даведваесься, што «сяўружына з хрэнам» ды іншыя пэрлы — яны з твораў Салтыкова-Шчадрына. Ацаніў Ільліч стыль, пазычыў. Вось так вучылі нас, уласна кажучы, пісаць хвостка, запамінальна.

Герменчука асабліва весяліла лекцыя пра Леніна як майстра нэкралёгу ў спэцкурсе «Ленін — рэдактар». Вывучалі грунтоўна. Хоць ніхто з выкладчыкаў не заклікаў пісаць па-ленінску. У раёнцы зорак зь неба не нахапаеш у любым разе, трэба «гнаць радкі», не разгінаючыся. Пра бітву за ўраджай высмоктваць з пальца за сто дваццаць рублёў.

## Шрайбікус

Сябры называлі яго Шрайбікусам. І цяпер, успамінаючы, называюць. Шрайбікус — гэдээраўскі рэпартэр са школьнага падручніка нямецкай мовы. Заўзяты, увішны, разам з тым у слове гэтым гучыць штосьці нібы пракудніцкае, зухавае. Ігар ляпіў зь сябе гэтага шрайбікуса сам. На свой розум.

Ён хацеў быць тым шрайбікусам, якога калісьці знайшоў з захапленьнем пад вокладкай, калі перайшоў у пятую клясу.

Германчук вярнуўся з войска, для старых сяброў радасьць. Аднадумцаў стала болей. І яны ўжо мелі магчымасьць «працаваць пад легальным прыкрыцьцём „Майстроўні“», кажа сёньня Вінцук. Першая нефармальная моладзевая суполка займалася культурай. Зьбіраліся, развучвалі песьні, гаварылі пра мову, гісторыю, пра беларускія справы. Што яшчэ трэба? Хаця сьпяваць Ігару ня надта давалася. І сьпеўны бок «Майстроўні» быў па-за ім... Гэта — таксама словы Вячоркі.

Увесь вольны час займалі вандроўкі. У Вільню да Зоські Верас і Лявона Луцкевіча, у Зэльву да Ларысы Геніюш, у Гудзевічы да Алеся Белакоза, у Кушляны да Міхала Ляпехі, ці проста ўзяць ды перайсьці па дыяганалі Шаркоўшчынскі раён. Пешшу праз пушчу. Пазьней, калі пераселі на байдаркі, мэтаю сталі рэкі і ўсё, што на берагах. Усё пабачыць, сфатаграфаваць, апісаць. З гэтага і складаўся час жыцьця: заняткі ва ўнівэры, бібліятэка, вандроўкі. Час пазнаньня.

Вінцук Вячорка ўспамінаў, як з Дубаўцом і Сокалавым-Воюшам у 1979–1980 гадах выпускалі самавыдавецкі бюлетэнь «Люстра дзён», «незалежніцкі і антысавецкі». Зрабілі чатыры нумары, да 36 копій, аддрукаваных на машынцы ў «Белпалку», дзе служыў тады Дубавец. «Спэцслужбы шукалі, дзе яны друкуюцца, але нікому не магло прыйсьці ў галаву, што ўсё робіцца ў іх пад самым носам. Тым ня менш пра кансьпірацыю мы дбалі», — прызнаецца Вячорка.

Германчук даваў мне чытаць «Люстра дзён». Гэта быў 1982 год.

Друк «Вестуна» быў адкладзены да лепшых часоў, пацьвярджае Вячорка. Шрыфты і прылады перадалі на захаваньне філёлягу Сяргею Запрудзкаму, а пазьней канцы іх зьнікнуць... Вячорку больш пра гэта нічога не вядома.

Шрыфты захаваліся, і спрабавалі выкарыстаць іх ужо іншыя людзі з асяродку. Але да выніку так і не дайшло.

Што было б за «Вястун»? Турма.

Якраз у гэты час у Маскве пачаў выходзіць машынапісны альманах «Варианты». За ўдзел у ім пазьней, у 1983-м, сем гадоў зьняволеньня плюс пяць гадоў ссылкі атрымае Міхаіл Рыўкін. Яго прызнаюць вінаватым «у правядзеньні, у мэтах падрыву Савецкай улады, антысавецкай агітацыі і прапаганды шляхам вырабу і распаўсюду літаратуры». Адным словам: «варожыя дзеяньні», «дакумэнты антысавецкага зьместу». Ды яшчэ збор грошай «для набыцьця памнажальнай тэхнікі». Дзеля чаго Рыўкін на пачатку 1981 году патаемна даставіў зь Петразаводзку ў Маскву друкарскі шрыфт, «прызначаны для стварэньня пастаяннага друкарскага пункту для памнажэньня антысавецкай літаратуры». Рыўкіна арыштуюць 8 чэрвеня 1982-га, сьледзтва і працэс зоймуць больш за год. Паводле рашэньня суду: «рэчавыя доказы — саматробныя прыстасаваньні для вырабу літаратуры зьнішчыць».

Каралі бязьлітасна.

## «У нас гавораць па-беларуску»

Што ўяўляла сабой сталіца БССР з пункту гледжаньня беларускасьці? Пустыню. З рэдкімі, як і належыць, аазісамі. Так, былі некалькі рэдакцый, Саюз пісьменьнікаў, некаторыя акадэмічныя ўстановы, паасобныя катэдры ВНУ, выдавецтвы. Мову можна было пачуць дзе-нідзе ў музэі, а таксама ад кагосьці з мастакоў. Але нават у тэатры з нацыянальным рэпэртуарам акторы найчасьцей карысталіся мовай толькі на сцэне, на рэпэтыцыях. Як службовай. Гэта ж датычыла радыё і тэлебачаньня.

Дзяржаўная палітыка русыфікацыі перайшла ў рутынны працэс. Ігар кідаў выклік як рутыне, так і русыфікацыі.

У інтэрнацкім пакоі разам зь ім жылі Леанід Чарапавіцкі (ён пазьней перабярэцца ў Бэрлін, будзе пісаць адтуль у «Свабоду») і два арабскія студэнты. На дзьвярах Ігар прышпіліў абвестку — «У нас гавораць па-беларуску». І навучыў арабскіх суседзяў вымаўляць «дзякуй» і «калі ласка». І абвестка гэтая на той час выглядала даволі крамольна. «Не ў струмень». Пабач яе камэндант ці які-небудзь актывіст, і магло дайсьці да канфлікту.

Ігар любіў з жарсьцю дэклямаваць любімыя радкі: «Калісь глядзеў на сонца я, Мне сонца асьляпіла вочы...» І, абавязкова, — Алеся Разанава: «А сэнс усё пытаўся пра спажытак».

У яго былі лінгвістычныя ўпадабаньні. У аптэцы трэба набыць «талбеткі» (ну раз па-беларуску талерка, а не тарэлка, то чаму б і з таблеткамі не зрабіць падобным чынам?), і яму больш падабаецца «мары-

нарка», а не пінжак, і «крават» замест гальштука. Такія мілыя палянізмы. Хаця што зьдзіўляцца, калі дзед Ігара быў сябрам «польскага шпіёна». Але пра гэта — крыху пазьней.

У наступным за інтэрнатам доме чыясьці «сьвядомая» рука на шыбе вялікімі літарамі намалявала: Атэлье «Дождік». Герменчука іхні «дождік» выводзіў з раўнавагі. «Вось зайду і скажу: „Хачу пашыць крават і марынарку!“ І хай не пашыюць толькі!» «Дождік» быў трасянкай, але быў і выклікам. Так, выклікам суцэльным расейскім шыльдам. Проста ня вельмі ўдалым.

Мове патрэбныя станоўчыя людзі, рыцары, не такія, як усе. У Ігара захоўваўся стосам машынапіс апытаньняў, зробленых некалі філёзафам Алегам Бембелем для скандальнай па савецкіх мерках кнігі пра родную мову. Пра яе сапраўдны стан і рэальнае месца ў БССР. Перапраўленая цераз мяжу, кніга была надрукаваная ў Лёндане. У тыя часы крамола несусьветная!

Але ня ўсё беларускае было для Герменчука аднолькава каштоўным. Не забуду, як у Цэнтральнай кнігарні ён з пракудніцкімі вачыма, сьмеючыся, марна спрабуе здаць у скупку зборнік вершаў аднаго сучаснага паэта. І працуе супраць сябе, антырэклямна тлумачачы, чым праславіўся аўтар кніжкі. Тым, што ў краме сьцягнуў пляшку «Сонцадару» (распаўсюджаны савецкі гатунак гэтак званага «чарніла», тандэтнага віна). Кнігарніцы рашуча адмаўляюць у просьбе: у нас у саміх гэтай кніжкі поўна, паэт прадаецца дрэнна.

Расчараваны Гермянчук мусіць вяртацца ў інтэрнат зь нелюбімым паэтам, ставіць назад

на паліцу. Дзеля дакладнасьці: узгаданы паэт трапіў у вядомы «Сказ пра Лысую гару». Ананімны аўтар ці то пашкадаваў супольніка па цэху, ці то проста дзеля рыфмы напісаў, што засьпеты на гарачым ён быў не з «Сонцадарам», а з больш высакароднай «Плiскай» (баўгарскае брэндзі).

## Пісаць трэба, як Наўроцкі

На сёмым паверсе на Кастрычніцкай над ложкам Герменчука між іншых была кніжка Алеся Наўроцкага з важкай назвай: «Валун. Раман з апавяданьняў». Ігар любіў зачытваць упадабаныя месцы. Чытаў выразна, з імпэтам.

«На Белай Русі — зямлі маіх продкаў — непадалёку ад гарадка Мір...» Як было Герменчуку не захапіцца? І недзе там пісьменьнік паклаў свой вялізны валун, які — зачэпка для аповеду.

Наступная старонка: 1263 год. Даўмонт сьпяшаецца да Міндоўга. Калі ўбачыць валун, спыніцца, саскочыць з каня і прыкладзецца да яго чалом... А далей будзе Бірута і «Ягайлава пагоня», яшчэ далей — Мірскі замак...

Вядома, на той дзялцы Караткевіч быў найлепшым, майстрам. Але Германчук ня мог уяўляць сябе Караткевічам, самым папулярным тады пісьменьнікам. Яму бліжэйшым здаваўся Наўроцкі. Адчуваў, што зможа так сам.

Наўроцкі прываблівае Ігара сваёй большай прыземленасьцю, набліжанасьцю да рэальнага жыцьця, да вёскі, да зямлі, яны абодва былі зь вёскі, не як гарадзкі Караткевіч.

Што мы, студэнты, ведалі пра Наўроцкага? Чулі, што ў чалавека дысыдэнцкія погляды, што пакінуў Саюз пісьменьнікаў. На знак пратэсту супраць карнай мэдыцыны. Адзіны зь пісьменьнікаў, хто хацеў эміграваць. Яго захапіў прыклад Салжаніцына, Гладзіліна, Бродзкага. У нашых вачах ён меў арэол нонканфарміста сярод літаратараў. Але самі мы яго ніколі ня бачылі.

Чулі яшчэ, што працаваў у «хуткай дапамозе». Не маглі чуць, што спрабаваў надрукавацца за мяжой.

Наўроцкі родам са Сьветлагорскага раёну. Нават больш дакладна — з Шацілавіцкага. Ці ведаў Ігар пра гэта? Мог і ня ведаць. Проста супадзеньне, што кніжка гэтага пісьменьніка Герменчуку была так да густу.

А яшчэ іх лучыла генэтычная памяць пра вялікі тэрор. Пра вялікую несправядлівасьць, сьведкам якой Наўроцкі быў там менавіта — у ваколіцах Шацілак, родных мясьцінах Герменчука. Наўроцкі зводзіў рахункі з савецкай уладай за бязьвінна пацярпелых, за зьнішчаных сталінскім молахам беларусаў.

А яшчэ — засяроджанасьць на тэкстах, творчай думцы, апантанасьць пісьмом. Наўроцкі пісаў, перапрацоўваў, дапісваў, паляпшаў. Гермянчук быў такі самы, пералапачваў, перапісваў нястомна тэксты, ён будзе некалі надзвычай патрабавальным рэдактарам. Нават да сябе самога як аўтара.

Удасканальваць тэксты аўтараў — было адной з жарсьцяў Ігара. Ён гэта рабіў нястомна, апантана. І мэтанакіравана. Публікацыя ў газэце павінна быць чытабэльнай. А колькі было здольных напі-

саць з драйвам? Каб перш задаволіць рэдактара Герменчука?

Відавочна яшчэ: вершы Максіма Багдановіча, ягоны вобраз і лёс — таксама агульнае месца ў іх з Наўроцкім. У сваім «Вершы Багдановіча» Наўроцкі-апавядач ляжыць пад вярбою ў думках, што Багдановіч — геній і ягоны любімы паэт. І «шэпчуцца між сабою Багдановічавы радкі» — тыя балесныя, якія любіў Ігар. «Народ, Беларускі Народ!» Цёмны і сьляпы, быццам крот, з абкрадзенай душой, у якой нават мовы няма. І паэт дадае ад сябе:

*Мову — зялёную крону —*
*згубіў ты, мой край, згубіў.*
*Віхор ды вецер шалёны*
*крону абцерабіў.*

*Народ мой, ты нават і сёньня*
*ранейшы нясеш крыж.*
*І ходзіш ты на каленях!*
*На каленях стаіш!*

Наўроцкі пасьля фэльчарскай школы трапіць у вясковую лякарню ў Мірскім раёне. Яшчэ адно супадзеньне. Пазьней Мірскі раён скасуюць.

У Наўроцкага была амбіцыя стаць першым у літаратуры. Не паводле таленту — пісаньне яму давалася цяжка. Паводле сьмеласьці. Але амбіцыям зьдзейсьніцца не было дадзена. Хаця наступілі 1990-я, часова нават больш спрыяльныя для беларускай літаратуры. Магчыма, час ягоны мінуў.

А што Гермянчук? Ён меў шчасьлівую перавагу перад Наўроцкім. Маладосьць.

Яшчэ адна перавага: Ігар быў зусім не ў маргінальнай ролі, пачаў рабіць кар'еру, прычым у адзіна вартай, на ягоную думку, галіне — у сродках масавай інфармацыі. І зусім не карэспандэнтам раёнкі. А ў рэдакцыі, пра якую марыў. Журналісты робяцца неўзабаве заўважнымі людзьмі, цяпер яны на віду, гэта паважаная прафэсія. Ён адчувае сябе самавіта, на сваім месцы.

Яшчэ крыху часу — Гермянчук у парлямэнце, яго слухае ўся Беларусь, ён змагаецца за незалежнасьць. Становіцца адным з тых, хто вярнуў рыцарскі герб і настальгічны сьцяг часоў БНР. Нарэшце ў яго руках газэта «Свабода», якую ён робіць інструмэнтам змаганьня за Беларусь.

## Гер мянчук

«Я» ўсярэдзіне. Калі скланяю сёньня прозьвішча, «я» супрацівіцца. Ня хоча пераходзіць у «е», каб адпавядаць правілам. «Я» так і застаецца «я».

Яно было ў ім самім. Калі ён у думках спыняўся на сваім прозьвішчы ці калі вымаўляў уголас, заўсёды адчуваў усярэдзіне гэтае «я». Я зь вялікай літары.

І думка прыйшла нездарма — што прозьвішча можа складацца зь дзьвюх частак.

«Гермянчук» для Ігара гучала з прысмакам 1918 году. Немцы ў горадзе. А ў немцаў казаць гер — усё роўна, што ў палякаў — пан. На кожным кроку. А ня толькі калі перад табой начальства, заможны чалавек. А хто жыве ў Менску, то ў немца будзе гер мянчук. Не таварыш жа мінчанін, як цяпер.

Мінчане — гучыць зусім ніяк побач зь менчукамі. А калі так, то няхай сам ён прыехаў з правін-

цыйнага Сьветлагорску, наогул са Стракавіч, дзяды маглі быць некалі жыхарамі цяперашняй сталіцы. Прозьвішчы проста так не ўзьнікаюць. Глеба павінна быць.

Ён ня столькі ўпэўніў сябе ў гэтым, яму проста прыемна было думаць, што гэта магло быць праўдай. Ігар аднойчы запытаўся ў выкладчыка Пятра Садоўскага: а як вы думаеце, ці не магло маё прозьвішча атрымацца з двух слоў, ад іх зьліцьця? Той яму адказаў: чаму не, усё магчыма...

Гэта быў той самы Садоўскі, зь якім шараговец Гермянчук пазнаёміўся два гады таму на Поўначы. Першая сустрэча — у архангельскай сталоўцы «Лебёдушка», другая — на Маскоўскай у Менску, у журфакаўскай аўдыторыі. Лёс іх нібыта зводзіў наўмысна.

А яшчэ да такіх «пошукаў імя» яго падспудна падштурхоўвалі «Тутэйшыя» Янкі Купалы з «гер германішам», «трагічна-сьмяшлівыя сцэны ў 4-х дзеях».

Выдуманае «гер германіш» гучала з вуснаў Мікіты Зноска прынізьліва, угодліва, дзесь за сьпінай таго нямецкага жаўнера, акупанта на менскім бруку.

## «Наццэм», значыць — наш, свой

— Што, Вацюк Іваноўскі хацеў зрабіць «Свабоду», ды ня выйшла?

Вацюк быў той яшчэ «наццэм». Слова гэтага некалі баяліся як агню. Наццэм? Няхай будзе наццэм, я таксама сябе наццэмам лічу. Наццэм, значыць —

шчыры беларус, патрыёт, не савецкі чалавек, мысьлілася Герменчуку.

Аднойчы (гэта будзе праз гады) у рэдакцыі «Свабоды» на вуліцы Іванаўскай Ігар уручыў мне ратапрынтную брашурку пра Вацлава Іваноўскага, з партрэцікам. Сам прагледзеў і — мне. Пра тую першую «Свабоду» ў мяне быў дыплём на пятым курсе.

Дзіўныя рэчы: заснаваў «Свабоду» на пачатку стагодзьдзя Вацлаў Іваноўскі, каб рэдакцыя ўрэшце аднойчы нейкім містычным чынам трапіла на вуліцу Іванаўскую. Пры канцы стагодзьдзя, калі беларусам было наканавана абудзіцца да самастойнага жыцьця. І пры гэтым Іваноўскаму выпадзе лёс стаць у нягодным яму Менску бургамістрам. І загінуць на гэтай пасадзе, на якой ён імкнуўся дбаць пра жыхароў, не зважаючы на нямецкую акупацыю. Зрэшты, з рук немцаў гэтую пасаду ён і атрымаў, што зразумела. Пры Іваноўскім горад зноў называўся Менскам і ў ім існавала беларуская мова. Але часы былі жорсткія, гвалтоўныя, крывавыя.

Іваноўскі загіне ад замаху. У яго ня будзе аховы. Герменчуку будзе папярэджаньне ў выглядзе кулі. Іваноўскі стане, у пэўным сэнсе, супраць свайго жаданьня «гер менчуком». Уласна кажучы, ён жа быў варшавякам. Але будзе пахаваны па месцы сьмерці: у Менску. Ці стане ўрэшце менчуком Гермянчук? І так, і не. Жыць будзе ў прадмесьці, там і прапісаным. Але асноўнае жыцьцё будзе адбывацца ў самім Менску, бо праца і была рэальна тым жыцьцём, якое ён выбраў для сябе.

Калі Іваноўскі стаў менчуком з пачуцьця адказнасьці, каб узяць на сябе крыж беларускі, то Гермен-

чука Менск прыцягваў, ён імкнуўся туды. Зрэшты, па той самы крыж.

Іваноўскага забілі каля Нямігі, пахаваны ён на Кальварыйскіх могілках. Гермянчук ляжыць на Ўсходніх, але горад адзін, Менск.

Вацлава Іваноўскага будуць хаваць 11 сьнежня 1943-га. Прыйдзе вялікае мноства менчукоў, гэта стане народным пахаваньнем. На плячах людзі будуць несьці труну, пакрытую бел-чырвона-белым сьцягам.

Пахаваньне Ігара Герменчука 1 траўня 2002-га стане таксама людным. На труне рэдактара «Свабоды» будзе бел-чырвона-белы сьцяг, і будуць выклікаць дрыжыкі сьпевы: «Магутны Божа! Уладар сусьветаў, вялізных сонцаў і сэрц малых, над Беларусяй ціхай і ветлай рассып праменьне Свае хвалы...».

Іваноўскіх былі тры браты. У Ігара таксама былі два, старэйшыя за яго. Нібы проста супадзеньне. Але: як Вацлаў быў сярод іх адзіным беларусам, шчырым, змагаром, так выйшла і ў Ігара з гэтым.

А яшчэ слова «дзядзька» было ў яго пастаянным зваротам.

Адкуль гэта? Ад першых адраджэнцаў, нашаніўцаў, калі ўсе былі цёткамі-дзядзькамі. Пасьля па гэты бок мяжы ўсе зрабіліся таварышамі. Іншае мела непралетарскі прысмак. Было непажаданым. А Ігар са студэнцкіх часоў: Здароў, дзядзька! Бадзёра, прыязна. Па-герменчукоўску. — Ты што, дзядзька?! — зь лёгкім абурэньнем. — Не, дзядзька, трэба перарабіць, — па-сяброўску, але запатрабавальна. — Ну, добра, дзядзька, што ты прапануеш? Давай тэмы. — Дзядзька, трэба нататка на першую, дзірку

забіць, дай што-небудзь, пашукай. — Зразумела, настойлівая, але просьба.

Любіў памяншальныя імёны. Вацак. Стась. Лука. Валя (пра супрацоўніцу «Голасу Радзімы» Валянціну Трыгубовіч).

## «Свабоды» ніхто ня бачыў

Сваім часам мне давялося займацца пошукамі зьвестак пра «Свабоду» Іваноўскага. Дубавец меў ажно дзьве тэмы для дыплёмнае працы, вось мяне і выручыў.

Напачатку было зусім нягуста — 2–3 кніжныя згадкі пра газэту, якую ўзімку 1899 году беларускія студэнты падпольна выдалі ў двары Лябёдка ў Лідзкім павеце. Пра гэта пісаў прафэсар Адам Мальдзіс. Я зьвярнуўся да яго, але ні ён, ні хто іншы ў Інстытуце літаратуры АН болей нічога ня ведаў. Аднак мяне падтрымалі ў пошуках маральна. Неспадзявана выказаў падтрымку і навуковы кіраўнік маёй дыплёмнай працы прафэсар Рыгор Булацкі. Ён мне сказаў, што на катэдры гісторыі журналістыкі нешта нібы чулі пра «Свабоду», але дакладна нічога не вядома, таму карысна будзе пашукаць.

Спадзяваньні знайсьці нейкія больш падрабязныя зьвесткі былі мізэрныя.

Трэба было ехаць у Лябёдку. Справа для мяне палягчалася тым, што вёска — у былым Лідзкім павеце. Я прыехаў да бацькоў у Ліду і наступнага дня набыў квіток на жалудоцкі аўтобус. Паводле даведніка Яўгена Рапановіча, Лябёдка — у Шчу-

чынскім раёне пад Жалудком, на тэрыторыі калгаса «40 год Кастрычніка».

Было сьвята Ўсіх Сьвятых, 1-га лістапада. Аўтобус напоўніўся цёткамі, якія ехалі да касьцёла ў Жалудок. Мяне высадзілі на прыпынку, насупраць якога скрозь абляцелы яблыневы сад зеўраў выбітымі шыбамі белы тынкаваны двухпавярховы панскі дом. «Няўжо тутака выдалі „Свабоду“?» — падумалася з трымценьнем мне.

Аднак наперадзе чакалі адны расчараваньні. У 1939 годзе гэты дом прайграў у карты ў Варшаве адзін пан другому, але ніхто зь іх ня быў Іваноўскім, пра якіх тут увогуле ня чулі. Я абышоў усё наваколье, размаўляў са старымі людзьмі, заходзіў на могілкі. Анічога.

Паціху скупыя зьвесткі пра «Свабоду» пачалі колькасна павялічвацца. Шкада было толькі, што яны або не дадавалі нічога новага, або заблытвалі папярэднія. Пра газэту згадвалі амаль адначасова Максім Гарэцкі ў «Гісторыі беларускае літаратуры» і Алесь Бурбіс. Але ўсё ж у мяне не было пэўнасьці: а ці не легенда, не прыдумка — гэтая першая падпольная газэта? Віленская беларуска з аддзелу рэдкай кнігі бібліятэкі АН Літвы Ніна Ляшковіч паказала мне рарытэтнае выданьне — «Летапіс беларускага пэрыядычнага друку», які склала і выдала ў 1929 годзе ў Менску бібліёграф Юлія Бібіла. «Свабода» значылася побач зь іншымі, вядомымі пэрыёдыкамі пачатку стагодзьдзя.

Іншы віленскі беларус Лявон Луцкевіч распавёў пра публікацыю ў беластоцкай газэце «Ніва» варшаўскага гісторыка Юрыя Туронка. Гэта быў артыкул пра газэту Іваноўскага. Што праўда, ні Луц-

кевіча, ні Туронка, ні «Ніву» згадваць у друку БССР было нельга.

Артыкул Юрыя Туронка ўразіў і адначасова расчараваў. Здавалася, да таго часу амаль усе пісьмовыя зьвесткі пра «Свабоду» былі вядомыя і мне. Аднак спадар Туронак, абапіраючыся на архіўныя знаходкі, стварыў даволі цэласную гісторыю выданьня першага нумару, распавёў пра братоў Іваноўскіх. Расчаравала тое, што я займаўся справаю, якую да мяне ўжо зрабіў іншы чалавек. Два беларусы не маглі абмяняцца зьвесткамі пра беларускую газэту, не маглі нават ведаць адзін пра аднаго, бо іх падзяляла жалезная заслона савецка-польскай мяжы.

Неўзабаве ў архіве пісьменьніцы Зоські Верас у Вільні адшукалася старая капэрта з паштовым адрасам Іваноўскіх, дзе, апроч самога маёнтку Лябёдка, значылася чыгуначная станцыя Скрыбава, сёньняшнія Скрыбаўцы.

Рэч у тым, што ў 1913 годзе, пасьля заканчэньня ў Варшаве курсаў садоўніцтва, агародніцтва ды пчалярства, Зоська Верас праходзіла практыку ва ўзорнай гаспадарцы Іваноўскіх. Самога Вацлава яна ведала мала, а бачыла яго апошні раз узімку 1914 году на чыгуначным вакзале ў Пецярбургу.

З Варшавы я тым часам атрымаў ліст ад Юрыя Туронка, да якога зьвярнуўся па дапамогу. Ён даслаў здымак дому Іваноўскіх у Лябёдцы, узяты зь літоўскай кніжкі пра Тадэвуша Іваноўскага, брата Вацлава, знанага літоўскага навукоўца-біёляга. Прыблізна тады ж я знайшоў тое самае фота ў «Кароткай беларускай энцыкляпэдыі», дзе сядзіба ў Лябёдцы падаецца як «Галавічпольскі сядзібны дом». Такім чынам, дзе быў маёнтак, як быццам

знайшлі. А вось самой газэты дагэтуль ніхто на свае вочы ня бачыў.

Здаецца, Алесь Бурбіс адзначыў, што захаваліся толькі два асобнікі «Свабоды», зь якіх адзін чамусьці ва ўдавы літаратара і выдаўца Адама Кіркора. Юры Туронак таксама раіў пацікавіцца фондам фальклярыста Яна Карловіча ў Вільні, у якім захоўваліся некаторыя Кіркоравы дакумэнты. «Свабоды» там, аднак, не знайшлося.

14 красавіка 1984 году мы з братам Алесем выехалі раніцай зь Ліды на гарадзенскім экспрэсе. Шафёр уключыў варшаўскую радыёпраграму. Дыктарка паведаміла, што сёньня паводле каталіцкага календара імяніны Вацлава. А палове 9-й мы ўжо былі ў Шчучыне. Высьветлілася, што аўтобус на Галавічполе будзе толькі ў другой палове дня.

Рушылі пешшу. Здаецца, ісьці было кілямэтраў дзесяць.

Мэтраў за 400 ад Галавічполя стаяў дом, у якім Вацлаў Іваноўскі надрукаваў першы нумар газэты «Свабода». Мы агледзелі дом звонку, сфатаграфавалі (забыўшыся, праўда, праз хваляваньне ўставіць у апарат падрыхтаваную касэту).

Нам удалося распытаць спадарыню Стэфанію Каспар, простую вясковую кабету, маці якой служыла некалі ў Іваноўскіх. Дыктафона мы ня мелі, занатаваць удалося няшмат, бо пачутае было вельмі стракатым ды супярэчлівым.

Яна апавядала, прыкладам, што брат Вацлава Юры нібыта быў на высылцы ў Сібіры разам зь Леніным ды Пілсудскім, а апошні ў 1922 годзе нават прыяжджаў у Лябёдку. Расказала пра дзяцей Іваноўскіх, якія да апошняга часу жылі ў Поль-

шчы. Даведаліся мы, колькі ў двары было рабочых коней, а колькі выязных, — сястра Вацлава Галена захаплялася коннай яздою. Паводле спадарыні Стэфаніі, у 1914 годзе жонка Вацлава Сабіна адмовілася эвакуавацца, засталася зь дзецьмі дома. А Вацлаў у эвакуацыі сышоўся са сваёй сакратаркаю, і калі вярнуўся, ня стаў жыць з жонкаю... У панскім доме размаўлялі толькі па-беларуску. У паноў была вялікая бібліятэка, а ў ёй шмат старых газэт. Адразу пасьля прыходу ў 1939-м Саветаў бібліятэку разрабавалі і зьнішчылі.

Мы даведаліся таксама, што маці Вацлава — спадарыня Ядвіга — памерла ў 1935 годзе (магілу яе таксама па-варварску разрабавалі). Да канца сакавіка 1944 году ў Лябёдцы жылі Галена і Тадэвуш. Пакуль быў жывы Вацлаў, ён прысылаў ім мёд з пчольніка ў Пясках пад Менскам. Пра яго самога Стэфанія Каспар сказала, што ён «рабіў Беларусь за немцамі». Сьмерць ягоная набыла ў народзе рысы легенды. Спадарыня Каспар сказала нам, што Вацлаў Іваноўскі павінен быў у Менску выступаць з трыбуны, але загінуў ад выбуху падкладзенай міны... Вяскоўцы не чыталі савецкіх падручнікаў гісторыі і ня ведалі ідэалягічных установак — каго лічыць героем, а каго ворагам.

Дыплёмную я напісаў. Дзякуючы прафэсару Булацкаму з абаронай усё атрымалася добра, і я занёс артыкул пра «Свабоду» ў рэдакцыю «Літаратуры і мастацтва». Яго аддалі на рэцэнзію Адаму Мальдзісу. Станоўчы водгук прафэсара мне даслаў у слонімскія казармы на вайсковыя зборы тагачасны загадчык аддзелу крытыкі Анатоль Сідарэвіч. Пазьней мой артыкул надрукавалі. Каюся, але, ад-

розна ад дыплёмнай працы, імя Вацлава Іваноўскага ў ім ня згадвалася і не магло быць згаданае.

Аднойчы ўвосень нас зь сябрам, які год таму падараваў мне «Свабоду», электрычка імчала прэч ад сталіцы, у далёкую лясную вёску. Мы ехалі на ягонае вясельле. Ён мне тады расказаў, што пра мой артыкул гаварыў на Радыё Свабода Язэп Барэйка. Камэнтатар спачатку пакрытыкаваў мяне за прамаўчаньне імя Вацлава, а потым выказаў сваё разуменьне сытуацыі: у савецкай Беларусі Іваноўскага дазвалялася адно ганіць.

«Не журыся, — сказаў мне сябра, — паедзеш зноў у Лябёдку, завядзеш размову з пастухом і з трымценьнем заўважыш, як ён скручвае цыгарку з аркушыка „Свабоды“...»

## Краіна замкаў і рыцараў

Улетку 1982-га ў «Голасе Радзімы» выйдзе кароткі рэпартаж Герменчука з раскопак у Міры:

«Мне пашчасьціла. З пачатку сёлетніх раскопак у Мірскім замку гэта быў самы плённы для археолягаў дзень...» «Чым глыбей — тым цікавей. Алесь Бяляцкі дастае сьцёртыя цагліны прыступак. І тут зусім нечакана Вінцук Вячорка намацаў, не раўнуючы, залатую жылу. Разграбаючы рукамі грунт, адну за адной дастае дзьве амаль цэлыя кафліны, пакрытыя зялёнай палівай з выявамі вельмі прыгожага расьліннага арнамэнту. — Гэта першая палова сямнаццатага, — зазначае кіраўнік групы архітэктурна-археалягічнай экспэдыцыі Ігар Чарняўскі. — Здаецца, раней такіх у замку не знаходзілі».

Пра такую журналістыку Ігар і марыў. Вынікі раскопак сьведчылі, «што замак, выдатны помнік беларускай архітэктуры, які ня мае аналягаў у сьвеце, перабудоўваўся». На старонку трапіў і здымак з раскопак, зроблены Герменчуком.

У той раз і на наступны год на раскопках будзе нібы ўся новая Беларусь у зародку. Адраджэнскі рух, беларуская размова, захапленьне гістарычнымі падмуркамі, дбаньне пра захаваньне спадчыны. На раскопкі ў Мір. Ідэя кожны раз захапляла Ігара, карэспандэнта газэты для эмігрантаў.

Вядома, што адзін з Ільлінічаў, уладароў мястэчка, з часам атрымае тытул графа Сьвятой Рымскай імпэрыі на Міры, а замак набудзе статус адміністрацыйнага цэнтру Мірскага графства. Мяркуюць, што ён будаваўся Ільлінічамі з думкай ня толькі пра абарону. Атрымаць графскі тытул магчыма было, толькі калі валодаеш замкам.

Чатырыста гадоў замку ў Нясьвіжы, верасень 1983-га. Ігар Гермянчук, ужо пяцікурсьнік, з пасьведчаньнем ад «Голасу Радзімы», купляе ў касе квіток. Неўзабаве ён у барвовым «Ікарусе». Недзе наперадзе былая рэзыдэнцыя Радзівілаў, пра якіх карэспандэнту ўжо шмат чаго вядома. І адзіны беларускі замак, які захаваўся цалкам.

«Ёсьць лепшыя замкі, ёсьць горшыя. Такіх жа — няма», — скажа ён пра ўбачаны ў Нясьвіжы. Вынік паездкі: дзьве поўныя калёнкі з адметным загалоўкам-«вывараткай», квадратным, у чатыры радкі. Пачатак рамантычны: «Краінай замкаў называлі некалі нашу зямлю. Праз сорак вёрстаў (не кілямэтраў, аўтар уважлівы) стаялі магутныя мураваныя збудаваньні».

Ігар з імпэтам зачытваў: «Яны, гэтыя тоўстыя сьцены і вежы, ня раз чулі сыгналы-поклічы вайсковых труб, сьвіст стрэл і грукат гармат. У час бязьлітасных войнаў і варожых паходаў замкі былі галоўнымі пунктамі абароны, дзе зьбіраліся сілы змаганьня і каваліся будучыя перамогі».

Наконт перамог, якія каваліся ў тэксьце, мне вельмі спадабалася. Перамогі, якія куюцца, у гэтым штосьці ёсьць. Бо кавальскае, майстровае, важкае. Рэфрэнам у тэксьце — «а муры маўчаць».

Аб празьмернасьцях Радзівілаў, аб Пане Каханку, які «сьмеціў грашыма», каб пусьціць пыл у вочы асабіста каралю, Станіславу Аўгусту Панятоўскаму, запрасіўшы манарха ў 1784 годзе. Аб «штурме Гібралтара» на ставах, калі гарматным агнём адрывала рукі і ногі. Словам, аб жорсткасьці і самадурстве гаспадароў таксама, аб дрэннай славе гэтага месца. Што зробіш, бяз гэтага не абышлося. Хоць многія «факты» пасьля і не пацьвердзіліся. Дый сам вобраз Караля Станіслава Радзівіла — Пане Каханку, сабраны зь мясцовых баек, далёкі, як пішуць сёньня ў энцыкляпэдыях, ад гістарычнай праўды.

«Празь зяляніну стогадовага парку мы яшчэ здалёк заўважаем яго абрысы. І сэрца шчыміць, і грудзі напаўняюцца радасьцю», — аўтар робіць кароткую паўзу і ўзмацняе — «радасьцю спатканьня зь нечым дарагім і блізкім. Мы падыходзім бліжэй і, прытуліўшы далоні да халодных муроў, вітаемся зь ім».

Ні на хвілю не сумняюся, што Ігар так тады і зрабіў. Няхай сьцены цагляныя, няхай атынкаваныя, але — сапраўдныя. Ім столькі гадоў, як магутным дубам.

«У двары замка, абкружаным манумэнтальнымі гмахамі, — пісаў Гермянчук, — незвычайна ўтульна. Тут таксама дрэвы і кветкі. Пасярэдзіне — калодзеж з арыгінальным каваным калаўротам. Франтон галоўнага корпусу аздоблены цікавай лепкай: гарматы, воіны, дасьпехі... У цэнтры — герб Радзівілаў».

Наступны абзац: «У замку круглы год жывуць людзі. Ужо амаль сорак гадоў тут месьціцца санаторый. Сюды прыяжджаюць з усёй рэспублікі, каб адпачыць, паправіць сваё здароўе. І гэта добра. Бо замку без чалавека нельга...»

Тое, што санаторый міжкалгасны, аўтар пакінуў за дужкамі. Герменчуку не хацелася, каб Янка Запруднік ці Кастусь Акула крыва пасьміхнуліся, натрапіўшы на гэтае месца ў тэксьце. Ня кажучы пра знакамітага ў нашым вузкім коле Язэпа Барэйку, крытычны голас Радыё Свабода.

Напісаць пра Нясьвіскі замак добры, запамінальны тэкст Герменчуку тады дапамагла кніга Адама Мальдзіса, якой мы зачытваліся: «Беларусь у люстэрку мэмуарнай літаратуры XVIII стагодзьдзя». Друкавалася яна часткамі спачатку ў самім «Голасе Радзімы». Газэта гэткім чынам пашырала сабе аўдыторыю ў самой БССР.

Ігар закончыў легендай пра Чорную даму. На адным зь нясьвіскіх партрэтаў быў зроблены такі надпіс. Па-польску: чорная панна радзівілаўскага замку. Партрэт быў нядаўна знойдзены і адрэстаўраваны, зазначыў журналіст. Яе душа ня мае спакою, шаноўныя чытачы, блукае начамі па парку і замку. Падумаўшы, аўтар дадаў: «Калі б муры маглі гаварыць...».

## «Голас Радзімы»

Дзьве газэты ў БССР не пісалі пра «прывагі і надоі», не асьвятлялі «бітву за ўраджай»: «ЛіМ» і «Голас Радзімы», у другой да таго ж быў шырэйшы абсяг тэмаў і не патрабавалася згадваць Леніна і КПСС.

У «Голасе Радзімы» працавала Валянціна Трыгубовіч. Яна была з асяродку старэйшых мастакоў (Аляксей Марачкін, Яўген Кулік, Мікола Купава), якія апекаваліся студэнцкай «Майстроўняй». За старэйшымі мастакамі стаяў сам Уладзімер Караткевіч.

У 1983-м Валянціна Трыгубовіч пакінула рэдакцыю, і мы зь Ігарам пачалі супрацоўнічаць з Тацянай Антонавай. Крыху пазьней, калі Герменчука возьмуць на працу ў «Голас Радзімы», ён знойдзе сьцежку на Беларускае радыё і далучыць да гэтай справы мяне. Матэрыялы рыхтаваліся ня толькі для газэты, але і для рэдакцыі замежнага вяшчаньня, дзе тады працавала Алена Панкратава. Яна згадвае Ігара як вельмі кантактнага чалавека. Часта яго ўспамінае. Магчыма, гэта настальгія па сапраўднай журналістыцы, якую ён прадстаўляў. Бо тады ўсё ж былі запатрабаваныя прафэсіяналы.

Алена прызнаецца, што ад Герменчука першага пачула сапраўдную жывую і разам з тым такую не кандовую, інтэлігентную беларускую мову. «Вось, напрыклад, „патэлефануйце“, казаў Ігар, ці „патэлефануй“ (мы потым на „ты“ былі)».

У яго было тое, што хацелася пераняць. Быў пэўны стыль. За гэтым стаяла раскаваная асоба. З разьняволенай думкай.

Да ўсяго, яшчэ ён мог чытаць эмігранцкую прэсу, і Алене думаецца: яна нейк паўплывала на яго, тая аўдыторыя, на якую ты мусіў працаваць, для якой пісаў. Праз «Голас Радзімы», праз свой досьвед, праз сваё крытычнае мысьленьне ён сфармуляваў сваё стаўленьне да таго, што значыць Беларусь, беларускасьць. І, яна памятае, ад яго пачула цалкам іранічнае: «Ага, старэйшы брат». У 1980-я гэта было сьмела, бо ў рэдакцыі працавалі людзі, якія мелі вельмі савецкія погляды.

У памяці і нейкія тактыльныя рэчы: напрыклад, поціск рукі. Заўсёды моцны.

І яшчэ: у Алены быў моўны бар'ер, яна да кантактаў зь Ігарам не размаўляла па-беларуску. Тлумачэньне простае: калі ты не прызвычаіўся, ты й не гаварыў. «А тут было абаяньне ад гэтай мовы, ад чалавека, які размаўляў, што захацелася размаўляць».

Пасьля Ігара такім прыкладам стаў Генадзь Бураўкін, які ўзначаліў тэлебачаньне і радыё. Дзякуючы гэтым людзям Алена пачала авалодваць беларускай мовай.

## Хто Сіняк, а хто Гутырчык

У эміграцы былі два лягеры, незалежна ад краін і кантынэнтаў. Празь Ігара мы ведалі пра пэрыпэтыі эмігранцкага жыцьця са сьціплых друкаў, якія траплялі ў рукі з таго боку жалезнай заслоны. Мы былі абазнаныя, што існуе ня толькі Рада БНР, але і БЦР (у 1992 годзе Ігар наведае ў ЗША магілу кіраўніка апошняй — Радаслава Астроўскага). Ве-

далі пра амэрыканскія цэнтры «Слуцак» і «Полацак». Пра парафіі, дзе служылі па-беларуску. Што косткі ўцекачоў спачывалі на заакіянскіх могілках пад гранітнымі брыламі зь беларускімі словамі. З Пагоняй! У Беларусі такога не бывала.

Словам, хто Сіняк, а хто Гутырчык — нам было добра вядома. І, само сабой, хто такі Акула.

Якраз тады «Голас Радзімы» друкуе з працягам «Ангельскі дзёньнік» Адама Мальдзіса. Яго першым выпусьцілі за жалезную заслону папрацаваць у лёнданскай Скарынаўскай бібліятэцы, пашукаць новых сьлядоў першадрукара. Ясна: праз кантакты з эміграцыяй. Месцамі аповед выглядаў чульліва: на сустрэчу ў бібліятэку прыляцеў зь Нью-Ёрку Антон Адамовіч.

Мальдзіса Гермянчук любіў. Яго працы былі вельмі заўважныя. Мальдзіса думалі прызначыць дырэктарам інстытуту этнаграфіі, але, як напіша пазьней у лісьце да Валянціна Грыцкевіча Мікалай Улашчык, «пасьля таго, як на яго напісаў пасквіль цыган зь Міра, гэтая кандыдатура ня мае шанцаў». Выдаўцы ўспамінаў і лістоў Улашчыка патлумачылі, што меўся на ўвазе публіцыст Алесь Бажко. Так што і мірскія маглі быць усякімі.

Бажко быў адным зь некалькіх пісьменьнікаў-прапагандыстаў, каму аддалі «на заклание» эміграцыю. Кніжкі такіх аўтараў называліся нярэдка амаль аднолькава: «Татальнае банкруцтва», «Непазьбежнае банкруцтва». Пакідаючы па-за ўвагай пасквільны стыль, іх можна было чытаць «наадварот», вылоўліваючы карысныя зьвесткі.

Эміганцкія «Зважай!» і «Беларус» былі артэфактамі іншасьветнага жыцьця. Сьціплыя эміганцкія

друкі прачытваліся да літары, даючы ня столькі інфармацыю, колькі той, колішні, прыцягальны беларускі дух.

Калі ў пакоі пад стольлю была вэнтыляцыйная кратка ці радыёкропка на сьцяне, Гермянчук любіў, прымружыўшы вочы, кінуць у той бок: «І па кубачку кавы, таварыш маёр, калі ласка».

Жылося тады з усьведамленьнем, што заўсёды могуць падслухоўваць. Ясна: ня ўсіх і кожнага. А калі ты маеш адрозныя думкі, калі на языку ў цябе беларускае слова, калі ня хочаш «як усе нармальныя людзі». Значыць, ня любіш родную савецкую ўладу, значыць, ненадзейны. Вось тады цябе «на аловак» (выраз, які любіў Гермянчук). Насамрэч магло быць не да жартаў. Пра гэта распавёў Сяргей Дубавец, якому Гермянчук аднойчы прызнаецца, што трапіў на кручок.

Як толькі ў менскім студэнцкім асяродку ўтварылася «Майстроўня», нашых таварышаў пачалі «цягаць» на «гутаркі» функцыянэры КДБ. Прапаноўвалі «супрацоўнічаць», абяцалі дапамагчы з вучобай, з працай, з жыльлём, ці, наадварот, у выпадку адмовы — ускладніць сытуацыю з вучобай, працай, жыльлём, і ня толькі для цябе, але і для сваякоў. Пасьля такой сустрэчы Ігар адразу распавёў, што яго «цягалі», і прапаноўвалі, і пагражалі. Што рабіць? Займець свайго «казачка» ў органах для нашчадкаў партызан-падпольшчыкаў выглядала справай само сабой зразумелай. Якраз Ігар сумняваўся найболей. Але ўпартасьць сяброў і бяскрайняя вера Ігара ва ўласныя сілы перамаглі. Гутаркі-шпацыры з асабістам доўжыліся іншы раз па чатыры гадзіны і страшэнна вымотвалі. Тым

больш што ніякага асаблівага плёну ад іх не было. Ігар казаў пра гэта кожны раз, калі вяртаўся з такой «прагулянкі». Пакуль урэшце сам не прыняў рашэньне спыніць гэтыя сустрэчы...

## Эстонец Маргус

Турбаза «Фарэль», Заходняя Ўкраіна. Самы пачатак сьнежня 1983 году. Студэнт журналістыкі і супрацоўнік газэты «Голас Радзімы» Ігар Германчук з кілішкам «Белага бусла» за столікам у бары.

Год назад пахавалі Брэжнева пад крамлёўскай сьцяной. За стырно ўзяўся шэф КДБ Андропаў. Але і яму нездаровіцца. Пайшла чутка, і «галасы» перадалі: страляла ў галоўнага чэкіста кабета, як некалі ў Леніна. Але ў газэтах ні пра што такое ня пішуць, газэты, як заўсёды, на вечнай працоўнай вахце: рапартуюць, заклікаюць, патрабуюць справаздачы. І кляймяць тлустым чорным шрыфтам ганьбы агрэсіўнае NATO.

Ігару выпала паездка на журналісцкі сэмінар з турыстычным зьместам. Дзякуючы рэдактару, Вацлаву Мацкевічу. Чаму той Ужгарад, Мукачава, тая «Фарэль»? Гэта быў савецкі Захад. Не такі, як Прыбалтыка, але з прысмакам. Былыя вугорскія раёны. Не Расея, і нават не зусім Украіна.

Сустрэча ўсесаюзная, што азначала — большасьць будзе расейцаў. Масква, Ленінград і гэтак далей. І, не раўнуючы як тыя белыя вароны, — адзін эстонец і адзін беларус. Яны ня ведалі пра гэта напачатку. І знайшлі адзін аднаго нібы навобмацак. Ці, дакладней, візуальна.

Эстонец сядзеў за столікам на самоце. Адчуваючы сваю адрознасьць. Для яго было звычайным паводзіць сябе стрымана не сярод сваіх. Разнасьцежанай душы мець ня мог.

У ёй быў сьветлы сум, настальгія па тым, чаго ён ніколі ня бачыў, па «эстонскім часе» (словы, якія ўразяць Герменчука сваім значэньнем, бо зараз жа выклічуць у думках паралель — «беларускі час»), калі Эстонія была асобнай краінай. Сапраўды незалежнай. Усё савецкае ён не жадаў лічыць родным, хаця нарадзіўся ў савецкай Эстоніі. Бо што такое так званая буржуазная Эстонія? Свой сапраўдны сьцяг на Старым Томасе. Свая армія, хай невялікая. Свае грошы, свае дзяржаўныя межы. І частка мора, якую ня трэба дзяліць з Савецкім Саюзам. Галоўнае — гэта свабода. А цяпер яе няма...

Музыка, гамана, «Белы бусел». Нішто ні да чога не абавязвае. Даволі прыемна, але ня больш за тое. І што ён бачыць? За іншым столікам таксама адзін самотны, са сьветла-пшанічнымі валасамі. Таксама нібы сумуе сярод гаманы масквічоў ды ленінградцаў.

Яны сумуюць паасобку. Гэта працягваецца нейкі час. І ён, эстонец, зьнянацку робіць такое, чаго звычайна не рабіў: устае і накіроўваецца да чалавека, якога ня ведаў, і сам пачынае гаварыць. І папросту зьдзіўляецца сабе: эстонцы звычайна ня йдуць на кантакт зь людзьмі, якіх ня ведаюць. Але тут — далёка ад дому і пасьля пары кілішкаў каньяку.

Пазнаёміліся: Маргус, Ігар. Атмасфэра была каляжанская, ніякай напругі, і не было важным, ці былі вы дагэтуль знаёмыя, ці не. І яны сталі размаўляць.

Для эстонца нязвыкла, што ў зацьверджаных у СССР турыстычных рэгіёнах разам з Прыбалтыкай апынулася Беларусь. Чаму яна? І чым не падстава для першых словаў? Эстонец жартуючы кажа, што для яго вельмі дзіўна, чаму да прыбалтаў заўсёды дадаюць вас, Беларусь, у нас наогул нічога агульнага няма... Яны засьмяяліся. Гэта стала аб'яднальным пачаткам — што як быццам фармальна з геаграфічных ці нейкіх палітычных прычын умоўна апынуліся ў адным рэгіёне. Прыбалта-Беларусі.

І амаль адразу перайшлі тады на палітыку. На язвы і скулы СССР. На антысавецкія, трэба сказаць, размовы. Эстонец і беларус маглі сабе гэта дазволіць. Думкі і густы супалі. Недзе на савецкім алімпе ці жыў, ці дажываў учорашні шэф КДБ. Часы былі жалезабэтонныя, але хісткія. Прыходзіла ўсьведамленьне, асабліва ў сяброўскім абмеркаваньні, што нешта ўжо ня так, як было, што працягвацца бяздарны спэктакль бясконца ня можа.

Маргус Вялья працаваў у рэдакцыі газэты ў Хапсалу, невялікім горадзе ля Балтыйскага мора.

## Буслы ў Кардыльерах не жывуць

Звонку «шэфства» КДБ над журфакам ня кідалася ў вочы, але «куратар» зьяўляўся. Аднойчы розгалас выклікала канфіскацыя ў кагосьці са студэнтаў Бібліі. Старыя віленскія выданьні таксама выклікалі цікавасьць органаў, але не здаваліся ўжо тады настолькі ж небясьпечнымі, як сучасныя эмігранцкія.

Журфак тады, кажучы словамі паэта, хадзіў «пад месяцам высокім, а яшчэ — пад ГПУ». Толькі абрэвіятура зьмянілася.

Ігар у «Голасе Радзімы» забіраў рэдакцыйную пошту. Іншы сьвет. Іншыя капэрты. Далікатнасьць, дызайн, сам памер несавецкі, падоўжаная форма. Як сувэніры, прасіліся ў рукі. Бялюткія, жоўтыя, прыглушана блакітныя. Мог трапіцца ружаваты. Штэмпэлі. Надпісы. Адрасы. Почырк, словы — подых мовы іншай, забытай, узятай з даваеннага часу. Зь «Беларускай газэты», якую нельга ўспамінаць. З эміграцкіх «Конадняў», «Баявой ускалосі». З Акулавай «Зважай!». Яны траплялiся ў пошце, складалі рэдакцыйны архіў.

«Глядзі, дзядзька. Тут і ад Акулы, і ад Сіняка ёсьць». Натхненьне ўзьнікла адразу, ці прынамсі высьпела хутка. І назва сама прыдумалася: «Буслы ў Кардыльерах не жывуць».

Назва ёсьць. Раман, збудаваны з эміграцкіх лёсаў. Але пакуль з архіўнымі лістамі можна пачакаць. Занатовак не рабіў. Трымаў ідэю ў запасе.

А неўзабаве будзе АПН (Агентство печати «Новости»). Думкі пра Кардыльеры адкладуцца ў яшчэ далейшую шуфляду. Зьявілася праца, якая вымагала шмат высілкаў. Якая падабалася.

У «Голасе Радзімы» выпускалі сваю бібліятэчку. Там ягоныя «Буслы», складзеныя з жыцьцёвых нявыдуманых гісторый, выглядалі б лягічна.

У АПН было іначай. Іншыя спакусы. Паехаць за мяжу. А там, глядзіш, можна было б разьлічваць на кніжку замежных нарысаў. На вуліцы рыкшы, порсткія машыны, крык гукавых рэклям, нэонавыя шыльды, пах пернасьцяў. Напісаць можна было

знутры. Не паводле чытацкіх лістоў з газэтнага архіву.

Калі б ён затрымаўся ў «Голасе Радзімы», няхай не раман, як перш уяўлялася, але кніжку ў рэдакцыйнай сэрыі напісаць мог. У тых умовах — прывабная творчая мэта. Праўда, кніжкі з рэдакцыйнай сэрыі не траплялі ні ў кнігарні, ні ў газэтныя кіёскі, гэта значыць, да беларускага чытача. Але сам «Голас Радзімы» выглядаў на той час, што да зьместу, даволі прыстойна.

А чаму АПН? Чаму запрасілі так хутка? Ігара заўважылі. Нельга было не заўважыць. Здольны, адметны, таленавіты. І наогул увішны.

## Бойка за беларускую мову

Лета 1984-га. Учорашнія студэнты-журналісты на вайсковых зборах у Слоніме. Цагляныя трохпавярховыя будынкі, паміж імі шыхтавы пляц. Узвод агульны — журналісцка-філялягічны. У казарме яшчэ матэматыкі, юрысты, людзі зусім розныя, наогул нярэдка проста чужыя. Гермянчук унутрана напружаны. «Я гатовы».

У другой палове жніўня яму наканавана стаць бацькам. Цяжарная жонка дома, ён далёка ў казарме. Як назваць дзіця? Раіцца зь сябрамі. Міраслаў. Калі будзе дачка — Міраслава. Ёсьць польскі касманаўт Міраслаў Гермашэўскі. Гучыць. Міраслаў Гермянчук — ня горш. Гермянчук пачынае згаджацца. Яму ідэя падабаецца. Апошні рэзон — знаёмства на зборах зь Міраславам Цьвіком з нашага ўзводу. «Гэта такі чысьцюткі беларус», — скажа ён потым

жонцы... А яшчэ: Цьвік Міраслаў — гэта ўсё адно што Гвозьдзь, дзед ягоны.

Так, Міраслаў — гэта сапраўды гучыць нейк па-роднаму, прыязна, кажа ён сабе ў думках. І зьнянацку разумее, што гэтае імя пачынаецца зь яго ўлюбёнага Міра. Міра-слаў. Неверагодна!

Успомнілася нядаўняе, чэрвеньскае. Вось-вось на зборы, прыяжджае «Жыгулямі» Маргус. Наперадзе дакляраваная Ігарам паездка. Гарадзеншчына, куды яны сабраліся, здавалася рэшткамі той краіны замкаў і, само сабой, рыцараў, якой была некалі ўся беларуская зямля.

Паездка стане незабыўнай. Вясёлай, разьняволенай. І галоўным будзе наперадзе — Мірскі замак. У эстонцаў былі замкі дагледжаныя, як у «Апошняй рэлівіі», Мірскі павінен быў уражваць памерамі, відарысам, суровай веліччу, хаця фільму там ня зробіш, як зрабіла Талінская кінастудыя.

Толькі вярнуліся з паездкі, адразу — на афіцэрскія зборы. Зьмена настрою.

Зноў казарма, крыху прызабытая за тры гады. Туалетны пакой з умывальняй «лірыкі» мусілі дзяліць зь «фізыкамі», з другім узводам. У галаве ў «фізыкаў» збольшага было: «Мой адрес не дом и не улица, мой адрес Советский Союз». А спраўляць патрэбу, чысьціць зубы, абліваца халоднай вадою даводзілася разам.

Раздражняла «фізыкаў» беларуская мова. Прынамсі паасобных. Хаця ня мела ніякага дачыненьня да іхніх формул і «цифири», нічым не замінала ў казарме быць матэматыкамі. Яшчэ ня час адбою, афіцэраў у «распалажэньні» (казарме) няма. У туалеце гарыць нямоцнае сьвятло, але ўсё здаецца

кантрасным, абвостраным: асьвятленьне, твары, паставы. Насьпявае бойка.

Ужо счапіліся загрудкі, ужо схапіў хтосьці кагосьці за каршэнь. Высьвятляюць адносіны. Але кулакам пакуль ніхто волі не дае. Калі канкрэтна, то біць будуць матэматыкі, яны ж супраць, у іх жа твары агрэсіўныя. Беларускі бок — гэта перш Гермянчук, Дубавец і яшчэ нехта. Але — навокал нямала тых, хто ім спачувае. І калі дойдзе насамрэч да тузаніны, то невядома яшчэ, ці ўдасца захаваць твар тым матэматыкам...

Сьведка казарменнага здарэньня — тагачасны выпускнік філфаку Віктар Асьлюк, сёньня рэжысэр-дакумэнталіст: «Гермянчук з Дубаўцом нефармальныя лідэры былі тады. Часам задзіралі тых матэматыкаў. Размовы пра беларускую мову — у асноўным ад іх двух гэта ішло. Мы больш слухалі, былі на іх баку. Побач стаялі, мы іх былі людзі. А калі ўзьнікала больш завострана моўнае пытаньне — гэта звычайна Гермянчук быў удзельнікам. Ён здаваўся такім чалавекам адкрытым і, з другога боку, адчуваньне было, што ён намнога старэйшы за нас па гадах, хаця гэта было ня так. Вусы пшанічныя, пілётка, так і запомніўся».

## Смачны хлеб

Яму падабалася гаварыць пры нагодзе пра сваю рэдакцыю: уяві сабе, хаджу ў любімае месца, займаюся любімай справай, а мне яшчэ за гэта грошы даюць. І памятаю, пры якіх абставінах ён гэта першы раз сказаў.

Гэта было яшчэ на журфаку. Вузкі калідор, трэці або чацьвёрты паверх. Мы зайшлі ва ўмывальню (праз адчыненыя дзьверы — прыбіральня), дзе курцы дым пускалі. І там ён гэта выдаў. Відавочна, сфармуляваў для сябе з асалодаю. Яго ўзялі ў «Голас Радзімы» на працу, калі мы былі на чацьвёртым курсе.

Ведаеш, казаў ён мне, замежніцу суправаджаць па горадзе даручылі. І вось на абедзе ў рэстаране яна папрасіла хлеб з маслам, уяўляеш? Проста хлеб з маслам. Усе зьдзіўленыя, а яна: надта смачныя, натуральны смак, забыты. У іх там такога няма, разумееш?..

Смачным быў і ягоны хлеб голасарадзімаўскі. Ні за што змагацца ня трэба было, праслаўляць кагосьці — пагатоў. І нават выкрываць дробных хуліганаў, лайдакоў і несумленных прайдзісьветаў, што зазіраюць на працоўным месцы ў рыльца. А каму чорны хлеб з маслам не смакаваў, «Голас Радзімы» мог яшчэ па старой звычцы адхвастаць. Як здарылася з Васілём Крупскім, якога ногі давялі ажно да Мюнхэна. Быў такі журналіст на Радыё Свабода. Нумар «антыкрупскі» мы, аднак, гарталі зь цікавасьцю, рэдкая для нашых дзён публікацыя. Гермянчук рабіў вусны «грэблівымі», сьцісла тлумачачы — «кадэбісцкая публікацыя», не рэдакцыйная. Ва ўсякім разе, яму з калегамі такога не даручалі.

Запомнілася, што вельмі цісну аўтар на тое, што Крупскі — не ягонае прозьвішча, а школьнага сябра. Які хварэў ці памёр. Як непрыгожа, скрасьці прозьвішча! (А ў самога было габрэйскае, сьпяшаўся паведаміць аўтар). Нам тады падумалася:

псэўданім — звычайная справа ў журналістыцы, а захаваць прозьвішча сябра — хіба гэта дрэнна?

Герменчуку падабаўся «Голас Радзімы», а «Голасу Радзімы» спадабаўся Гермянчук. За стараннасьць, імкненьне да прафэсіяналізму, шчырасьць і беларускую сьвядомасьць.

Рэдактар Вацлаў Мацкевіч усё гэта ацаніў. Узяў на працу, забясьпечыў разьмеркаваньне. Наша тройца — Гермянчук, Дубавец і я — выйшла пасьля разьмеркаваньня з галоўнага будынка БДУ з розным настроем. Гермянчук паляцеў у рэдакцыю. Нас высылалі са сталіцы. Перш Дубаўца. Ён таксама ўжо студэнтам працаваў. Праўда, не ў газэце, у Энцыкляпэдыі. Імя Петруся Броўкі. Аднак дзяржаўная камісія зрабіла суконныя твары і дала яму разьмеркаваньне на Гомельскі абкам партыі. У мяне была заяўка з рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва», дзе я друкаваўся, праходзіў практыку і куды мяне бралі на працу. Аднак мне камісія таксама адмовіла: накіравала ў Горадзенскі абкам КПБ, там разьбяруцца — куды паслаць.

Між іншым, «Голас Радзімы» ўсплыў у салдацкай перапісцы Дубаўца з Герменчуком яшчэ ў канцы 1980-га. Яны зьвярнулі ўвагу на яго як на газэту, дзе магчыма надрукаваць артыкул на гістарычную тэму. Два з паловай гады, і Ігар — супрацоўнік рэдакцыі...

Так што нам з Дубаўцом сябра Гермянчук спачуваў, але цешыўся, што ў яго самога разьмеркаваньне прайшло безь неспадзяванак.

Трэба сказаць, што ў нас быў незвычайны курс — паводле канцэнтрацыі на ім тых, хто напоўніцу рэалізуе сябе ў літаратуры, журналістыцы,

палітыцы, кіно. Людзей, зьвесткі пра якіх сёньня лёгка знайсьці ў сеціве. Апроч згаданых Ігара Германчука і Сяргея Дубаўца, з намі вучыліся Таццяна Сапач, Уладзімер Дашук, Сяргей Навумчык, Барыс Пятровіч (Сачанка). У расейскай літаратуры набылі вядомасьць Радзіслаў Лапушын, Уладзімер Сотнікаў, Уладзімер Сяменчык. Гэты пералік сам сабою гаворыць пра ўзровень прафэсійных і творчых амбіцый, якімі былі апанаваныя аднакурсьнікі Ігара і ён сам.

## Жыць на вуліцы Янкі Купалы

«Tere! Можешь поздравить — сегодня у меня родился сын. Вес 3.00 кг, рост 50 см. Словом, норма. Правда, всё это произошло несколько неожиданно, на десять дней раньше, чем мы ждали. Поэтому сейчас весь в заботах. И ещё одно. Теперь (с 10.08) живу по новому адресу: 220030. Минск, ул. К.Маркса, 45, кв. 8. Но это тоже временно. Ищу постоянную квартиру. Пока самые надёжные мои координаты — служебный адрес.

Будь здоров! P.S. В октябре жду смотреть: „кто?“ „что?“ и „как?“. 12 августа 1984 года».

Подпіс па-беларуску: Ігар Гермянчук. Ліставаліся і размаўлялі яны на расейскай.

Каму пішуць першаму, калі ў цябе зьявіўся сын? Вядома — найлепшаму сябру. Tere! — вітаньне па-эстонску. Заскочыў на пошту ўкінуць. Напісаў загадзя, роўным почыркам, не падганяючы сябе. На ўлюбёнай паштоўцы зь Мірскім замкам. У яго такіх цэлы пачак.

Сябры з журфаку — яны былі і засталіся, свае хлопцы. Што да Маргуса, ён быў унікальны, ён быў адзінкавы для Ігара, таму вельмі дарагі. Само знаёмства, месца, абставіны сталі незвычайнымі, успаміналіся, нібы ўбачаныя калісьці ў кіно. І адна зь дзейных асобаў — ты сам. Такое глыбока западае ў памяць, ня блякне з гадамі. А пакуль што гэта было яркім сьвежым уражаньнем. Ён упершыню сутыкнуўся так блізка з балтыйцам, можна лічыць, з «савецкім замежнікам». Яны проста знайшлі адзін аднаго. Ты гаворыш сабе ў думках: Маргус — і ўяўляеш сярэднявечныя шпілі, муры Таліна. Прычым ён без пытаньняў пайшоў за табою ў тваю гістарычную Беларусь, яго зацікавілі, устурбавалі вашы цяперашнія адраджэнскія клопаты. Ты на сваім курсе мог пераконваць, што беларуская мова ня мёртвая, што трэба на ёй размаўляць, а цябе чакала часам глухая сьцяна, а бывала — адкрытыя сьмешкі. А тут — эстонец!

У жніўні 1984 году журналіст «Голасу Радзімы» зьяжджае з кватэры. Наступная была проста марай. На Янкі Купалы. У «сталінцы», як мае быць. Бар «Малочны». Парк з ракой. Цырк. Помнік паэту, музэй. Скрыжаваньне з галоўным праспэктам побач. І так выйшла, што Германчук пераехаў на Карла Маркса, але жыў на Янкі Купалы! Дом стаяў на рагу гэтых вуліц.

Файнае месца. Два кароткія прыпынкі на тралейбусе — і рэдакцыя. Можна пешшу, цераз плошчу Перамогі, каб адчуць сталіцу, рух, каб грудзі напоўніліся здаволенасьцю ад паўнаты жыцьця. Ён, Германчук, карэспандэнт самай лепшай газэты, сталічны жыхар. Піша тое, што падабаецца. Пасьля

працы — у «Кнігарню пісьменьніка» і цераз парк дамоў, раку перайсьці па мосьціку. Можаш спыніцца, паглядзець на ваду. Калі раптам дождж, прыпынак на мэтро пад’ехаць. Мэтро толькі-толькі адкрылі, быццам для яго адмыслова. Такую выгодную кватэру наняць дапамаглі ў рэдакцыі. Належала яна кабеце — цэнзару Галоўліту. Тая спэцыялізавалася на мастацкай літаратуры. Ігар з усьмешкай браў зь яе шафы кніжкі, разгортваў, паказваючы прысьвячэньні пісьменьнікаў за спрыяньне і дапамогу ў выданьні. Быў і аўтограф Караткевіча.

## «Замак» Кафкі

Прыяжджаю аднойчы, у Герменчукоў Вячорка. А я зь Ліды ад бацькоў. Там у кнігарні ёсьць польскі аддзел. І даю Ігару Кафку па-польску, мы дамаўляліся: калі расказаў, што ў Лідзе «Замак» прадаецца, ён папрасіў набыць, хаця мы абодва па-польску кнігі чытаць яшчэ не маглі.

Даю «Замак» Герменчуку, а ў Вячоркі ажно вочы загарэліся: дзе, як? У лідзкай кнігарні, кажу, свабодна. А больш няма? — пытаецца. Больш не, пару асобнікаў было. А выданьне, трэба сказаць, вельмі зграбнае. Тамок невялікі, але тоўсты. У супэрвокладцы. Вядомая сэрыя, што існуе дагэтуль: з багіняй Ніке на вокладцы.

Ігар любіў узяць гэтую кнігу ў рукі. Я бачыў яе пазьней у яго дома ў Калодзішчах. Гэта была кніжка для прыемнасьці, як добрая рэч ці густоўны сувэнір. Патрымаць. Пагартаць, учытацца ў некалькі сказаў...

Валоданьне такой кнігай стварала новыя сэнсы, абуджала думкі. Можа, ва ўсім Менску тады больш ні ў кога такой не было. Ён адзін яе меў, адзін валодаў «Замкам». Што немалаважным было для яго, кнігу прывезьлі з гораду, дзе існаваў сапраўдны беларускі замак, пабудаваны ў рыцарскія часы. У сталіцы, верагодна, у той час небагата знайшлося б тых, хто бачыў замкі ў Крэве, Міры, Наваградку, Лідзе, у Горадні і ў Нясьвіжы. А ён у свае 23 паўсюль пасьпеў пабываць. І гэта стварала новае, адрознае бачаньне Беларусі, якое ён набыў праз уласны досьвед. Новае адчуваньне радзімы. Ён насіў яго ў сабе, яно выпраменьвала ў душы імпэт да жыцьця, сілкавала мары пра «несавецкую» Беларусь.

Замкі яму дапамагалі жыць, быць тым, кім ён быў і каго зь сябе рабіў. Ён ставіў іх на першае месца, як і Караткевіч. Не заводы і фабрыкі. Ня зборачны цэх Савецкага Саюзу, а зямля рыцараў і замкаў! Гэтым тлумачыцца і прага як мага больш убачыць, не адкладаючы на потым. Мястэчкі, вёскі, правінцыю. Гэта не было хаджэньнем у народ, гэта хутчэй можна было назваць падарожжам у краіну беларусаў. У тыя яе рэшткі, што захаваліся пасьля разбурэньня часам, а ў апошнія дзесяцігодзьдзі — савецкай уладай як канкрэтным выканаўцам.

У лідзкай кнігарні «Замак» каштаваў чатыры рублі і пяць капеек.

«К. прыбыў позна ўвечары. Вёска патанала ў глыбокім сьнезе. Замкавай гары не было відаць. Туман і змрок захіналі яе, і вялізны Замак не даваў пра сябе знаць ні найменшым праблескам сьвятла. Доўга стаяў К. на драўляным мосьце, які вёў з гасьцінца ў Вёску, і глядзеў ва ўяўную пустату».

Такі пачатак. Словы з прадмовы западалі ў памяць:

«Кафка адпрэчыў традыцыйныя ўмоўнасьці прозы: апісальнасьць, фабулу, псыхалёгію, і ўвёў шматзначныя, алегарычныя вобразы, якія паказвалі трагічны лёс адзінкі ў сьвеце. Яго герой — чалавек, асуджаны на пакуты самотнасьці, які безнадзейна змагаецца з ананімнымі сіламі, што пагражаюць чалавечаму існаваньню».

Што думалася Ігару, калі ён чытаў гэтыя радкі? І якія думкі вярэдзілі душу, калі прабягаў вачыма выснову, зробленую аўтарам прадмовы?

«У „Замку“ паўтараецца ўласьцівая для Кафкі сытуацыя: яго герой, агорваючы перашкоды, што нагрувашчваюцца, з наймоцнымі высілкамі імкнецца дасягнуць сваёй жаданай мэты. Хаця Кафка раман ня скончыў, аднак вядома, што ў апошняй сцэне меў быць атрыманы ад адміністрацыі дазвол, каб К. застаўся ў вёсцы. Але гэты дакумэнт трапіў бы да яго толькі на сьмяротным ложы».

У Герменчука атрымалася трошку інакш, у адваротнай пасьлядоўнасьці. Ён шчасьліва трапіць у свой Замак. Але рыцары, на жаль, ня змогуць яго ўтрымаць. Цьвержа дастанецца людзям на балоце. У сьмяротны час у нашага героя ня будзе спадзяваньня на дазвол застацца ў вёсцы. У Замку гаспадараць чужыя, з-за сьцен выходзяць рэскрыпты, мэта якіх — абмежаваць свабоду слова. Тую, за якую ён змагаўся, чым жыў.

Вядомы філёзаф Эрых Фром сказаў пра ўзгаданы раман штосьці істотнае, але фатальнае: «Тэма бясьсільля чалавека знайшла найбольш яркі выраз у творчасьці Франца Кафкі. У сваім „Замку“

ён паказвае чалавека, які хоча ўвайсьці ў кантакт з таямнічымі насельнікамі замка; мяркуецца, што яны падкажуць яму, як жыць, пакажуць месца ў сьвеце. Усё ягонае жыцьцё складаецца з адчайных спробаў сустрэцца зь імі, але гэта яму так і не ўдаецца; і ён застаецца адзін з пачуцьцём суцэльнай безнадзейнасьці і пустаты».

Трэба разумець, што Франц Кафка ў СССР быў аўтарам непажаданым, далёкім ад сацрэалізму, яго амаль не друкавалі. Да такіх творцаў савецкае грамадзтва адчувала нешта накшталт сораму. І «польскі» Кафка быў для нас тады як глыток свабоды, зроблены насуперак гэтаму рабскаму сораму. Такія кнігі ўплывалі містычна.

Наш герой будзе заўсёды змагацца з абставінамі, не даваць праціўніку абяззброіць сябе. Бясьсільле напаткае яго толькі пры канцы жыцьця. З насельнікамі Замка ня можа быць ніякіх кантактаў. Апошнюю справу жыцьця, часопіс «Кур’ер», вось-вось задушаць. З лагодным выразам твару: рэдакцыям забаронена мець юрыдычны адрас у кватэры. А ў яго невылечная хвароба ў апошняй стадыі. Гэта будзе ўжо 2002 год, першая палова. Кафка вернецца са сваім «Замкам», зь яго фіналам. Зрэшты, ён нікуды й не зьнікаў: стаяў на паліцы.

## Пісаць, як пішуць немцы ці індусы

Прыналежнасьць да такой магутнай арганізацыі давала пачуцьцё ўпэўненасьці, прафэсійнай сатысфакцыі. «Агентство печати „Новости“», маскоўскае, усесаюзнае. Трапіць Германчук туды ў 1987-м.

У Менску не было больш элітнай рэдакцыі. І, скажам, больш забясьпечанай. З нутра далікатных замежных электронных друкарак выходзілі «удобоваримые» тэксты, ад якіх ня скрывіць твар нават капіталістычны замежнік. Ціхая абстаноўка, размовы напаўголасу ў калідоры. Каляжанская ветлівасьць. Нібы ў бібліятэцы. Творчая лябараторыя. Не штампоўку выдаюць, не шырспажыў, а штучны тавар. Ніякага «ідучы насустрач рашэньням зьездаў і пленумаў», чаго рашуча не жадаў і чым гідзіўся Гермянчук.

Уласна кажучы, толькі ў АПН была магчымай нармальная па тых часах журналістыка. Хоць усё роўна трэба было пра нешта не сказаць, пра нешта сказаць гучней, чым яно было вартае.

Узважце: літаральна дзесяць гадоў таму ён яшчэ быў вучнем школы-інтэрнату ў няблізкіх сваіх Шацілках-Сьветлагорску, а сёньня — у элітарным прэс-агенцтве. І паміж гэтым — войска, унівэрсытэт, «Голас Радзімы».

У іншага б самаацэнка ўзьляцела да неба, але не ў Герменчука, які адпачатку, з базавай камплектацыі быў гатовы да посьпеху і перамогі. Ня проста хвацкім чалавекам з амбіцыямі, але нацэленым на поступ у прафэсіі.

Савецкія ўмовы журналістыцы шкодзілі, гэта так. Але яна ўсё адно заставалася найлепшым заняткам, які ў тых умовах можна было прыдумаць!

Як кажа адзін з былых АПН-аўцаў Аляксей Волін, задачай было «піярыць СССР за мяжой». Фармальна агенцтва зрабілі недзяржаўным (створана яно было ў 1961 годзе, у час хрушчоўскай палітычнай «адлігі»). Ні ЦК КПСС, ні якое іншае

начальства ў заснавальніках ня значыліся. А былі сярод іх Саюз журналістаў, Саюз пісьменьнікаў, таварыства «Веды» і таварыствы дружбы і культурных сувязяў з замежжам. Гэта магло Ігара цешыць.

Уласна кажучы, пісаць цяпер Герменчуку даводзілася ў тым жа рэчышчы, у якім друкаваўся «Голас Радзімы», але патрабаваньні сталі большымі. АПН быў школай вышэйшага ўзроўню. Там вучылі заходнім стандартам журналістыкі. Агенцтва мела прадстаўніцтвы ў 120 краінах, яно выпускала свае газэты і часопісы на 45 мовах. Праз пару гадоў можна было спадзявацца на працу за мяжой. Папярэднія размовы былі пра Індыю. АПН мела там чатыры карпункты.

Карэспандэнты валодалі звычайна ангельскай і адной мясцовай мовай. У Герменчука з ангельскай было ня вельмі. Пры патрэбе, вядома, можна было запісацца на курсы, знайсьці рэпэтытара. Магчымасьць працы за мяжой была спакусьлівая. Волін кажа, што супрацоўнік АПН за мяжой мусіў быць журналістам, краіназнаўцам, піяршчыкам. Пісаць абавязаныя былі так, як піша прэса ў краіне, дзе ты працуеш, каб тэкст пра «савецкі лад жыцьця» адпавядаў тэкстам у замежнай газэце.

Калі б дайшло да працы ў Індыі, Герменчуку неабходна было б авалодаць умельствам тамтэйшых журналістаў. Думаю, у яго б гэта атрымалася. Ён быў надзвычай старанны і дбайны, што датычыць прафэсіі. Уласна кажучы, кожны дзень ён займаўся тым, што пісаў матэрыялы для замежнай прэсы ці для выданьняў АПН за мяжой.

Пераход у АПН вельмі цешыў. Месца працы — лепей не прыдумаць. На праспэкце адразу

за плошчай Якуба Коласа, па левым баку. Пасьля «Бульбянай» і «Букініста». Прыступкі, някідкія дзьверы. А ўнутры — ня так, як у звычайнай рэдакцыі з доўгім калідорам і кабінэтамі абапал. У Ігара быў невялікі, але вельмі ўтульны пакой з акном у падворак. Яму падабалася паказваць розныя канцылярскія штучкі, што належаліся супрацоўнікам, аргтэхніку.

У АПН таксама забясьпечвалі харчовымі пакункамі з дэфіцытнымі прадуктамі. Найбольш панаднымі былі экзатычныя вялікія слоікі з распушчальнай кавай, што выглядалі на падарунак лёсу для абраных. Час быў такі, што ўсяго не хапала, кавы таксама, купіць часта было немагчыма.

У Ігаравым архіве захаваўся ягоны нататнік АПН-аўскіх часоў (супадзеньне — выраблены ў Архангельску). Запіс інтэрвію з тымі, хто пабываў за мяжою. Уражаньні. «Там больш дарожных знакаў!» Прычым якія запрашаюць, дазваляюць, у нас жа наадварот — больш такіх, што забараняюць. Рукою Германчука напісана, як уражвае людзей пераезд савецка-фінскай мяжы, што яны там бачаць. І што правільна было б, каб савецкі мытнік не казаў пасажырам: «Прошу встать! Из вагонов не выходить».

Далей — зацемкі да матэрыялу пра чарнобыльскую радыяцыю. Тэлефоны філіі ўсесаюзнага НДІ сельгасрадыялёгіі ў Гомлі... Нечакана — назвы ўсякіх дакумэнтаў ВКП(б)-КПСС, пачынаючы зь ленінскіх. Гермянчук зьбіраўся ўступаць у партыю. Каб рабіць кар'еру. Рыхтаваўся да адказаў на пытаньні па гісторыі партыі — даты пленумаў, зьездаў, што ў студэнцкі час не выклікала ў яго цікавасьці.

Запіс пра заплянаваную Ігарам сустрэчу зь віцэ-консулам ГДР сп. Цыглерам, у аўторак 2.06.87 аб 11-й.

Падрыхтаваны да друку тэкст з шапкай: «Зь Менску 31 жніўня 89 году. Беларускае аддзяленьне. Загадчык А.Стук. Каму накіроўваецца. Нумар заяўкі. Рэдактар І.Галоўкіна, аўтар І.Гермянчук, тэлефон 32-56-38».

Загаловак-цытата «Толькі тут мы шчасьлівыя» закрэсьлены аўтарам, зьверху ягонай рукой напісаны новы — «Беларуская нацыя: ёсьць шанец рэалізаваць сябе». Гэта гутарка зь Пятром Садоўскім, 48-гадовым вучоным-мовазнаўцам, чальцом Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Апошнія словы тэксту: «Мы павінны заўсёды памятаць аб тым, што Беларусь — гэта адзінае месца ў сьвеце, дзе мы можам рэалізаваць сябе як нацыя і быць па-сапраўднаму шчасьлівымі». Подпіс: Ігар Гермянчук, уласны карэспандэнт АПН па БССР. Хоць і не любіў слова «шчасьце», але тады яно часам трапляла і ў ягоныя тэксты.

## Кава з індыйскімі львамі

Аляксей Волін кажа, што супрацоўнік АПН абавязаны быў умець выпускаць часопіс, бюлетэні, весьнікі, працаваць з фатаздымкамі, карыстацца тэлетайпам, праводзіць брыфінгі і прэсавыя канфэрэнцыі, быць «унівэрсальным салдатам» журналістыкі. У СССР такую школу можна было прайсьці толькі ў «Навінах». А пасьля Алімпіяды ў Маскве агенцтва атрымала новы будынак — прэс-цэнтар

гульняў. Унутры ўсё самае сучаснае. Электрычныя друкаркі, хуткія тэлетайпы, першыя кампутары.

Становішча Герменчука можна было тады параўнаць толькі з роляй нешматлікіх уласных карэспандэнтаў усесаюзных выданьняў. Яны наўпрост падначальваліся толькі сваім рэдакцыям — лічы, Маскве. На месцы карысталіся павагай самага высокага начальства і ўсялякім спрыяньнем. Былі ў прывілеяваным становішчы. Не як усе астатнія журналісты, улучна з працаўнікамі «Советской Белоруссии», самай галоўнай у БССР.

У АПН была навюткая кніга «Штаты Индии», сьветла-цаглянага колеру. Гермянчук не-не, ды вяртаўся думкай да магчымасьці трапіць у адзін з карпунктаў у гэтай краіне. Во, пасьміхаўся ён у вусы: ня ў Злучаныя, дык хоць у нейкія штаты, таксама нябрыдка было б. Кніга была яўна падрыхтаваная не без дапамогі цяперашніх калегаў: прырода, насельніцтва, гаспадарка, гарады — усё ўлічана. Што праўда, сама гэтая краіна яго асабліва не цікавіла, але праца ёсьць праца. Казалі, на Захадзе ёсьць рэстарацыі індыйскай кухні, духмяныя экзатычныя стравы, але тое на Захадзе. Смакі далёкай краіны прысутнічалі ў цяперашнім часе толькі растваральнай кавай з індыйскімі львамі. Шырокія невысокія карычневыя бляшанкі з прадуктовага набору супрацоўніка карпункту АПН.

У Індыю Ігар не паехаў. Але для былых сяброў-адраджэнцаў выглядала так, нібы паехаў. Не было ліставаньня, спыніліся кантакты, зьніклі агульныя справы. Магло падацца, што назаўжды. Насамрэч усяго на некалькі гадоў, бо агульнымі заставаліся зацікаўленьні і мэты.

Затое моцна разьвівалася сяброўства з Маргусам, зь якім Ігар стаў бачыцца часта.

Між тым Ігар пісаў і на балючыя, адраджэнскія тэмы, пра тыя ж нефармальныя суполкі. Але беларускія тэмы прызначаліся не для Беларусі. Тэксты друкавалі ў іншых месцах, для замежнай аўдыторыі. Напрыклад, для польскага чытача. Аднойчы ён папрасіў мяне зрабіць меркаваньне наконт жыцьця ў суседзтве з Польшчай якога-небудзь жыхара Горадні. Я запісаў інтэрвію мастака Ўладзімера Кіслага. Тэкст выйшаў у АПН-аўскім выданьні па-польску «Z kraju Rad». Ігар папрасіў спытацца потым — ці ёсьць падшыўка ў абласной бібліятэцы? Не, не было. У Горадню такое выданьне не трапляла.

Показкі ад Герменчука той пары.

Замежны карэспандэнт папрасіўся ў калгас. З умовай: сам хоча выбраць, каб не завезьлі ў які «мільянэр». Начальству, ясна, карціць адмовіць, але яно вагаецца. Нарэшце наступае на горла сваёй песьні, дае згоду: «Ладно, черт с ним, нехай клевещет»...»

Партсход у калгасе. «На парадку дня ў нас два пытаньні. Будаўніцтва плота і будаўніцтва камунізму. Паколькі дошак усё роўна няма, адразу пераходзім да другога пытаньня».

## «Маналёг адступніка»

Анатоль Сыс піша верш «Маналёг Ігара Герменчука». Захаваўся машынапіс з пэрсанальным прысьвячэньнем. У кніжнай публікацыі аўтар

здыме прысьвячэньне, і верш будзе названы проста: «Маналёг адступніка».

*Я трапіў у сіло журбы,*
*я сам у гэтым вінаваты,*
*я быў — здаецца, ўчора — быў*
*на радасьць і сяброў багаты.*

*Заўчасна разарваць сіло*
*я мог бы, ды баюся болю —*
*яно да жылаў прырасло,*
*як роздум мой прырос да столі,*

*пусты і быццам бы ня мой,*
*як знак сьціхотнага вар'яцтва,*
*і брыдкі па начох, як лой*
*ці кроў на езуіцкіх пальцах.*

*Адкуль, адкуль прыйшло яно?*
*Калі з граху, дык грэх мой — шчасьце.*
*Я сам, я сам прыдбаў яго —*
*гайворана віновай масьці.*

Гэтую гісторыю я пачуў ад С., які ведаў і паэта, і Герменчука: «Мне сам Сыс распавёў усё толькі пасьля гісторыі са стрэлам у Калодзішчах — як было з прысьвячэньнем, ён каяўся за яго. І ён сказаў, што некалі агульны знаёмы сказаў напісаць гэтае прысьвячэньне здрадніку, даў параду, а сам Сыс нават ня ведаў, каму прысьвячае, з Герменчуком на той момант знаёмыя не былі, а пасьля яму стала сорамна, і ён зьняў. І прасіў мяне пераказаць Герменчуку гэтую гісторыю. Я — ага, ага, але пераказваць ня стаў. Мутная гісторыя».

Дык у чым быў сэнс, чаму зьявілася такое прысьвячэньне?

С. адказвае: «Што было на ўвазе? Што ён адышоў ад падпольнага руху. Каб застацца ў Менску. Камусьці магло здавацца, што Гермянчук адступіў ад беларушчыны, перайшоў у АПН пазьней, зьмяніў мову, а значыць, здрадзіў справе. Як такое можна даравацьʼ? Адсюль узьнікла прысьвячэньне. А пасьля Сыс зразумеў, што памыліўся, і зьняў яго. Сыс мне так распавёў. Бо верш не адпавядаў чалавеку. Ён прасіў прабачэньня за яго, таму ён стаў проста вершам. Сыс аж плакаў тады, калі прызнаўся. Вы ж ня лічыце яго адступнікам, Герменчука?»

«Маналёг адступніка» надрукаваны ў кнізе «Пан Лес» на 61-й старонцы. 1961-ы, дарэчы, — год нараджэньня Герменчука. Рэдактарам зборніка быў Рыгор Барадулін. Верш урэшце выйшаў без прысьвячэньня. Гермянчук не даведаўся.

«Прыдбаў гайворана віновай масьці».

Паэта больш няма на сьвеце, і не спытаесься ў яго ані пра прысьвячэньне, ані пра таго нядобразычліўца, які падказаў яму «адступніка», ані пра пра гэтую віновую ці то варону, ці то грака. Можа, даму? Як у той картачнай гульні, калі кожны гулец імкнецца чым хутчэй пазбыцца карт. Адно нямажна — пікавую даму скінуць, яна заўжды ў руках. Прайграе той, хто застанецца зь ёю пры канцы...

Фантасмагарычная па-свойму гісторыя. Тваёй зброяй цябе самога. Словам. І за што? За АПН?..

На іншы погляд, усяго трыццаць гадоў мінула — і стала забывацца атмасфэра таго часу, нашмат больш жорсткая і бескампрамісная, чым сёньня. Згадаць толькі, што на паседжаньнях таварыства

маладых літаратарaў «Тутэйшыя» і да боек даходзіла, і вершы дэклямавалі адзін аднаму бязьлітасныя, і ярлыкі раздавалі наводліў, бяз бачных на тое падставаў. Праўда, хутка і адходзілі, сунімаліся, забываліся.

Між тым і ў АПН Ігар заставаўся тым самым «нацдэмам». Мы зь ім тады перазвоньваліся. Часам сустракаліся, я бываў у яго ў Калодзішчах, у кабінэце ў АПН. І ніколі ён не намякнуў, што зь беларушчынай у яго «перагарэла». Гэта быў усё той жа Шрайбікус з журфаку, зь якім мы зь першых дзён некалі назаўжды пасябравалі.

## Дэпутат парлямэнту

Уключаю аднойчы БТ, у студыі — Ігар Гермянчук. Патэлефанаваў напярэдадні: паглядзі. Ён хоча стаць дэпутатам, кампанія цяпер у Вярхоўны Савет, і яго запрасілі ў студыю. І «чигирикает» наш сябра, не ўспамінаючы аб існаваньні беларускіх слоў. І крыху ніякавата праз гэта. Але ж Ігар.

Яго роля цяпер — гаварыць правільныя рэчы. Раз. Прамяніць упэўненасьць, станоўчасьць. Два. Спадабацца ананімнаму чалавеку перад тэлевізарам. Тры. Падахвоціць прагаласаваць за яго. Чатыры. Гэта праграма-максымум. Перамагчы. Ён гатовы.

Ён ня мог быць у сьпісах кандыдатаў з шуфляды начальства. Ніякіх гарантый ніхто не даваў. Быў азарт, авантурнае адчуваньне прыгоды. І стрыманасьць. Не паведамляць на кожным рагу, што Гермянчук ідзе ў дэпутаты. Каб не сурочыць. Але

аднойчы патэлефануе: дзядзька, я буду ў выбарчай студыі на БТ, уключы паглядзі... А калі я сам патэлефанаваў назаўтра, яго цікавіла мая рэакцыя. Выпытваў: як выглядаў, якое зрабіў уражаньне, што думаю пра выступ у студыі.

Акруга была Бараўлянская, 71-я. Зарэгістравалі 14 кандыдатаў. Галава кругам пойдзе ў савецкага выбаршчыка, які прывык да аднаго прозьвішча ў бюлетэні.

Дык за каго галасаваць, сапраўды? Вось вам падказка: сярод 14 кандыдатаў «ёсьць толькі адзін, хто вылучаны непасрэдна насельніцтвам. Гэта — Гермянчук Ігар Іванавіч». Так ва ўлётцы кандыдата. Улётка на расейскай мове.

Хто ён такі? Уласны карэспандэнт Агенцтва друку «Навіны» па Беларускай ССР, у дужках — газэта «Московские новости». 29 гадоў. Зь сялянскай сям'і. Беларус. З 16 гадоў пачаў працаваць на будоўлі цесьляром. Што яшчэ? У 1988-м уступіў у КПСС з мэтай «спрыяць абнаўленьню ў грамадзтве і ў самой партыі».

«Памятайце, што, аддаючы голас за Ігара Германчука, вы галасуеце за будучыню сваёй рэспублікі — свабоднай і дэмакратычнай, эканамічна квітнеючай і сацыяльна справядлівай».

Акруга была па ранейшых паняцьцях «зарэзэрваваная» за міністрам аховы здароўя Ўлашчыкам. Каб яму, дэпутату Вярхоўнага Савету, застацца на наступны тэрмін. Запасным гульцом меў быць, як вынікала са сьпісу, старшыня прафкаму Баговіч з Навукова-дасьледчага інстытуту анкалёгіі і мэдыцынскай радыялёгіі. Гучала даткліва: радыяцыя, дозы, рак, усё гэта на вуснах, у газэтах, самая белару-

ская тэма, а ў інстытуце з гэтым вучацца змагацца, дбаюць пра дапамогу людзям.

Гермянчук з Баговічам трапілі ў другі тур. І такое супадзеньне: яны былі раўналеткамі. Галасавалі 25 102 выбаршчыкі. За Герменчука 14 976, перамог. У другім туры, 18 сакавіка 1990 году (першы адбыўся 4 сакавіка).

Для тых, хто ведаў яго раней — навіна, нечаканасьць. Таксама і для Вячоркі. Ён сам балятаваўся, але не прайшоў. Гермянчук зрабіў усё без эмоцый, зь цьвярозай галавой. Як з разьлікам запісаўся ў партыю. Штосьці пралічыў, з чымсьці проста пашанцавала. Час быў такі. Для рашучых і хвацкіх. Хто рашыў стаць уладай. Што зь беларускай мовай? Трэба менавіта для яе заняць вырашальныя пазыцыі. Таму пакуль — па-расейску. Ёсьць мэта, трэба на ёй засяродзіцца. Як лучнік, які перш у думках пасылае стралу ў мішэнь. Мэта перш за ўсё. Дый рэдакцыйнае пасьведчаньне тады было на выбарах казырным, журналісты апынуліся на хвалі папулярнасьці.

## Улёткі прыедуць «Чайкай»

Калі ў другой палове 1980-х некаторым ранейшым паплечнікам Ігара будзе часам здавацца, што ён зьмяніўся, адышоў ад руху, ад беларушчыны, у гэты час у Герменчука будзе пастаянны абмен думкамі, ідэямі, марамі пра свабоду, дэмакратыю з эстонскім сябрам Маргусам. І ў размовах зь ім будзе высьпяваць рашэньне пайсьці на выбары. Пайсьці і перамагчы.

Гэта былі часы, калі балтыйскія народы крочылі ў тым напрамку хутчэй за іншых, калі ўзьнікалі народныя франты. Маргус Вялья стараўся перадаць беларускаму сябру эстонскі досьвед.

Я не падазраваў, што рашэньне балятавацца ў дэпутаты яны будуць папярэдне абгаворваць менавіта з Маргусам:

«Я ня ведаю, што з нашага вопыту было выкарыстана, аднак гэта была тады агульная прастора, мы ўсе былі ў гэтым працэсе, унутры яго. І як журналісты, і як грамадзяне. І так паступова Ігар усьвядоміў, што ён можа нешта рабіць і па-за журналістыкай. Непасрэдна ў палітыцы, калі яна ўжо стала сфэрай сапраўдных дзеяньняў, ня так, як было заўсёды ў тым Вярхоўным Савеце ў савецкія часы. Такім чынам, у яго высьпела ідэя — паспрабаваць стаць дэпутатам. Але грамадзтва ўсё-ткі не было яшчэ гатовае да занадта сьмелых ідэяў, да зьменаў. Нават, скажам, не было гатова друкаваць яму перадвыбарчыя ўлёткі, з гэтым узьнікла праблема».

Пачатак 1990 году. Абсалютная манаполія ўлады на друкарскі варштат. Асабліва ў Беларусі. Хаця так ужо было не паўсюль. Што рабіць? І яны з эстонскім сябрам вырашаюць: добра, тады мы выкарыстаем былы рэвалюцыйны вопыт з падручніка. Калі ніводная беларуская друкарня нават такую бяскрыўдную агітацыйную ўлётку для выбараў у Вярхоўны Савет не надрукуе, тады будзем рабіць гэта ў Эстоніі. І зрабілі.

«І памятаю, — апавядае Маргус, — што гэта было сапраўды як у нейкім савецкім рэвалюцыйным фільме. Калі надрукавалі наклад, тысячу асобнікаў ці колькі там было, нейкі чалавек прыехаў зь Бела-

русі цягнікам у Талін, „Чайкай“. І я прыйшоў на вакзал з пачкам гэтых улётак і перадаў яму. Ён прыехаў толькі для гэтага. Ігар знайшоў нейкага памочніка».

Яны былі надрукаваныя, зразумела, не падпольным чынам, проста ў Эстоніі ўжо можна было друкаваць каго хочаш. Справа тэхнікі.

«Так што я нейкім чынам удзельнічаў», — з усьмешкай заканчвае эстонскі сябар Ігара.

Гермянчук мне паказваў некалі: Маргус надрукаваў у адной эстонскай газэце разварот пра Менск, пра Беларусь, наклеіў акуратна на ватман і даслаў яму. Ігар хваліўся: паглянь, як ён у Траецкім прадмесьці ўсё сфатаграфаваў — дробныя дэталі, дахоўку... Маргус апублікаваў нямала матэрыялаў пра Беларусь. Каб ня ён, эстонскі чытач шмат пра што ніколі б не даведаўся. Маргус стаў добраахвотным карэспандэнтам у Менску, іншых не было.

У верасьні 1992-га ў «Свабодзе» Герменчука зьявілася публікацыя пра расейскія войскі, якія заставаліся ў краінах Балтыі і якія Гарбачоў назваў «адзіным стабілізуючым чыньнікам». Падпісана яна была: Маргус Вялья, уласны карэспандэнт «Свабоды».

Аўтар падсумоўваў: «Імпэрскае мысьленьне жыве. Але наўрад ці пераможа».

Пазьней, у другім нумары часопіса «Кур’ер» пад рэдакцыяй Герменчука ў траўні 2000-га будзе разварот Маргуса «10 лет без закона о печати» пра Эстонію:

«На эстонскім газэтным рынку ўжо цесна, — пісаў ён. — У краіне, дзе жыве ўсяго 1,3 мільёна чалавек, выходзіць 7 цэнтральных штодзённых газэт і 12 штотыднёвікаў».

Галоўнымі ўладальнікамі эстонскай прэсы цяпер былі нарвэскія і швэдзкія канцэрны. Роля журналістаў — своечасова і добра інфармаваць. Роля дзяржавы на газэтным рынку адна-адзіная — ня ціснуць, не рэгуляваць, не навязваць, пісаў Маргус. У Германчука было толькі ў марах зрабіць свой «Кур'ер» штотыднёвым. Ігар з Маргусам сябраваў да апошніх сваіх дзён.

Для большасьці гэта адна з загадак Германчука: як за дзьвярыма філіі АПН змог сфармавацца беларускі апазыцыйны палітык? Які адразу ў парлямэнце далучыцца да фракцыі БНФ, як толькі яе створаць. Адзін з найбольш баявітых яе змагароў. Працуючы ў АПН, ён ня меў фармальнага дачыненьня да Фронту.

Яшчэ раз: гэтае сталеньне, рыхтаваньне сябе да магчымай палітычнай дзейнасьці магло нагадваць рух падводных плыняў. Нябачны звонку. Дражджамі стала менавіта сяброўства Ігар-Маргус. І аснова, якую Ігар заўсёды меў у душы, — БНР.

Пастаянная інфармацыя, зьвесткі ад эстонскага сябра — той «хлеб», неабходны досьвед, які ўжо быў у Германчука на той момант, калі ў СССР адбыліся першыя і апошнія сапраўдныя выбары. У сакавіку 1990 году.

Можна назваць першыя этапныя падзеі, якія паўплывалі на фармаваньне палітычных поглядаў будучага дэпутата Вярхоўнага Савету БССР Ігара Германчука.

11 верасьня 1988 году. У Таліне на палітычным фэсьце, які меў форму музычнага фальклёрнага сьвята, сабралася трыста тысяч чалавек. Гэта трэцяя частка ўсіх эстонцаў! Ігар па-добраму зай-

здросьціў Маргусу. Сапраўды народ, не насельніцтва. Гэта ж усё роўна, што ў полі зьбяруцца тры мільёны беларусаў.

Па ўсёй Балтыі тым часам адбываліся мірныя акцыі пратэсту, названыя адразу прыгожа «сьпеўнай рэвалюцыяй».

16 лістапада 1988 году Вярхоўны Савет Эстонскай ССР прыме Дэклярацыю аб сувэрэнітэце. Большасьцю галасоў. Гэта стане пачаткам канца «імпэрыі зла».

Ігар вельмі ганарыўся эстонцамі, радаваўся за іх і разам моцна перажываў, каб не пачалі закручваць гайкі. Бо эстонцы, што было відавочна, падстаўляліся першымі. Так, змагаліся за сябе, але тым самым — і за ўсіх тых, хто марыў пра сваю рэспубліку без рукі Масквы, пра сваю ўласную незалежнасьць.

Наступнай падзеяй на шляху балтыйцаў да незалежнасьці стане незвычайная масавая акцыя на ўгодкі пакту Молатава-Рыбэнтропа. 23 жніўня 1989 году. Два мільёны чалавек, стаўшы на ўзбочыне шашы, узяліся за рукі. Яны злучылі жывым ланцугом тры сталіцы захопленых у 1940 годзе балтыйскіх краінаў. Вільню, Рыгу і Талін. Ланцуг даўжынёю шэсьцьсот кілямэтраў! У многіх тэлегледачоў ён выклікаў захапленьне, у іншых — нянавісьць.

8 траўня 1990 году Эстонія абвесьціць аб выхадзе з СССР. Эстонцы малайцы, перамаглі. Ігар Гермянчук толькі што атрымаў пасьведчаньне дэпутата парлямэнту Савецкай Беларусі. Ужо маючы ў душы моцны зарад эстонскага досьведу барацьбы за незалежнасьць.

## Танкаў больш, чым трактароў

12 чэрвеня 1990 году ў Вярхоўным Савеце вылучалі кандыдатуры: хто будзе на чале парлямэнцкай камісіі міжнародных спраў і зьнешнеэканамічных сувязяў? Зянон Пазьняк быў за Валянціна Голубева, намэнклятура прапанавала свайго чалавека. Пятро Садоўскі вылучыўся сам. Падтрымаў яго дэпутат Гермянчук, выступіў з прамовай. Садоўскі прайшоў.

16 ліпеня стварылі дэпутацкую групу БНФ «Адраджэньне» з дваццаці чалавек.

Крыху раней, 30 траўня 1990 году, Сойм БНФ прыняў рашэньне: галоўная мэта — дамагацца поўнай незалежнасьці Беларусі.

27 ліпеня дэпутаты парлямэнту прынялі Дэклярацыю аб сувэрэнітэце БССР. Беларусь стала фармальна незалежнай!

Гермянчук сказаў бы з усьмешкай: хто дбае, той мае, дзядзька. Або: хто рана ўстае, таму Бог дае...

Гісторыя пачынае набываць выразны беларускі прысмак. За што раней НКВД учыняў сфабрыкаваныя працэсы «нацдэмаў», за што катаваў, трымаў у турмах, расстрэльваў. Самых лепшых беларускіх сыноў. А сёньня інакш. Беларускі Народны Фронт у Вярхоўным Савеце. Беларуская мова нарэшце гучыць у Авальнай залі як у сябе дома.

24 кастрычніка. Старшыня дазваляе народнаму дэпутату Герменчуку растлумачыць прысутным праект дэкрэту аб уладзе ад фракцыі БНФ. Гермянчук, аднак, папярэджвае: ён выступае аднаасобна, не падумайце, што ад апазыцыі. Проста як народны дэпутат.

Няцяжка ўявіць, дапускае прамоўца, што найбольшыя спрэчкі будуць датычыць апошняга артыкула, восьмага. Дзе гаворка ідзе аб дэпалітызацыі арміі, КДБ, міліцыі і іншых праваахоўных органаў, суду, пракуратуры і гэтак далей. У нармальных краінах, у сэнсе — краінах дэмакратычных, такое пытаньне нават не стаіць. Якая можа быць партыйная арганізацыя на прыватным прадпрыемстве? Хіба што калі дазволіць сам прыватнік. А ў вайсковай казарме? У фінскай арміі, напрыклад, партыйная дзейнасьць забароненая (зьвесткі ад Маргуса з Эстоніі).

За дэпалітызацыю сто адсоткаў фракцыі БНФ, сто адсоткаў дэпутатаў-вэтэранаў рашуча супраць. Ну хіба так можна? Нельга быць такімі рэтраградамі. Ну якая розьніца пэнсіянэру, будзе партыйная ячэйка на заводзе ці ў калгасе? Урэшце, трэба адпавядаць свайму месцу. Патрабаваньням выбаршчыкаў. За неадкладную дэпалітызацыю колькі народу? Восемдзесят адсоткаў. Чаму менавіта ён патрабуе? Таму што абяцаў у сваёй выбарчай праграме. Людзі гэтага чакаюць, хоць у ягонай акрузе мноства вайскоўцаў, падкрэсьлівае Гермянчук.

БНФ прапануе забраць партыйную маёмасьць. Нацыяналізаваць. І гэта нармальна. Так і павінна быць. А тым, хто супраць, хачу адказаць прымаўкай, што на злодзеі шапка гарыць, зухава вымаўляе дэпутат Гермянчук. Прымаўка зацёртая. Але як можна ў Вярхоўным Савеце? Пра якіх такіх ён гаворыць злодзеяў? Занадта малады, непачцівы, пажыві з нашае, стань заслужаным, каб такімі словамі раскідацца. Але праглынулі. Ніхто з сабой не атаясаміў.

У дэкрэце аб уладзе гэта яшчэ ня ўсё. Гаворка пра вайсковыя фармаваньні. Пагляньце, што адбываецца: войскі, якія выходзяць з былых таталітарных краін Усходняй Эўропы, садзяцца ў Беларусі. Гермянчук так і сказаў: садзяцца ў Беларусі. І яна ператвараецца ў буфэр. А што можа здарыцца зь ёю ў выпадку нейкага канфлікту, мы ўсе добра разумеем.

Галоўны козыр падрыхтаваны на заканчэньне. Гермянчук абводзіць скептычным поглядам Авальную залю: «Шаноўныя дэпутаты, так атрымліваецца, што танкаў у нас напэўна больш, чым трактароў. І ўжо ледзь ня кожны калгас мае сваю ракетную базу».

Як танкаў?! Як трактароў? Чаго больш? Няўжо праўда?.. Ён іх прыгаломшыў. Такой мовай у парлямэнце не размаўлялі, такімі аргумэнтамі не карысталіся. Такіх высноваў не рабілі! І не зразумець — зьдзекуецца ён? Кепікі строіць зь іх? Ці гэта такі эпатаж?

У гэтых словах увесь Гермянчук. Прымружаныя вочы. Ідзе на абвастрэньне. У душы пасьміхаецца. Зь бясьсільнага абурэньня іхнага. І бездапаможнасьці адначасова. І «ледзь ня кожны калгас мае ракетную базу». Ёрніцтва з трыбуны — вышэйшы пілятаж.

У рэчаіснасьці Беларусь — парахавая бочка Масквы. І ў яе працягваюць пхаць зброю і «жывую сілу». Герменчука вучылі на журфаку бязьлітаснаму стылю Ільліча. Зьедліваму, пякучаму, зьдзекліваму. Вучылі як эталёну ў публіцыстыцы. Да таго ж у «Голасе Радзімы» ён рана трапіў пад крыло да Вацлава Мацкевіча, а той вядомы фэльетаніст.

## «Першае наша пяро»

Задумалі часопіс «Парлямэнцкая трыбуна». Сэсіі трансьлявалі радыё і тэлебачаньне. А трэба, каб зьмест быў і ў друкаваным выглядзе. Гэтага больш хацела апазыцыя. І кандыдата свайго мела. Што запомнілася Лявону Баршчэўскаму, дэпутату?

Да глыбокага і сапраўднага знаёмства з Германчуком у іх дайшло менавіта на глебе «Парлямэнцкай трыбуны». Вакол «Трыбуны» і магчымага рэдактара ішла барацьба. Спрачаліся, пераконвалі, ставілі на галасаваньне. Не хапіла трыццаці галасоў. І каб часопіс паўстаў, і каб Гермянчук узначаліў. Можа, гэта і добра, разважае Лявон Баршчэўскі. Пазьнейшае рэдактарства ў «Свабодзе» было больш карысным для Беларусі.

Пра падзеі 1990–1991 гадоў пазьней распавядзе Зянон Пазьняк: «Са шчымленьнем згадваю Ігара Германчука. Ён ужо не жыве. Памёр у росквіце жыцьця і творчасьці. Першае наша пяро — рэдагаваў знакамітую „Свабоду“. Ігар быў чалавекам сьціплым і нешматслоўным, заўсёды ўдзельнічаў у парлямэнцкіх дыскусіях і паседжаньнях апазыцыі. Зь вялікімі выступамі выходзіў ня часта, але прамаўляў добра, асабліва на эмацыйным уздыме. Памятаю, аднойчы на такім уздыме ён гаварыў гэтак даходліва, саркастычна, з гумарам і сэнсоўна, што раскалоў намэнклятуру ў залі, частка яму нават пляскала. Гэта стыль, якім ніхто з намэнклятуры не валодаў».

Іншым разам, успамінаючы Германчука, Пазьняк выказаўся сьцісла: «Ён быў і вельмі здольным палітыкам, удзельнічаў у распрацоўцы ўсіх нашых

законапраектаў. Ён меў талент аратара, мог добра аналізаваць, добра выступаць».

Алег Трусаў быў яшчэ ў БССР вядомым археолягам, часта праводзіў раскопкі. У Вярхоўным Савеце XII скліканьня працаваў у фракцыі БНФ. Германчука добра памятае. Яшчэ з тых часоў, калі карэспандэнт «Голасу Радзімы» прыяжджаў на раскопкі ў Мірскі замак, браў у яго інтэрвію.

Хлопец быў высокі, вясёлы. Дзяўчаты з археалягічнай экспэдыцыі адразу зьвярталі на яго ўвагу. Цудоўная беларуская мова.

Трусаў таксама стаў дэпутатам, будучы камуністам. Кажа, і выходзілі з КПСС разам. Гэта адбылося неўзабаве. Выйшлі цэлай групай. Рашэньне ўзьнікла пасьля выхаду з партыі Барыса Ельцына ў Маскве (гэта адбылося 12 ліпеня 1990 году на XXVIII зьезьдзе КПСС). Той выхад паслужыў штуршком. Алегу Трусаву запомнілася, што гэта якраз было ў ліпені, яны, дэпутаты-апазыцыянэры Вярхоўнага Савету БССР, «вырашылі разьвітацца з камуністычнай партыяй, таму што ясна было, яна ў сацыял-дэмакратыю ператварацца ня хоча. І мы прынялі адпаведную заяву і з партыі амаль усе (хто ў фракцыі БНФ) выйшлі». Астатнія выйшлі ўжо ў наступным годзе пасьля падзей у Вільні, кажа Алег Трусаў: «А Германчук выйшаў разам з намі. Я выходзіў, Заблоцкі, Папкоў і іншыя. У Вярхоўным Савеце зачыталі на сэсіі заяву, што мы выходзім. І выйшлі».

Рэдактарам «Свабоды», якую Дубавец стварыў у 1990-м, Ігар стане праз год — у красавіку, самога Дубаўца захопіць тады наступная справа — адрадзіць «Нашу Ніву».

Ён успамінаў: «Але й „Свабода“ тым часам пачала афармляцца ў самастойнае выданьне, хаваць якое не было сэнсу. Тады й прыйшла ў галаву думка перадаць гэты даробак іншаму рэдактару — Ігару Герменчуку, які быў дэпутатам Вярхоўнага Савету. Заўважу, што перадавалася не прадпрыемства і ня ў поўнай меры газэта, а толькі эскіз, брэнд, які, праўда, ужо меў сваю публіку».

Так мінуў год дэпутацтва. Гермянчук — малады, прычым апазыцыйны палітык. Новая дзейнасьць яго натхняе. Вярхоўны Савет становіцца асноўным месцам працы. У АПН, як тады лічылася — па месцы асноўнай працы, ён зьяўляецца пераважна, каб атрымаць карэспандэнцкі заробак. Ён ня мусіць цяпер шукаць людзей, дамаўляцца зь імі на інтэрвію, сьпісваць з дыктафона, рыхтаваць публікацыі. Журналістыка робіцца для яго выразна менш важнай справай. Ён папросту фізычна пачынае адчуваць, што сыходзіць у палітыку як такую, у дэпутацкія абавязкі перад выбаршчыкамі.

І менавіта ў той момант паступіць прапанова ад Дубаўца ўзяць «Свабоду».

Колішнія думкі-мары завіравалі: пра «Вястун», падпольны друк. Патаемныя пляны і з асабістай рызыкай вынесеныя з паліграфкамбінату шрыфты. Успыхнуў у душы агонь былых жаданьняў, юначыя летуценьні пра сваю газэту. Для якіх сёньня — усе магчымасьці. Бяры — і рабі.

Доўга не раздумваў. Калі ня я, то хто? — запытаўся ў сябе. І «Свабода» забярэ яго з палітыкі, не адразу, але забярэ з палітычнага фронту на газэтны, на фронт барацьбы за свабоду слова і за саму Беларусь, але іншымі сродкамі. Парлямэнцкую

трыбуну памяняе на газэтную. Сваімі рукамі стане ўмацоўваць, пашыраць,ператвараць у гучны звон на беларускай вежы. «Я гатовы».

«Свабода» яго ўзвысіць, узьнясе на газэтны Алімп, але пры канцы, можна сказаць, і пагубіць. Не сама яна, і пад іншай ужо назвай, а чужы гвалтоўны чын — калі яе ў яго забяруць.

## «Ніякай падтрымкі хунце!»

12 чэрвеня 1991 году Барыс Ельцын абраны першым прэзыдэнтам РСФСР. Падзея была знакавай, рэвалюцыйнай. Бо ўмацоўвала абвешчаны роўна год назад дзяржаўны сувэрэнітэт Расеі, што было выклікам уладам СССР і асабіста Гарбачову.

Дэпутат Гермянчук, аднак, выступае ў Авальнай залі супраць ідэі заснаваць пасаду прэзыдэнта ў БССР. І тлумачыць сьцісла: прэзыдэнт у Беларусі — гэта просты шлях да дыктатуры...

У 2005 годзе, калі Ігара ўжо ня будзе, прэзыдэнт ЗША Джордж Буш назаве Беларусь «апошняй дыктатурай Эўропы». Сфармулюе, зрэшты, перш дзяржсакратар Кандаліза Райс. Думка пра небясьпеку дыктатуры была выказаная дэпутатам Герменчуком задоўга да зьяўленьня першага прэзыдэнта — як перасьцярога, як папярэджаньне: не рабеце гэтага, нельга.

Прыйдзе час — завараць браму ў рэзыдэнцыю амбасадара ЗША ў Драздах. Якая сымболіка! Гэта здарыцца ў 1998-м. А неўзабаве найлепшым «другам» афіцыйнага Менску стане Слабадан Мілошавіч, пазьней Уга Чавэс. І слоўная падтрымка

будзе выказвацца — насуперак дэмакратычнаму сьвету — такім, як Садам Хусэйн альбо Муамар Кадафі.

І калі ў студзені 1994 году сталіцу Беларусі наведае прэзыдэнт ЗША, то ў студзені 2019-га — прэзыдэнт Зымбабвэ. Такая эвалюцыя будзе чакаць Беларусь. Аляксандар Лукашэнка паабяцае, што сваю краіну за цывілізаваным сьветам не павядзе. І ён выканае сваё абяцаньне.

Скончыцца гэты этап у 2019-м, калі прэсавая сакратарка «бацькі» выкажацца пра «пазытыўнае адценьне» слова «дыктатура», дадаўшы, што попыт на дыктатуру можа паўстаць у сьвеце — ня сёньня, дык заўтра. Што да Беларусі, дык «мы ўжо так часта вымаўляем гэтае слова, што дыктатура — гэта ўжо наш брэнд», — шчыра прызнаецца прэс-сакратарка.

Думаю, ці мог ён, малады дэпутат-адраджэнец, так сягаць зрокам за далягляд? Але прамоўлена было з трыбуны ўзважана, прадумана, цьвяроза: прэзыдэнт у Беларусі — гэта шлях наўпрост да дыктатуры.

Жнівень 1991-га. Газэта «Свабода» выйшла ў дні ГКЧП з задзірыстым заклікам на першай старонцы: «Ніякай падтрымкі хунце!» Выходзіла яна тады нерэгулярна. Чарговы раз магла зьявіцца празь месяц або нават праз два. Але так супала, што новы нумар у тыя дні 1991-га быў падрыхтаваны перад путчам у Маскве. Газэту вазілі друкаваць у Магілёў.

Баршчэўскі: Было відаць, што Ігар чалавек кемны, абазнаны ў рэчах, у якіх мы, людзі з правінцыі (я тады жыў у Наваполацку), ня надта разьбіраліся. Валоданьне інфармацыяй заўсёды стварае аўтарытэт чалавеку ў цяперашнім сьвеце. Але

імкненьня быць лідэрам вуліцы, як мне здаецца, ён не выяўляў. У першы дзень маскоўскага путчу ён папрасіў мяне з самай раніцы скласьці «рыбу» для заявы апазыцыі БНФ з асуджэньнем путчу, бо, як ён тады патлумачыў, «гэта трэба вельмі тэрмінова: я павінен як найхутчэй здаць заўтрашні нумар у друк, пакуль друкарні не перакрылі кісларод».

Культуроляг і мастак Сяргей Харэўскі быў мастацкім рэдактарам «Свабоды». Ён успамінае той дзень як самы яркі момант супольнай працы з Герменчуком:

«Мы працавалі дапозна, вярсталі, зрабілі макет, і я з гэтым макетам паехаў у друкарню ў Магілёў. Здаў макет, прыходжу да дырэктара, было 19-га, а ён пытаецца: а хіба ты ня ведаеш? Вось у Маскве такія справы. Я кажу: ну дык напэўна ж давядзецца мяняць першую старонку...»

Харэўскі патэлефанаваў з кабінэта дырэктара Герменчуку: «Ён падзякаваў, што я патэлефанаваў, сказаў: давай тады тэрмінова загаловак на першую. Я кажу: „Ніякай падтрымкі хунце!“ Ён: кляс! А што тады будзеш маляваць? Бог яго ведае, ну давай, з ходу, за лічаныя хвіліны, намалюю: генэрал спрабуе выпіць мора, нешта такое. Тут жа Гермянчук сеў надыктаваў перадавіцу, пачалі перавёрстваць, а Віктар Корзун прывёз потым у Магілёў зьмененую паласу. Вядома, гэта было баявое хрышчэньне», — кажа Харэўскі.

Храналёгія падзей ва ўспамінах Паўла Жука: «Былі некаторыя сувязі з намэнклятурнымі хлопцамі, „камсамольцамі-дабравольцамі“. Нас нідзе не друкавалі, газэту „Свабода“. Але быў знаёмы дырэктар магілёўскай друкарні». Вось як гэта было.

## На рыбалку ў Карэлію

Жук працягвае: «Раніца, путч пачынаецца. Мы зьбіраемся на рыбалку ў Карэлію. Быў „рафік“, каб ехаць. Нумар зрабілі 18-га і адправілі ў друк. „Рафік“ я адправіў у гараж хуткай дапамогі падрамантаваць перад паездкай. Раніцай 19-га павінен быў забіраць. Прачынаюся, жонка гаворыць: штосьці музыка ўсё гучыць, „Лебядзінае возера“. Званю Герменчуку, ён нічога... Потым аказваецца: путч у Маскве, танкі, жах. Я Герменчуку: мы ж газэту адправілі, трэба нешта рабіць. Вырашылі мяняць першую паласу. Я званю ў Магілёў, там не падымаюць. Я думаю: усё ясна, друкаваць ня будуць ні пры якіх умовах. Ужо ідзе інфармацыя, што рыхтуюць лягер у Крылаве».

Крылава — пансіянат і дачы для начальства, 30 км ад Менску.

Жук успамінае: «Я заскокваю ў хуткую дапамогу, браць машыну ехаць у Магілёў, але яна стаіць разваленая за варотамі. А там жа ў гаражы была суполка БНФ, і хлопцы рамантавалі машыны. Я да інжынэра, а ён — свая кашуля бліжэй да цела, няма ў мяне тваёй машыны, яна вунь — паказвае за вароты».

Але ехаць у Магілёў усё роўна трэба... Жук па прыезьдзе на месца: «Шукаю дырэктара друкарні, няма. Знайшоў на дачы ў лесе. Газэта ж прыйшла яшчэ да путчу, кажу. Дай паперку, што я магу са сваёй газэтай вырашыць. З друкарамі сам дамоўлюся. 20-га я друкую яе. А тут — і плошча, і ўсё. А ў нас газэта: путч ня пройдзе! Прывожу тыраж на плошчу. Ён увесь на плошчы і разьляцеўся, на-

ват ня трапіў у саюздрук. Гэта было 21-га. Тысячы людзей былі на плошчы».

«Мы трапілі проста ў струмень. Гермянчук з нашай газэтай... Мы змаглі апэратыўна зьмяніць, паказаць — што гэта за газэта, выступіць супраць ГКЧП, за свабодную Беларусь. З таго і пачалося: Дземянцея прэч, партыю забараніць. Гермянчук Малафеева хапаў, праганяў з трыбуны», — падсумоўвае Павал Жук.

Пісьменьнік з Мастоў Лявон Вашко тады працаваў у Менску ў рэдакцыі «Нашага слова», выданьня ТБМ, часам самому даводзілася распаўсюджваць, балазе тады людзі зьбіраліся на плошчы Леніна перад Домам ураду, і праблем з гэтым не было. Ён успамінае:

«Поўная плошча людзей. Сутыкнуліся з Герменчуком, ён стаў жартаваць, быў у гуморы. Кажа: вось мой выдавец, прадае сам газэту... Лёгкі быў чалавек, не было дэпутацкай пыхі».

Апошняй справай тых дзён для Жука было адрамантаваць «рафік», каб не змарнаваць заплянаваную рыбалку: «Потым ужо прыяжджаю да начальніка гаража хуткай дапамогі, 22-га, той зрабіў поўнасьцю новую машыну. Хаця пакуль стаяла разабраная, павыцягвалі зь яе палову, таму што путч путчам, а народ народам... І маіх рыбакоў я завёз на Нешчарду вугра лавіць. Такія засталіся ўспаміны, зьвязаныя з путчам і з газэтай».

Для Герменчука і яго «Свабоды» 21 жніўня 1991 году быў дзень трыюмфу.

## З дыктафонам да Дземянцея

Палітоляг і літаратар Аляксандар Фядута, успамінаючы праз дваццаць пяць гадоў пачаткі беларускай незалежнасьці, заўважыў у гутарцы з Ганнай Соўсь на Радыё Свабода, што краіна яму здалася ў пэўны момант як быццам пад акупацыяй. Ён, сакратар ЦК камсамолу, езьдзіў па райцэнтрах і бачыў паўсюль звыклы чырвона-зялёны сьцяг. І раптам усё зьмянілася: дзяржаўным стаў бел-чырвона-белы. «І ты едзеш у верасьні па Беларусі і бачыш зусім іншыя сьцягі. І ты нічога не разумееш, што адбылося. Гэта як едзеш па акупаванай тэрыторыі...»

Зусім па-іншаму бачыў вяртаньне сьцяга і рыцарскага герба Ігар Гермянчук, ён змагаўся за іх, яны яго акрылялі.

Гермянчук залюбіў Пагоню, будучы студэнтам, адчуўшы гонар, з хваляваньнем разглядаў паштоўку, выпушчаную ўрадам БНР у далёкім 1918-м. І вось пры ім, на ягоных вачах, пры ягоным удзеле рыцар збройны стаў дзяржаўным гербам.

Дом ураду, на якім зьявілася Пагоня, — сам прадмет гонару, шэдэўр архітэктуры канструктывізму. Зь іншага боку, для большасьці жыхароў БССР ён застаўся нібы той замак Кафкі. Вабны, але недасягальны.

Гермянчук туды хадзіў на працу ў свой Вярхоўны Савет. І абедаў у найлепшай менскай сталоўцы — дэпутацкай.

Калі здарыўся путч у Маскве, дэпутаты БНФ запатрабавалі тэрмінова сабрацца ў Авальнай залі. А старшыні Вярхоўнага Савету Мікалаю Дземянцею што? ГКЧП — новае начальства, Гарбачоў для

яго сышоў з дыстанцыі. Калі так, значыць, трэба ісьці да Дземянцея.

Як успамінае Лявон Баршчэўскі, Гермянчук засумняваўся — ці браць дыктафон? Нечакана для астатніх. Чаму? Ты ж журналіст! І сапраўды: чаму, Ігар? Ну як чаму? Ён працаваў у АПН, і прафэсійная этыка тады была ягонай «Канстытуцыяй». Бяз згоды запісваць нельга. А яму здавалася ў той момант, што Дземянцей нізавошта не пагодзіцца. Яны не ўлічылі аднаго, не маглі прадбачыць такога папросту: «Дземянцей быў так упэўнены ў перамозе путчу, што нават ня стаў прасіць прыбраць дыктафон са стала».

Паводле Баршчэўскага, калі Ельцын перамог путчыстаў, Дземянцей спрабаваў выкруціцца, і тады вельмі прыдаўся дыктафонны запіс, зроблены Герменчуком. Запіс уключылі, каб народ паслухаў на плошчы перад Домам ураду, які быў адначасова і будынкам парлямэнту. Гэта была сапраўдная «бомба». Зробленая рукамі Герменчука.

І замест Дземянцея парлямэнт узначаліў Станіслаў Шушкевіч. Дземянцей будзе вымушаны падаць у адстаўку.

25 жніўня 1991 году Вярхоўны Савет надасьць Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статус канстытуцыйнага закону. Усё! Беларусь самастойная! Ігар Гермянчук стане адным з бацькоў незалежнасьці. Пазьней натхнёна прагаласуе за назву Рэспубліка Беларусь, за герб і сьцяг, пра якія марыў.

Яны наіўна лічылі гмах Дому ўраду сваім домам. Яны спрабавалі зрабіць яго такім. Але ён аказаўся пасткай. Ён быў чужы і такім застаўся, ён належаў іншым. У каго сьвярбелі ўжо ня рукі, кулакі.

Гэтак здарыцца ў 1995-м.

## Пятро Панкратавіч Ґвозьдзь

Дом ураду трапіць у «Знак бяды» Васіля Быкава. Пятрок, галоўны герой, прыедзе ў Менск. Дом ураду яго, вясковага жыхара, уразіць. Хацеў селянін аддаць доўг самому Чарвякову, які аднойчы ўзімку 1937-га грэўся ў ягонай хаце і дапамог грашыма. Міліцыянт на дзьвярах Дому ўраду ня пусьціць, скажа: Чарвякоў памёр. А газэта надрукуе дробным шрыфтам: «Старшыня ЦВК Беларускай ССР А. Г. Чарвякоў 16-га чэрвеня пакончыў жыцьцё самагубствам на асабістай сямейнай глебе».

На партыйным зьезьдзе Чарвякова зацкавалі, ён пайшоў у перапынку ў кабінэт, выняў з шуфляды наган... Больш ніхто яго жывым ня ўбачыць.

Пад заслону Васіль Шаранговіч, першы сакратар ЦК, паведаміць, як пра нешта неістотнае, пра сьмерць Чарвякова. Быць партыйным начальнікам яму самому заставалася месяц і дзесяць дзён. Нядоўга пратрымаўся на пасадзе, агулам некалькі месяцаў. Будзе арыштаваны і расстраляны.

Для Герменчука Дом ураду стаў месцам узьлёту, трыбунай, якую чула ўся Беларусь, і месцам здабываньня інфармацыі. Ён, Гермянчук, мог адчуваць сябе нібы рэжысэрам, які назірае, як акторы, атрымаўшы надрукаваны тэкст, пачынаюць хапатліва шукаць свае словы, маналёгі, рэплікі.

Скажам іначай: ён бачыў, як, набыўшы ў шапіку на першым паверсе ягоную «Свабоду», дэпутаты разгортвалі яе і прабягалі вачыма: каб толькі мяне не прапісалі, не зачапілі!

Напэўна, ён цешыўся ўладай, сваёй уладай друкаванага слова, уладай ня проста над чытачамі,

а над парлямэнтам. Над сваімі калегамі, якія вырашалі лёсы краіны. І да якіх ён ставіўся па-рознаму, як і бывае ў жыцьці. Да кагосьці нэўтральна, да іншых зусім абыякава, а было нямала такіх, каго ён быў зусім ня супраць «прапясочыць» у сваёй «Свабодзе».

Чытаючы пра быкаўскага Петрака, Ігар згадваў свайго дзеда, таксама Пятра. Дакладней, ён пра яго згадваў заўсёды. Пятро Панкратавіч Гвозьдзь уяўляўся яму ўласным нязломным стрыжнем, унутраным цьвіком, які дастаўся яму ў спадчыну па матчынай лініі. Найчасьцейшы псэўданім Германчука ў «Свабодзе» — Пятро Панкратовіч.

Стаўшы дэпутатам, Ігар атрымаў з архіву 76 старонак дзедавай справы, заведзенай на таго як на сябра «польскага шпіёна».

Пятро Панкратавіч Гвозьдзь. Год нараджэньня 1888-ы. Месца нараджэньня і жыхарства — вёска Стракавічы Шацілавіцкага павету Парыцкага раёну БССР. Беларус. Працаваў пуцявым вартаўніком чыгуначнай станцыі Шацілкі. Сацыяльнае становішча — кулак.

Да рэвалюцыі ў Пятра Гвазьдзя ўсё было ў парадку: дванаццаць гектараў зямлі, дзесяць — сенажаці. Чатыры каровы, валоў — два, дробнай жывёлы — дзесяць. Пасьля прыходу «народнай улады» зямлі застаўся гектар, конь адзін, каровы адна-дзьве (так у сьледчай справе), дробнай жывёлы — шэсьць галоў. У далейшых паперах НКВД высьвятляецца, што наконт дарэвалюцыйнай маёмасьці няпраўда. Гаспадарка належала бацьку.

«У 1934 годзе судзімы (так напісана) Парыцкім Нарсудом на 1 год».

Зноў арыштавалі Гвазьдзя 18 лістапада 1937 году. Ордэр № 301 быў выдадзены таварышу Вайсману, супрацоўніку Парыцкага райаддзелу НКВД БССР.

7 сакавіка 1990 году Марыі Пятроўне Гермянчук, маці Ігара, прыйшла з КДБ даведка аб рэабілітацыі яе бацькі. У лісьце гаварылася, што яе бацька, Пятро Гвозьдзь, быў арыштаваны «па абвінавачаньні ў правядзеньні антысавецкай дзейнасьці». Праз дзесяць дзён пасьля арышту «асобая тройка НКВД БССР» зьняволіла яго ў папраўча-працоўным лягеры на дзесяць гадоў.

«Зьвестак аб яго далейшым лёсе ня маецца».

Дык за што чалавека запраторылі? «Распаўсюджваў правакацыйныя чуткі аб вайне, прыходзе белапалякаў і будучай расправе з калгасьнікамі. Меў сувязь з польскім шпіёнам».

Малодшы лейтэнант дзяржбясьпекі Надзежын, начальнік райаддзелу, накіраваў Пятра Гвазьдзя ў Бабруйскую турму НКВД. У арыштаванага была сканфіскаваная «двух ствольная пистановка», запісаў сьледчы.

У Шацілавіцкім сельсавеце пасьля арышту Гвазьдзя выдалі наконт яго даведку. На беларускай мове, між іншым. Што ў даведцы? Што бацька быў валасны старшыня (пры цару), зямлі мелі цэлых 25 гектараў, 12 кароў, коней, 20 галоў дробнай жывёлы. Гвозьдзь і пасьля рэвалюцыі меў добрую гаспадарку, але апошнім часам «частку маёмасьці разбазарыў». Калі пачалі ў калгасы заганяць.

Допыт сьведак. Антон Сурмач, аднагодак Пятра, член ВКП(б):

— Вядома, што, будучы вартаўніком на чыгунцы, зьбіраў зьвесткі аб руху грузаў, «каковые передавал

польскаму шпиону Войткевичу, который проживал на станции Шатилки и осенью 1937 г. арестован как шпион польской разведки»... Многа вязуць па чыгунцы вялікіх ваенных грузаў, гаварыў Гвозьдзь Сурмачу, напэўна будзе вайна.

Сьведкі Панчанка і Кузьмянок паўтараюць тое самае.

Надзежын падпісвае абвінаваўчае заключэньне: «Кулак Гвозьдзь сваю кулацкую гаспадарку разбазарыў і пайшоў вартаўнікомна чыгунку. У дадзены час сярод насельніцтва праводзіць к/р агітацыю, накіраваную на падрыў магутнасьці Саўулады. Віноўным сябе не прызнаў, але дастаткова выкрываецца ў паказаньнях сьведак, дзе яго к/р дзейнасьць поўнасьцю даказаная».

У справе ёсьць скарга на прысуд, дзе Пётра піша, што адбывае пакараньне пры «Южлагу НКВД». Прысуд тройкі НКВД ён лічыць няправільным, бо той заснаваны на фальшывых матэрыялах, якія далі органам НКВД яго асабістыя ворагі, зводзячы зь ім асабістыя рахункі:

«Павінен шчыра прызнацца, што ніякай антысавецкай агітацыі з майго боку не было, паколькі я сам рабочы». «Яшчэ павінен дадаць, што ў 1920 годзе я быў разораны белапалякамі і страціў забітымі ў сям’і пяць чалавек». У 1938 годзе пры выкананьні службовых абавязкаў загінуў ад зладзейскіх рук мой сын, які змагаўся за Саўуладу. Дык ці мог я быць агітатарам супраць Саўулады? Я ня вораг народу, а чэсны працаўнік, пісаў ён. Адказ просіць даць на адрас: горад Улан-Удэ, Бурат-Мангольская АССР, Южлаг НКВД, I аддзяленьне, 28 калёна. Скарга напісаная ў траўні 1940 году.

Скаргу правяраў опэрупаўнаважаны Сьмерцянюк. Вынік: пакінуць без задавальненьня.

У ліпені 1940 году ў сельсавеце выпісваецца новая даведка на Гвазьдзя, які сядзіць ужо амаль тры гады. Аказваецца, бацька Пятра Гвазьдзя быў год старшынёю воласьці, загінуў ад выбуху снарада падчас грамадзянскай вайны. Гаспадарка бацькі была падзеленая паміж чатырма сынамі, таму Пятро меў зь яе толькі чвэрць.

Фантасмагорыя — але тыповая для спраў, якія НКВД заводзіў на беларускіх сялян. Сьведка Кузьмянок спачатку названы Антонам Паўлавічам, затым Антонам Максімавічам, а ў канчатковым дакумэнце ад Сьмерценюка — Дзянісам Архіпавічам...

Дзед Ігара, аднак, ацалеў. І вярнуўся. У гэтым можна ўгледзець цуд. Чаму ж тады рэспубліканскі КДБ ня меў ніякіх далейшых зьвестак пра гэтага чалавека — пасьля 1940 году? Абазнаны ў такіх справах дасьледчык сказаў мне, што такое бывала. Далейшыя дакумэнты трэба шукаць па месцы зьняволеньня чалавека — там, дзе ён сядзеў у лягеры...

«Ігар увесь час згадваў свайго дзеда, старога, але дужага вяскоўца, якога параўноўваў зь ветракамі», — успамінаў Сяргей Дубавец аповеды Ігара пра Пятра Панкратавіча.

Гісторыю дзеда ён насіў у сабе. Гадаваўся зь ёю, сталеў, мужнеў. Яна заўжды была зь ім. Гісторыя несправядлівасьці, нялюдзкасьці. Гісторыя абсурду. Яна высьпявала ў ім, як зерне нязгоды, пратэсту, супраціву. Той уладзе, якая спачатку не хацела ніяк мяняцца, сыходзіць, калі Беларусь нарэшце стала асобнай. З такой уладай і змагалася ягоная «Свабода».

## «П’яныя дэпутаты хацелі зьняць Шушкевіча»

У 1992 годзе ў Міры дзякуючы старшыні ўраду зьбяруцца творчыя працаўнікі. І сам Вячаслаў Кебіч выступіць. І станоўча будзе гаварыць пра ўсё беларускае. Амаль як адраджэнец. Нават Кебіч адчуў, што Мір — цэнтар беларускага сусьвету. Герменчука гэта магло нейкім чынам цешыць, але ён не давяраў Кебічу, свайму калегу ў дэпутацтве, які быў адначасова прэм’ер-міністрам. Кебіч меў больш рэальных рычагоў, але, мабыць, раўнаваў да Станіслава Шушкевіча. Яму хацелася быць самым першым. І ня проста так. Першым прэзыдэнтам, каб усе ведалі, шанавалі, цанілі. І меў чалавек падставы: старшыня Дзяржпляну, прэм’ер-міністар. Кандыдат эканамічных навук таксама, між іншым. А што ў Шушкевіча было, калі не лічыць парляманту? Прарэктар унівэрсытэту, член-карэспандэнт Акадэміі навук.

Апазыцыі і Герменчуку Вячаслаў Францавіч Кебіч тады падаваўся найгоршым злом. Таму якраз, што ўсе ўсьведамлялі: ён мае козыры, багаты досьвед гаспадарніка. Аднак: намэнклатуршчык, на зблiжэньне з Масквой разьлічвае (хаця ад яе Менск і не аддаляўся нікуды, таптаўся на месцы). Не, толькі ня ён, лічылі ў дэмакратычным лягеры, толькі ня Кебіч. Ніхто ня мог ведаць, што здарыцца пасьля яго.

Вярхоўны Савет быў для Ігара месцам збору інфармацыі. Ён хадзіў у парлямэнт як на дзьве працы. Ня столькі мець язык было важна, як — вочы і вушы. На сэсіі, у курылцы, кулюарах, сталоўцы.

Назіраць, заўважаць, выяўляць. Выконваць карпатлівую працу газэтчыка.

«Свабода» была тым паліграфам, дэтэктарам хлусьні, на якім выпрабоўваюць асобаў на дзяржаўных пасадах. А сам рэдактар і дэпутат з адлегласьці часу пачынае выглядаць як чалавек-аркестар. Які быў адразу ўсім. Замоўца і выканаўца. Рэпартэр у парлямэнцкай залі, журналісцкі «сьледчы», а ў рэдакцыі — і пяро, і праўшчык стылю, і той, хто прымае ўсе рашэньні.

«П’яныя дэпутаты хацелі зьняць Шушкевіча». Вось так менавіта. Беспардонна, хвостка, быццам мокрай анучай. З падзагалоўкам: «Апазыцыя перамагла, але гэта мала хто заўважыў».

Сёмы нумар, першая палова ліпеня 1993-га. Хто п’яныя? Мы, народныя абраньнікі, паважныя людзі зь дзяржаўнымі паўнамоцтвамі? Ды хто ён такі? Ён? Такі ж самы абраньнік, з паўнамоцтвамі, паважны. Але ён яшчэ зацяты назіральнік. І больш за гэта — газэтны наглядчык за іхнімі паводзінамі, намерамі, таемнымі змовамі.

Пятро Панкратовіч пачынае безь піетэту: «Пра п’яных дэпутатаў скажу ніжэй. Спачатку ж пра тое, што адбылося».

«Першыя паведамленьні афіцыйнай прэсы пра камуністычны шабаш у Вярхоўным Савеце былі настолькі блытаныя, што многія людзі так і не зразумелі вынікаў галасаваньня».

Галасавалі супраць Шушкевіча, каб скінуць яго з пасады кіраўніка парлямэнту. Ён перашкаджаў намэнклятуры, што была гарой за Кебіча, урадавага старшыню. Аўтар разьбірае па костках лічбы. Калі верыць газэтам, за Шушкевіча было «ўсяго

27 галасоў», супраць — 166. І больш ні слова. А гэта ня ўся праўда.

Германчук тлумачыць: апазыцыя вырашыла ня браць удзелу ў галасаваньні. Як мог зразумець уніклівы чытач — каб не аддаваць галасы ні за, ні супраць. Гэта каля сотні чалавек. А разам не галасавалі 142 дэпутаты. Таму немагчыма сказаць, колькі ў Авальнай залі падтрымліваюць Шушкевіча ў рэчаіснасьці. Магчыма, нават большасьць. Чаму? Таму што недавер яму выказала меншая частка парлямэнту.

«Намэнклятура чарговы раз ганебна прайграла Апазыцыі», — Германчук піша гэтае слова зь вялікай літары. Намэнклятуры не хапіла ўсяго васьмі галасоў, каб перамагчы Шушкевіча. Што праўда, для чытача было незразумела: чаму апазыцыя магла выйграць, выбраўшы тактыку — ні нашым, ні вашым? І чаму, выдатна разумеючы, чым пахне «камуністычны шабаш», пайшла на прынцып, калі ўсё магло скончыцца дрэнна: праціўніку не хапіла ўсяго васьмі галасоў...

Аўтар тлумачыў усю далейшую мэханіку: Шушкевічу паставілі б ультыматум — каб падаваў у адстаўку. Калі б ён адмовіўся, было б прызначанае новае галасаваньне — але ўжо з завостранай фармулёўкай «аб адстаўцы». Аўтар піша, што апазыцыя насамрэч рашуча выступіла на баку Шушкевіча, хаця рэдка ўхваляла яго дзеяньні. Апазыцыі было патрэбна стварыць «адсутнасьць кворуму». Паколькі насамрэч баранілі не самога Шушкевіча, а дэмакратыю і незалежнасьць. Такія тады былі стаўкі ў гульні.

І пад заслону — пра «п’яных дэпутатаў».

«На гэты момант некаторыя дэпутаты ўжо былі добра п'яныя, — кажа дэпутат Мікалай Аксаміт з Ваўкавыску. — Адзін зь іх (нам. старшыні аблвыканкаму) так набраўся, што ледзь трымаўся на нагах. Другі (старшыня райвыканкаму) прыкладна ў такім жа стане нават імкнуўся да мікрафона...»

«Такім чынам, у перапынку, пакуль друкаваліся бюлетэні, намэнклятура ўжо падымала чарку „за перамогу“».

## Шушкевіч перад выбарам

А як Шушкевічу сваю хісткую перамогу замацаваць? Дэпутат Лявон Баршчэўскі лічыць, што трэба распускаць пракамуністычны Вярхоўны Савет, выносіць пытаньне на рэфэрэндум. Калі Шушкевіч зноў будзе нерашучы, яго скінуць увосень. Баршчэўскі памыліцца ўсяго на некалькі месяцаў, як пакажа час і разьвіцьцё падзеяў.

Аўтар тэксту заканчвае сваёй высноваю: «Сапраўды, Шушкевіч стаіць цяпер перад выбарам: шукаць і далей „згоды“ ці стаць на бок дэмакратаў і ісьці радыкальным шляхам, дамагаючыся правядзеньня новых выбараў. Аднак Шушкевіч ёсьць Шушкевіч — малаверагодна, што ён рызыкне выбраць другі варыянт. Хутчэй за ўсё, старшыня ВС па-ранейшаму будзе спрабаваць балянсаваць, абмежаваўшыся ўсяго толькі ўжо выказанай ім сумнеўнай ініцыятываю аб выбраньні Канстытуцыйнай асамблеі».

Прозьвішчы п'яных не названыя, а толькі ў двух выпадках — пасады. І ў першым — пасада вы-

праўленая, што выразна бачна на газэтнай старонцы — тады на плёнках, падрыхтаваных да друку, у апошнюю хвіліну магчыма было атрамантам зрабіць невялікую праўку. Бурчэць будуць незадаволена, але загрудкі хапацца — не.

Гэта быў моцны ход — паказаць аблічча антыдэмакратычнай «гвардыі» Кебіча ў дэпутацкіх крэслах. Гарэлка ў парлямэнце была ў свабодным продажы. Большасьць, ня кажучы пра чынавенскую намэнклятуру, не цуралася яе нават у дэпутацкім буфэце калі-нікалі. А начальства любога рангу асабліва любіла разьняволіцца пасьля часоў вымушанага ўстрыманьня, калі Гарбачоў закручваў гайкі, перашкаджаючы піць як пры Брэжневу.

У кулюарах гаварылі тады, што Шушкевіч застаўся на пасадзе, можна сказаць, толькі дзякуючы Герменчуку. Так, абстаноўка ў тыя дні была распаленая: рэтраградзкая большасьць у дэпутацкіх крэслах спаць не магла спакойна, пакуль ня скіне Шушкевіча. І вось доўгачаканае: яна «патапіла» Шушкевіча. Засталося толькі падпісаць пратакол галасаваньня. Аднак гэта не ўдалося зрабіць пахуткаму. Зь лічбамі ня ўсё было ў ажуры. І дэпутат Гермянчук адмовіцца падпісаць пратакол. Усё. Хоць локці кусайце.

Ігар бачыў слабыя бакі Шушкевіча, калі той стаяў ля стырна краіны. Узяў аднойчы ў яго інтэрвію для «Свабоды». Прынёс на візіраваньне. Шушкевіч стаў праглядаць. Заходзіць Кебіч. «Я не перашкоджу?» «Не-не, заходзьце». І Кебіч яму кажа, што трэба прызначыць новага кіраўніка вобласьці (Віцебскай) і называе прозьвішча (Андрэйчанка) — «у мяне ёсьць кандыдатура, вы ня супраць?» І Шушкевіч

абрадаваўся, што Кебіч усё прадумаў безь яго, з палёгкай пагадзіўся...

Ігар мне тады сказаў: «Кадравую палітыку ён аддае Кебічу, а гэта няправільна, у яго няма сваіх людзей. Тых, хто быў бы яму абавязаны, хто быў бы за яго».

Трэба, аднак, аддаць належнае Станіславу Станіслававічу: пасьля забойства Арцымені ў Горадні была вакансія. І Шушкевіч зразумеў, што зьявілася магчымасьць замяніць яго блізкім для сябе па духу чалавекам — Сямёнам Домашам. Магчымасьць была рэальная менавіта таму, што існавала адпаведная кандыдатура. А кожная была на вагу золата. І Шушкевіч тады праявіў сапраўдны характар, прыклаў не абы-якія высілкі, каб Домаша абралі кіраўніком аблвыканкаму.

Гермянчук у вострыя, адказныя моманты быў як тая Пагоня зь верша: не разьбіць, не спыніць, не стрымаць. Няўрымсьлівы, упарты, адважны. Гатовы да супраціву.

## Ці ёсьць у Кебіча хвост?

Лістападаўскі нумар газэты пачынаўся карэспандэнцыяй Пятра Панкратовіча «Кебич жил! Кебич жив!.. Кебіч будзе жыць?» Аўтар пісаў, што пад Кебічам трэці тыдзень хістаецца крэсла. Упершыню за тры з паловай гады свайго прэм'ерства ён не пачуваецца надта ўпэўнена. Здараецца, што не вытрымлівае ў парлямэнце і зь месца пачынае крычаць — «Хлусьня!» А то выйдзе на трыбуну і ў адказ на рэпліку выдасьць жоўчна: «А калі нех-

та хоча паглядзець, ці ёсьць у мяне хвост, дык хай прыйдзе да мяне ў кабінэт — я пакажу...»

Аўтар пры гэтым мусіць прызнаць, што адправіць Кебіча ў адстаўку не атрымаецца. Калі толькі ня здарыцца штосьці нечаканае. А вуліца трывожна маўчыць, загнаная ў кут цэнамі, інфляцыяй і холадам у дамах. Не, нечаканага ня здарылася...

Аднак разынка нумару, які пачынаўся з Кебіча, была схаваная Панкратовічам усярэдзіне — на другой старонцы. «Высьвятляюцца цікавыя акалічнасьці абароны Дому ўраду ў першы дзень сэсіі ВС», — пачынае ён кепліва.

Раніцай 9 лістапада Станіславу Шушкевічу яго прыхільнікі з КДБ паведамілі прыватна, што ўначы ў сталіцу былі ўведзеныя значныя ўзброеныя сілы. Разьмясьцілі салдат у Доме ўраду і паблізу. А 6-й гадзіне кіраўнік краіны ўжо быў на месцы. Што ж ён убачыў? Што поўна салдат унутраных войскаў, на БТР-ах — аўтаматчыкі. Два з шасьці БТР-аў мелі баявы камплект, што абурыла Станіслава Станіслававіча. Ён мусіў правесьці для афіцэраў палітынфармацыю, зацеміў аўтар. Вырашалі не яны, яны выконвалі загад. Аднак вынік быў: чатыры бронетранспартэры пакінулі месца, два засталіся да вечара. А ў сьценах Дому ўраду спрачаліся на сэсіі дэпутаты.

Пятро Панкратовіч пад заслону паведамляе, што рэдакцыя пераправерыла іншыя трывожныя зьвесткі, і яны аказаліся праўдзівымі: у той дзень плошчу Незалежнасьці трымалі пад прыцэлам снайпэры. Яны сядзелі на гмахах Дому ўраду і абодвух унівэрсытэтаў. А «ўваход да кабінэта Кебіча ахоўвала група аўтаматчыкаў».

Праз дваццаць пяць гадоў той час — у суцэльнай гістарычнай смузе. Чаму некаторым чыноўнікам выдалі пісталеты? Чаму ахову прыставілі і нават аўтаматчыкаў? Чаму ахоўнік цяпер пастаянна дзяжурыў у жытле, напрыклад, старшыні аблвыканкаму — тлумачыць ня трэба. 20 верасьня ў Горадні быў забіты старшыня аблвыканкаму Арцыменя. Але чаму ў сталіцы начальства раптам пачалі ахоўваць узмоцнена, чаго раней не бывала?

Час быў такі. Чарговы путч у Маскве. Парлямэнт захоплены «чырвона-карычневай» часткай дэпутатаў і кіраўніцтва. Яны ўзброеныя. Туды адусюль пацягнуліся тыя, у каго сьвярбелі рукі па зброі. Ельцын увёў войскі. Танкі цалялі з гармат па вокнах... Страх, трывога віселі ў паветры.

У Менску ўсё было інакш: жалезабэтонная большасьць блякавала ў Авальнай залі ўсе жывыя памкненьні. Але ў любым разе начальства з аховай — прыкмета таго часу, новы трэнд. Усе бачылі ў тэлевізары, што ў Маскве нават старшыня Канстытуцыйнага суду Зоркін узброіўся пісталетам.

## «Рэфарматары з вас ніякія»

17 лістапада 1993 году Ігар Гермянчук выступіць у Авальнай залі з трыбуны. Напіша спачатку чарнавы варыянт прамовы, затым рашуча яго адрэдагуе. І перапіша. Захаваўся чарнавік: рукою Ігара адны словы, фразы, выкасаваныя з тэксту, замест іх ён дадаў іншыя.

«Шаноўныя дэпутаты! Многіх з вас я выдатна разумею: вам вельмі ня хочацца секчы сук, на якім

вы самі седзіце. Але секчы яго давядзецца. Ня сёньня, дык праз месяц-два вам давядзецца адправіць Кебіча з Дому ўраду. Але я перакананы, што для нашай эканомікі, для нашай дзяржавы, для нашых выбаршчыкаў будзе лепш, калі мы сёньня адправім Кебіча пакаваць чамаданы».

Дэпутат-журналіст карыстаўся моўнымі сродкамі так, што прамову можна было б разьбіраць са студэнтамі.

«Справа нават ня ў тым, што даклад Кебіча быў беспэрспэктыўны, ня проста слабы, а вельмі слабы. З гэтым пагаджаюцца нават прыхільнікі старшыні Саўміну. Але калі б нават Кебіч раптам і скокнуў вышэй сваёй галавы, дапусьцім, выклаў бы сапраўды рэальную рэфарматарскую праграму выйсьця з крызісу, усё адно таварыша Кебіча трэба было б адпраўляць дахаты. Нават калі б увесь цяперашні Саўмін раптам займеў здольнасьці і розум найлепшых рэфарматараў сьвету (названае сьпярша прозьвішча Лешака Бальцаровіча, аўтара рашучых эканамічных рэформаў у Польшчы, Гермянчук выкрасьліў, каб не раздражняць дэпутатаў-рэтраградаў, якіх у залі было мноства), тым ня менш гэтаму ўраду ўсё адно трэба паказаць на дзьверы. Бо першая і самая неабходная ўмова для пасьпяховага ажыцьцяўленьня рэформаў — гэта давер з боку народу».

Ён вырашае, аднак, не замоўчваць Бальцаровіча, але пачаць з кіраўніка суседняй дзяржавы, з Валэнсы, якога бачылі на свае вочы, які прамаўляў аднойчы з трыбуны ў Авальнай залі. І выкарыстаць прастамоўны выраз прэзыдэнта Польшчы, на якія той быў мастак:

«Асабліва гэта важна ў нашай сытуацыі, калі ўлічыць значную (гэтым словам ён замяніў палянізм „велькую“, які напісаў спачатку) люмпэнізацыю нашага грамадзтва, надта схільнага да рэвалюцыяў. Мне запомнілася адно выказваньне польскага прэзыдэнта Леха Валэнсы, які заявіў пра свой народ: „Пішчаць, але падтрымліваюць“. Меліся на ўвазе жорсткія рэформы, якія праводзіў спадар Бальцаровіч і ягоная каманда. Рэформы, якія давядзецца праводзіць у нас („ад іх усё адно не ўцячэш“, спачатку напісаў ён, але закрэсьліў), будуць нават больш жорсткія. Бо гэты ўрад змарнаваў тры гады і загнаў эканоміку ў такі тупік, зь якога яе няпроста будзе выцягнуць нават самым здольным і рашучым рэфарматарам».

«Мне дзіўна было чуць выказваньні ўраду, які паведамляе з гэтай трыбуны: „Республика попала в кризис“. Быццам бы ўрад тут ні пры чым.

За памылкі гэтага ўраду давядзецца расплочвацца простым людзям. Рэформы балюча ўдараць па народу, цяжка будзе асабліва па першым часе. Але народ будзе цярпець і ня схопіцца за сякеру толькі ў тым выпадку, калі будзе давяраць рэфарматарам. Менавіта таму гэта павінны быць новыя людзі, новы ўрад. Бо ніякім дзеяньням Кебіча і ягонай старой гвардыі даверу і цярпеньня людзей ня будзе».

І зноў — час на эмацыйна афарбаваныя фразы, каб Авальная заля не пачала траціць увагу:

«Зрэшты, гэтая сякера вісіць над Кебічам даўно, ён гэта разумее. І таму, каб утрымацца ля ўлады, ён вырашыў не рызыкаваць з рэформамі. На працягу трох гадоў ён толькі прапаноўваў з гэтай трыбу-

ны ўсё новыя і новыя „рэцэпты выжываньня“. Тут ужо казалі, чаго былі вартыя гэтыя „калектыўныя бясьпекі“, „эканамічныя саюзы“ і астатнія абяцанкі. Гэта ж трэба: тут, з гэтай трыбуны яны публічна запэўнівалі, што з нафтаю ў нас будзе ўсё о'кей да канца году. А праз пару месяцаў высьвятляецца, што няма чым вывезьці жыта з поля, малако з фэрмы».

Няма паліва ў калгасах! Прамоўца падмацоўвае прыкладам з уласнага жыцьця, ставячы сябе ў адзін шэраг са звычайнымі людзьмі, з выбаршчыкамі, хто найбольш цярпіць ад няздольнасьці начальства:

«А потым зноў на пачатку сёлетняй восені ўрад заяўляе, што перазімуем, што ў дамах будзе цёпла. У іхніх дамах, я думаю, сапраўды цёпла. А вы прыедзьце да мяне ў Калодзішчы. І мне, і маім выбаршчыкам няма чым цяпліць. Самага звычайнага тарфянога брыкету не купіць. Няма на чым сагрэць чайнік вады, балён з газам даўно пусты. Зрэшты, трэба прызнаць, што ў Калодзішчы сталічнае начальства езьдзіць даволі часта. Аднойчы раніцай бачу: едзе службовая „Волга“, а ў ёй — адзін з кіраўнікоў апарату Вярхоўнага Савету. Бачу, парулііў да новабудоўляў, відаць, каб праверыць, як ідуць справы на ягоным катэджы. Не, дарагія, гэта ня дробязі, гэта нахабства», — называе прамоўца рэчы сваімі імёнамі.

«Калі ласка, калі хочаце жыць як мільянэры, ідзіце на вольны хлеб, зарабляйце і жывіце сабе на шырокую нагу. Але калі вы хочаце займаць дзяржаўнае крэсла, дык будзьце ласкавы кіравацца тымі нормамі маралі, якімі кіруюцца ва ўсім сьвеце, за выключэньнем хіба што таталітарных краін».

І — рэзкі закід супраць старшыні ўраду асабіста:

«А ў нас жонку Кебіча дакумэнтальна схапілі за руку на справе аб трох мільёнах бюджэтных даляраў... І што? Вячаслаў Кебіч падаў у адстаўку? Не. Ён, як вядома, падаў у пракуратуру патрабаваньне разабрацца з журналістамі, якія, па ягоных словах, узводзяць паклёп. У пракуратуру цягаюць журналістаў і спрабуюць даведацца ў іх пра крыніцы інфармацыі. Тыя маўчаць. Тады іх спрабуюць арыштаваць на пятнаццаць сутак, каб у ізалятары выбіць патрэбныя зьвесткі. Не ўдаецца. У выніку пракуратуры даводзіцца даваць адказ, што апублікаваныя факты былі праўдзівымі».

І самае апошняе: пракуратура дае афіцыйны адказ, зьвесткі, надрукаваныя «Свабодай», адпавядаюць рэчаіснасьці. Значыць, ніякага паклёпу не было... Гермянчук сьцісла распавядае з трыбуны пра звычкі начальства, пра настойлівыя спробы заціснуць свабоду прэсы. І дае сваю канчатковую дэпутацкую ацэнку Саўміну:

«Карацей: рэфарматары з вас ніякія, а яшчэ з такой рэпутацыяй дык зусім ні ў якія вароты ня лезеце. Адзінае, на што вы, магчыма, здольныя, дык гэта арганізоўваць рознага роду правакацыі супраць сваіх апанэнтаў. Хаця й гэтую работу, трэба прызнаць, вашыя чыноўнікі робяць надта прымітыўна і груба».

## Бэнэдыктын ад Запруднікаў

Калісьці, яшчэ ў «Голасе Радзімы», Ігар расьпячатваў прыгожыя капэрты з-за акіяну ў стоеным чаканьні вестак зь іншага жыцьця. І нібы іншай бе-

ларускай мовы. Сёньня ён сам стаіць на тым беразе і ўзіраецца ў статую Свабоды. Лета 1992-га. Думка запынілася на тым, што статуя мае назву ягонай газэты. Вось у чым цымус.

Павал Жук кажа, што ў Амэрыку яны з Герменчуком паехалі дзякуючы яму і бацьку, які меў кантакты з эмігрантамі. Па Лонг-Айлэндзе іх вадзіў Антон Шукелойць. А гасьцявалі ў Янкі Запрудніка.

«Я зь ім сустракаўся толькі два разы, — прыгадвае Янка Запруднік. — Першы раз у Амэрыку ён прыяжджаў з Жуком у 1992 годзе. Жук тады быў, імя Павал, па-мойму, выдаўцом газэты, а ён рэдактарам, „Свабоды“. А Надзя, мая жонка, расказвае, як яны ў яе частаваліся бэнэдыктынам. Яна іх частавала. Наліла ў кілішкі раскошны такі лікёр. І Жук беларускім спосабам кульнуў яго, так, як п'ецца гарэлка. А Ігар яму кажа: „Павал, ты што, як так можна піць? Трэба памаленьку, на канец языка, смакаваць гэта“. І ён яму паказаў, як трэба абыходзіцца зь лікёрам.

Так, я зь ім бачыўся, езьдзілі мы разам у Мангатэн. У кніжцы „Кантакты“, прэзэнтацыя якой была ў Менску (28 чэрвеня 2016 году), там ёсьць здымак наш. Ён у мяне начаваў у маім доме на Лонг-Айлэндзе. Пра што мы гаварылі? Гаварылі пра той вулькан свабоды, які выбухнуў у былой гэтай савецкай „турме народаў“.

Ён на мяне ўражаньне рабіў вельмі прыемнага такога чалавека, далікатнага. І, безумоўна, рэдактарам ён быў выдатным. Але тое, што я чуў пра яго, усе добрыя такія ацэнкі яго як асобы, як кваліфікаванага журналіста, яны моцна пацьвердзіліся тады маёй першай сустрэчай зь ім. Гэта быў час такога

ўздыму, ружовых надзеяў, энтузіязму. Мы правялі некалькі дзён разам, ходзячы па Мангатэне».

Аповед Янкі Запрудніка пра сустрэчу ў Амэрыцы дапоўніў сваімі ўспамінамі Павал Жук. І перш патлумачыў, чаму яшчэ запомніліся тыя дні, — бо ён прапаліў Запрудніку крэсла ў новым аўтамабілі:

«Прыехалі з Герменчуком у Амэрыку, і Запруднік намі там апекаваўся. Такі радасны прыйшоў: я новы аўтамабіль купіў! Я сеў на першае месца, справа, запыталіся, ці можна курыць. З понтам курылі „Мальбара“. Мы трындзім, гляджу, нешта ў штанах пячэ. Прапаліў і штаны, і новае крэсла ў „Б'юіку“. На наш розум, машына была шыкоўная, — дадае Павал. — Праехаліся па ўсёй дыяспары. Мы выступалі. Асноўная наша задача, канечне, была што-небудзь выцыганіць з народу. У той раз нічога ня выйшла, але скантакталіся з усімі. І Запруднік, і Кіпель, і, нябожчык цяпер, Шукелойць быў. Цяпер палова памерла ўжо. Грошы на паездку даў нам 8-ы канал. Потым Запруднік прыяжджаў сам. І ў Герменчука быў дома, і ў мяне быў».

А пасьля я прыяжджаў у складзе амэрыканскай дэлегацыі ў 1993 годзе, — успамінае Янка Запруднік. Для абмеркаваньня канстытуцыйных розных праектаў. Зьбіралася інфармацыя. Я быў свайго роду гідам для дзьвюх асобаў з Вашынгтону. І сустрэліся зь ім у рэдакцыі «Свабоды». На мяне тады моцнае ўражаньне зрабіла адна акалічнасьць. Тады была зіма, сьнежань, халодна было. Зайшлі мы ў будынак: вялікі пакой, высокая століь, на двары сьцюжа, а вакно расчыненае, бо там горача было, цэнтральнае абаграваньне, і, відаць, запусьцілі яго так, што

трэба было вокны расчыняць. У мяне такое моцнае ўражаньне засталося ад такой безгаспадарлівасьці, марнаваньня рэсурсаў. І зноў мы коратка пагаварылі зь ім, успомнілі нашую сустрэчу ў Нью-Ёрку. Я яшчэ ў яго быў у гасьцях, у мяне нават здымак недзе захаваўся. Жонка падрыхтавала закуску, сынок у яго быў. Я адчуў ягоную гасьціну, яго як сямейніка.

Дарэчы, у верасьнёўскім нумары «Свабоды» ў 1992 годзе быў апублікаваны вялікі артыкул Янкі Запрудніка «Як нас „абулі ў лапці“» з разгорнутым падзагалоўкам: «Выкрасьліўшы са сваёй гісторыі беларускае дваранства і шляхту, мы абакралі сябе і дапамаглі ворагам адраджэньня Беларусі». Аўтар згадвае, як быў уражаны, прачытаўшы ў артыкуле гісторыка Паўла Церашковіча, што, «згодна зь перапісам 1897 году, са 153 тысяч прадстаўнікоў саслоўя дваран 43,3 адсотка прызналі роднай мовай беларускую».

«Гэта больш за 65 тысячаў беларускамоўных дваранаў! Маса народу!» — захоплена адрэагаваў Запруднік.

## На судах, як на таблетках

Іванаўская, 56, асноўны адрас «Свабоды», у газэце ўпершыню быў пазначаны пры канцы 1993 году. У лістападзе. Акурат калі на прапанову Ігара я перайшоў у «Свабоду» з «Пагоні». Гэта быў толькі 13-ы нумар. Цяпер газэта станавілася рэгулярнай, штотыднёвай. З адным карэспандэнтам. У Горадні.

Перад гэтым я зрабіў тыднёвікам «Пагоню». Пачынаў з нуля, годам раней наладзіў выпуск спачатку раз на два тыдні, для разгону. Ігар папрасіў, гэта было ў кастрычніку: «Ты зрабіў газэту рэгулярнай, што цябе яшчэ трымае? „Свабода“ ж твая са студэнцкіх часоў». Я пагадзіўся.

30 кастрычніка на 10 раніцы Герменчука выклікалі ў Менскі гарадзкі суд. Мяне ўразіла, што на двары 1993 год, а ў беларускім судзе па-ранейшаму карыстаюцца савецкімі паштовымі капэртамі з маркай СССР за трынаццаць капеек.

Герменчука выклікалі ў справе чыноўніка Генадзя Данілава, «шэрага кардынала» Кебіча. Гэты чалавек судзіўся са «Свабодай». 12 ліпеня Данілаў быў прызначаны «дзяржаўным сакратаром па барацьбе са злачыннасьцю і нацыянальнай бясьпецы». Такіх Гермянчук выбіраў для сваіх публікацый герояў. Прадметам судовага разбору стаў тэкст «Правая рука Кебіча». Данілаў патрабаваў ад газэты сто тысяч рублёў.

Гэта быў ня першы суд. «Свабода» звычайна была на судах, «як на таблетках». Яны былі пастаянным галаўным болем Герменчука. Але гэта яго не спыняла. Дэпутацкі мандат даваў яму пачуцьцё абароненасьці, упэўненасьці ў тылах. І тое, што старэйшы брат Ігара быў членам Вярхоўнага Суду, таксама падмацоўвала, прынамсі маральна. І, нарэшце, у ім была паляшуцкая ўпартасьць, ён быў азартным гульцом.

Я чакаў Ігара ў «Жыгулях». Ён даволі хутка вернецца з суду. Скажа некалькі словаў са спакойным тварам, а затым пераключыцца на іншую тэму: як нам разам рабіць газэту яшчэ больш чытабэль-

най. Не забыўся і аб прозе: колькі зможа плаціць першаму карэспандэнту.

Разам з той «данілаўскай» позвай захоўваецца і іншая: Ігара выклікалі ў якасьці адказчыка ў «справе аб абароне гонару і годнасьці». У позьве пазначаныя таксама прозьвішчы Грыба і Старыкевіча. Першы — міліцэйскі генэрал і кіраўнік парлямэнцкай камісіі Мечыслаў Грыб, які́м зусім хутка заменяць на пасадзе старшыню Вярхоўнага Савету Шушкевіча. Грыб таксама судзіўся з газэтай. Журналіст Старыкевіч (ён памятае сёньня гэты выклік у суд) чытачам быў ужо вядомы. Сталы аўтар «Свабоды». Знаходзіў і публікаваў цікавыя факты пра намэнклятуру. За гэта і любіў друкаваць яго Германчук. Такую позву Ігар атрымае пад заслону году, на 27 сьнежня.

У паштовай скрынцы ён знойдзе тады яшчэ адну капэрту: ад Станіслава Шушкевіча.

## Віншаваньне ад кіраўніка краіны

Ах, дзе тыя часы, калі парлямэнт называўся няхай па-савецку Вярхоўным Саветам, але быў незраўнана больш беларускі за цяперашні Нацыянальны сход! Калі ў ім бушавала сапраўднае жыцьцё, калі мандат мелі прадстаўнікі ўсіх палітычных сілаў. Калі штодня з трыбуны і ў кулюарах гучала беларуская мова, калі па-беларуску друкавалі дакумэнты. Калі пачэснае месца мелі шляхетны бел-чырвона-белы сьцяг і рыцарскі герб. І калі ад кіраўніка краіны прыходзіла карэспандэнцыя на роднай мове.

Пры канцы 1993 году ў Калодзішчы Менскага раёну на вуліцу Шырокую, 9 прыйшла віншавальная паштоўка з сакратарыяту Вярхоўнага Савету. У сьціплай, няроўна склеенай капэрце зь лякантчна надрукаваным зьнізу сінім курсівам «Станіслаў Шушкевіч».

«Паважаны Ігар Іванавіч!

Віншую Вас з Калядамі і Новым годам!

Вашы сумленнасьць, працавітасьць, перакананасьць і пасьлядоўнасьць спрыяюць сапраўднаму адраджэньню і абнаўленьню Бацькаўшчыны! Самыя шчырыя віншаваньні Вашым блізкім!

З добразычлівасьцю,

С.Шушкевіч».

Прачытаўшы паштоўку, я зразумеў, што ў ёй было сьцісла сказана ўсё, што мог і меў сказаць Шушкевіч пра Герменчука ўжо тады, пры канцы 1993-га. Калі Ігару было 32 гады.

Няма няшчырасьці, саладжавасьці. Няма адчуваньня, што за словамі якісьці разьлік, што яны не адбіваюць сапраўдных пачуцьцяў таго, хто паставіў свой подпіс зьнізу.

Калі Шушкевіч зьбіраўся на канфэрэнцыю ў Рыё-дэ-Жанэйра (у першай палове чэрвеня 1992-га), у рэдакцыі «Свабоды» падрыхтавалі макет буклета пра Беларусь. Чым Гермянчук вельмі ганарыўся. Канфэрэнцыю праводзіла ААН. Тэма — навакольнае асяродзьдзе. Самае буйное экалягічнае мерапрыемства за сотню гадоў.

## Рэдактар за шклом

У яго адпачатку не было думак пра традыцыйную рэдакцыю: прыёмны пакой з сакратаркай, пачакальня для наведнікаў. У галаве была замежная рэдакцыя. Gazeta Wyborcza ў Варшаве. Вялікі агульны пакой, як вулей. Дзе ў кожнага асобнае месца для працы. Але яму хацелася, каб памяшканьне было ўтульнае. А рэдактар — ён асобна. Так, канец вялікага пакоя на Іванаўскай быў аддзелены шкляной сьценкай: зрабілі з драўляных брускоў каркас, уставілі шыбы, дзьверы. «Шкляны» пакой для рэдактара.

Ігар Каляда быў камэрцыйным дырэктарам «Свабоды» (1993–95):

«Рэдакцыя арандавала памяшканьне ў навучальнай установе. Грошай на ўсё (выданьне газэты, арэнду, заробкі) заўсёды было ў абрэз. Аднойчы завітала арэндадаўца, Люцыя Іванаўна, з прэтэнзіямі: двухдзённая затрымка з аплатай памяшканьня! У яе больш „сумленныя“ ёсьць кандыдаты на гэтую плошчу, і плаціць згодныя больш! Дамовіцца не ўдалося. Што ж, давайце зойдзем да рэдактара, прапанаваў я. Гермянчук тады яшчэ быў дэпутатам Вярхоўнага Савету. Звычайна шчыры, добразычлівы, мог быць і жорсткім. Адбылася такая размова:

— Дык вы хочаце нас выселіць? І ўзяць больш выгадных арандатараў? Нам няма часу зараз займацца гэтымі разборкамі. Мы, у адрозьненьне ад вас, тут справай займаемся. Змагаемся за лёс сваёй краіны. Вы, мабыць, у любы момант гатовы зьехаць адсюль... А нам адгэтуль ехаць няма куды. Тут нашая Радзіма. Я адсюль нікуды ня зьеду, і Каляда таксама.

Бо тут наша Бацькаўшчына, тут пахаваныя нашы бацькі і дзяды. Усё! Да пабачэньня! У нас няма часу — нам трэба працаваць. Я спадзяюся, што вы ўсё зразумелі, усяго вам добрага!..

Пасьля гэтага тая Люцыя Іванаўна больш не турбавала, з аплатай усё вырашылася».

Жыцьцё змушала дамаўляцца і з друкарамі, патрэба ўзьнікала раз-пораз, успамінае Каляда:

«Паперы няма, і газэту ўвечары здаваць у друк. А яшчэ макет своечасова ня зроблены. Значыць, друкаваць ня будуць. Тады яшчэ мы заставаліся ў Доме друку. Але прыяжджае Ігар Іванавіч сам, і ўсе пытаньні хутка вырашаюцца... Часта нам спрыяў загадчык цэху пэрыядычнага друку Супрон Аляксандар Антонавіч. А Герменчуку ўдавалася знайсьці з друкарамі агульную мову, пераканаць, што „Свабоду“ трэба надрукаваць. Каб вакол нас было больш такіх самаадданых людзей, я ўпэўнены, што зараз мы жылі б у зусім іншай краіне».

Прыйдзе час, будынак забярэ прэзыдэнцкі «заўхоз», і рэдакцыю выганяць. Дамова яшчэ ня скончылася на арэнду? Ну й што? Гэта не дапаможа.

## Рэдакцыя ў рыштаваньнях

У рэдакцыі былі яшчэ два вялікія пакоі. Адзін для тэхнічнай службы, другі — проста вэстыбюль, дзе пілі каву. Усё было аднолькава незавершанае. Стан рэдакцыі мне нагадваў словы любімага выкладчыка эканомікі Эдуарда Антонавіча Юшкевіча. У яго лекцыях былі два героі: рабацяга Вася Пухавіцкі і малады журналіст, захоплены прафэсіяй,

Міхась Цыбулька. «Уся краіна ў рыштаваньнях» — іранічна перадугадваў выкладчык, што напіша неспрактыкаваны супрацоўнік газэты, убачыўшы заводы і фабрыкі, стрэлы пад'ёмных кранаў на будоўлі.

Хто бываў у той рэдакцыі «ў рыштаваньнях», ніколі не забудзе працоўнай ліхаманкі. Хутчэй-хутчэй! І жвава перамяшчаецца час-часам высокі чалавек, рэдактар. У яго нібы рухавічок унутры. Не дае яму спыняцца. Скончыць нумар — ясна, палёгка, але рукам зноў карціць узяць асадку, далоні нібы сьвярбяць, каб пачаць наступны. Рэдакцыйная праца — гэта вечны бег на месцы, гонка — не выходзячы з памяшканьня. І ён быў у гэтым як рыба ў вадзе.

Валянціна Лецка працавала ў «Свабодзе» на Іванаўскай. Згадвае, што як толькі атрымалі там памяшканьне, адразу запрасілі ахову, хлопцаў з БЗВ, рэдакцыя некалькі гадоў плаціла ім заробак. Яны цэлымі днямі сядзелі на канапе ў першым пакоі, дзе ўсе пілі каву і дзе стаяў акварыюм. У яго запусьцілі і рыбак, і крэвэтак. Крэвэткі аднойчы скінулі панцыры, рыбкі іх абгрызьлі. Потым яны рыбкам адпомсьцілі, «цэлы фільм жахаў».

Аднойчы вярстаюць газэту, чуюць шум. Ахова не пускае дзядзьку з сабакам. Яму трэба бачыць Герменчука. Добра, Германчук выйшаў да яго. «Памры за Пазьняка!» — дзядзька загадвае сабаку, сабака — плясь, як мёртвы зваліўся. Выдрэсіраваны так. Ну, пасьмяяліся, і рэдактар пайшоў да сябе. Заўсёды з павагай ставілася да Герменчука, але як «шэфа» не ўспрымала, прызнаецца Валянціна. Рэдакцыя была як адна кампанія, сябры. Усе маглі есьці адзін

батон, адразаць, намазваць. Адным відэльцам карыстацца, адною лыжкаю.

«А былі яшчэ дзьве дзеўкі, якія прыйшлі на працу, дзьве маладыя журналісткі, — згадвае Валянціна. — І Гермянчук іх ніколі ня мог злавіць. Яны нешта яму абяцалі напісаць, але нічога не прыносілі вечна. Урэшце Гермянчук пасварыўся, вырашыў іх звольніць. І вось я сяджу побач і чую: адна другой тэлефануе і кажа — прывяжы сябе да крэсла, нам яшчэ і ганарар далі! Злаваў, пазбыўся, але нешта яшчэ заплаціў, на што яны не разьлічвалі».

Бачыліся па-за працай. Сьвяткавалі Каляды і дні нараджэньня адзначалі. Гермянчук у госьці запрашаў, у яго ў Калодзішчах некалькі разоў сустракаліся.

Ігар шмат курыў. Кава і цыгарэты былі бясконцыя. Разам з тым у ім заставалася такое: вясковы хлопец... і трымаць дыстанцыю, гэта ў яго ня вельмі атрымлівалася. Спрабаваў, бывала, «выстраіць», але вельмі хутка адыходзіў. І панібрацкая атмасфэра ўвесь час была. Калі працавалі дапозна, адвозіў дахаты. Вельмі часта гэта рабіў. Поўная машына нас, супрацоўнікаў, сядала. Нават калі яму й не па дарозе было, згадвае Лецка.

Згадваючы Ігара, часта паўтараюць гэтую фразу: «Хвастаў чыноўнікаў».

Але разам з тым для Герменчука важныя былі справы чалавека. Меркаваў паводле ўчынкаў, даробку і нават намераў. Нямала сумленных чыноўнікаў у «Свабодзе» мелі адпаведны выгляд. Яна зусім не была крывым люстэркам, яна была люстэркам, якое рабіла рысы больш выразнымі, вастрэйшымі. «Свабода» не хлусіла.

Жыцьцё для яго не было чорна-белай кінахронікай. Нават у шэрагах палітычных праціўнікаў мог зьмеціць чалавечную асобу. Аднойчы Ігар распавёў, што мае пацьверджаныя зьвесткі пра нейкага камуніста зь Вярхоўнага Савету. Калі надрукаваць, той ня ўзрадуецца. Дык давай — стаў у нумар. І нечаканы адказ Герменчука: ну, будзем бачыць, ня будзем пароць гарачку. Так і не надрукаваў. Чаму? Магчыма, чалавек быў яму сымпатычны, не лічыў яго канчаным.

## Генэрал бяз арміі

Станіслаў Шушкевіч на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савету не задавальняў многіх. Парлямэнцкая большасьць не хацела мірыцца зь ягонымі дэмакратычнымі поглядамі, беларускасьцю, арыентацыяй на цывілізаваны сьвет. Ня кажучы пра тое, што ён быў адным з трох «далакопаў» СССР. Аднак як кіраўнік краіны ён ня мог цалкам задаволіць і супрацьлеглы бок. Апазыцыя, шырэй — тысячы людзей, што прагнулі эўрапейскай, дэмакратычнай Беларусі, чакалі ад яго большага. Роля быць чужым і сярод сваіх — няўдзячная. Усе бачылі: Шушкевіч — «генэрал бяз арміі».

«Адстаўка Шушкевіча паскорыць канец рэжыму» — пад такой назвай у №4 «Свабоды» за 1–7 лютага 1994 году Гермянчук зьмесьціць свой рэдактарскі тэкст. У назьве ня столькі сьцьверджаньне, колькі пажаданьне.

Аўтар пачне пэсымістычна: «Можа здарыцца так, што нашую газэту зачыняць. Альбо забаро-

няць друкаваць СВАБОДУ тут, у Беларусі (першыя сымптомы ўжо ёсьць). У такім выпадку могуць быць затрымкі з выхадам нумароў, бо друкавацца давядзецца за мяжою, як гэта было ў 1990 г. Але выходзіць СВАБОДА будзе. Нягледзячы ні на што! Няма ніякага сумневу, што кіроўны рэжым пачне зараз актыўна і паўсюдна „закручваць гайкі“ — у грамадзкім жыцьці, у эканоміцы, у галіне правоў і свабодаў».

З дэпутацкага крэсла ўнутры Авальнай залі Герменчуку было шмат што відно і зразумела, нават калі тое не прысутнічала на паверхні: намэнклятура прагне рэваншу. Аўтар працягваў сваім вобразным стылем:

«Апошнім часам ім пастаянна карцела гэта зрабіць — аж рукі сьвярбелі. Але перашкаджаў Шушкевіч. За 885 дзён свайго кіраваньня Станіслаў Шушкевіч мала чым дапамог дэмакратыі. Але сам факт ягонай прысутнасьці на пасадзе кіраўніка дзяржавы троху стрымліваў намэнклятуру. Яны вымушаныя былі азірацца на яго (хоць рэальнай улады ў Шушкевіча было менш, чым у любога высокапастаўленага саўмінаўскага чыноўніка). Цяпер яны разьвязалі сабе рукі. Можна красьці не азіраючыся. Гэта быў іхны апошні шанец зьняць Шушкевіча, яны гэта разумелі і грунтоўна да гэтага рыхтаваліся.

Галасаваньне аб адстаўцы двух „сілавых“ міністраў было трэніроўкаю. Шушкевіч іх фактычна „здаў“, не зрабіўшы ніякіх крокаў на абвастрэньне сытуацыі (ці то тактычная памылка, ці інстынкт самазахаваньня?), якія трэба было зрабіць яшчэ тады, калі быў абнародаваны вядомы антысаўмі-

наўскі ліст Э.Шыркоўскага і Ул.Ягорава. Але Шушкевіч ня выступіў, нават калі справа дайшла да галасаваньня аб міністрах. Не хацеў здаваць воўчую зграю? Ён памыліўся таксама, калі на плаху паклалі ягоную галаву — у сваім апошнім слове старшыня пачаў у іх „прасіцца“. Зянон Пазьняк параўнаў гэта з трагедыяй ахвяры, якая спрабуе выпрасіць жыцьцё і гэтай сваёй слабасьцю яшчэ больш распаляе забойцу, і той ужо не спыняецца — „трэба ведаць крымінальную псыхалёгію“».

Далей — быццам старонка з кінасцэнару, з займальнага палітычнага трылера, выдатны рэпартажны стыль:

«Калі абвясьцілі вынікі галасаваньня, намэнклятура была на сёмым небе: ціснулі адзін аднаму рукі, абдымаліся, ледзь не цалаваліся — наймярзотная карціна. Здаецца, для іх саміх было нечаканым, што за адстаўку Шушкевіча набралася аж 209 галасоў. Але тут няма ніякай сэнсацыі: прыкладна чвэрць гэтых галасоў самым прымітыўным чынам была купленая. Напрыклад, некаторым дэпутатам-„цэнтрыстам“ за адстаўку Шушкевіча паабяцалі кватэры ў Менску (шляхам пераводу на сталую працу ў Вярхоўны Савет). Калі цікавяць канкрэтныя імёны — глядзіце рэпартажы з сэсіі: кандыдатуры новых „прафэсійных парлямэнтарыяў“ неўзабаве будуць пастаўленыя на галасаваньне. Словам, брудная справа рабілася бруднымі мэтадамі. Па камандзе з Саўміна на кватэры ў Шушкевіча адразу была адключана спэцсувязь і зьнятая ахова. Гатэль „Кастрычніцкі“, дзе жывуць дэпутаты, цэлую ноч „гудзеў“, гарэлка, кажуць, лілася ракою — сьвяткавалі „пірамогу“».

Аўтар ёрнічае, злучыўшы ў адно слова «піраву перамогу» — перамогу, раўназначную паразе.

Рэдактару, аднак, хочацца быць канструктыўным, скончыць на мажорнай ноце, даць чытачу надзею:

«А выбаршчыкі тым часам слухалі навіны і нічога не разумелі: аказваецца, зьнялі Шушкевіча, а ня Кебіча... „Дурдом!“ З тым і паклаліся спаць. Відаць, яшчэ пару месяцаў гэтыя выбаршчыкі будуць драмаць, даядаючы апошні мех бульбы. Увесну, можна не сумнявацца, яны прыйдуць да гэтага самага „дурдому“ разганяць „пацыентаў“. Такім чынам, новыя выбары ніяк ня ўдасца адцягнуць на канец году, як гэта плянуюць Кебіч і кампанія. Адстаўка Шушкевіча і прыход на ягонае месца міліцэйскага генэрала Грыба радыкалізавалі сытуацыю. Выбары могуць адбыцца ўжо ў траўні. Ігар Гермянчук».

Робячы дапушчэньні, ён памыляўся. Усе са свабоднымі думкамі ў галаве памыляліся ў гэтай краіне, якая вучылася стаяць на нагах. Са здрадніцкай думкай бухнуцца на калені.

## На каленях у Расею

Дэпутат Лукашэнка гатовы на каленях паўзьці ў Расею. Без Расеі нікуды!.. Яшчэ пра выбары прэзыдэнта не было гаворкі, яшчэ Канстытуцыі не існавала з такой пасадай.

Лукашэнка перайграў пазьней Кебіча на Кебічавай дошцы. На прэзыдэнцкіх выбарах. Мастак. Кебіч не дадумаўся сказаць, што гатовы паўзьці

ў Расею на каленях. Лукашэнка сказаў. Загадзя. З разьлікам на бліжэйшую будучыню.

У сярэдзіне траўня ў «Свабодзе» выйшла дробная нататка: у Скарынаўскім унівэрсытэце ў Гомлі студэнтам паабяцалі па пяцьдзясят даляраў за тысячу подпісаў за вылучэньне Лукашэнкі. Карэспандэнт выканаў нескладанае арытмэтычнае дзеяньне: атрымалася па пяць цэнтаў за подпіс.

Пра Кебіча ў тым жа нумары непараўнальна больш. На БТ пачынаюць зноў круціць кіно пра Штырліца. І каб вы ведалі: дзякуючы Кебічу! Які падпісаў дамову з Чарнамырдзіным. І той з панскага пляча падараваў «Сямнаццаць імгненьняў вясны» беларускаму народу!

А неўзабаве зьявіцца публікацыя «Дзікае паляваньне Кебіча». Газэта яго «любіла». Але Штырліц Штырліцам, а Лукашэнка ўжо на трыбуне ў Дзярждуме! «Свабода» неадкладна паведамляе пра нататку з «Московского комсомольца», што выйшла 20 траўня 1994 году:

«В Государственной Думе, судя по всему, открылся месячник дипломатической самодеятельности. Часть прошлого пленарного заседания коммуно-аграрии подарили какому-то человеку, который, взобравшись на трибуну, практически попросил Думу сделать его президентом Белоруссии, а уж он за это посадит 70 белорусских демократов-рыночников за решётку».

Кебіч, даведаўшыся пра такі выступ, сабраўся ў белакаменную сам. Канкурэнцыя!

«Лукашэнка любіць ВЧК, КГБ і КПБ» — у дробнай нататцы цытуе «Свабода» англамоўную Minsk Economic News. Чалавек заявіў газэце:

Ф.Дзяржынскі, Ю.Андропаў і П.Машэраў — найбольшыя для яго аўтарытэты. На першым месцы — Жалезны Фэлікс.

Чалавек зь Дзяржынскім у галаве — гэта сымптаматычна. І нібы сама «Свабода» падказку зрабіла. Толькі-толькі нумар быў са здымкам: рамантуюць грозны бюст насупраць дому з бэльвэдэрам. Каб да выбараў Эдмундавіч выглядаў — «навяк, муха не сядзела».

Прэзыдэнцкая кампанія робіцца ўсё гарачэйшай. У пікетах зьбіраюць подпісы, ходзяць па кватэрах. «Падбіваюць бабкі»: дзе, як і колькі за каго. А газэта Герменчука робіць сваю справу: не спускае вока з ахвотных трапіць у прэзыдэнты. І з асаблівай учэпістасьцю сочыць за найбольш заўзятымі прэтэндэнтамі.

«СВАБОДУ забараніць немагчыма. Нават калі вельмі хочацца», — зухава абвяшчаецца ў новым нумары. Паступіў вусны загад: не друкаваць, не распаўсюджваць, ведайце, шаноўныя чытачы. Але мы выходзім!

Збор подпісаў скончаны. Рэгістрацыя кандыдатаў прэзыдэнцкай кампаніі. Сьціплая памерам, зьедлівая нататка на чацьвёртай старонцы. «Пазьняк не падаў рукі Кебічу. А Лукашэнка задаволіўся двума пальцамі Вячаслава Францавіча». На здымку: Лукашэнка нахіліўся да Кебіча, які сядзіць (побач зь ім Новікаў), на твары ўсьмешка, гэта ня той грозны Лукашэнка, якога будуць потым бясконца бачыць беларусы ў тэлевізары. Вячаслаў Францавіч як гаспадар адказвае па-панску. Нібы робячы ласку, левай рукой вымаючы ці засоўваючы ў нагрудную кішэню пінжака насоўку — горача!

31 траўня, Цэнтравыбаркам. Усе прэтэндэнты ў зборы, лічба не ўдакладняецца. Адзін кароткі абзац:

«Старшыня Савету Міністраў Вячаслаў Кебіч спрабаваў па-сяброўску павітацца з кіраўніком Беларускага Народнага Фронту Зянонам Пазьняком, двойчы працягнуў яму руку. Аднак сп. Пазьняк дэманстратыўна праігнараваў т. Кебіча. На пакрыўджанае пытаньне Вячаслава Францавіча Зянон Станіслававіч адказаў: „Мы з вашымі рукамі яшчэ разьбярэмся“».

## «Чалавек на апошнім зьдзьвігу»

«Кебіч — гэта вайна» — вялікімі літарамі. Ніжэй: «Сакрэтныя дакумэнты, якія атрымала рэдакцыя СВАБОДЫ, сьведчаць, што Кебіч і ягоная кампанія спадзяюцца толькі на аўтаматы Калашнікава і міліцэйскіх сабак».

«Узгадайце, — піша Пятро Панкратовіч, — кожны раз, калі пад Кебічам хістаецца крэсла, ён выводзіць да Дому ўраду ўнутраныя войскі. Ня выключана, што нават пасьля правалу на прэзыдэнцкіх выбарах Кебіч паспрабуе ўтрымаць уладу з дапамогаю зброі».

Газэта нагадвае пра сытуацыю 9 лістапада мінулага году, калі Кебіч «бразнуў зброяй: да Дому ўраду былі сьцягнуты войскі, у двары стаялі БТРы з поўным боекамплектам, паблізу залі паседжаньняў ВС дэманстратыўна хадзілі аўтаматчыкі...» Якая была мэта? Застрашыць. Каб не галасавалі за адстаўку Кебіча.

Начальнік штабу ўнутраных войскаў падрыхтаваў тады праект загаду «о применении огнестрельного оружия» — «на поражение по нижним конечностям». Напагатове былі амаль дзьве з паловай тысячы вайскоўцаў і міліцыянтаў, снайпэры і дзьвесьце аўчарак. На той выпадак, калі на плошчы перад Домам ураду пачнуць зьбірацца людзі. Нумар пайшоў па руках. Такога ў газэтах яшчэ не было.

У Кебіча былі магчымасьці, рычагі, ён быў адзіным удзельнікам выбарчай кампаніі з рэальнымі паўнамоцтвамі. «Свабода» друкуе ў перакладзе з расейскай частку выступу Кебіча на перадвыбарчай нарадзе ў Полацку. У рэдакцыі — дыктафонны запіс.

Віктар Чарнамырдзін, старшыня расейскага ўраду, даў асабіста Кебічу «пад выбары» два мільёны тонаў нафты. Увага, таварышы: па дваццаць даляраў за тону. А цяпер яна купляецца па восемдзесят пяць. Прычына такой ласкі — на паверхні, працягваў Вячаслаў Францавіч: «У Расеі вельмі вялікая трывога за цяперашнюю абстаноўку, настолькі вялікая трывога, і асабліва ў Расеі трывожацца за Лукашэнку. Я, можа быць, новага вам нічога не скажу, але я яшчэ раз вам хачу сказаць, што гэты чалавек на апошнім зьдзьвігу», — намякаў Кебіч на псыхічнае нездароўе канкурэнта.

Пры ўсім пры тым у старшыні ўраду была думка «аб’яднаць усіх левых» удзельнікаў прэзыдэнцкай кампаніі. Чатыры дні назад, сказаў ён палачанам, мы сустракаліся — «Дубко, Новікаў, Кебіч і Лукашэнка». Дубко ўзначальваў калгас-мільянэр каля Горадні, Новікаў — кампартыю Беларусі.

## СВАБОДЫ баіцца раб

Такім загалоўкам выстрэльвае наступны нумар газэты. Рэдакцыя паведамляе чытачам:

«Вы трымаеце ў руках нумар фактычна забароненага выданьня. Хаця паводле закону закрыць газэту можа толькі суд, аднак урад Кебіча зрабіў прасьцей: загадаў Дому друку больш не друкаваць СВАБОДУ. А ў нашых умовах, калі ўсе друкарні зьяўляюцца дзяржаўнымі і кантралююцца ўрадам, загад „не друкаваць“ азначае фактычна забарону газэты».

І затым — пра кухню. Ад пачатку прэзыдэнцкай кампаніі была мэта прытармазіць газэту. Ніякай палітыкі, толькі «тэхнічныя моманты». То бракуе неабходнай плёнкі, то друкарскіх пласьцінаў. Пласьціны рэдакцыя набыла ў Летуве (так тады пісалася гэтая краіна), на пяць нумароў наперад. Але Дом друку ўзяў ды разарваў дамову: друкуйцеся дзе хочаце, хлопцы.

14 чэрвеня пікет у падтрымку «Свабоды». Перад дзьвярыма Дому друку. І плякаты: «СВАБОДЫ баіцца раб», «СВАБОДА — гэта радасьць», «СВАБОДУ не забароніш». Нарэшце: «Кебіч — у хлеў!» На пікеце гучала: «Свабоду — СВАБОДЗЕ!» Папросту «ода да радасьці», у сэрцы якой яна, свабода... Абураныя лісты пайшлі ва ўрад і Вярхоўны Савет. «Разам з вамі, сябры, мы абаронім СВАБОДУ», — паабяцала рэдакцыя.

Газэце не дае спакою Кебіч, а яна не дае спакою яму. Піша, што яму не перамагчы, але не пакідае бязь пільнай увагі. Чаму? Таму што ведае закулісныя пляны.

«Свабода» піша: спачатку чыноўнікам ставілася задача-максымум — старшыня ўраду мае перамагчы ў першым туры. Адразу! Але пачатковая самаўпэўненасьць хутка зьнікла. Прыйшлося адступіць: Кебіч мусіць выйсьці ў другі тур. Толькі абавязкова зь перавагай у галасах. Плян такі: неадкладна пасыплюцца звароты працоўных калектываў, каб на гэтым паставіць кропку, адмяніць другі тур. Чаму? Таму што Кебіч у другім туры прайграе.

А што тады рабіць, каб не прайграў? Зацьвердзіць «першага прэзыдэнта» на сэсіі Вярхоўнага Савету. Падставы? Народ ужо сказаў сваё слова: аддаў большасьць галасоў Вячаславу Францавічу. Краіна ў крызісе. Трэба працаваць і зарабляць, а не разбазарваць грошы на выбарчыя справы.

Плян зацьвердзіць прэзыдэнта на сэсіі выглядаў досыць рэалістычна. У некаторых рэспубліках з былых савецкіх прэзыдэнта выбіраў парлямэнт.

## Генэральскае вясельле

Адносіны з новым старшынём Вярхоўнага Савету, адстаўным міліцэйскім генэралам Грыбам у «Свабоды» ня скланіся адразу. Пачынаючы са здымка новага кіраўніка парлямэнту побач з трыбунай, над якім вялікія літары загалоўка «Глядзіце: хто прыйшоў!» у іранічным герменчукоўскім стылі (у першым нумары лютага 1994 году). Як вядома, Грыбам замянілі Шушкевіча. Газэта працягвае трымаць яго пад увагай. І вось нагода напісаць зноў.

Анонс пра вясельле Алены Грыб і Андрэя Казлоўскага, студэнтаў, — на першай старонцы, пад-

рабязнасьці — на апошняй. Але спачатку, не без іроніі — «Цяпер мы можам быць упэўненыя ў тым, што генэрал Казлоўскі ня выведзе войска супраць сьпікера Грыба, што Грыб не дапусьціць адстаўкі міністра Казлоўскага».

І яшчэ рэмарка — «у якасьці гістарычнай даведкі»: «падобныя шлюбы практыкаваліся на Беларусі ў XV—XVII стст. Для ўмацаваньня сувязяў паміж уладарнымі сем’ямі».

Фотарэпартаж — прыклад працы над тэкстам Івана Сідара, гэта яшчэ адзін псэўданім Ігара Герменчука.

Загаловак: «Генэральскае вясельле». Пад ім — віншаваньне маладым ад неназванага кандыдата ў прэзыдэнты. Падзагалоўкі ў тэксьце:

«Вясельны картэж на чале з „членавозам“»,

«Салдатам загадалі не высоўвацца» (вясельле правялі за брамай вайсковага гарадка ў Калодзішчах),

«Найдаражэйшы госьць Вячаслаў Францавіч»,

«Генэральскі падарунак маладым».

Фотакарэспандэнт Сяргей Грыц расказвае, як Гермянчук падбіў яго (што значыць моц пераканаваньня!) зьняць цішком вясельле дзяцей міністра абароны Казлоўскага і Грыба, тады старшыні Вярхоўнага Савету. Спачатку здымалі гэтую пару тайком з машыны Герменчука на Камуністычнай, дзе Дом шлюбаў. А вясельле было ў Калодзішчах, дзе Гермянчук жыў. Грыц кажа: гэта толькі маладосьць плюс асоба Ігара паўплывалі, што Грыц паддаўся. Пад уплывам Герменчука «абуў туфлі, надзеў пінжак, брукі з кішэнямі, гальштук, такі ўвесь зь сябе як жаніх быў».

І вось яны ў Калодзішчах, Грыц выходзіць «на заданьне». Яго пусьцілі, і ён трапіў на пачатак вясельля. Але тады й ахова была ня тая, што цяпер. Прайшоў міма КПП, салдат стаіць: ну, госьць з фотаапаратам, зразумела. Праходзь! Яшчэ госьці толькі сядаюць за сталы, яшчэ хаос, атмасфэра сьвята. Самы час зрабіць першыя кадры. Сабраўся ўжо здымаць. Нечакана падыходзіць ахоўнік. Вельмі ветліва: добры дзень.

«Ён дагэтуль служыць, той чалавек. Ён са мной быў абсалютна ветлівы, спытаў перш запрашэньне. І ён мяне ня біў, руку не заломваў. Рэч у тым, што пляменьніца Грыба была журналістка, Наташа, яна працавала ў адной маладзёжнай газэце ў Доме друку. І яна мяне пазнала. І ў выніку праз некалькі хвілін мяне ахова вывела са сталоўкі. Я там не зрабіў ніводнага кадра. Што мы зрабілі тады? Мы аб'ехалі зь іншага боку. Я — пад плот, увесь зь сябе пераймаючы Рэмба, падпаўзаў і здымаў вельмі здалёк гасьцей, якія гулялі ў перапынку паміж „пасяджэньнямі“ за сталом».

На наступны дзень Сяргей Грыц у лябараторыі ў Доме друку на першым паверсе ў сваёй «Народнай газеце» мяняе лямпу дзённага сьвятла. Паставіў стол і зьверху крэсла: столь там высокая, дом даваеннай пабудовы. Расчыняюцца дзьверы, і ўрываецца тая Наташа. Яна, аказваецца, была сяброўкай маладой на генэральскім вясельлі. Яна Грыца там убачыла і зразумела, што ён тут у ролі «паганага папарацы».

«Каб я не стаяў там высока і не мантаваў лямпу, яна б мне вочы выдрапала ад злосьці. Хаця дагэтуль мы былі знаёмыя гады два і ўсё было цудоўна».

## Мяжа прыстойнасьці

Карыстаючыся псэўданімам Іван Сідар, Германчук піша: «Пасьля публікацыі ў „Свабодзе“ лістоў салдата да сваёй маці, у якіх ён апісвае паляўнічыя „прыгоды“ Вячаслава Кебіча, некаторыя чытачы пытаюцца ў нас: па-першае — ці праўда ўсё гэта, па-другое — ці прыстойна публікаваць такія рэчы?»

Пачнем з апошняга, вяртаўся аўтар да скандальнай публікацыі: «Кебіч быў зусім п’яны. Ён ледзь трымаўся на нагах, нават ня мог сам пераапрануцца з паляўнічага касьцюма ў цывільны. Два прапаршчыкі трымалі яго пад рукі, а трэці нацягваў штаны. Зашпільваючы Кебічаву шырынку. Ён загадаў нам, салдатам, адвярнуцца... Мама. Ты б паглядзела — хто намі кіруе!» — так пісаў у лісьце да маці салдат з в/ч 44444, што недалёка ад Менску, у Пухавічах.

«Карцінка сапраўды брыдкаватая, непрыстойная. Але газэта тут ні пры чым. Ня мы „абліваем брудам“ прэм’ера, які марыць стаць прэзыдэнтам, — ён сам сябе аблівае. Незалежная газэта СВАБОДА адрозьніваецца ад афіцыйных выданьняў тым, што мы паказваем нашае „правіцяльства“ не такім, якім яно хоча сябе бачыць, а такім, якім яно ёсьць папраўдзе, — каб народ ведаў, „хто намі кіруе“».

А ці праўда гэта? Днямі той былы салдат заходзіў у рэдакцыю і ўсё пацьвердзіў. Існуюць таксама іншыя сьведкі, працягваў Сідар. А калі Кебіч хоча даказаць, што газэта надрукавала няпраўду, няхай зьвяртаецца ў суд. Але ён гэтага ня робіць. Судзьдзі паслухмяныя, гэта ясна. Але калі прыйдзе ў суд

цэлая рота сьведак, ды айцоў-камандзіраў калі выклікаць? Таму робіцца прасьцей: пасьля публікацыі прэс-сакратар прэм'ера палкоўнік Замяталін «выбухнуў грознай заявай», па просьбах працоўных паабяцаў разабрацца са «Свабодай», — расказваў чытачам Іван Сідар.

У душы Германчук, безумоўна, мог сутыкацца з маральным выбарам, з прафэсійнай дылемай. Калі твая мэта — знайсьці тое, што хаваюць, расказаць пра тое, пра што маўчаць іншыя, то будзеш апынацца перад пытаньнем: маеш права ці не? Трэба гэта напісаць ці не?

Ну, і мэта твая зразумелая — каб газэту хапалі, каб была на вуснах. Газэта — тавар, любіў ён паўтараць перанятае ў заходніх рэдактараў. Важна пры гэтым, што «Свабода» была яго любімым творам, прадметам гонару.

Ён тлумачыў сваю пазыцыю: «У дэмакратычным сьвеце палітыкі знаходзяцца пад павелічальным шклом прэсы, а значыць і грамадзтва. Кожны непрыстойны ўчынак, пра які даведваецца прэса, імгненна становіцца вядомы ўсёй краіне, а то і ўсяму сьвету. А ў нас п'юць, гуляюць (прычым за дзяржаўны кошт) і лічаць гэта амаль што службовым абавязкам...»

Так што Вячаслаў Францавіч сам трапіў пад павелічальнае шкло, ніхто не прымушаў. Такі «лікбез» ад Івана Сідара ўсім кабінэтчыкам, што прызвычаіліся, каб прэса іх абслугоўвала, зазірала ў рот, кармілася з рукі.

Ішла прэзыдэнцкая кампанія, і Кебіч выглядаў самым непатапляльным з кандыдатаў: у яго дзяржаўныя рычагі, у яго адміністрацыйны рэсурс.

Вось чаму Гермянчук пастаянна трымаў Вячаслава Францавіча пад прыцэлам.

Ну вось Кебіч паабяцаў, што калі стане прэзыдэнтам, адным зь першых указаў кампэнсуе грошы, якія ўкладчыкі трымалі ў ашчадных касах і якія нашчэнт абясцэніліся. Ніхто ня верыў, але хацелі верыць. Кебіч паабяцаў. «Свабода» выказала сумнеў. На першага студзеня 1991 году на ашчадных кніжках было амаль сямнаццаць мільярдаў рублёў. З таго часу яны абясцэніліся ў 2286 разоў! Адкуль Кебіч возьме такія велізарныя грошы? Дык навошта абяцаць?

Вось Пазьняк — іншая справа, у яго ёсьць плян. Прыватызаваць дзяржаўную ўласнасьць і нерухомасьць. І даць народу, вярнуць страчанае, піша Мікола Грынявіцкі. Тады такое выйсьце здавалася магчымым і лягічным. А галоўнае — справядлівым у дачыненьні да народу, які ўсё жыцьцё гнуў карак на партыйную ўладу.

Мікола Грынявіцкі... Адкуль гэты псэўданім у Германчука? Ад Ігната Грынявіцкага?

## Выбарчыя прагнозы

«Прэзыдэнтам будзе Пазьняк альбо... Грыб», — інтрыгуе «Свабода».

Пятро Панкратовіч пачынае з прагнозу: Кебіч, Пазьняк і Лукашэнка маюць прыблізна аднолькавыя шанцы прайсьці ў другі тур. І называе тры магчымыя варыянты. Пераможцамі ў першым туры становяцца Кебіч — Пазьняк, Кебіч — Лукашэнка альбо Пазьняк — Лукашэнка.

У першым варыянце, мяркуе Пятро Панкратовіч, «Зянон у выніку стане прэзыдэнтам». А ў двух другіх — Грыб атрымае часовыя паўнамоцтвы прэзыдэнта.

Прагноз выразна прапазьнякоўскі, адлюстроўвае спадзевы паплечнікаў і самога Ігара.

Калі ў другі тур выйдуць Кебіч з Лукашэнкам, то наўрад ці людзі пойдуць галасаваць, бо які сэнс?.. Палова ня прыйдзе, выбары не адбудуцца, працягвае газэта. Ну, а калі Пазьняк з Лукашэнкам праходзяць? Тады Кебіч з кампаніяй зробяць усё, каб сарваць выбары. Так што найбольшыя шанцы ў Пазьняка, пераконвае Пятро Панкратовіч. Ці ў Грыба, але тады, у гэтым выпадку, толькі часова — на тры месяцы.

Ёсьць неправераныя зьвесткі: плянуецца друк фальшывых бюлетэняў.

У Магілёўскай вобласьці 912 выбарчых участкаў. На афармленьне кожнага выдзелены мільён рублёў зь бюджэту. Але куды пайшлі грошы — невядома. Усё паўсюль старое, савецкае, з гарбачоўскіх часоў, расказвае газэта. Чырвоныя скрыні, чырвоныя кабіны, чырвоныя шыльды. Нідзе няма сьцягоў і гербаў Рэспублікі Беларусь.

Рэдакцыя агітуе: Падпішыся на «Свабоду!» «Мы паведамляем пра тое, пра што ня піша ніхто. Падпісацца на газэту СВАБОДА можна ў любым паштовым аддзяленьні!»

І падпісваліся, папулярнасьць газэты расла, яна была на ўздыме. З абласьцей паводле падпіскі на першым месцы была Гарадзенская. А найбольш падпісчыкаў жыло ў Горадні і Лідзе, большых гарадах.

## Пацалунак Кебіча-Чарнамырдзіна

Сяргей Грыц на працу ў сталіцу прыехаў з Наваградку. З фотаапаратам. Стаў знакамітым у сваёй галіне дзякуючы здымкам, надрукаваным у «Свабодзе», хоць нярэдка бяз подпісу.

«Свабоду» з самым славутым здымкам Грыца «Кебіч цалуе Чарнамырдзіна» выхоплівалі з рук.

Германчук быў у захапленьні, выкарыстоўваў здымак некалькі разоў.

Здымак быў зроблены 3 ліпеня 1994 году. У гадавіну вызваленьня сталіцы БССР ад нямецкай акупацыі ў 1944-м. Паміж першым і другім турамі прэзыдэнцкіх выбараў.

Дзень вызваленьня Менску ад нямецкіх войскаў. Прыяжджае Чарнамырдзін. Грыц напаткаў іх з Кебічам на пляцоўцы каля Палаца спорту, дзе адбываліся гуляньні. Там яны глядзелі парашутыстаў, паветранае шоў. Абодва былі ў добрым гуморы. Не было «жорсткай вульгарнай аховы». Лета, сонца, выдатнае надвор'е, музыка. Шмат народу вясёлага. І Сяргей іх здымаў.

Потым, калі два вялікія начальнікі сабраліся зьяжджаць, былі пададзеныя аўтамабілі. Машын было дзьве. Але яны селі ў адну разам. А паколькі народ іх вітаў, то не выпадала ехаць, схаваўшыся за танаванымі шыбамі. Шыба ці то была апушчаная, ці то яны самі апусьцілі, як толькі селі. Машына пачала павольны рух, абодва махалі людзям. Грыц, адпаведна, бег непадалёк ад машыны. Здымаў. І ў нейкі момант ад празьмернасьці пачуцьцяў, ад таго, што ўсё так добра, радасна, побач добры сябра расейскі калега Віктар Чарнамырдзін,

Кебіч яго проста цмокнуў у вусны, — кажа Сяргей, на імгненьне задумаўшыся, каб падшукаць слова. Натуральна, гэта працягвалася долі сэкунды, гэты пацалунак. Машына памалу набірала хуткасьць.

На той момант у Сяргея не было сувязі з інфармацыйнымі агенцтвамі, замежнымі выданьнямі. Ён прызнаецца, што тады актыўна супрацоўнічаў з Герменчуком, са «Свабодай» і, уласна кажучы, апроч як у «Свабоду», аддаваць гэты здымак нікуды не зьбіраўся.

Неяк Ігар сказаў, што газэта з гэтым здымкам нават трапіла на стол да Барыса Ельцына.

## Дзьверы, прачыненыя на мароз

Прэзыдэнцкая кампанія. Другі тур выбараў. Лукашэнка адчуваў сябе абраным. Лічбы сьведчылі на ягоную карысьць, адрыў ад Кебіча быў вялікі.

Буфэт гасьцініцы «Кастрычніцкая». Месца жыхарства дэпутатаў, хто зь іх іншагародні. Гермянчук з калегам зайшлі пад'есьці. Толькі ўзяліся за лыжкі, у апусьцелым дагэтуль памяшканьні робіцца зьнянацку быццам цесна. Спачатку яны нібы адчулі подых ветру. Намаляваліся пяць ці шэсьць мужчын. Будуць абедаць. Адзін у сьветлым клятчастым пінжаку, гэта Лукашэнка. Іншыя ў чорных скуранках. Целаахоўнікі. Вельмі сур'ёзныя. З пачуцьцём сваёй важнасьці на тварах. «Невозмутимые».

Гермянчук бачыць калегу па дэпутацтве і заводзіць размову. Так, быццам нічога не зьмянілася. Лукашэнка яўна ня лічыць патрэбным падтрымліваць яе. У Герменчука выклікае весялосьць гэты

паважны звонку выгляд, адчуваньне ўласнай значнасьці. Спачатку Лукашэнка яшчэ зробіць ласку, раз-другі нешта адкажа, сьцісла, пару слоў. Каб толькі размоўца адчапіўся.

Герменчука гэта толькі падахвоціла. Ён у сваёй манеры, сьмеючыся, задае Лукашэнку пытаньні, зьвяртаецца знарочыста фамільярна: «Саша, вось ты мне скажы...»

Лукашэнка больш не адказвае. Нават не паварочвае галавы ў бок Герменчука. А той ня хоча суняцца. Адчуваецца хісткасьць сытуацыі. Ледзь заўважны рух на твары Лукашэнкі. Штось мімічнае. Амаль няўлоўнае. Літаральна знак вачыма. Ахоўнікі дружна ўзьнімаюцца і робяць недвухсэнсоўны рух у бок журналістаў.

Быццам падзьмула зь дзьвярэй, прачыненых на мароз. Як можна будзе потым зразумець, павеяла «новымі часамі», эпохай «першага». Мімалётнае адчуваньне пагрозы. Даволі злавеснае. Стала няўтульна. Відавочным было: людзі ў скуранках, дзябёлыя, ні перад чым бы не стрымаліся. Гермянчук дэпутат? Ім усё роўна.

Тады, у буфэце, яны дажавалі моўчкі і пайшлі. Асадак застаўся надоўга, увесь наступны час зробіцца непрыемным асадкам. Герменчуку цяжка было пагадзіцца з думкай, што хтосьці такі можа стаць прэзыдэнтам. Што ўсе папярэднія намаганьні — і ўсе высілкі ягоныя, герменчукоўскія — былі дзеля гэтага нечаканага пэрсанажа, што ён іх ускосна скарыстаў у сваіх інтарэсах.

25-ы нумар «Свабоды». Падсумаваньне вынікаў першага туру выбараў. Беларусы першы раз у сваёй гісторыі выбіралі сабе прэзыдэнта.

«Прагаласаваўшы за „беларускага Жырыноўскага“, Беларусь зьдзівіла ўвесь сьвет»: «Безумоўна, трохі сорамна за сваю краіну, дзе амаль палова выбаршчыкаў „пры ўсім багацьці выбару“ галасуе менавіта за Лукашэнку. Але нічога кепскага пакуль ня здарылася. Для нас з вамі. Гэта няхай Вячаслаў Кебіч з кампаніяй кусаюць локці ды абдумваюць сваю змрочную пэрспэктыву».

Пазнавальны почырк рэдактара, тэкст падпісаны Пятром Панкратовічам... На першай старонцы зьяўляецца і здымачак Лукашэнкі, маленькі. І бяз рэтушы.

## Даб'е сын бацьку

Зянон Пазьняк у другі тур ня трапіў. Аднак у штаб-кватэры БНФ пануе аптымістычны настрой. На паседжаньні вырашана арыентавацца на няўдзел у другім туры. Што гэта можа азначаць? Чытач у непаразуменьні, зьбіты з панталыку. Кандыдат ад БНФ выбыў з прэзыдэнцкай гонкі. Значыць, і так ясна, што ўдзельнічаць ня будзе. Але аўтар нічога не тлумачыць. Можна толькі даўмецца, што існуе хісткае спадзяваньне, што выбары не адбудуцца.

Аднак, як пакажа час, спадзяваньне ня будзе мець пад сабою цьвёрдага грунту. Электарат галасаваць прывык, а Лукашэнкавы людзі, натхнёныя першай перамогай, папросту з жарсьцю пабягуць на выбарчыя ўчасткі.

Аднак гэта наперадзе. А пакуль «Лукашэнка вырашыў, не чакаючы другога туру, „прыступіць да выкананьня прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў“.

На прэсавай канфэрэнцыі ён заявіў, што зьбіраецца выклікаць усіх міністраў да сябе ў штаб-кватэру ў інтэрнаце былой ВПШ і азадачыць наконт забесьпячэньня ўраджаю. На пытаньне — хто ўзначаліць урад — пераможца першага туру парыраваў: „Прэм’ер не праблема, гэта вам не даярку на фэрму знайсьці“».

Калі б не Лукашэнка, электарат галасаваў бы за Кебіча. Атрымліваецца, што наяўнасьць Лукашэнкі ў сьпісе кандыдатаў дапамагла праваліць «рэальнага прэзыдэнта». Падзякуем за гэта «народнаму герою», дасьціпнічае Пятро Панкратовіч: «Думаю, калі б Лукашэнка праходзіў у прэзыдэнты зь першага туру, атачэньне Кебіча магло б пайсьці „ва-банк“. Камандуючы ўнутранымі войскамі генэрал Платонаў быў напагатове».

Аднак Кебіч на такія крокі аказаўся ня здатны. Не пайшоў супраць «волі народу»? Але падобныя крокі якраз і плянуюцца з мэтаю зрабіць насуперак волевыяўленьню вуліц і плошчаў. Збаяўся Лукашэнкі, лічбаў, якія за ім былі? Што ж было рабіць Кебічу? Пакуль заслона не апусьцілася канчаткова? Паспрабаваць сарваць другі тур. Як? І Пятро Панкратовіч паўтарае як мантру: вось калі ня прыйдзе галасаваць пяцьдзясят адсоткаў выбаршчыкаў, Лукашэнка «пралятае» і паўнамоцтвы часова пераходзяць да старшыні Вярхоўнага Савету Мечыслава Грыба. А значыць, да паўторных выбараў будзе запас часу — цэлых тры месяцы. І партыя ўлады можа павагацца ды паставіць на Грыба як на свайго кандыдата.

А можна зрабіць іначай, што больш верагодна: зьмяніць закон і не праводзіць паўторных выбараў.

Пакінуць да новых парлямэнцкіх. Гэта найбольш прымальнае выйсьце для пэрспэктываў Беларусі, выказвае думку рэдактар. Але ўсё гэта — толькі разважаньні.

Кебіч заявіў, што пойдзе да канца, што будзе ўдзельнічаць у другім туры. Але можа падумае ды здыме сваю кандыдатуру? Толькі тады можа зьявіцца шанец сарваць другі тур!

Выказаўшы такую думку, Панкратовіч адразу яе перакрэсьлівае — такі крок можа, наадварот, падштурхнуць электарат да рашучых дзеяньняў, і выбаршчык пойдзе галасаваць «назло».

Што яшчэ? Каманда Кебіча паспрабавала шукаць хаўрусьнікаў, спробы выйшлі няўклюдныя. Знайсьці паразуменьне з БНФ наконт кааліцыйнага ўраду, натуральна, ня мела шанцаў, адказам было «іранічна-зьдзеклівае спачуваньне». Кіроўная намэнклятура ўжо пачала пакідаць карабель, які тануў, і пабегла «да Сашы».

З тэксту Пятра Панкратовіча вынікае: даб'е. Даб'е сын бацьку. Каб памяняцца зь ім ролямі. Каб самому назвацца бацькам.

## «Свабода» ў плюсе

Колькасьць падпісчыкаў «Свабоды» з 8400 у другім квартале павялічылася да 15 715 у трэцім. Рост — на 87%. Адзіная газэта, якая за час прэзыдэнцкай кампаніі атрымала новых падпісчыкаў, астатнія, дзяржаўныя, «у мінусе». Так Гермянчук піша пра рост цікавасьці да свайго выданьня. Лічбы натхнялі.

Гермянчук іранізуе: Кебіч пасьля першага туру выбараў заявіў, што не забараняў «Свабоду». Проста ў Доме друку «ад яе адвярнуліся». Выходзіць, «разьлюбілі»? Друкаваць давялося за 250 кілямэтраў... На тыя часы, не пазбаўленыя хоць якой свабоды і дэмакратыі, — абуральны выпадак! Інфармацыя пра гэта разышлася шырока па сьвеце. Рэдакцыю наведалі каля трыццаці замежных журналістаў, міжнародныя назіральнікі. Рэдактар сам робіцца папулярнай мэдыя-асобай.

Нават у кангрэсе ЗША ведаюць цяпер пра ганеньні на беларускую «Свабоду». З-за мяжы ідуць пратэсты на адрас Кебіча. «Аднак сьмяротна паранены рэжым усё яшчэ ня хоча прызнаваць сваю паразу. І ўсё ж мы іх перамаглі. Кебічавы 17% нішто супраць нашых з вамі 87%». Подпіс: Рэдакцыя «Свабоды». І тлустым шрыфтам: мы ўжо зьбіраліся ехаць друкаваць газэту ў Вільню, але нас зноў запрасілі ў Дом друку... Яшчэ адна перамога, дарагія чытачы.

Міжволі параўнаеш два факты: гэтае змаганьне «Свабоды» і Герменчука адбывалася ў той час, калі ўпершыню адзначылі Ўсясьветны дзень свабоды прэсы. Трэцяга траўня 1994-га. Генэральная асамблея ААН абвясьціла. Нібы з думкай пра беларускую газэту і яе рэдактара.

Іван Сідар піша, што ў Рыжкавічах, дзе жыве сям'я Лукашэнкі, цяпер дзяжураць узброеныя міліцыянты. «Іх выставілі на загад міністра ўнутраных справаў, якому Лукашэнка нібыта заявіў, што ягоных дзяцей нехта зьбіраецца выкрасьці». Можна ўявіць, што будзе, калі Лукашэнка стане прэзыдэнтам — на ягоную ахову можа не хапіць міліцыі і КДБ-шнікаў, пацьвельвае аўтар.

Кебіч робіць ліхаманкавыя рухі. У Заслаўі трэцяга ліпеня сустрэча з Чарнамырдзіным — расейскім прэм’ерам, і з галоўным банкірам Герашчанкам. Падпісалі пратакол. На тэму будучага аб’яднаньня грашовых сыстэмаў.

«Пустая паперка», — піша Пятро Панкратовіч, спасылаючыся на неназваных экспэртаў сваёй газэты. І завяршае:

«Падымаючы келіх з шампанскім пасьля падпісаньня пратаколу, Кебіч павярнуўся да фотакарэспандэнтаў і голасна сказаў: „А цяпер — здымак для газэты СВАБОДА“.

Дзякуй, Вячаслаў Францавіч. Мы абяцаем апублікаваць гэты здымак іншым разам, а сёньня публікуем тое, што вы бачыце». Подпіс: Пятро Панкратовіч.

Гэта была першая публікацыя легендарнага здымка «Кебіч цалуе Чарнамырдзіна». Тэкстоўку набралі вялікімі літарамі: «Віктар Чарнамырдзін любіць Беларусь, а Вячаслаў Кебіч — Чарнамырдзіна».

Як Шушкевічу не паспрыяў візыт Клінтана, хутчэй наадварот, бо Шушкевіча адразу пасьля гэтага скінулі, так не дапамог Кебічу візыт Чарнамырдзіна. Хаця прыбыў Віктар Сьцяпанавіч зь «пернікамі», з прэфэрэнцыямі. І не асабіста Вячаславу Францавічу, а ўсім беларусам, выбаршчыкам, электарату. І што зусім нечакана: змацаваная мужчынскім пацалункам дружба Расеі зь Беларусьсю не прынясе перамогі Кебічу. Гэта стане апошнім для яго момантам трыюмфаваньня.

Далей пачнуцца пацалункі Лукашэнкі зь Ельцыным.

Краіна прачнулася ў новай якасьці, з новым начальствам. Ліпень 1994-га. Яна «не пазнавала сябе ў грыме», як звыкла кажуць у падобных выпадках у народзе.

## Рыгоравіч, налівай!

«Таварыш прэзыдэнт абяцае ўсіх накарміць: адных — каўбасою, другіх — баландою». З такім загалоўкам выйшаў наступны нумар «Свабоды» ўжо ў прэзыдэнцкай Беларусі.

І падзагаловачак іранічны, чыста герменчукоўскі: «Рыгоравіч, налівай!» Аўтар не без задавальненьня расказвае: у дзень галасаваньня ў другім туры Лукашэнка быў на радзіме. «Нейкі дзядзька крыкнуў: „Рыгоравіч! Налівай!“ „Дык нясі!“ — з энтузіязмам адгукнуўся Рыгоравіч. Аднак калі дзядзька прыбег з пляшкаю гарэлкі, падступіцца да Рыгоравіча яму ўжо не ўдалося», — паведамляла газэта.

Другі падзагаловак: «Першы прэзыдэнцкі мітынг».

«Лукашэнка падруліў на чорным „членавозе“ маркі „ЗИЛ“ зь бел-чырвона-белым сьцяжком на капоце». Гэта было ў Шклове. Ён загадаў склікаць усіх старшыняў калгасаў раёну — «каб не дапусьціць спаду вытворчасьці малака і мяса». «Гаспадар!» — іранічна падсумоўвае аўтар.

Нечакана ён засяроджваецца на тым, хто прайграў, на Кебічу. Што быў плян падтасаваць вынікі выбараў, што ў сутарэньнях Дому ўраду друкаваліся фальшывыя бюлетэні. Тое ж самае было і калі галасавалі на прэзыдэнцкіх выбарах першы раз. Ці вы-

карысталі фальшывыя бюлетэні тады, у першым туры? — ставіць аўтар пытаньне і адказвае: спраўдзіць гэта няцяжка, і рэдакцыя газэты паспрабуе атрымаць адпаведныя паўнамоцтвы.

Чытач крыху разгублены: а навошта? Лукашэнка — прэзыдэнт. Якое мае значэньне, як там Кебіч змагаўся ў першым туры? Самыя дасьведчаныя здагадваліся: Пазьняк мог лічыць, што на другім месцы мог быць ён. З чаго вынікала б, што яму тады магло б пашанцаваць трапіць у другі тур, а ня Кебічу.

«Таварыш прэзыдэнт» не дачакаўся віншаваньняў ад «Свабоды». Што да баланды, удакладненьня ў тэксьце не было, прагучаў адно намёк у гучным загалоўку. Намёк, зрэшты, не са столі: кандыдат, агітуючы за сябе ў выбарчую кампанію, не шкадаваў абяцаньняў перасаджаць несумленных чыноўнікаў. Газэта толькі без эмоцый паведаміла — калі можа адбыцца інаўгурацыя Лукашэнкі. І гэты тэкст пачынаецца з памылкі: «У сераду, 13 студзеня, зьбярэцца Прэзыдыюм ВС...» А на двары ліпень.

Такі падсьвядомы, але празорлівы збой: з прыходам прэзыдэнта Беларусь уступае ў гэтак званы Стары Новы год. Што будзе цалкам адпавядаць рэчаіснасьці, як хутка пакажа час. Калі задумацца: у Герменчука нібы праскочыла падсьвядомае — што наступаюць халады, студзень будзе цяпер у беларусаў. У гэтай памылцы папярэджаньне, горкая соль, цьмяная магія.

Барацьба «Свабоды» з Кебічам завяршылася перамогай трэцяга боку. Наперадзе будзе наступная, з Лукашэнкам.

Аднак газэта газэтай, Лукашэнку перш прагледзелі сам Кебіч і БНФ — з другога боку. Не «Сва-

бода» была ўдзельніцай у прэзыдэнцкіх выбарах, а Кебіч і Пазьняк.

Зрэшты, «Свабода» і БНФ невыпадкова змагаліся з Кебічам. Гэта было тады трэндам, жаданьнем немалой часткі насельніцтва: прагнаць старую намэнклятуру. Не хацелі больш за вялікіх чыноўнікаў галасаваць. Запыт у народных масах быў на Робін Гуда. Няхай ён прыедзе да нас, адбярэ ў багатых і раздасьць бедным. І прыцісьне намэнклятуру. У галовах выбаршчыкаў на гэтую ролю мог прэтэндаваць толькі Лукашэнка. Нехта мог зьвязваць падобныя думкі з Пазьняком. Рэзкія абодва на слова. Астатнія чатыры кандыдаты хутчэй нагадвалі ката Леапольда з мультфільму: «Ребята, давайте жить дружно...»

## Кіруй, Саша

Пятро Панкратовіч піша, што «Лукашэнка жыве цяпер побач з Кебічам» і вельмі хутка пераконваецца, што прэм'ера знайсьці ўсё ж троху цяжэй, чым даярку на фэрму: «Хоць на сябе бяры функцыі прэм'ера, хоць прасі Вячаслава Францавіча вярнуцца».

З шасьці ўдзельнікаў прэзыдэнцкіх выбараў толькі два кандыдаты — Лукашэнка і Дубко фактычна ня мелі сваёй каманды. Значыць, выйсьце цяпер у прэзыдэнта адно: перабіраць старую намэнклятуру. Новыя людзі, сапраўдныя прафэсіяналы, ня хочуць зьвязваць свой палітычны лёс «з рэжымам Лукашэнкі» — піша Панкратовіч ужо ў ліпені 1994-га, калі ніякага рэжыму яшчэ не магло быць,

чалавек яшчэ толькі асвойтваўся ў прэзыдэнцкім пінжаку.

І далей: апазыцыя ня будзе блякаваць прапановы Лукашэнкі, калі зойдзе гаворка пра склад кабінэту міністраў — «кіруй, Саша», фамільярна заканчвае думку аўтар. А наастачу нават шкадуе чалавека, што «прыйшоў да ўлады на голым папулізьме і цяпер, здаецца, разгубіўся». Здымак першага прэзыдэнта, які падмацоўвае публікацыю, далёкі ад параднага. І ў гэтым была традыцыя «Свабоды», што склалася нядаўна цягам палітычных баталій. Газэта начальству не пяяла дытырамбаў.

«Свабода» лічыць патрэбным нагадаць чытачам інцыдэнт, які здарыўся ў часе выбарчай кампаніі. Здарыўся з дэпутатам і кандыдатам Лукашэнкам. Сваім часам нават трапіў у эфір БТ.

«Нягледзячы на тое, што Аляксандар Лукашэнка стаў прэзыдэнтам, крымінальная справа, узбуджаная пасьля інцыдэнту ў Доме ўраду, хутчэй за ўсё, будзе хутка спыненая. Як паведаміў адзін супрацоўнік Пракуратуры рэспублікі, які не пажадаў назваць сваё імя, Аляксандар Лукашэнка наўрад ці зацікаўлены ў правядзеньні сьледзтва па гэтай справе, паколькі экспэртыза ўстанавіла, што знакаміты гарнітур Лукашэнкі сапсавалі зусім не супрацоўнікі міліцыі, як раней заявіў пацярпелы. Аказваецца, Аляксандар Рыгоравіч у мітусьні проста зачапіўся за цьвікі, якімі некалі была прымацаваная шыльдачка на дзьвярах ягонага кабінэта, і разарваў гарнітур. Цяпер тыя клятыя цьвікі з валокнамі прэзыдэнцкага гарнітуру знаходзяцца ў лябараторыі крымінальнай экспэртызы. Акрамя таго, экспэрты лічаць, што плямы (...) гэта ўсяго толькі плястылін,

якім былі апячатаныя дзьверы кабінэта, а не сьляды міліцэйскіх ботаў», — напісаў Гермянчук, хаваючы ўсьмешку ў сваіх пшанічных вусах.

Міне час, і маладыя журналісты, хто нарадзіўся ў год прэзыдэнцкіх выбараў або хадзіў тады ў дзіцячы садок, зробяць вялікія вочы: чаму газэта «Свабода» так непаважна пісала пра таго, хто стаў першым у гісторыі Беларусі прэзыдэнтам?

Адкладзем убок пытаньні субардынацыі. Ігар і Лукашэнка адзін аднаго ведалі. У гэтым адказ. Лукашэнка быў адным зь іх, такім жа дэпутатам. Чатыры гады ў адным сагане варыліся.

У сьнежні 1994-га Гермянчук напіша: «Ён ня спыніцца ні перад чым, ён гатовы рабіць усё што заўгодна, не зважаючы ні на законы, ні на тое, які гэта выкліча рэзананс у Беларусі і на Захадзе... Удумліва прааналізуйце сытуацыю, і вы прыйдзеце да высновы, што і палітычныя арышты, і загадкавыя забойствы палітычных лідэраў і актывістаў, і танкі на вуліцах — усё гэта цалкам верагодна... Відавочна, галоўным ягоным апірышчам будуць КДБ, міліцыя і ўнутраныя войскі. А які ў гэтым выпадку можа быць сцэнар уратаваньня — зразумець няцяжка».

Гэта было напісана пры канцы 1994 году.

## Спадар Свабода

Што ж адбылося ў Рэспубліцы Беларусь у сярэдзіне ліпеня 1994 году? Ад чаго вельмі многія адчувалі горыч, расчараваньне, прыгаломшанасьць? З чым не маглі пагадзіцца тыя, хто хацеў бачыць

Беларусь эўрапейскай, дэмакратычнай? Нарэшце, ва ўсёй паўнаце гэтага паняцьця, — беларускай? З тым, што адбылася вялікая беларуская трагедыя. Што ўсе гэтыя людзі, а іх былі сотні тысяч, зразумелі, што ня быць Беларусі эўрапейскай. Ня быць дэмакратычнай. Ня быць беларускай. Нехта ўсьвядоміў на інтуітыўным узроўні, а нехта зразумеў выразна і канкрэтна, бо дэпутат Лукашэнка, затым кандыдат, а неўзабаве і прэзыдэнт — сваіх поглядаў ні ад кога не хаваў.

Адвакатам усіх гэтых соцень тысяч была «Свабода» і пэрсанальна Ігар Гермянчук. Так, былі яны — сама газэта і ён, спадар Свабода, — прадстаўнікамі людзей, чые погляды адлюстроўвалі. Для каго стваралася карціна беларускага, у тым ліку закуліснага сьвету. Чый гарт мацаваўся імі. І ўсё гэта адначасова. Яны ўсе разам перажывалі тое, што здарылася, што вельмі хутка пачало ператварацца ў трагіфарс.

Калі Лукашэнка толькі стаў прэзыдэнтам, то працягваў хадзіць па Доме ўраду, як раней дэпутатам — яшчэ ня звыкся з роляй. І зайшоў у сталоўку.

Гермянчук абедаў і зь месца запытаўся:

— Што, Саша, закрыеш газэту?

— Плоха аба мне думаеш, — адказаў Лукашэнка.

Гермянчук прыехаў і расказаў у рэдакцыі. Чаго яму было чакаць ад ухілістага, неканкрэтнага адказу? Нічога добрага. Пра што яшчэ мог сьведчыць пачуты адказ? Напэўна, пра тое, як будзе ўлада змагацца з газэтай. Але ня больш. На той момант проста яшчэ не магло быць нічога вырашана. Ну што такое нейкая газэта, калі адрэналін пасьля трыюмфу не спадае? Ніхто тады яшчэ газэты не закрываў. Але зерне было кінутае.

Недзяржаўная, незалежная, прыватная і рэзка апазыцыйная «Свабода» начальствам стала ўспрымацца як «антыдзяржаўная».

«Свабода» выйшла на штотыднёвую пэрыядычнасьць літаральна за паўгода да прэзыдэнцкай кампаніі, якая стане канцом дэмакратычных павеваў. Але газэта мела рэальны ўплыў. Словам, «Свабода» канчаткова ўстала на ногі, калі ў грамадзтве ўжо нічога рэальна зрабіць было нельга.

## Даклад Антончыка

У рэдакцыю пачнуць прыходзіць новыя людзі. Віктар Валадашчук са слонімскай раёнкі палегчыць Ігару рэдакцыйную працу. Гэта адбудзецца праз зьбег акалічнасьцяў. Пры канцы 1994-га. «Свабода» надрукуе крытычны тэкст Валадашчука пра слонімскага начальніка. Начальнік паставіць ультыматум: альбо друкуйце абвяржэньне, альбо аўтар застанецца бяз працы. Што рабіць? — запытаўся Віктар. Гермянчук: раз факты праўдзівыя, якое можа быць абвяржэньне? І робіць шырокі жэст — запрашае Валадашчука да сябе.

Улетку 1995-га прыйдзе Віталь Цыганкоў. У верасьні Гермянчук запросіць нас зь ім удзельнічаць ва ўстаноўчым сходзе Беларускай асацыяцыі журналістаў. Нас будзе трое са «Свабоды», хто прагаласуе за стварэньне арганізацыі, мэта якой — салідарнасьць журналістаў перад пагрозамі з боку антыдэмакратычнай улады.

27 сьнежня выйшаў апошні нумар 1994 году. У ім славуты «даклад Антончыка». Нелегальны

выпуск. У выходных зьвестках: «Друкарня імя Аляксандра Лукашэнкі». Шапка: «Каманда Лукашэнкі замятае сьляды. Так сьцьвярджае дэпутат С. Антончык».

«Лукашэнка можа загнаць нас глыбока ў падпольле, аднак ён і адтуль атрымае адпаведную газэту — падпольную», — напіша рэдактар. І зробіць выснову, што наступ на свабоду слова можа стаць першым крокам, што зь «белых плямаў» у дзяржаўных газэтах, дзе стаяў спачатку даклад Сяргея Антончыка, усё можа толькі пачацца.

Ясна, што «Свабода» атрымала эксклюзіў, калі крамольны даклад быў забаронены ў астатняй прэсе.

28 сьнежня ў абед дзяжурнаму па Гарадзенскай мытні, чый пост — на чыгуначным вакзале, затэлефанаваў дзяжурны ўправы КДБ па Гарадзенскай вобласьці. Мытнікам паступіла вуснае распараджэньне: пры праверцы грамадзянаў, якія прыяжджаюць у Рэспубліку Беларусь, выяўляць увоз у краіну газэты «Свабода», груз затрымліваць і адразу паведамляць у КДБ.

У першым нумары новага, 1995 году загаловак: «СВАБОДУ зноў забараняюць». Дом друку адмовіўся друкаваць газэту з дакладам Сяргея Антончыка. Мы выпусьцілі яго нелегальна накладам 100 тысяч асобнікаў, паведамлялася чытачам. Увесь наклад быў распаўсюджаны «з рук».

Дзе знаходзіцца «друкарня імя Лукашэнкі», мы не паведамлялі, прызнавалася рэдакцыя. І далей: «Сам факт выхаду СВАБОДЫ надта раззлаваў прэзыдэнта Лукашэнку і ягонае атачэньне. Па-першае, яны абурыліся, што даклад Антончыка ўсё ж

убачыў сьвет. Па-другое, у гэтым самым нумары быў надрукаваны пачатак паэмы знакамітага Ведзьмака Лысагорскага „Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт“».

*Наш прэзыдэнт Лука Мудзішчаў*
*(Даруй нам, Пушкін, вольны тон)*
*Меў дужа грозныя вусішчы*
*І надта сіплы барытон.*

*Ён быў дырэктарам саўгаса —*
*Надойваў рэкі малака,*
*Даваў дзяржаве бульбу, мяса...*
*«Чырвоным панам» быў Лука.*

*Умела кіраваў? Няўмела?*
*Хай скажуць курыца і гусь.*
*Ды думка ў галаве засела:*
*«Я осчастливлю Беларусь»...*

«Да рэдакцыі дайшлі зьвесткі, што Лукашэнка, прачытаўшы паэму, вельмі ўзлаваўся. Ён загадаў праваахоўным органам „разабрацца“ са СВАБОДАЙ». Чытаем далей: «Аднак ніякіх законных падставаў забараніць нашую газэту ў іх няма. Таму відавочна, што яны будуць дзейнічаць незаконнымі мэтадамі».

Якімі? «Напрыклад, могуць падкінуць у памяшканьне рэдакцыі ўлёткі з заклікамі да гвалтоўнага зьвяржэньня існага ладу, каб потым прыйсьці з вобыскам і апячатаць наш офіс». Але — абышлося. Улётак не падкінулі.

Першы нумар году, а па ліку — соты, аднак, так і не пабачыў сьвет. Чытачам у рукі ня трапіў. «У апошні момант у Дом друку паступіла забарона

з адміністрацыі прэзыдэнта», — патлумачыць потым чытачам рэдактар.

«Прэзыдэнт пазнаў сябе і надта абурыўся», — ставіць загаловак Іван Сідар у наступным нумары, які чытачы атрымалі. І тлумачыць: «Па ўказаньні прэзыдэнта Лукашэнкі Пракуратура Рэспублікі Беларусь распачала крымінальную справу супраць газэты СВАБОДА».

## Антыгерой «Свабоды»

Справу ўзбудзіў першы намесьнік генэральнага пракурора Ул.Кандрацьеў — «па факце публікацыі ў газэце СВАБОДА паэмы Ведзьмака Лысагорскага „Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт". Пракуратура інкрымінуе газэце арт. 188 Крымінальнага кодэксу: „Публічная абраза прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананьнем ускладзеных на яго абавязкаў. Караецца папраўчымі работамі на тэрмін да 1 году або штрафам" (ад 10 да 200 мінімальных зарплатаў».

Дарэчы, працягвае Іван Сідар, перш чым распачаць справу, у Пракуратуры рэспублікі зьбіралі некалькі нарадаў з удзелам розных кансультантаў: «Юрысты бачылі адзінае выйсьце: калі Лукашэнка лічыць, што Лука Мудзішчаў — гэта ён, няхай сам зьвяртаецца ў суд з заявай аб абароне гонару і годнасьці, бо па арт. 188 КК рэдакцыю газэты прыцягнуць да адказнасьці немагчыма. Між тым, як бачым, справу ўсё ж узбудзілі».

«Чаму Лукашэнка баіцца свабоднай прэсы» — галоўнае пытаньне наступнага нумару. Зрэшты, пытальніка няма. Рэдакцыя тлумачыць: «Рэч у тым,

што на прэзыдэнцкіх выбарах А.Лукашэнка самым элемэнтарным чынам падмануў даверлівых выбаршчыкаў, а цяпер бачыць, што гэты падман хутка пачаў выкрывацца. І выкрыцьцём „голага караля“ актыўна заняліся незалежныя газэты.

Зь дзяржаўнай прэсай Лукашэнку проста. Захацелі рэдактары афіцыйных газэт надрукаваць даклад Антончыка — зьняў. І даклад з паласы, і рэдактараў. А з намі яму, беднаму, цяжэй: ні зьняць, ні прызначыць. Нас не хвалюе, што думае Лукашэнка пра СВАБОДУ. Нас цікавяць толькі меркаваньні нашых чытачоў».

«Мы раім Лукашэнку паглядзець на мапу сьвету і каляндар: у Эўропе 1995 год. Тут вам не Ўзбэкістан, „гаспадзін прэзідзент“», — іранічна-зьдзекліва заканчваецца тэкст.

Лукашэнка зрабіўся сапраўдным антыгероем «Свабоды», гуляў са старонкі на старонку, ніякаму Кебічу ня сьнілася.

«Прэзыдэнт хадзіў глядзець, як нараджаюць жанчыны», — інтрыгавала «Свабода» на апошняй старонцы.

«У пераднавагодні вечар 31 сьнежня А.Лукашэнка наведаў раддом (адрас якога ўпэўнена названы). Работнікі раддому паведамілі карэспандэнту СВАБОДЫ цікавыя падрабязнасьці. Прэзыдэнту захацелася паглядзець, як нараджаюць жанчыны, але на той час ужо ўсе кабеты нарадзілі. Тады Лукашэнка вырашыў зрабіць абход па палатах. Ён з сур’ёзным выглядам пытаўся ў парадзіх: „У вас температура есть? Нет? Тогда что вы здесь делаете?“

Дзяжурны доктар спрабаваў быў патлумачыць, што гэта вельмі спэцыфічнае аддзяленьне з асаблі-

вым санітарным рэжымам і што прэзыдэнт і ягонная сьвіта не адпавядаюць правілам асэптыкі, на што Лукашэнка ўпэўнена і з годнасьцю адказаў: „Ну почему же? Я сегодня мылся в душе!“ На разьвітаньне госьці пакінулі навагодні прэзэнт — дзьве пляшкі шампанскага».

Што праўда, не абыдзецца без канфузу: у газэце пераблытаюць раддом. Лукашэнка хадзіў у іншы. Давядзецца даваць папраўку:

«Удакладненьне. У мінулым нумары СВАБОДЫ ў нататцы „У вас тэмпэратура ёсьць?“ па віне карэспандэнта была дапушчаная недакладнасьць. Гаворка ішла пра Менскі радзільны дом № 2, што на вул. Бельскага».

Вядома, Герменчуку было крыху прыкра: так быць не павінна, журналіст абавязаны жалезна правяраць факты. Гэта аксіёма. Аднак у чым цяжкасьць — таксама цалкам зразумела. Цяжкасьць з крыніцамі інфармацыі, улада пачала закрывацца ад людзей.

Усяго за адзін год колькасьць падпісчыкаў «Свабоды» стала большай амаль у шэсьць разоў. «Як сьведчыць наш аналіз, газэту СВАБОДА чытае найбольш адукаваная і сацыяльна актыўная частка грамадзтва: палітыкі (ад прэзыдэнта да старшыні сельсавету), актывісты палітычных арганізацый, кіраўнікі дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў... Тым часам дзяржаўная прэса цярпіць страты». А вось як рост падпіскі выглядае ў працэнтах:

СВАБОДА — 590,5
«Рэспубліка» — 119,6
«Звязда» — 100,0
«Народная газета» — 88,7

«Белорусская нива» — 87,4

«Советская Белоруссия» — 81,3

«Знамя юности» — 70,7

Адным словам, у газэты ёсьць 28 828 падпісчыкаў. Цяпер «Свабода» выходзіць накладам 60 000 асобнікаў. Рэдакцыя мяркуе, што ўвесну наклад павялічыцца да 100 тысяч. Праблема, аднак, у тым, што менскі гарадзкі «Саюздрук» адмаўляецца браць у продаж дастатковую колькасьць «Свабоды». І зноў — пазнавальны почырк Ігара Герменчука: «Атрымліваецца, што наш тыднёвік распрадаецца раней за штодзённыя газэты. Гэта сьвядомая палітыка ўладаў, якія імкнуцца не дапусьціць пашырэньня СВАБОДЫ». І парада: калі не ўдалося знайсьці газэту ў сталічных кіёсках, варта выказваць свае прэтэнзіі кіраўніцы менскага «Саюздруку» Л.Шаблоўскай. Калі ласка, тэлефон: 26-16-37.

Што датычыць парушэньня правоў падпісчыкаў, якія не атрымалі два апошнія нумары «Свабоды», то ў наступным нумары надрукуюць рэкамэндацыі, як і каму трэба выстаўляць судовыя прэтэнзіі, абяцае чытачам рэдакцыя.

У суботу, 7 студзеня, прэзыдэнт Лукашэнка наведаў у менскім Сьвятадухаўскім катэдральным саборы сьвяточнае набажэнства на Нараджэньне Хрыстова, якое служыў мітрапаліт Філарэт, піша Іван Сідар: «Вернікаў вельмі зьдзівіла, што прэзыдэнт ня хрысьціцца, як усе. Але затое ўразіла, калі Лукашэнка выйшаў на амбон (!) і пачаў адтуль прамаўляць. Выдаў, напрыклад, такія пэрлы: „Символично, что наша страна отмечает этот праздник в начале года...“, „мы, президент и его правительст-

во...“, „Ваше Высокопреосвященство! Дайте общественности духовность. Остальное мы дадим сами“».

А ўвечары за сьвяточным сталом у эпархіяльнай управе Лукашэнка зноў узяў слова: «Я скажу тост, который говорю уже третий раз в этом году. Я предлагаю выпить за женщин!» — заявіў прэзыдэнт на сьвята Божага Нараджэньня.

## Вядзьмак Лысагорскі

У панядзелак 16 студзеня рэдакцыю «Свабоды» наведаў прадстаўнік Пракуратуры Рэспублікі Беларусь — сьледчы Валеры Камароўскі. Ён меў размову з галоўным рэдактарам Ігарам Герменчуком.

Сьледчы: Хачу вам паведаміць, што крымінальная справа ўзбуджана ня супраць рэдакцыі, бо сама рэдакцыя ня можа быць суб’ектам злачынства, а па факце публікацыі. Упершыню ў гісторыі нашай юрыспрудэнцыі ўзбуджана справа паводле арт. 188 Крымінальнага кодэксу. Да траўня 1994 г. гэты артыкул меў іншую рэдакцыю: «Абраза прадстаўніка ўлады ці грамадзкасьці ў сувязі з выкананьнем службовых абавязкаў па ахове грамадзкага парадку». Апошнія словы выключылі, і атрымалася — «абраза прадстаўніка ўлады». Узбудзіў крымінальную справу першы намесьнік генэральнага пракурора, які палічыў, што дастаткова падстаў для гэтага. Мне даручылі праводзіць сьледзтва, і я буду яго праводзіць. Мяне цікавіць арыгінал паэмы, які атрымала рэдакцыя.

Рэдактар: Мы дамо вам арыгінал і капэрту, у якой нам яго даслалі. Калі ласка, вазьміце.

Сьледчы: Арыгінал я мушу аформіць адпаведным пратаколам у прысутнасьці панятых. Ёсьць меркаваньне, што гэтая паэма месьціць абразьлівыя выразы ў адрас нашага прэзыдэнта. Я не спэцыяліст у літаратуры, таму мне хацелася б разам з вамі вызначыць кола экспэртаў.

Рэдактар: Мы можам назваць вам прозьвішчы спэцыялістаў-літаратуразнаўцаў. Але, урэшце, гэта ня нашыя праблемы, а праблемы сьледзтва.

Сьледчы: Сапраўды, гэта праблема сьледзтва. Аднак дзеля аб'ектыўнасьці я хацеў бы аб'яднаць нашыя з вамі намаганьні, каб не было нараканьняў на тое, што з боку сьледзтва быў неаб'ектыўны падыход.

Рэдактар: Калі ласка, вы можаце выбіраць экспэртаў самі. У нас ёсьць больш важныя справы. Магу толькі вам паведаміць, што мы атрымалі ад Ведзьмака Лысагорскага працяг ягонага твору. Аднак якасьць нас не зусім задавальняе, таму мы пачакаем, калі Вядзьмак дашле нам больш дасканалы тэкст...

Спадар Камароўскі пацьвердзіў той факт, што аддадзены загад адшукаць Ведзьмака Лысагорскага: «Я сам паставіў такую задачу апэратыўнікам». Ён згадаў таксама, што падобныя пошукі вяліся яшчэ пры Машэраву, які аддаў каманду КДБ і міліцыі знайсьці Ведзьмака — аўтара «Сказа пра Лысую гару».

Ну, ці ня цырк на дроце: шукаў Машэраў, цяпер шукае Лукашэнка?! Традыцыя! Начальства ня можа спаць спакойна, не пазнаёміўшыся асабіста зь Ведзьмаком Лысагорскім. Што ні кажыце, легендарная асоба!

Ігар выбіраў сабе ў якасьці мішэні самых магутных праціўнікаў, першых з шэрагу. Яго гэта ня стрымлівала. Наадварот. Азарт, адрэналін шмат значылі для яго. Што да начальства, яно само напрошвалася на вастрыё пяра, само сьлепа ляцела на мігатлівае полымя сьвечкі.

Выбіраючы такіх праціўнікаў, ён ставіў сябе на адну дошку зь імі. Таму іх і выбіраў, што ведаў сабе цану, адчуваў сваю велічыню. Гэта была бітва рыцара зь нярыцарамі. Мала таго, ён імкнуўся ствараць свае правілы, навязваць сваю гульню. Каб «весьці» праціўніка, каб падпарадкоўваць яго сваім жаданьням, каб рабіць залежным ад сваіх дзеяньняў, а ўрэшце перамагчы.

## «Дзікі мёд»

Вось які дыягназ паставіў дэпутат Генадзь Карпенка, піша Іван Сідар. Выступаючы 13 студзеня на сэсіі Вярхоўнага Савету ў «розным», дэпутат заявіў: «Да якой ганьбы дайшлі мы са сродкамі масавай інфармацыі! Перапынена трансьляцыя паседжаньняў сэсіі Вярхоўнага Савету, забаронены публікацыі артыкулаў, закрыты газэты. Усё гэта абурае насельніцтва, рэдакцыі, усясьветную супольнасьць... Аднак ніякія рашэньні і звароты ня дзейнічаюць. Прэзыдэнт называе сябе „единым вершителем власти“: ён і цар, і бацька, у яго шалёная ўлада. Ці не гадуем мы, паважаныя дэпутаты, новую хваробу замест культу асобы — шаленства бацькі?»

«Свабодай» не задаволеныя прэзыдэнцкія прадстаўнікі — калі трапляюць на старонкі.

Прэзыдэнцкі прадстаўнік Анатоль Лябедзька абвінаваціў газэту, што яна ў 6-м нумары надрукавала пра яго «фальшыўку». Што за фальшыўка? Копія запрашэньня ад нямецкай фірмы. Лябедзька ў ёй быў названы мэнэджэрам камэрцыйнага прадпрыемства.

З трыбуны Вярхоўнага Савету нядаўні пасол у Нямеччыне Пятро Садоўскі сказаў: «Тут было нядаўна палкае выступленьне дэпутата Лябедзькі, які сьцьвярджаў, што тая копія дакумэнта — фальшыўка». Аднак гэтая менавіта папера праходзіла праз пасольства Беларусі, і адтуль яе пераслалі Лябедзьку. Садоўскі параіў папрасіць прабачэньня ў тых, каго Лябедзька беспадстаўна абвінаваціў.

Іван Сідар, які напісаў пра інцыдэнт у газэце, скончыў зьедліва: «Між тым дэпутат Лябедзька пакуль не прыслухаўся да парады свайго калегі. А можа, у яго папросту няма часу, бо прэзыдэнцкі прадстаўнік чарговы раз ад'ехаў у Нямеччыну».

1 лютага «Свабода» надрукуе верш Анатоля Сыса «Дзікі мёд», які паэт прачытаў расейскаму міністру замежных спраў Андрэю Козыраву, калі той сустракаўся зь беларускай інтэлігенцыяй.

«Дзікі мёд» запомніўся тады многім чытачам. Верш адпавядаў душэўным перажываньням, унутранаму настрою, прадчуваньням, пра якія лепей за паэта ніхто сказаць ня мог, бо ён гаварыў ня толькі за сябе.

*У вайну ў партызанскі год*
*пад крысом шыняля армейскага*
*бацька зь лесу прынёс дзікі мёд,*
*ледзь уцёк ад мядзьведзя расейскага.*

*З таго часу, як лесам іду,*
*дык пільнуюся вока зладзейскага,*
*скурай чую бяду, як ваду,*
*за сьпіною — мядзьведзя расейскага.*

*Дасюль пахне яму дзікі мёд.*
*Годзь гарэшнікі нашы лушчыць!*
*Адкапаю пайду кулямёт,*
*каб хадзіць сьмела ў бацькавай пушчы.*

Пад вершам будзе стаяць палітычная карыкатура па матывах рыцарскага герба. Вершніка заменіць двухгаловы арол, які будзе больш нагадваць гусака, але баявога, з шабляй; расчараваны конь адно вымавіць: «А той, з вусамі, што на мне сядзеў, казаў, што будзе лепей...»

Дзяржаўнаму гербу «Пагоня» было адмерана існаваць у такой ролі яшчэ дакладна тры з паловай месяцы. Ніхто 1 лютага ня мог сабе ўявіць, што, няхай ускосна ці ў пераносным сэнсе, але замест рыцара над беларусамі запануе драпежны імпэрскі арол усходняга суседа.

А тым часам за апазыцыйным змагаром супраць карупцыі — дэпутатам Сяргеем Антончыкам езьдзяць «хвасты», каб не шукаў новых фактаў, паведамляе чытачам Пятро Панкратовіч. Езьдзіць той з выступамі па ўсёй Беларусі. Пабываў і ў роднай старонцы маладога кіраўніка дзяржавы: «Дэпутат Антончык заехаў таксама ў прэзыдэнцкую вёску Рыжкавічы, каб паглядзець на знакамітую цагляную сьцяну, якую збудавалі вакол сядзібы Лукашэнкі. Паводле зьвестак Антончыка, на будаўніцтва гэтай фартэцыі пайшло 120 тысяч цаглінаў і 51 мільён рублёў».

## «Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт»

Інтрыга трывае, але паўза пачынае зацягвацца. «Свабода» ніяк не друкуе працяг скандальнай паэмы «Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт». І вось 15 лютага на 4-й старонцы зьяўляецца сьціплая ўрэзачка, набраная паўтлустым шрыфтам: «Шаноўная рэдакцыя! Дасылаю вам ліст, які я атрымаў ад Лукі Мудзішчава ў адказ на маю паэму. Вядзьмак Лысагорскі».

Загаловак новага твора набраны шырокім паўтлустым сечаным, які часта ўжываўся ў газэце — «Лука Мудзішчаў адказвае Ведзьмаку Лысагорскаму»:

*Хто канфрантацыі ня ішчэт,*
*Цем канструкціўный дам атвет.*
*Пусьць я Лука! Пусьць я Мудзішчаў,*
*Но я яшчо і прэзідзент.*

Тэкст пачынаецца бадзёра і ня менш бадзёра заканчваецца:

*В ядзінстве толька наша сіла.*
*Нам так Расія памагла!*
*Ат мовы нас асвабадзіла,*
*Ат Каліноўскага спасла.*

*І не надзейцесь, экстрямісты!*
*Нас без Расіі проста нет.*
*Ваш самый чэсный,*
*Самый чыстый*
*Лука Мудзішчаў — прэзідзент.*

Нават калі дапусьціць, што аўтар, якога шукалі і Машэраў, і Лукашэнка, мог быць у адной асобе, што зусім не абавязкова, — яшчэ менш абавязкова «адказ Лукі Мудзішчава» меўся належаць пяру першага зь іх. Або другога. Гермянчук жа сказаў сьледчаму: якасьць новага тэксту не задавальняе, чакаем лепшага. Рэдакцыя ідзе на абвастрэньне і нават папярэджвае.

Ігар рызыкаваў, але рабіў гэта элегантна. Атрымалі, спадар сьледчы, працяг паэмы, але якасьць не задавальняе, мы за высокія стандарты. А што ў выніку? Ніякага працягу. Замест яго друкуем штосьці цікавейшае. Абазваўся сам Лука Мудзішчаў, ня вытрымала душа паэта. Узяў ды напісаў таму Лысагорскаму, і таксама вершам. Паэтычная дуэль адбылася, чытачы задаволеныя.

З плошчы Перамогі Ігар заўсёды выяжджаў на праспэкт. Адрэналін азартнага гульца не спыняў руху ў жылах. Ён кінуў шар ізноў, значыць — чакаць адказу. І з гэтым не замарудзяць. Адказ будзе хуткі. І які — зразумела наперад. Толькі моц кухталя пад пытаньнем. Зваліць з ног? Ці дасьць утрымацца? Чым больш шуму — тым больша розгалас.

Ён ехаў і душыўся сьмехам. Уявіць сабе: у галоўнай прыёмнай паніка — каму несьці нумар з адказам Мудзішчава Лысагорскаму? Не, толькі ня я. І як пакласьці на стол перад галоўнымі вачмі? Што сказаць?

Чаму такі спалох? Ну, вядома, што бывае з ганцом, які прыносіць дрэнную вестку. Але, зь іншага боку, хіба яна дрэнная? Лысагорскі надзеў тогу крытыка. Мудзішчаў яму адказаў без эківокаў. Усё, канфлікт вычарпаны. Можна займацца сваімі

справамі. У сэнсе — справамі краіны. Ня пошукам друкарскага варштата і асабліва аўтара сатырычнага твора. А пэнсіямі, заробкамі, новымі працоўнымі месцамі.

Новаму начальству вельмі хутка стане замала сваіх рупараў, што былі прызначаныя для ўнутранага выкарыстаньня, яно пачне рэгулярна зьбіраць у свой горад-герой расейскіх журналістаў. І аднойчы раскажа ім пра сваю адаптацыю — як старэйшы таварыш Ельцын аднойчы навучыць не рэагаваць на крытыку ў прэсе.

Цытаты дасьць РИА Новости (былое АПН), і будзе гэта пры канцы 2018 году:

«Калі я стаў прэзыдэнтам, я рэагаваў на кожны рып пяра маладога журналіста. І аднойчы ў мяне адбылася размова з Барысам Мікалаевічам. Адзіны чалавек, зь якім я мог выпіць. „Барыс Мікалаевіч, ну што гэта такое? Гэта ж няпраўда...“ — Ён спытаў: „Ты што, газэты чытаеш і тэлевізар глядзіш? Табе што, рабіць няма чаго?“ Я тады задумаўся, — прызнаўся Лукашэнка».

Што было далей? РИА Новости: «Пасьля гэтага Аляксандар Рыгоравіч перастаў хваравіта ставіцца да кожнага нэгатыўнага артыкула пра яго. „Каб я на ўсё так рэагаваў, як ты, мяне б даўно на могілкі занесьлі“, — Ельцын навучыў мяне спакойна на гэта глядзець, — сказаў Лукашэнка на прэс-канфэрэнцыі з расейскімі журналістамі».

Ён і перастаў рэагаваць на крытычныя артыкулы, пасьля таго як ня стала свабоднай прэсы. Але перш мусіў зрабіць так, каб яе ня стала. Той, хто ацалеў пасьля гэтай вайны з газэтамі, мусіў быць больш асьцярожны...

Пазыцыя рэдактара «Свабоды» была простая: калі ты, дарагі таварыш, паставіў сябе вышэй за ўсіх, калі нават дождж без тваёй адмашкі не ідзе, то пісаць мы будзем не пра водаправодчыка, не пра стрэлачніка, а пра таго, хто, як сказаў у прэзыдэнцкія вочы чыноўнік, — як Бог і нават крыху вышэй за яго...

## Галіна Радзівонаўна

Карэспандэнт «Свабоды» атрымаў запрашэньне ў сталічную студыю БТ на перадачу з самой Галінай Лукашэнкай. Восьмага сакавіка блізка!

Празь дзень званок: сустрэчы ня будзе, Галіна Радзівонаўна не прыедзе. Чаму?.. Карэспандэнт тэлефануе ў вёску Рыжкавічы Магілёўскай вобласьці, дзе жыве, як і жыла. жонка маладога прэзыдэнта. Першы раз чуе пра БТ, прызнаецца яна, усе навіны пра сябе чамусьці даведваецца апошняй.

А як жа жаночы дзень?

Лукашэнка сабраўся ў Брусэль, расказвае Галіна Радзівонаўна (бывалі і такія часы! На самым пачатку), а ёй перадаў з сынам тульпаны (у газэце слова гэтае будзе напісана мякка — «цюльпаны»).

А ці вядома ёй: калі нядаўна прыязджаў прэзыдэнт Ельцын, ягонай жонкай апекавалася чыноўніца з ураду, міністарка? «Народнай газеце» яна патлумачыла, што Галіне Радзівонаўне было б з Наінай Ельцынай цяжкавата: «Не знает всех тонкостей жизни в республике, да и возрастная разница немалая».

Што вы на гэта?

Яна лічыць, розьніца ва ўзросьце не перашкода, жанчынам заўсёды ёсьць пра што пагаварыць. «А што да пытаньняў, якія датычаць нашай краіны, то, можа быць, я сапраўды ня ўсё так добра ведаю, як міністар, але ж рэч ня ў гэтым...» — адказвае жонка прэзыдэнта.

А ў чым? Пра гэта — ні слова.

Здымак: Лукашэнка з жонкай Чыгіра, паміж імі ружа, не відно, хто яе трымае. Ён нагнуўся, яна нешта гаворыць яму на вуха з усьмешкай.

У «Свабоды» скlаліся нядрэнныя, даверлівыя адносіны з жонкай прэзыдэнта. Што да яго самога, карціна была іншая. Дачыненьні яўна ня клеіліся.

Гітом стаў нумар «Свабоды» з начальствам: Грыб, Лукашэнка, Чыгір. Устаюць з-за стала ў прэзыдыюме. Адначасова, але з рознай хуткасьцю, што зафіксавана аб'ектывам. Уражаньне, што тры постаці зараз станцуюць. Гермянчук любіў такія здымкі. А ў гэтым быў асаблівы цымус: тры галавы трох галінаў улады ўпоплеч і ў гэткай незвычайнай паставе! Проста фотамастацтва!

Ёсьць яшчэ свабода ў газэт. Заціскаюць, але ёсьць! Хаця ўжо ў другой палове студзеня 77 дэпутатаў парлямэнту паставілі подпісы пад зваротам у Канстытуцыйны суд. Хай зьверне ўвагу на парушэньні свабоды друку. Зразумела, гэта перш датычыць газэт, якія могуць яшчэ дазволіць сабе «вольнасьць». І — адваротны працэс. Выканкамам яшчэ 15 сьнежня мінулага году быў дадзены загад: кантраляваць мясцовыя выданьні.

## Хуліганы ад літаратуры

«Свабода» пад каўпаком, сьледчыя пракуратуры ня злазяць з карку. Можа, самы час зьменшыць імпэт, прыцішыць голас? На час забыцца, што існуе ў прыродзе такі пэрсанаж, які прыцягвае журналісцкія пёры, як ні ступіць, як ні павернецца — газэтныя стрэлы з усіх бакоў? І айчыннага паходжаньня, і замежныя.

Рэдактар «Свабоды» паводзінаў не зьмяніў. На асьцярожнасьць і абачлівасьць разьлічваць ня стаў. Пайшлі карыкатуры на вусатага лысаватага мужчыну, які заклапочана ставіць краты на акно ў зьнешні сьвет.

Акно мае знаёмы абрыс айчыны. Спачатку вэртыкаль, кажа, а зараз — гарызанталь. Альбо вось вам эскіз дзяржаўнага сьцяга: з арнамэнтам як мае быць і зубрам, у якога вусатая галава. Ці вось — знаёмая постаць, стаўшы на зэдлік і ўзяўшы ў руку люльку з табакай, бачыць у люстэрку «айца народаў».

У веснавым паветры сталіцы прадчуваліся палітычныя грымоты. Градус барацьбы мацнеў дзень пры дні. Кожнаму боку карцела каваць жалеза, пакуль гарачае. Але адны мелі невялікую прыватную кузьню, іншыя — дзяржаўны мэханічны гіганцкі молат. Магло стварыцца ўражаньне, што наверсе ўсё робіцца пераважна насуперак і на злосьць. Апазыцыі, беларускамоўнай частцы народу, Пазьняку, Герменчуку, «Свабодзе», а таксама Амэрыцы, NATO, на злосьць «імпэрыялістычнай Эўропе», як у часы любімых бальшавікоў, суседнім Літве, Польшчы, усяму цывілізаванаму сьвету.

Інстытут літаратуры Акадэміі навук вызначаў, хто ж адлюстраваны ў паэме «Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт». Заданьне дзяржаўнай важнасьці! Адкласьці ўсе справы ўбок! Акадэмічная экспэртыза была суровая і бязьлітасная: у абодвух творах «утрымліваюцца элемэнты абразьлівых выразаў у адносінах да Прэзыдэнта РБ». Кропка! Пра што гэта нагадвала? Пра багабойную бабульку, што дбайна падкінула сухога гальля ў вогнішча, дзе Ян Гус згарыць зараз жыўцом. «О, сьвятая прастата!» — пасьпеў вымавіць герой.

Няма таго каб напісаць — ды сьмешкі гэта, глупства, можна сказаць, працяг старой ананімнай традыцыі — «Энэіда навыварат», «Тарас на Парнасе», за партай вывучалі. Дык жа не: зрабілі суконныя твары і на поўным сур'ёзе — самога Прэзыдэнта! у паэме абражаюць хуліганы ад літаратуры! Быццам пракуроры або сьледчыя, закасалі рукавы акадэмічныя вучоныя. Ну, але такое заданьне было. Ці прамым тэкстам, ці на мігі, але — дырэктыўна. Абвінаваціць!

На пачатку красавіка 1995 году ў Вярхоўны Савет паступіць «Прадстаўленьне аб дачы згоды на ўзбуджэньне крымінальнай справы і прыцягненьне да крымінальнай адказнасьці дэпутата ВС Герменчука І.І.».

Вось яно:

«У газэце Свабода № 49 ад 27 сьнежня 1994 г. апублікаваны вершаваны твор „Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт“ невядомага аўтара пад псэўданімам Вядзьмак Лысагорскі. У гэтай жа газэце № 7 ад 15 лютага 1995 г. зьмешчаны другі вершаваны твор таксама невядомага аўтара „Лука Мудзішчаў адказ-

вае Ведзьмаку Лысагорскаму". У названых творах дадзена адмоўная ацэнка асобы і дзейнасьці прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь у абразьлівай форме.

Абодва творы зьмешчаныя ў газэце „Свабода" яе рэдактарам Герменчуком І.І. Надаўшы публічнасьць зьнявважлівым выразам у адрас Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, якія зьмешчаныя ў гэтых творах, Германчук І.І. учыніў злачынства, што прадугледжанае арт. 188 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (зьнявага прадстаўніка ўлады). Сьледзтвам устаноўлена, што газэта „Свабода" № 49 і № 7 ад 15 лютага з творамі „Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт" і „Лука Мудзішчаў адказвае Ведзьмаку Лысагорскаму" падпісана да друку яе галоўным рэдактарам Герменчуком І.І. Па заключэньні літаратуразнаўчай экспэртызы, якую правялі супрацоўнікі Інстытуту літаратуры імя Я.Купалы Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, указаныя вышэй творы адносяцца да памфлетнага жанру і ў іх утрымліваюцца элемэнты абразьлівых выразаў у адносінах да Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Беручы пад увагу тое, што галоўны рэдактар газэты „Свабода" Гермянчук І.І. зьяўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь і ў адпаведнасьці з артыкуламі 37 і 38 Закону РБ „Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь", — прашу...»

Вось так, жартаў не пазнаўшы, прамым тэкстам пракуроры з пагонамі напісалі: Мудзішчаў — гэта прэзыдэнт.

## Крымінальная справа

Чаго прасіў у Вярхоўнага Савету генэральны пракурор Шаладонаў? Каб дэпутаты разгледзелі пытаньне аб дачы згоды... Зьвяртаўся да сваіх калегаў. Сам быў дэпутатам, кіраваў нават парлямэнцкай камісіяй. З Герменчуком штодня сутыкаліся. Больш за тое: яны амаль землякі. Шаладонаў пазьней памрэ ў пакутах. Ад апёкаў. Здарэньне будзе з газавым балёнам на дачы. Да пэнсіі не дажыве.

На патрабаваньне генпракурора прыцягнуць яго да крымінальнай адказнасьці Гермянчук адкажа нумарам з гучнай шапкай: «Калі зьняць рэдактара немагчыма, трэба „прышыць" яму справу».

І надрукуе водпаведзь:

«Мы рабілі і будзем рабіць праўдзівую газэту. Трэба называць рэчы сваімі імёнамі. Калі Лукашэнку гэта не падабаецца, у яго ёсьць выбар — ён можа чытаць сваю кішэнную прэсу. А ў нас гэтага выбару няма, бо мы ня хочам жыць у грамадзтве хлусьні. Акрамя таго, мы шануем сваю прафэсію, якая абавязвае нас гаварыць праўду.

Лукашэнка хоча ўсталяваць у нашай краіне іншыя каштоўнасьці. Ён зрабіў стаўку на хлусьню і шляхам падману даверлівых выбаршчыкаў пралез на прэзыдэнцкую пасаду. Цяпер у Лукашэнкі адзіная задача — утрымаць уладу. А гэта ў ягонай сытуацыі можна зрабіць толькі з дапамогай падману і рэпрэсій супраць тых, хто выкрывае падман. Ня выйдзе, „гаспадзін прэзідзент"!»

Ваяўнічая дэклярацыя ў твар Левіятану?

Апошняя перашкода — дэпутацкая недатыкальнасьць. Лукашэнка асабіста патрабаваў ад Шала-

донава ўзбудзіць крымінальную справу супраць Герменчука. Пра гэта казаў сам Ігар.

Сыходзілі апошнія дні, калі дэпутаты яшчэ не баяліся гневу Лукашэнкі. Паэму чыталі ўсе. Камусьці было ў смак, як «Свабода» хвошча начальства. Бо сапраўдных прыхільнікаў Лукашэнкі сярод іх шмат быць не магло.

Некаму ў душы імпанаваў Гермянчук. Ды што хаваць, любілі яго многія. Бесшабашны газэтны вісус. Погляд сьмелы, вочы насьмешлівыя. Сымпацяга. А што Лукашэнка? Неба і зямля.

Ну, а хтосьці ў Авальнай залі разважаў зусім прагматычна: сёньня ён яго, Герменчука, толькі дай, заўтра пачне нас па чарзе. За што — знойдзе.

Дэпутаты Герменчука не здалі.

Можна толькі ўявіць рэакцыю ініцыятара. Калі парлямэнт не дае згоды прыцягнуць рэдактара «Свабоды» да крымінальнай адказнасьці, такі парлямэнт ініцыятару не патрэбны.

## Фатаграфаваць забаронена

Шматлікая ахова, што заўсёды і паўсюль суправаджае Аляксандра Лукашэнку, атрымала «баявое заданьне»: не дапускаць да прэзыдэнта фотакарэспандэнта газэты «Свабода», пісаў Мікола Грынявіцкі:

«Прэзыдэнт лічыць, што здымкі, якія друкуюцца ў нашай газэце, дыскрэдытуюць яго. Апошняй кропляй быў здымак „сьлёзы прэзыдэнта“, апублікаваны ў 49-м (забароненым, апошнім за 1994 год) нумары газэты СВАБОДА, на якім буйным плянам

зьняты момант, як Лукашэнка плача на паседжаньні парлямэнту.

Начальнік аховы заявіў фотакарэспандэнту газэты, што ён ня мае права набліжацца да Лукашэнкі бліжэй як на 30 мэтраў. Размова адбылася на вачах дэпутатаў Вярхоўнага Савету 29 сьнежня. Ахоўнік загадаў не хадзіць у левы сэктар залі ВС, дзе сядзіць прэзыдэнт.

„Надо делать достойные снимки, тогда не будет претензий“, — сказаў ён. Што значыць „достойные снимки“ — не патлумачыў. Што рабіць, карэспандэнт мусіў здымаць з адлегласьці. Зноў падышоў ахоўнік: „Прекращай снимать, или мы найдем способ тебя успокоить. Мы все офицеры, имеем боевое прошлое и знаем много методов... Вот тогда тебе не позавидуешь...“ — прыгразіў ён.

У перапынку сэсіі, калі прэзыдэнт выйшаў у фае, фотакар накіраваў у той бок аб’ектыў. Ахоўнік прыгразіў кулаком (на здымку) і затуліў сабою Лукашэнку. (Быццам ад небясьпекі...) Разам з другім ахоўнікам яны падскочылі да фотакарэспандэнта і прыціснулі да калёны: „Мы же тебе сказали не снимать“, — прашыпеў адзін зь іх і ўдарыў рацыяй ніжэй пояса...

З настальгіяй успомніш ахову Шушкевіча. Паводзіла сябе карэктна, не перашкаджала журналістам. Не пагражала, рацыяй ня біла. Але няма таго, што раньш было.

## Для чытача з Чашнікаў

Лукашэнка падпісаў сакрэтны ўказ аб стварэньні Ўпраўленьня аховы прэзыдэнта, паведамляе Мікола Грынявіцкі.

Ёсьць зьвесткі, структура будзе налічваць каля 300 чалавек. Ахвотнікаў трапіць у яе больш чым дастаткова, бо пайшла пагалоска, што «ўсім дадуць кватэры», — пакеплівае Грынявіцкі і тлумачыць, што раней ахову кіраўніка дзяржавы забясьпечвала 9-я ўправа КДБ. А той факт, што шэф КДБ прызначаецца са згоды парлямэнту, даваў хоць нейкую магчымасьць кантролю.

Новая служба будзе падкантрольная толькі Лукашэнку і Шэйману.

«Як лічаць нашыя экспэрты, небясьпека заключаецца ў тым, што служба аховы ажыцьцяўляе ня толькі так званую фізычную ахову, але займаецца і апэратыўнай дзейнасьцю (вярбоўка агентуры, праслухоўваньне, падгляданьне і інш.). Экспэрты мяркуюць, што прэзыдэнт стварыў гэтую службу ня столькі з мэтаю аховы сваёй пэрсоны, колькі дзеля палітычнага вышуку і на выпадак „гарачай“ сытуацыі», — падсумоўвае аўтар нататкі.

Часы рабіліся няпростымі. Подлымі рабіліся часы. Раскруцілася кола гісторыі ў адваротны бок. Не за гарамі і рэфэрэндум 14 траўня, і кату пад хвост дасягненьні 1991-га.

Зянон Пазьняк аднойчы ў інтэрвію («Белсату» на сваё 75-годзьдзе) скажа пра Лукашэнку: «Я добра яго ведаю. У яго адсутнічае гумар. З гумарам ён мог бы такое зрабіць, але пачуцьця гумару ў яго няма». Пазьняк пры апошніх словах засьмяецца...

Цяжка не пагадзіцца, калі перачытваеш «Луку Мудзішчава». Няхай як душ халодны для цябе. Але ж не канец сьвету. На добры лад замест экспэртызы Акадэміі навук няхай бы замовілі каму паэму пра дэпутатаў, штосьці накшталт «Сказу пра Лысую гару». Пра дэпутацкі «Алімп». Гэта быў бы адэкватны адказ. Галоўнае, бяз гвалту, без мардабою. У рамках сяброўскага шаржу. Ды кніжку цісkануць. У сэрыі часопіса «Вожык». Вось гэта была б падзея сапраўды на ўзроўні маладой эўрапейскай рэспублікі. Дык не. А ўсё брак пачуцьця гумару. Фатальна!

Пасьля «Лукі Мудзішчава» зьявяцца іншыя творы пра Лукашэнку. Аналітычныя, крытычныя, сатырычныя. Будуць кнігі, фільмы, песьні.

У 2004-м у эфіры Радыё Свабода Павал Шарамет ацэніць іх з пэсымізмам:

«Тое, што зьяўляюцца такія кнігі, фільмы, — добра. Але калі б не было гэтай улады, калі б не было Лукашэнкі, — было б у некалькі разоў больш яркіх мастацкіх твораў. Бо ўвесь час людзі трацяць на тое, каб захаваць сябе ў прафэсіі, каб адбіцца ад ціску ўладаў, каб захаваць сваё жыцьцё: вельмі ж небясьпечна працаваць у Беларусі. Лукашэнка адабраў у беларусаў шанец зрабіць сапраўдную нацыянальную культуру на тым эмацыйным і палітычным уздыме, калі Беларусь набыла Незалежнасьць».

Пытаньні Шарамету задавала Галіна Абакунчык. Нагадала, што сам ён аўтар дакумэнтальнага фільму «Дзікае паляваньне» і кнігі «Выпадковы прэзыдэнт». Пазьней Павал Шарамет загіне. Гэта здарыцца ў 2016 годзе ў Кіеве, да машыны прымацуюць бомбу.

Германчук любіў паўтараць: трэба пісаць так, каб «было цікава чытачу ў Чашніках».

Скажам, «Лука Мудзішчаў» павінен яго абавязкова зацікавіць, лічыў ён...

Калі б усё ня скончылася дрэнна, можна было б замовіць каму-небудзь з мастакоў «чашніцкага чытача». Для рэдакцыйнай сьцяны. Можна было б нават і ў рэдактарскім кабінэце павесіць... Калі штосьці не адпавядала крытэрыям «для чытача з Чашнікаў», Германчук мог назваць *«дребеденью»*. Было пару расейскіх словаў, якія любіў ужываць.

## Ручная работа

«Пацалунак Кебіча з Чарнамырдзіным» стаў фантастычна ўдалым здымкам Сяргея Грыца. Наступным, які ён сам вельмі высока ацэньвае, быў здымак галадоўкі дэпутатаў у 1995 годзе. Пачалася яна 11 красавіка.

Грыц тады быў фатографам парлямэнцкай «Народнай газеты». Яму падабалася здымаць у Вярхоўным Савеце. Быў рэальны парлямэнт, з фракцыямі, зь меркаваньнямі, з барацьбой. І вось аднойчы прыходзіць: там галадоўка, дэпутаты сядзяць пад трыбунай. Гэта было нечакана. Ён нічога ня ведаў, ніхто не папярэдзіў. Пачаў здымаць.

«Потым туды прыехаў прэзыдэнт. Адразу забег на сваё месца, на „трон“ ягоны. Ён вельмі моцна лаяўся, выступаў. Нават на мяне сказаў: вось яны галадуюць, нават фатографа свайго прывялі. На мяне стаў пальцам тыкаць. Потым ён зьехаў». Затым пакрысе і іншыя фатографы зьявіліся.

Але менавіта Грыц зрабіў гістарычны здымак — дэпутаты сядзяць пад трыбунай, на месцы старшыні, вядома, Мечыслаў Грыб, а зьлева на сваім узвышэньні прэзыдэнт.

У залі былі й іншыя дэпутаты, сядзелі як гледачы. А яны, Ігар з калегамі, паселі каля трыбуны на прыступках, чыталі газэты.

Грыц потым яшчэ раз пад'ехаў увечары. У Авальнай залі гэтым разам ужо было нямала журналістаў. А паплечнікам Герменчука ўжо даставілі спальнікі, яны ўладкоўваліся, рыхтаваліся да ночы.

«Вось тады зьявіўся Міхал Міхалыч Цесавец, — расказвае Сяргей Грыц. — Пачаў бяз грубасьці: „ребята, пора, всё, уходим...“ Нам, журналістам. І нас, уласна кажучы, усіх вывелі».

А самі дэпутаты яму паўтаралі: ідзі, Міхал Міхалыч, што ты, ня бачыш — мы тут, мы застаёмся. І зь імі яму ўжо не было сэнсу размаўляць, — расказвае Сяргей.

А на раніцу Грыц зноў прыехаў: «Аказалася, іх пабілі. Стоўпатварэньне журналістаў. Самі дэпутаты. І Грыба моцна клявалі, што не выказвае падтрымкі. Дэпутат Шут задзёр кашулю (у мяне быў здымак), а там сінякі, халера, чырвоныя і сінія на сьпіне. Пракурорам быў Шаладонаў. Ён заходзіў цераз натоўп зьлева, цераз саўмінаўскі ўваход».

Тое, як галадоўку прымусам спынілі «сілы правапарадку», стала адной з эўрапейскіх навінаў дня. І здымак Грыца, які прайшоў па лініі «Асашыэйтэд прэс», вельмі шырока публікаваўся.

Гэта быў такі час, калі парлямэнт быў наводнены вялікай колькасьцю журналістаў, якія ўсіх спынялі, торгалі, распытвалі, прасілі і патрабавалі

камэнтароў. Дэпутаты якраз вярнуліся з бальніцы, дзе здымалі пабоі.

Лявон Баршчэўскі сёньня згадвае Ігара: рашучы й сьмелы ён быў безумоўна! Казаў: «Не баюся, калі мяне заб'юць за мае журналісцкія выкрыцьці». І нават ночы з 11 на 12 красавіка ў Вярхоўным Савеце: «Падчас галадоўкі, калі на нас наляцелі бандыты ў масках, менавіта яму ўдалося сарваць маскі з трох ці чатырох нападнікаў. І тыя кідаліся на падлогу, каб ня бачылі іхніх твараў! Калі нас (у адной машыне) гвалтам вывезьлі ў горад і мы здолелі прымусіць кіроўцу-міліцыянта (ці гэбіста?) завезьці нас у Генпракуратуру, Ігар першы запрапанаваў тэлефанаваць проста дадому генэральнаму пракурору Шаладонаву і першы папрасіўся прайсьці мэдагляд, каб «ехаць рыхтаваць нумар газэты з апісаньнем разбойнага нападу на дэпутатаў». Назаўтра на сэсіі Вярхоўнага Савету Гермянчук літаральна гвалтам вырваў слова ў сьпікера Мечыслава Грыба і ў дэталях расказаў прысутным дэпутатам, што адбылося ўначы, хоць яго спрабавалі спыніць спасылкай на рэглямэнт. І прамаўляў ён, некалькі разоў паварочваючыся да прысутнага Лукашэнкі. Так гэта адбілася ў памяці Лявона Баршчэўскага.

Краіна прыгнула галовы. Уцягнула ў плечы. Гусінай скурай пакрылася сінявокая рэспубліка. Сьцяліся ў душы тыя, хто мог яшчэ сэрцам чуваць. Хто дакладна прыгнуў галовы, дык гэта народныя абраньнікі. На наступны дзень на ўсё згадзіліся.

Гаворка была пра лукашэнкаўскі першы па ліку рэфэрэндум. Чаму апазыцыя аказала супраціў у парлямэнце, чаму думка многіх дэпутатаў была напачатку не на баку Лукашэнкі? Таму што гэтыя

людзі ўсьведамлялі, чым можа скончыцца той «плебісцыт».

Агульнавядома: рэфэрэндумаў не праводзяць, калі могуць прайграць. Другое: аўтарытарныя кіраўнікі робяць іх сваімі рукамі, для сябе асабіста, ніхто доступу ня мае. Гэта быў асабісты падарунак Лукашэнкі самому сабе на першую гадавіну свайго прэзыдэнцтва. Падарунак *handmade*, ручной работы.

## «Ноч доўгіх нажэй»

Ужо ў цяперашнія часы палітоляг Іван Праабражэнскі скажа ў камэнтары для Deutsche Welle, што Лукашэнка выконвае «ролю тормазу гістарычных працэсаў».

Тады, вясной 1995 году, усе, скажам так, здаровыя сілы ў Вярхоўным Савеце не жадалі, каб нехта затармазіў гістарычныя працэсы ў «асобна ўзятай рэспубліцы», каб вярнуў Беларусь у балота савецкага кшталту...

Менавіта тады, пасьля спыненай жалезнай рукой галадоўкі ў парлямэнце, выйшла газэта «Пагоня» з загалоўкам «Ноч доўгіх нажэй». Разанула гэтае «нажэй». Сваёй няправільнасьцю. Ноч і была няправільнай, была зломам.

Скончыўся раптоўна час мясцовай «вэймарскай» рэспублікі. Дэмакратычнага больш-менш жыцьця. Пачалася эпоха жалезнай рукі. Краіны ў абцугах. Адбыўся гвалт над дэпутатамі, якія абаранялі дасягненьні дэмакратыі. Вы — больш ніхто, далі ім зразумець.

Не было расьсьледаваньня, нікога не пакаралі. Зрабілі выгляд, што нічога не было.

12 красавіка Сяргей Навумчык, зьвяртаючыся ў парлямэнце да міністра абароны Кастэнкі, сказаў: «Спадар генэрал-палкоўнік, учора ў 10 гадзінаў вечара (праз паўтары гадзіны, як тут зьявіўся гэты чалавек, які сказаў пра міну) я і дэпутат Гермянчук стаялі вунь там, у тым калідоры, і курылі, і бачылі, як па лесьвіцы сыходзілі стэнаграфісткі. Іх ніхто не эвакуаваў... У 1 гадзіну 20 хвілін вось там, ля прэзыдэнцкага пад'езду, з гэтага двара (я спэцыяльна падышоў і паглядзеў), стаялі мэрсэдэс са сьцяжком (праўда, сьцяжок быў у чахле), другі мэрсэдэс прыкрыцьця і дзьве машыны ДАІ. Такім чынам, Лукашэнка знаходзіўся, правільна, у рэзыдэнцыі, але ў гэтай рэзыдэнцыі, тут, і менавіта, відавочна, ён кіраваў апэрацыяй».

І што было ў адказ? Філіпіка самога Лукашэнкі. «...И я ни на каких мерседесах сюда не ехал. Наумчик (я слышал) говорит, что там флажок был в чехле. Машина стоит во дворе. Идите посмотрите, как можно зачехлить флажок, и зачем? Флажок мой (на моём автомобиле) снимается. Он снимается, а не зачехляется. И как Наумчик, если он здесь сидел, он не мог в час ночи выйти... Насколько я знаю, выйти он не мог, потому что я распорядился: смотрите депутатов, чтобы чего-либо не случилось. Пусть находятся в пределах этого зала. Они просто физически не могли куда-то пройти, выйти и так далее... По моей информации (которую я получил), они вцепились здесь друг за друга и сидели, а потом уснули. Поэтому это враньё, что они видели тут, как на мерседесе приехал Лукашенко, а вто-

рой мерседес сопровождал. Меня второй мерседес не сопровождает».

І далей: «Когда мне Тесовец со слезами на глазах позвонил около 12 часов ночи и сказал: Александр Григорьевич, не получается по-хорошему, повынимали ножи, достали лезвия. Первое, говорят, вскрываем вены, отрезаем себе головы и вас повырезаем, кровью зальём здесь всё. Ну, извините, такие угрозы в резиденции президента — это уже слишком».

Сяргей Навумчык захаваў падрабязнасьці тых жорсткіх падзеяў 11–12 красавіка ў сваёй кнізе «Дзевяноста пяты». Ён спасылаецца і на «Свабоду».

## Зрываць маскі

«Банда Лукашэнкі выканала загад свайго гаспадара» — з такім загалоўкам выйшаў наступны нумар «Свабоды». Ён зьявіўся 15 красавіка. Сам Гермянчук выступіць у парлямэнце і апіша ў газэце храналёгію падзеяў:

«2.35. Дэпутат Голубеў пачуў, як па лесьвіцах за заляю і ў фае шоргаюць боты, потым данеслася лязганьне зброі. Ён прыадчыніў дзьверы і пабачыў поўнае фае ўзброеных людзей і „чорныя маскі“. „Салдаты са зброяй!“ — крыкнуў Голубеў, і ў гэты момант у залі запалілася сьвятло. Мы хуценька апрануліся і селі разам у левы сэктар прэзыдыюму.

2.48. У залю ўвайшлі Цесавец, Каралёў і зь імі невядомы чалавек у паўвайсковым адзеньні: „Вам даецца пяць хвілін, каб пакінуць памяшканьне. Не губляйце час“, — заявіў Цесавец. Ад нас яны пачулі ранейшы адказ. Каралёў нахабна кінуў:

„У вас засталіся тры хвіліны“. Пасьля гэтага яны разьвярнуліся і пайшлі на выхад.

2.51. Цесавец даў каманду, і ў момант расчыніліся ўсе дзьверы, у залю ўварваліся прыкладна 200 чалавек: першымі да нас беглі грамілы ў чорных масках і цёмных камбінэзонах, за імі — спэцназаўцы ў шлемах, рэсьпіратарах з дубінкамі і аўтаматамі (за сьпінаю), а па пэрымэтры залі сталі аўтаматчыкі. Накінуліся з усіх бакоў. Выцягвалі спачатку тых, хто сядзеў з краю. На Пазьняка адразу ўскочылі трое, пачалі душыць, круціць галаву, упіўшыся пальцамі ў вочы. Пакуль дацягнуліся да мяне, удалося сарваць некалькі масак. Але потым — удар у сьпіну, схапілі і пацягнулі (за рукі, за ногі). У нейкі момант удалося вырваць адну нагу. Тады схапілі ўжо чалавек шэсьць. Нейкі падонак пачаў біць кулаком у твар. Адчуў, што палілася кроў...

Усіх дэпутатаў выцягвалі ў двор, але праз розныя выхады. На ўсіх лесьвіцах стаялі міліцыянты. І ў фае заставалася яшчэ безьліч спэцназаўцаў».

Валянцін Голубеў скажа: «А парлямэнт, калі ўвайшлі войскі, калі парлямэнт захапілі — гэта ўжо не парлямэнт...» Зрэшты, пра гэта гаварыў і Зянон Пазьняк.

Парлямэнт перастаў быць парлямэнтам. Гэта стала пунктам невяртаньня. Беларусь страціла свой сапраўдны, згодна Канстытуцыі, заканадаўчы орган. Гэтая галіна ўлады была адсечаная жорстка і рашуча.

«Банда Лукашэнкі...» Загаловак выклікаў дрыжыкі ў каленках, працінаў электрычным токам.

Ігар апавядаў тады ў рэдакцыі: «Пакуль дацягнуліся да мяне, удалося сарваць некалькі масак. Але

потым — удар у сьпіну, схапілі і пацягнулі (за рукі, за ногі). У нейкі момант удалося вырваць адну нагу, тады схапілі ўжо чалавек шэсьць. Нейкі падонак пачаў біць кулаком у твар. Адчуў, што палілася кроў... Тады мяне кінулі ў жоўты міліцэйскі ўазік уперад нагамі. Бразнулі дзьверы, і машына выехала ў горад».

У рэдакцыі панавала ўзрушэньне, ніхто ня мог быць абыякавым. «Гермянчук не выдаваў сябе за героя», — Алесю Дашчынскаму добра запомніліся словы, сказаныя ім: «Зь іх патрэбна найперш зрываць маскі, тады яны губляюць сілу».

Генэральная пракуратура займалася тады фактам гвалту, ужытага супраць дэпутатаў, і Герменчуку давялося зрабіць судова-мэдычную экспэртызу: налічылі каля дзесяці сьлядоў ад пабояў.

«Думаю, шмат хто памятае знакаміты сымбалічны артыкул пра тое, як быў выкананы загад „гаспадара", напісаны ў адметным герменчукоўскім стылі: ясным і вострым. Абурэньне публікацыяй выказаў у тэлевізійным выступе і сам „гаспадар", а потым прыйшло папярэджаньне з Генэральнай пракуратуры, якая прыгразіла вырашыць пытаньне „аб прад'яўленьні ў суд пазову аб спыненьні дзейнасьці газэты"», — падсумаваў Алесь Дашчынскі.

«Банда Лукашэнкі...». На жменю безабаронных людзей, якія мелі да гэтай хвіліны статус недатыкальнасьці, напалі невядомыя ў чорных масках, процьма чорных масак. Для яго гэта быў напад хеўры. Ён не хацеў далікатнічаць, зьмякчаць словы.

Алег Трусаў таксама ўдзельнічаў у галадоўцы, і пасьля зьбіцьця іх з Герменчуком кінулі ў адну ма-

шыну... «Дык вось Германчука зьбілі больш за ўсіх. Увесь твар заліваўся крывёй, як цяпер памятаю. Ну й мяне пабілі, але крыві ў мяне не было. А яму нос разьбілі, ён быў увесь у крыві».

І калі яны прыйшлі да дзяжурнага пракурора, і калі ён убачыў, як кроў з твару выцірае Германчук, то адразу пазваніў Шаладонаву. І тут жа ўзбудзілі крымінальную справу. Напэўна, скрываўлены твар Германчука быў апошняй кропляй, разважае Алег Трусаў.

## «Краінай кіруе хунта»

Народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў напісаў у «Свабодзе»:

«Вельмі хацелася б памыліцца, згледзець усё як эпізод у няпростых калізіях палітычнага змаганьня ў Беларусі, але, здаецца, памыліцца тут немагчыма. Тое, што адбылося за апошнія суткі, ёсьць ня што іншае, чымся прэлюдыя фашыстоўскага перавароту, калі група асобаў учыняе крывавую лазьню ў сьценах парлямэнту і захоплівае ўсю паўнату ўлады ў краіне.

Нядаўна гэтаксама рабілася ў шэрагу лацінаамэрыканскіх краінаў, у чорнай Афрыцы, некаторых краінах Азіі. (...) У нас жа вельмі непрыемна і нават страшна, што ўсё тое інсьпіравана зьверху, пад кіраўніцтвам быццам бы дэмакратычна абранага прэзыдэнта, у руках якога і без таго засяроджана велізарная сіла.

Раней ён тую сілу пагрозьліва рэалізоўваў на плошчах ды вуліцах, цяпер чарга дайшла да пар-

лямэнцкіх заляў. Нават кішэнны па сутнасьці, паслухмяны і пракамуністычны Вярхоўны Савет стаў для яго перашкодай. Але перашкодай на шляху куды? Ведама ж, да ўстанаўленьня асабістай дыктатуры, каб „усур'ёз і надоўга". Сёньня ён перамог рукамі „гарылаў" у чорных масках. Ужо відаць, што ў Беларусі ня будзе парлямэнту, ня будзе выбараў, зьнікнуць рэшткі вольнай прэсы. Краінай закіруе прэзыдэнцкая хунта. А як кіруюць хунты, мы добра ведаем зь нядаўняга вопыту...»

Герменчуку асабіста помсьцілі найперш за «Луку Мудзішчава». Калі 3 красавіка генпракурор Шаладонаў запатрабаваў пазбавіць яго на сэсіі недатыкальнасьці, да нападу на дэпутатаў у парлямэнце заставаўся літаральна тыдзень. Але нават каб не дайшло да спробы галадоўкі альбо каб Гермянчук ня ўдзельнічаў у ёй, ён быў бы ўсё роўна патрэбны для «нефармальнай размовы».

Яму хацелася ў душы адчуваць сябе пад абаронай галоўнай трыбуны краіны, да якой прымацаваны быў дзяржаўны герб: беларускі рыцар зь мячом і шчытом на кані. Але яна не абараніла. Як і ім, дэпутатам, не ўдалося абараніць Пагоню.

Сёньня, калі ў краіне ўсё заціснута, задраеныя кінгстоны, закручаныя да апошняй гайкі, можа здацца, што гэты чалавек са сваёй «Свабодай» у руках паводзіўся неразважна, што кідаўся на скрут галавы, што яму здрадзіла пачуцьцё самазахаваньня. Але так, як сёньня, было не заўсёды. Рэчаіснасьць рухомая. І рух беларускай рэчаіснасьці меў адзін дэпрэсіўны вэктар: назад. «Свабода» і Гермянчук не маглі запыніць кола гісторыі, якое круцілася ня так, як трэба, а наадварот. Кожны мае рабіць

сваё, наколькі магчыма. Газэта была змагаркай. Проста быць сродкам масавай інфармацыі — для гэтага не існавала ўмоваў. За іх стварэньне якраз і адбывалася барацьба.

«Рэжым Кебіча» аказаўся на фоне «рэжыму Лукашэнкі» папросту кветачкамі. Але такім ужо было наканаваньне «Свабоды» — змагацца з рэжымамі. Зь любымі.

## Здымак Наіны Ельцынай у музэі

Прэзыдэнт незадаволены тэлебачаньнем, але хоча трымаць яго пры сабе, паведаміла «Свабода» 1 сакавіка 1995 году. Ён любіць чытаць скаргі і глядзець тэлевізар у ложку. Пра гэта «бацька» сказаў на сустрэчы з працаўнікамі Белтэлерадыёкампаніі 24 лютага.

Газэта перадае зьмест сказанага: прэзыдэнт глядзіць тэлевізар, а сын-студэнт прыносіць яму карэспандэнцыю. Маўляў, Лукашэнка атрымлівае «мешки писем от родителей, недовольных белорусизацией обучения». Але цяпер усё, баста, цяпер ён сам будзе вырашаць — дазваляць беларускія школы ці не, кажа ён тэлерадыёпрацаўнікам.

А тут зьнянацку Іосіф Сярэдзіч, рэдактар «Народнай газеты», які апынуўся на сустрэчы, вазьмі ды скажы насуперак «бацьку», што гэта недарэчна і незаконна! Але таму ў кішэню па слова лезьці ня трэба. Сярэдзіч у адказ атрымаў рэкамэндацыю «сидеть на месте», піша «Свабода».

Учынак Сярэдзіча не спадабаўся. «Бацька» крытычна зазначыў, што некаторыя журналісты

дазваляюць сабе «за государственные деньги критиковать государственную политику».

Расказаў і пра ўражаньні ад візыту Барыса Ельцына з жонкай Наінай, і што газэта «Свабода» «готовилась сделать провокационный снимок», калі Наіна Ельцына была ў музэі. Але «соответствующие службы узнали об этом, и нам пришлось принять меры, чтобы оградить эту женщину».

У вачах тэлерадыёпрацаўнікоў нібы чыталася пытаньне: як стала вядома, што той «Свабодзе» заманулася жонку Ельцына сфатаграфаваць? Прэзыдэнт пасьпяшаўся зьняпраўдзіць здагадкі: «Вы не подумайте, что мы подслушивали телефонные разговоры редактора Герменчука».

Што праўда, то праўда, падсумоўвае ў публікацыі рэдакцыя: быў такі грэх, здымак Наіны Ельцынай сапраўды хацелі зрабіць, але фотакар сутыкнуўся «з праблемамі». А самая галоўная ў тым, што Лукашэнка ўсе практычна здымкі ў «Свабодзе» лічыць «провокационными».

24 сакавіка «Свабода» з інтрыгаю паведаміць на першай старонцы незвычайна вялікімі тлустымі літарамі: «НЕШТА БУДЗЕ...» Сьціслыя радкі ніжэй: «Відавочна, што гэтай вясною нашую краіну чакаюць цяжкія выпрабаваньні. Сваімі авантурнымі дзеяньнямі Лукашэнка стварыў вельмі небясьпечную сытуацыю. Калі Вярхоўны Савет усё ж прагаласуе за прапанаваны прэзыдэнтам рэфэрэндум, нешта будзе...». І гэта ўсё. Калі не лічыць, што пад чорнымі, павялічаным шрыфтам набранымі сказамі, — чорная галава ленінскай статуі, якая «перстом указующим» паказвае на бел-чырвона-белы сьцяг на флягштоку, ледзь не дакранаючыся да яго.

27 сьнежня — паэма пра Луку Мудзішчава, менш чым праз два месяцы — ужо вядома пра рэфэрэндум.

Сёньня дрыжыкі выклікае здымак, выбраны Герменчуком са стосу іншых. Наколькі трапна, наколькі празорліва: злавесны чорны Ленін загадвае зьнішчыць дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь, пад якім пакаленьні змагаліся за беларускую свабоду. Рука Леніна. Рука Масквы. Рука аўтара рэфэрэндуму. Рукі дробных выканаўцаў усіх масьцей, якія навыперадкі кінуліся да мэханізму беларускай дзяржаўнасьці. Тармазіць працэс...

Тыднем раней стала вядома, што Лукашэнку спатрэбіўся зьнянацку адстаўны палкоўнік Замяталін. У Савецкай Арміі нампаліт, у штабе Кебіча на прэзыдэнцкіх выбарах — прэсавы сакратар. Калі рэфэрэндум пачынаць, без такіх памочнікаў не абысьціся.

«Усе на пошукі!» — піша 31 сакавіка Мікола Грынявіцкі. З МУС ва ўсе райаддзелы міліцыі паступіла сакрэтная шыфроўка: шукаць друкарню, у якой быў надрукаваны нумар газэты «Свабода» з паэмай «Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт», а таксама «установить» асобу аўтара.

На чацьвёртай старонцы ў гэтым жа нумары — здымак Лукашэнкі на трыбуне. Няўмольны твар, у левай выцягнутай руцэ — ягоная прапанова замены дзяржаўных сымбаляў — Пагоні і бел-чырвона-белага сьцяга, эскіз «капусты», як пазьней назавуць ягоны праект, і чырвона-зялёнага, «закату над балотам». І тэкстовачка, напісаная рукой рэдактара: «Афіцыйная прэса чамусьці „забылася“ апублікаваць узоры новых сымбаляў, якія прапануе

на рэфэрэндум прэзыдэнт Лукашэнка. Паглядзіце, што ён хоча вярнуць. Вар'яцкі дом!»

7 красавіка 1995 году Андрэй Сяржан напіша ў «Свабодзе»: Лукашэнка зноў наступіў на граблі. «Згвалтаваўшы прэсу, прэзыдэнт набыў моцнага ворага». Гаворка пра тое, як першы начальнік падпарадкаваў рэспубліканскія газэты, якія ў прэзыдэнцкую кампанію аблівалі яго брудам, каб дагадзіць Кебічу. Аўтар піша, што раз так, людзі сталі больш верыць апазыцыйнай прэсе, што Лукашэнка сваімі дзеяньнямі падняў яе рэйтынг, асабліва «Свабоды»: тыраж дасягнуў 60 тысяч.

## Постаць у падручніку гісторыі

Постаць Герменчука натуральна глядзіцца ў шэрагу асобаў, якія ўжо трапілі на старонкі айчынных падручнікаў гісторыі. Гэта думка Пятра Садоўскага. Хаця вядома, што такія падручнікі яшчэ не надрукаваныя. Тытанічная праца легла тады на плечы галоўнага рэдактара, скажа Садоўскі.

Ён быў прызначаны амбасадарам у Нямеччыну на пачатку лета 1992 году. І ў Вярхоўным Савеце стаў бываць нячаста. «Разы два давялося спрачацца зь Ігарам з нагоды некаторых публікацыяў у „Свабодзе“ на тэмы нашай зьнешняй палітыкі. Галоўны рэдактар умеў слухаць і адстойваць сваё бачаньне. Меў надзвычай тонкае пачуцьцё гумару, часам да зьедлівасьці бязьлітаснае. Фотаматэрыялы той „Свабоды“, па-мойму, і па сёньня — лепшае, што мы бачылі ў беларускай публіцыстыцы. Як цяпер бачу фотапартрэт Кебіча, які цалуе руку мітра-

паліту Філарэту. Вочы ў прэм'ера хітрыя і халодныя. Фота так і называлася — „Вочы“».

Дзеля справядлівасьці: Гермянчук ня аўтар саміх здымкаў, ён аўтар загалоўкаў, тэкстовак да іх.

І наконт наступнага фоташэдэўра ад Сяргея Грыца: «А што да разьвітальнага пацалунка ўзасос Кебіча з Чарнамырдзіным у лімузіне пасьля нарады ў Заслаўі, ён нашмат больш выразны, чым пацалунак Брэжнева з Гонэкерам, які быў рэпрадукаваны на Бэрлінскім муры і надрукаваны амаль усімі выданьнямі сьвету», — кажа Садоўскі.

Але час пацалункаў ня скончыўся. У «Свабодзе» сталі зьяўляцца новыя — Лукашэнкі зь Ельцыным. На палітычным прайгравальніку ўключылася кружэлка пра гэтак званую «саюзную дзяржаву» Беларусі і Расеі.

Газэта правакавала. Надрукаваць агульнавядомую байку «Дыплямаваны баран» — безь нічога ніякага, як той казаў. І побач, нібы няўзнак, апынецца непарадны здымачак, літаральна квадрацік, на калёнку, вельмі вялікага начальніка.

Альбо іншым разам — падобны партрэцік плюс цытата з «Журналіста», вядомага кінафільма 1967 году. Амэрыканскі газэтчык перакінуўся фразай з савецкім. На тэму: ці выбіраюць кіраўнікамі дурняў. Не, у нас дурняў не выбіраюць, не задумваючыся адказвае маскоўскі карэспандэнт, трымаючы ў галаве вобраз яшчэ сьвежаабранага Леаніда Ільліча. Хаця народ яго якраз і не выбіраў, не прадугледжана было.

Тым часам пракуратура атрымала відэастужку з запісам падзеяў з 11 на 12 красавіка ў Авальнай залі Дому ўраду. У старшага сьледчага па асабліва

важных справах пры Генэральнай пракуратуры Язэпа Бролішса апусьціліся рукі. Ніякай каштоўнай для сьледзтва інфармацыі. Шчыры зьдзек. Відэаматэрыял у выглядзе грубага мантажу з арыгіналу. Як пасьля вялізных цэнзарскіх нажніц. Некалькі не зьвязаных паміж сабой фрагмэнтаў. Абрываецца да самой падзеі — гвалту. Як узброеныя людзі пачалі «эвакуаваць» дэпутатаў-галадоўнікаў. Гэта непавага да сьледзтва, больш старшы сьледчы ня ведаў, што сказаць. Хаця ўсё было ясна бяз слоў.

«Біць проста, але прызнацца страшна» — паставіў рэдактар загаловак над нататкай.

## На выбары — у Сьветлагорск

Ігар вырашыў, што будзе зноў балятавацца ў Вярхоўны Савет, але гэтым разам на радзіме, у сваім Сьветлагорску.

6 траўня 1995 году ў «Свабодзе» выйдзе вялікі артыкул «Сьветлагорск: горад жыве па сваіх законах». Пра карупцыю. Подпісы два: Іван Сідар, Барыс Раманоўскі.

Звонку горад, нібыта, выглядае даволі чыстым, вельмі ўтульным і спакойным, але за фасадам — арганізаваная злачыннасьць і карупцыя. І сярод начальства, і ў міліцыі, і на прадпрыемствах, пісалі яны. Хабар, рэкеціры, помста — здымкі ўзарваных катэджаў. Ледзьве не Чыкага! Гэта — выбарчы тэкст Герменчука.

Расьсьледаваньне рэдакцыя газэты зрабіла разам зь Сяргеем Антончыкам, тым самым, што падрыхтаваў антыкарупцыйны даклад, і «ягонымі

людзьмі». Ня варта асабліва задумвацца над фармулёўкай «ягонымі людзьмі», яна цалкам у стылі Герменчука-рэдактара. Мэта — крыху зацямніць, завуаляваць, абагуліць крыніцы, зь якіх чэрпаў патрэбную інфармацыю Антончык.

10 траўня паслухаць Антончыка ў Сьветлагорску прыйшло больш за пяцьсот чалавек. Ён цяпер расьсьледуе махінацыі ў горадзе, прызнаўся Антончык. Народ пачуў новыя факты.

Але выбары выбарамі, а пра свой родны горад рэдактар і раней не забываўся. Варта толькі пагартаць гадавік. «У Сьветлагорску ловяць рэкеціраў, кідаюць гранаты, „запускаюць“ заводы...» Хіба такі загаловак не прыцягне ўвагу?

Любіў ён, аднак, старую, спрадвечную назву — Шацілкі, вымаўляў яе са смакам. Так называўся горад да 1961-га, да нараджэньня ў ім будучага рэдактара. Не любіў савецкую назву. Ну што там сьветлага? Якія горы? А Шацілкі — назва для яго родная.

Ізноў тэма выбараў. Герменчуку цяпер больш не трыбуна была патрэбная, хаця і яна таксама. Галоўнае іншае: дэпутацтва рэдактара давала больш шанцаў газэце. Дый яму асабіста: калі новыя крымінальныя справы будуць «раскройваць». І быць пры палітычнай кухні — важна. Хаця сама кухня была цяпер за сямю замкамі: у адміністрацыі, не ў парлямэнце.

Гермянчук усё сам разумеў цьвяроза. І кепікаў не хаваў. «Усе рванулі ў дэпутаты», — напіша ён на пачатку кампаніі. Нямала вядомых людзей, зрэшты, сярод ахвотных. І мноства «кухарчыных дзяцей». І, ведама ж, вэртыкальшчыкі атрымалі за-

гад — вылучацца! І перамагаць любой цаной! Каб быў намэнклятурны парлямэнт.

ЦВК зьдзіўлена разводзіў рукамі: па 30 на месца будзе, ня менш. А ў горадзе-героі і ўсе 50. Дэпутацкага хлеба заманулася паспытаць шмат каму. А Лукашэнка найперш моцна не хацеў бачыць у парлямэнце тых, хто яго добра ведаў асабіста, у тэлевізары ён так і сказаў электарату, быццам пераймаючы ролю Кашпіроўскага: што ня месца ім там болей. Быццам «устаноўку» даў, разьлічаную на падсьвядомасьць.

Гэта зачапіла не аднаго Герменчука, але яго закранула асабліва...

«Не галасуйце за былых, усё раўно абмануць» — настойліва вяшчаў вусаты чалавек у тэлевізары. Накрэсьліў крэйдай рысу: з аднаго боку яны, дэпутаты Вярхоўнага Савету, учорашнія калегі, роўныя паміж сабой, з другога — ён. На гордай самоце.

## Перамога ў часы фрустрацыі

У гэты час — паміж двума турамі парлямэнцкіх выбараў — беларусы пазбыліся аптымістычных сымбаляў незалежнасьці краіны. Зусім будзённа, быццам паміж «першым» і «другім» у сталоўцы. Рэфэрэндум-1995 адмяніў бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня» як дзяржаўныя. Дзяржаўнай стала расейская мова. «Пабядзілі!», як напіша Дубавец у «Нашай Ніве» над здымкам: «Лукашэнка і калгасьнікі».

Скасаваньне Пагоні і дзяржаўнага сьцяга стала скасаваньнем свабоды. Мноства беларусаў пера-

жывала драму. Выходзіць, за адну крыўду — сотні тысяч крыўдаў?

Артыкул пра махінацыі начальства ў Сьветлагорску выклікаў у горадзе немалы розгалас. Першай адрэагавала мясцовая мафія. Невядомы ананім пазваніў на хатні тэлефон галоўнага рэдактара і нахабна заявіў: «Мы разберемся с тобой, если будешь лезть куда не надо», піша Іван Сідар.

Рэдактар пажадаў працягнуць размову, каб даведацца, куды менавіта лезьці ня трэба. Аднак на тым канцы дроту чалавек захваляваўся і, прыгразіўшы яшчэ раз, паклаў слухаўку.

«Карацей, у Сьветлагорску заварушыліся. Гэта значыць, што на хвост мы ім троху наступілі. І тут ужо справа нашага гонару добра прыціснуць гэты хвост, каб раптам не падумалі, што іхныя пагрозы спынілі нас. Таму Сьветлагорск будзе для газэты СВАБОДА горадам асаблівай увагі», — паабяцаў рэдактар.

Выбары ў Вярхоўны Савет, травень 1995-га. Германчук выйшаў у другі тур. Праз некалькі дзён апошняе галасаваньне, трэба ехаць у родныя Шацілкі.

На вялікай улётцы, якая паўтарае першую старонку газэты, — партрэт Герменчука, газэтная шапка «СВАБОDА». Замест выходных зьвестак: «Ігар Германчук, 34 гады, беларус. Галоўны рэдактар газэты СВАБОДА. Нарадзіўся ў в. Стракавічы Сьветлагорскага раёну». Пад партрэтам вялікімі літарамі:

«Ігар Германчук — наш кандыдат у дэпутаты».

Гэта асобнік Марыі Германчук, жонкі. Асадкай ён напісаў зьверху:

«Душа мая! Калі ты думаеш, што мяне ўзрадаваў твой адʼезд у „белакаменную“, то ты глыбока памыляесься. Нельга кідаць мужа ў такі важны час на волю лёсу. Спадзяюся, што вярнуся дахаты з добрым настроем. Сёньня, 25.05 у 4.00 раніцы я вярнуўся з рэдакцыі, зараз трохі падʼеў і адʼяжджаю на Шацілкі. Там пасплю. Глядзі сына, Зая, хату. Цалую, кахаю, сумую». Размашысты подпіс. (Зая — ад дзявочага прозьвішча жонкі: Зайцава).

А гэта словы з выбарчай улёткі Герменчука: «Ігар Гермянчук — самы гераічны рэдактар самай гераічнай беларускай газэты. Пакуль будзе жыць ягоная „Свабода“, ня зьнікне вялікая Надзея — на волю, шчасьце і незалежнасьць. Шчасьця і ўдачы „Свабодзе“ і яе галоўнаму рэдактару Ігару Герменчуку!». Подпіс: Васіль Быкаў. Пісьменьнік быў яго даверанай асобай.

Сьціплы рэклямны аркушык паведамляў выбаршчыкам у Сьветлагорску:

«Шаноўныя землякі! На выбарах 14 мая Ігар Гермянчук перамог 6 кандыдатаў і выйшаў у другі тур. Упершыню ў нас ёсьць шанец выбраць у Вярхоўны Савет маладога, адукаванага і сьмелага чалавека, які не зьвязаны са старой сыстэмай і будзе належным чынам абараняць нашы правы. Паўторнае галасаваньне адбудзецца ў нядзелю 28 мая. Сумленнасьць і прафэсіяналізм павінны перамагчы». Подпіс: Ініцыятыўная група.

## Ня тая беларуская мова

Настрой пануе аптымістычны. У Сьветлагорск зьбіраецца амаль уся рэдакцыя — выехалі вялікай камандай, на некалькіх машынах.

Сяргей Нікалюк, цяпер палітоляг, тады працаваў камэрцыйным дырэктарам, ён назіраў на ўчастку, дзе быў ЛПП, лекава-працоўны прафіляакторый. У камандзе ўдзельнічалі і мясцовыя людзі. Віктар Раманішка, праваабаронца ад «Вясны». Казаў, што траюрадны брат Герменчука. Сяргей Баранаў, рабочы, актывіст, «харошы хлопец», кажа Паліна Качаткова. Там шмат людзей было, былі напружаныя дні. Перад выбарамі і ў дзень галасаваньня.

Калісьці Ігар вучыўся ў пятай школе. Жыў у школьным інтэрнаце, паказаў сваім памочнікам — дзе канкрэтна.

Малодшая сястра Ігара разам з мужам некалькі разоў прыходзілі ў гэтыя дні. Гермянчук казаў задаволена: сястра адпрасавала мне гарнітур, глядзіце. Муж яе служыў у мясцовым КДБ, згадвае Паліна.

Крыху перастараліся, — успамінае Алесь Дашчынскі, — абклеіўшы цэнтар гораду партрэтамі свайго кандыдата. Імя Герменчука было досыць вядомае, і ён ня меў патрэбы ў рэкляме.

Супернік — загадчык рыбнай гаспадаркі. Герменчука гэта весяліла. Знайшлі каго выставіць супраць рэдактара «Свабоды» і дэпутата парлямэнту. «Лука ім дасьць!»

Па ўсім Сьветлагорску былі абвешчаныя рыбныя дні. На кожным кроку плёскаліся ў балеях жывыя карпы. Срабрыліся на сонцы лускою. Прадавалі іх за сьмешныя грошы. І пакупнік адразу зрабіўся

пераборлівы: той задробны, гэны выглядае ня надта наетым. Бралі толькі самых буйных. Так «агітавалі» выбаршчыкаў за свайго, за мясцовага, за мілага сэрцу ўлады. А што вам сталічны дасьць? Газэту? А рыбіны загарнуць — ня будзе. Так што выбірайце.

На пікеце сам Германчук прастаяў цэлы дзень. Месца каля гандлёвага цэнтру люднае. Большасьць з тых, што падыходзілі, ведалі газэту «Свабода», былі актыўнымі чытачамі і вельмі хвалілі яе. Але ўвесь час задавалі пытаньне: чаму зь мяккімі знакамі друкуецца? Гэта было адной з прэтэнзій да рэдактара, рэдакцыі, і адным з пытаньняў фактычна да кандыдата. «Свабода» ад пачатку выходзіла клясычным правапісам.

Неўзабаве газэта пяройдзе на наркамаўку. Нейкага выніку гэта не дало і, відаць, справядліва крытыкавалася пасьля, кажа Паліна Качаткова, але гэта была рэакцыя на заўвагі чытачоў. Людзі казалі, што цяжка чытаць, што гэта ня тая беларуская мова. Што яны не прывыклі. І гэта паўтаралася цягам некалькіх дзён. Яны казалі — мы ў школе вучылі іншую мову, мы за беларускую мову, але за такую, якую вучылі. А рэдактар любіў паўтараць, што газэта залежыць ад сваіх чытачоў, і гэта былі зусім не пустыя словы.

«Можа здавацца і крыху сьмешным, але моўныя дыскусіі, яны людзей тады хвалявалі, — успамінае Паліна Качаткова. — Народ быў вельмі актыўны і дасьведчаны, я б сказала. Цяпер інтэлектуалы на такім узроўні мысьляць, а тады проста людзі падыходзілі. І гэта была вельмі жывая і важная для саміх людзей размова. Гэта была іншая наогул краіна».

Абед у садзе за домам Герменчукоў у Стракавічах, за сем кілямэтраў ад гораду. Мяса смажылі на адкрытым агні.

Рэдактар хацеў накарміць каманду, калег, сяброў, якія на яго працавалі. У хату зайшлі. Яна была вельмі малая.

Паліну Качаткову зьдзівіла, як там магло выгадавацца пяцёра дзяцей. І ўсім удалося атрымаць потым вышэйшую адукацыю. Але яна зразумела, што раней гэта была заможная сям'я, таму што Ігар сказаў — колькі зямлі забралі пры савецкай уладзе. І нават на той момант там быў кавалак зямлі нармальны. За хатай.

Маці ня бачылі, яна працавала. Ён сказаў, што купіў ёй падарунак: у яе сёньня дзень нараджэньня, але яна пасьвіць каровы. Атрымліваецца, выбары, сын ідзе ў дэпутаты, дзень нараджэньня, але чалавек усё роўна працоўны абавязак выконвае. Гэта ня хобі, гэта нешта як звышкаштоўнасьць — праца, кажа Паліна Качаткова.

У хаце Гермянчук сказаў: «Тут вісела калыска з народным выбраньнікам». Паліне падумалася, што калі там вісела калыска, то месца заставалася вельмі мала, а дзе былі ўсе астатнія сямейнікі? Хата акуратная, але напраўду малая. Уразіла менавіта адсутнасьць жыцьцёвай прасторы ўнутры.

Прапусьціць Герменчука ў дэпутаты не было дазволена, ён не прайшоў.

«Што праўда, ніхто не набраў галасоў. Папросту не адбыліся выбары на ўчастку. Шмат дзе не адбыліся выбары і заставаўся ранейшы склад парлямэнту. Абсурдная сытуацыя. Ён не прайшоў, але застаўся дэпутатам», — успамінае Паліна Качаткова.

Не сакрэт, Лукашэнка яшчэ 23 красавіка прагаварыўся, што выбары не адбудуцца, што ніводзін дэпутат Апазыцыі БНФ у новы Вярхоўны Савет ня трапіць. Пра гэта сьведчыць Сяргей Навумчык у кнізе «Дзевяноста пяты».

Дэмакратыя пакуль яшчэ ня здольная процістаяць камунафашызму, скажа Васіль Быкаў «Свабодзе».

Пасьля Сьветлагорску была Вільня. Гермянчук прыехаў да нашаніўцаў. І можна было адчуць сябе на час убаку, адасоблена. Сярод сваіх.

Госьць жартуе, ня траціць гумору. Распавядае, як пасьля таго, як ня быў абраны паўторна ў Вярхоўны Савет, Лукашэнка яму крыкнуў: «А цябе, Гермянчук, я сашлю, сашлю, — не знайшоў нічога лепшага, — у Гімалаі!»

«Ігара гэта весяліла. Яму здавалася, што ўсё наперадзе, што ён усё разруліць. Што ён можа гэтаксама тыкаць Лукашэнку. Яму здавалася, што гэта ўсё несур'ёзна. Ён шчыра сьмяяўся і кпіў з гэтага пэрсанажа», — успамінае Сяргей Харэўскі, тады мастацкі рэдактар «Нашай Нівы».

## Разьведчык пахаваны на гародзе

Паліне Качатковай з часоў выбарчай кампаніі ў Сьветлагорску запомніўся дзіўнаваты, сюррэалістычны момант.

«Калі мы былі на гэтых шашлыках каля дому Герменчукоў у вёсцы, Ігар Іванавіч сказаў, што тут у мяне на гародзе Мірашнічэнка пахаваны... Мірашнічэнка — гэта Герой Савецкага Саюзу. Я кажу:

як пахаваны? А ён: ну, цяпер ужо не, яго забралі, перапахавалі».

«Але сюжэт быў у тым, — працягвае Паліна, — што падчас вайны ў іх у хаце быў шпіталь, паміралі людзі. І гэты Герой Савецкага Саюзу да 1970 нейкага году быў пахаваны ў гэтым гародзе, у Герменчукоў. А пасьля яго вывезьлі адтуль. А частка памерлых там засталася, і на гэтым месцы ягоны дзед пасадзіў грушу. Там сапраўды расла груша».

Камандзір узводу разьведкі лейтэнант Пятро Апанасавіч Мірашнічэнка адзначыўся пры вызваленьні Гомельскай вобласьці ў цяжкім баі каля вёскі Печышчы Парыцкага раёну (цэнтрам якога пазьней стануць Шацілкі, якія пасьля нараджэньня Герменчука ў 1961 годзе пераймянуюць у Сьветлагорск), сваім целам закрыў амбразуру варожага дзота. Яго імем названыя вуліцы ў Жлобіне, Менску, Сьветлагорску і на радзіме, а ў вёсцы Печышчы — мэмарыяльная дошка. Парэшткі лейтэнанта сёньня спачываюць ў братняй магіле на вуліцы Мірашнічэнкі ў Сьветлагорску каля чацьвёртай школы. У гэтым месцы пахавана 98 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна ў 1943–44 гг. На магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна зь вянком і каскай у руках.

Віктар Раманішка жыве ў Сьветлагорску. Зь Ігарам яны сваякі. Удакладняе, што яго маці і бацька Герменчукоў былі стрыечнымі: «Мы жылі ў горадзе побач са школай-інтэрнатам, цераз дарогу, яны забягалі да нас. Маці іх частавала чым-небудзь. Мая маці любіла іх, яны такія ўсе сонечныя былі. Лёгкія людзі».

Бацька памёр у 1963 годзе. Ігару было два гады, ён бацьку ня мог памятаць. Нават Віктар, старэйшы за Ігара на восем гадоў, цьмяна памятае ягонага бацьку.

З боку дзяржавы была дапамога — іх усіх (трох братоў і дзьвюх сясьцёр) бралі ў школу-інтэрнат на поўнае забесьпячэньне. Міма вокнаў дому Раманішак школьнікаў вадзілі ў кіно, на мерапрыемствы ў клюб энэргетыкаў.

«Яны ўсе ішлі ў шэрых касьцюмах. Узімку ў аднолькавых шэрых паліто з каўняром. І шэрыя шапкі, падобныя да вайсковых. Як з інкубатара. Так іх і дражнілі: інкубатар. Шкада было глядзець на іх. Але іншага выйсьця не было, маці не магла іх падняць адна. Тым ня менш яны ўсе, Герменчукі, атрымалі вышэйшую адукацыю. Валянціна, старэйшая, стала доктарам. Яна вельмі рана сышла, першай».

А першая сустрэча зь Ігарам-дэпутатам адбылася ў Раманішкі ў 1991 ці 1992 годзе. Віктар уступіў у Народны фронт, прыяжджаў у Менск, і яны пачалі часьцей сустракацца...

Віктар расказвае, што сам ён быў у Руху БНФ з 1992 году. У 1995-м кіраваў гарадзкой арганізацыяй партыі і руху, а з 1999-га — Гомельскай абласной.

І разам працавалі на выбарах у 1995-м, калі Ігар балятаваўся ў Сьветлагорску, у 3-м мікрараёне. Распаўсюджвалі ўлёткі, рабілі пікеты, сустрэчы. Ужо тады пачалі прыціскаць, памяшканьня ў цэнтры не давалі. Была сустрэча ў 20-м трэсьце. Поўная заля месцаў на дзьвесьце, шумны, эмацыйны сход. Цікавасьць была ў людзей, яны яго ведалі як дэпутата, добра ставіліся...

Пры гэтым Раманішка расказвае сваю вэрсію выбарчай кампаніі, як яна яму запомнілася, як прысутнічае ў памяці праз 22 гады:

«У першым туры не прайшоў ніхто. У другім Ігар саступіў, але я думаю, што прычынай магло быць махлярства, якраз у той час пачаліся фальсыфікацыі на выбарах. Паводле нашых апытаньняў, Ігар усё ж праходзіў. Тады, відаць, указаньне было зьверху: фронтаўскіх нікога не пушчаць. Хутчэй за ўсё, ён не прайграў — не прапусьцілі, ня мог ён прайграць. Мы апытвалі людзей, усе галасавалі за яго».

А пазьней у яго выявілі рак, працягвае Раманішка... Яны, іх было некалькі чалавек, ехалі аднойчы ў яго машыне па Менску. Віктар ужо ведаў, што ён хварэе. А Ігар расказваў пра тое, што будзе рабіць, пра работу. Ён гаварыў, яны слухалі. Такія пляны вялікія. Пра часопіс. А Віктар сядзеў і думаў: гэта з такой хваробай... Выглядаў даволі хваравіта, і так быў худы заўсёды, а тут — скулы тырчэлі.

## Прэзыдэнцкія думкі

Думка аб прэзыдэнцтве пачала афармляцца ў Ігара ў траўні 1995-га, калі балятаваўся ў Вярхоўны Савет паўторна. У галаве ўжо былі наступныя прэзыдэнцкія выбары — празь пяць гадоў. Як вызначана ў Канстытуцыі. Значыць, у 1999-м. Яму будзе 37, амаль як Лукашэнку было, крыху меней. Хаця гэта яшчэ не яго чарга.

Як член фракцыі БНФ пальму першынства ён пакідаў за партыйным лідэрам. Сябрам тады

казаў: за Лукашэнкам прэзыдэнтам будзе Пазьняк, а наступным — рэдактар «Свабоды». Акрэсьлена размовы пра прэзыдэнцтва пачаліся пасьля таго, як Пазьняк раптоўна апынуўся за мяжой. З Пазьняком ён канкураваць ня думаў. Газэта падтрымлівала Пазьняка і БНФ. Як Пазьняк і БНФ — «Свабоду». Іншая рэч, што Ігар не залежаў ні ад Пазьняка, ні ад БНФ. Ён залежаў толькі ад «Свабоды». БНФ БНФ-ам, «Свабода» «Свабодай». Партыйнай газэта ніколі ня будзе.

Уцёкі Пазьняка ён не ўхваляў, але адкрыта не асуджаў. Толькі выказваў сваю пазыцыю: эміграцыя — гэта палітычная сьмерць. Змагацца за свабоду з-за мяжы — наіўная ілюзія. Зьмяніць сытуацыю можна, толькі знаходзячыся ўнутры яе.

Сам узьлёт Лукашэнкі ўспрымаўся Герменчуком як нечаканы збой, як парушэньне нормы. Як выбрык гістарычнага лёсу. Як часовая няўдача Фронту. А калі так, парушэньне не павінна быць працяглым. Нельга, каб задоўжылася.

Міжволі запыняю сябе на думцы, што паводле сілы выказваньня «Банду Лукашэнкі» Герменчука можна параўнаць з «Імпэрыяй зла» Рэйгана. У абодвух выпадках — гэта вынік думкі, што сягнула ўглыб сэнсу зьявы. Толькі ў Рэйгана гучыць больш статычна, груваста, у Герменчука — хвостка. Існуе і фундамэнтальнае адрозьненьне. Рэйган меў рычагі ўзьдзеяньня на аб'ект, які атрымаў ад яго назву-мянушку. Напрыклад, праз палітычныя дзеяньні апусьціць усясьветныя цэны на нафту, на якой трымаўся позьні СССР. А ў Герменчука адзіны інструмэнт — газэта, якая ў пэўным сэнсе была ім самім. «Банду» гэтым ня спыніш.

«Банда» Герменчука была ня толькі эмацыйным воклічам, але і дакладным тэрмінам з Крымінальнага кодэксу: банда — узброеная арганізаваная злачынная група. Пад вызначэньне «банда» цалкам падпадалі тыя людзі з аўтаматамі, што ўчынілі пагром у беларускім парлямэнце ў ноч на 12 красавіка 1995 году.

Словы Рэйгана ня трацілі сілы пасьля 8 сьнежня 1991-га, калі СССР дэ-юрэ перастаў існаваць. Раскалоўшыся на часткі, імпэрыя зла ня зьнікла назаўтра і не зьмяніла сваёй натуры. Сутнасьць яе не зыначылася: падаўляць чалавека, пляжыць яго годнасьць, таптаць паліцэйскімі ботамі. Яна ня зносіла свабодных людзей. Такіх, як Гермянчук.

Калегі-дэпутаты аб «прэзыдэнцтве» Ігара ня чулі. А Дубавец сфармулюе, чым у ягоных вачах была прэзыдэнцкая амбіцыя Герменчука:

«Ня раз мы зь Ігарам абмяркоўвалі гэтую тэму яшчэ ў часы ягонага дэпутацтва. І абодва пагаджаліся, што лепшай кандыдатуры наступнага прэзыдэнта Беларусі не знайсьці. Ён добра ведаў і цяперашняга прэзыдэнта й мог дастаткова аб'ектыўна параўноўваць ягоны досьвед, стыль, ідэалёгію са сваімі ўласнымі, і бачыў поўную перавагу свайго яснага бачаньня шляху краіны над тым пакручастым і нікому не зразумелым намацваньнем дарогі, якім мы ўсе займаемся гэтыя трынаццаць гадоў (напісана было ў 2008-м. — С.А.). Пры гэтым мы ніколі ня ведаем, што з намі будзе праз год і ў які бок ужо заўтра павядзе нас усіх наш кіраўнік.

Мабыць, у гэтым была галоўная перавага Ігара. Чалавек, які любіць і ведае сваю краіну і свой народ, які мае волю і зразумелае бачаньне таго, што ў краі-

не павінна адбывацца, ніколі ня стане цямніць і агарошваць людзей сваімі рашэньнямі. Навошта, калі ты ўпэўнены ў сабе і ведаеш, што трэба рабіць? Ігар разумеў, што здолее перацягнуць сымпатыі народу на свой бок, прычым без папулісцкай рыторыкі, не падманваючы людзей і ня робячы з прэзыдэнцтва фэтышу асабістае ўлады. Такіх амбіцыяў у Герменчука не было.

Ігар ня быў зацятым у палітыцы — вось што галоўнае. Як творца ён прагнуў гармоніі, а не парадку. Згарманізаваць інтарэсы розных грамадзкіх сіл — нашмат больш складаная задача, чым усіх паставіць на лінейку гатоўнасьці. Вось жа, Гермянчук ведаў, што ягонаму патэнцыялу адпавядае больш складаная задача».

У пісьменьніцы Паліны Качатковай была аднойчы размова з Герменчуком пра сэнс жыцьця. Ён уразіў яе. Сказаў, што сэнс жыцьця ў працы.

Ёй было ўжо 27 гадоў, і яна пачала літаральна рагатаць: першы раз такога чалавека бачыць! Як сэнс жыцьця можа быць у працы? А ён паглядзеў так сур'ёзна, яго зьдзівіла такая рэакцыя.

Ідэал — калі праца супадае з хобі, — падказваю я.

Але яна нечакана нязгодная. Паліна ня думае, што праца ў яго супадала з хобі. Чаму? Яна думае, што хобі ў яго не было.

Ігар быў працавіты і, мабыць, жорсткі ў працы, робіць выснову Паліна Качаткова. Яна б не сказала, што гэта было хобі. Праца была сэнсам, а ня тым, што ён любіў, таму што яна адымала час, а што любіш — гэта нешта іншае.

Паліна падсумоўвае: «Думаю, што Гермянчук змог бы стаць прэзыдэнтам. Пры такой працаздоль-

насьці. Прынцыповасьці, адданасьці. Пры ўсіх тых якасьцях, якія ў яго былі. І стаўленьні да людзей. Таму што ён быў вельмі справядлівы. І ўсе, хто працаваў зь ім, гэта пацьвердзяць».

Газэта была папулярная, Ігар любіў расказваць, як яна раскупляецца ў адміністрацыі прэзыдэнта, успамінае Алег Грузьдзіловіч. А дванаццатай гадзіне ўжо няма. Рукі прэзыдэнцкіх працаўнікоў цягнуліся да «Свабоды»! Для Ігара гэта было вельмі ўсьцешна. Аднак чым больш яна выкрывала чыноўнікаў, тым больш узьнікала цяжкасьцяў, праблемаў для яе самой.

Першы юбілей. Пяць гадоў газэце. У рэдакцыі накрылі стол. Запрасілі гасьцей. У тым ліку чыноўнікаў, дэпутатаў. Ігар спадзяваўся, можа нехта прыйдзе з адміністрацыі. Ніхто не прыйшоў. Толькі калегі-журналісты. Крыўдна для яго, па твары было відаць. Хаця, напэўна ж, іншага ён і не чакаў у душы.

## Сіла бясьсільных

Наступны, 1996 год будзе годам пагаршэньня на ўсіх франтах. Часам гераічнай барацьбы і часам паразы. Палітычнай, адраджэнскай. Што да «Свабоды», ёй было пра што пісаць. Таму рост, рух наперад яшчэ працягваўся. Газэта ўжо стала самаакупнай, неўзабаве — прыбытковай. Значыць, можна было запрашаць на працу новых людзей, павялічыць заробкі ды ганарары.

У Герменчука ўзьнікае задума зрабіць сустрэчу з чытачамі, пяць гадоў як ён рэдагуе «Свабоду».

Лета 1996-га, Дом літаратара. Мы сядзім на сцэне: Гермянчук, Цыганкоў, я, нехта яшчэ быў. Паўнюткая заля, Ігар вельмі задаволены. Мне задаюць нечаканае пытаньне: ці ня думаем пазьней зрабіць польскую старонку? Так, мы пісалі пра польскія справы, кантактавалі з палякамі, але ж... Словам, пытаньне нечаканае. Мне прыходзіць на дапамогу Гермянчук: чаму не? Калі будзем некалі рабіць тоўстую газэту, то зробім і ангельскую, і польскую!

Потым была сямейная паездка Герменчукоў на Кіпр, на жаль, адзіная ў сваім родзе. Чалавек, па сутнасьці, не адпачываў. Ён усьведамляў, што заганяе сябе, але ня мог адарвацца ад барацьбы, ад варштату, ня мог сабе дазволіць адпачынак, калі галоўны герой газэтных старонак нястомна робіць сваю справу.

У тым 1996-м дасьледчык літаратуры Язэп Янушкевіч трапіў за краты пасьля апазыцыйнага шэсьця. Вызвалілі жорстка пабітага. Была вясна. Хацелася дамоў, але яны з жонкай Галінай паехалі на мітынг да філярмоніі. Вельмі мала людзей, дзень дажджысты, стаялі пад парасонам. Нечаканым было ўбачыць там Герменчука, гэта ўсьцешыла. Пабачыліся зь ім, пастаялі і пайшлі ў мэтро. І раптам проста на вачах арыштавалі аднаго хлопца. За значак. На міліцыянтаў тады такі значак з рыцарам ці са сьцягам беларускім дзейнічаў, як чырвоная ануча на быка.

Кінуліся назад да Ігара. Хлопца завялі ў міліцэйскі пакой у мэтро. Ігар пабег туды: «Я дэпутат (хаця ўжо ня быў ім), калі ласка, вярніце нам гэтага хлопца». І яго вярнулі. І тады паехалі разам да яго ў рэдакцыю і правялі яшчэ зь ім цэлы дзень.

Янушкевіч успамінае: «Па характары вельмі гумарны, але разам з тым ніколі ня крыўдзіў. Калі я тэлефанаваў, ня ведаю, ці толькі на мяне гаварыў, ці на ўсіх — „клясык“. І на гэта я ніяк ня мог крыўдаваць».

Герой — найперш змагар са сваім страхам. Вацлаў Гавэл аднойчы назваў гэта сілай бясьсільных. Гэта маральная сіла супраць амаральнай моцы. Страх не ўсясільны.

«Свабода» мае наклад 90–93 тысячы. Друкуецца ў Вільні ў друкарні газэты Lietuvos Rytas. 26 ліпеня — гутарка Віталя Цыганкова зь вядомым апазыцыйным палітыкам Генадзем Карпенкам: «Пытаньне імпічмэнту абмяркоўваецца амаль усімі дэпутатамі». Карэспандэнт хоча ўдакладніць: «Інакш кажучы, вы ўпэўнены ў Шарэцкім?» Карпенка адказвае абцякальна.

Рэдактар у Шарэцкага ня верыць. У тым жа нумары здымак, тэкстоўка пад якім пачынаецца іранічна: «Старшыня Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі ў мінулую сераду зноў „хадзіў у народ“». Рэдактар мае рацыю. Спробу імпічмэнту Лукашэнкі, вельмі сур'ёзную спробу, той, як пакажа час, праваліць.

Але яшчэ ня восень, ліпень толькі, Нарач вабіць, Нарач кліча. Іван Сідар друкуе на першай старонцы ў «падвале» гвозд нумару. Рубрыка: «Клопаты». Загаловак: «Прэзыдэнцкі цеплаход дастаўлены на Нарач». Ёсьць і падзагаловак, падкрэсьлены лінейкай: «Навошта — невядома». Вельмі па-герменчукоўску.

Пра што даведаліся гэтым разам 90 тысяч чытачоў? Пра тое, як прэзыдэнцкі цеплаход спачатку сваім ходам плыў з Гомля па Бярэзіне. Затым

прыцягваў увагу насельніцтва трох раёнаў, калі ціхаходна дабіраўся да возера на цягачы. Шэсьць дзён. Як адключалі лініі электраперадач, а часам здымалі правады. І вось ён, амаль саракамэтровы, нарэшце калываецца ў дробных хвалях. Аўтар падводзіць рысу: «Застаецца незразумелым: навошта прэзыдэнту Лукашэнку спатрэбіўся на Нарачы гэты карабель?».

## А карабель плыве

Але, як той казаў, «вялікаму караблю вялікае плаваньне». І ніхто, як пакажуць драматычныя восеньскія падзеі, ня зможа яму перашкодзіць. Ня кажучы пра Віктара Ганчара, які заявіць заўчасна, што не падпіша вынікаў другога рэфэрэндуму Лукашэнкі. А ён жа, Ганчар, старшыня Цэнтральнай камісіі што да выбараў і рэспубліканскіх рэфэрэндумаў!

Да яго, былога калегі ў Вярхоўным Савеце, хто адыграў нядобрую ролю, перашкаджаючы апазыцыі, а затым самааддана працаваў на карысьць кандыдата ў прэзыдэнты Лукашэнкі, у Герменчука стаўленьне было адпаведнае. Ён яго ведаў. І тое, што Ганчар парваў неўзабаве з Лукашэнкам-прэзыдэнтам і прыхіліўся да супрацьлеглага лягеру, даверу не выклікала. Хоць ацаніць гэты ўчынак, пагатоў зьмену са знакам плюс, Ігар быў здатны. Газэта Ганчара нават пахваліла.

Яшчэ вясною «Свабода» надрукавала нататку «Разам з дачным фундамэнтам Ганчар пазбавіўся страху» (што праўда, загаловак не без іроніі). Чыта-

ем: Віктар Ганчар застаецца ў цэнтры журналісцкай увагі. І «новы віток цікавасьці» забясьпечыў сам Лукашэнка. На сустрэчы з прадстаўнікамі працоўных калектываў «выліў на галаву Ганчара» «пятнаццаць абвінавачаньняў». Якія сакрэты абнародаваў прэзыдэнт? Што Ганчар пяць гадоў таму атрымаў 300-тысячны крэдыт па кошце 70 капеек за даляр і пабудаваў тры катэджы!

Ганчар адпрэчвае: грошай хапіла толькі на дачны фундамэнт, які ён узяў ды прадаў. І на сэсіі ад генпракурора запатрабаваў усчаць супраць Лукашэнкі крымінальную справу за паклёп. Эпатажна дадаўшы: «Калі паважаны прэзыдэнт знойдзе мой катэдж, я тут жа аформлю яму дарчую, бо ён неаднаразова падкрэсьліваў, што ён „совершенно нищий“».

Лістапад. Газэта друкуецца ўжо ў Менску. Але алярмуе, што яе зноў хочуць забараніць! У Вышэйшым гаспадарчым судзе прызначаны разгляд справы. Ініцыятар — старшыня Дзяржкамдруку Бельскі: «У змаганьні зь незалежнай прэсай гэты няўрымсьлівы чыноўнік імкнецца пераўзысьці нават сумнавядомага палкоўніка Замяталіна, які шмат разоў (спачатку пры Кебічу, потым пры Лукашэнку) спрабаваў „пахаваць“ нашу газэту». Што з гэтага атрымалася? «Сёньня СВАБОДА зьяўляецца лідэрам незалежнай прэсы ў Беларусі». У высснове выразна пазнаецца рука Герменчука: «Бельскі і кампанія павінны нарэшце зразумець: немагчыма забараніць газэту, якую чытаюць дзясяткі тысяч людзей».

Навошта Лукашэнку восеньскі рэфэрэндум, якія папраўкі ён прагне мець у Канстытуцыі? «Свабода»

дасьціпна тлумачыць: «Прэзыдэнцкая канстытуцыя: усё для чалавека. І мы ведаем гэтага чалавека». «У лукашэнкаўскім праекце», каб і чытачы ведалі, «бесьперашкодна ўладарыць» «імпэратар».

## Газэта пад агнём

Увосень 1997 году бюлетэнь «Чацьвёртая ўлада» БАЖа выйшаў з хвосткім загалоўкам: «Вайна супраць СМІ».

Хмары згушчаліся вельмі заўважна. 19–20 верасьня ў сталіцы ўдалося правесьці міжнародную канфэрэнцыю «СМІ Беларусі: адметнасьці заканадаўства, правы і абавязкі журналістаў».

«Свабода» была на першай лініі, пад скрыжаваным агнём у гэтай антыгазэтнай «вайне».

З выступу Ігара Германчука:

«Што тычыцца нашай практыкі, то яна вельмі багатая — практыка дачыненьняў з судамі і, апошнім часам, з пракуратурай. Калі тры гады таму нашымі справамі пераважна займаліся суды, то апошнім часам усё часьцей справы гэтыя — крымінальныя, і імі займаецца пракуратура. Гадоў пяць таму ў нас пачаліся гучныя судовыя працэсы: судзіліся і сьпікер парлямэнту, і дзяржсакратар па кантролі за сілавымі ведамствамі... І практыка паказала, што калі судзіцца высокапастаўлены чыноўнік, то газэце выйграць працэс практычна немагчыма».

Апошнія гады супраць газэты «Свабода» і журналістаў пачалі выкарыстоўваць Крымінальны кодэкс. Штомесяц Германчук мусіць два-тры разы наведваць пракуратуру. Выклікаюць на допыт

у якасьці сьведкі. Ставяць перад фактам: узбуджана чарговая крымінальная справа пасьля публікацыі ў газэце...

«Праблема, аднак, у тым, што ўсе гэтыя справы ня столькі залежаць ад суду ці пракуратуры, колькі ад таго, як вырашыць адміністрацыя прэзыдэнта. Паколькі тэхналёгія ўзбуджэньня ўсіх гэтых спраў паказвае, што ініцыятыва зыходзіць не ад пракуратуры, а зьверху...

Так дасягаецца мэта запалохаць асобных журналістаў і на іх прыкладзе астатніх. Вы думаеце, тое, што Паўла Шарамета трымаюць у турме (у сьледчы ізалятар турмы № 1 у Горадні яго пасадзілі за тэле-рэпартаж зь беларуска-літоўскай мяжы, як за нібыта парушэньне самой мяжы. Разам зь ім у турме сядзеў тэлеапэратар Зьміцер Завадзкі, які праз тры гады бясьсьледна зьнікне ў Менску), гэта толькі супраць яго такая сілавая акцыя? Гэта акцыя супраць усіх нас! Маўляў, бачыце, што можа быць? Другая іх мэта — гэта выявіць крыніцы інфармацыі. Я думаю, што ніхто з нас ні пры якіх умовах не павінен называць крыніцы інфармацыі. Бо калі хто-небудзь назаве, то гэта будзе прэцэдэнт і нам папросту больш ня будуць даваць інфармацыю».

Гэтага, між іншым, сам Гермянчук прытрымліваўся жалезна.

Выступаючы на той канфэрэнцыі перад калегамі, рэдактар «Свабоды» выказаў пэсымістычны прагноз:

«Я думаю, што самыя горшыя часы ўсё ж такі наперадзе. Зараз прэзыдэнт Лукашэнка як бы крыху „лібэральнічае“, у тым сэнсе, што, магчыма, чакае, пакуль Захад прызнае яго рэжым легітымным.

Таму ён і ня робіць занадта рэзкіх рухаў накшталт закрыцьця газэт ці масавай „пасадкі“ журналістаў. Але я думаю, што такая сытуацыя будзе нядоўгай і прэзыдэнт даможацца прызнаньня і разьвяжа сабе рукі, альбо пабачыць, што дамагацца прызнаньня бессэнсоўна, і таксама разьвяжа сабе рукі. Думаю, што гэты пэрыяд можа наступіць, самае позьняе, на пачатку наступнага году. Пэрыяд жорсткіх рэпрэсій. І мы павінны быць да гэтага гатовыя».

«Свабодзе» заставалася жыць пару месяцаў.

«Мяркую, што ніхто з нас не павінен пісаць ніякіх пакаянных лістоў, бо гэта кепскі прыклад. Я думаю, што мы павінны цьвёрда трымацца прынцыпаў, якім служым, гэта прынцыпы свабоды слова і свабоднага распаўсюджваньня праўдзівай інфармацыі. І яшчэ мы павінны разумець, што ніхто нам не дапаможа — ні Захад, ні Эўрасаюз, ніхто!.. Нашы замежныя калегі могуць толькі, напрыклад, маральна паўплываць на сытуацыю. Але вырашэньне праблем, якія тычацца свабоды прэсы, залежыць толькі ад нас!»

## Чытач нумар адзін

Зусім нечакана сам Лукашэнка вырашыў «абараніць» свабоду прэсы, інтрыгуе «Свабода».

№ 121, 31 кастрычніка 1997 году. Наклад «Свабоды» 90 тысяч. Першую старонку аздабляе здымак: заплюшчыўшы вочы, Лукашэнка цалуе мужчыну, у абдымках паклаўшы яму левую пяцярню на плечы. Хто гэта — невядома. Па патыліцы, што пачынае лысець, і цёмным пінжаку ў тонкую пало-

ску пазнаць немагчыма. Тэкстоўка мае загаловак дробным шрыфтам «Беларуска-расейскі раман», сам матэрыял — унутры газэты. А якія навіны?

Першая — пра тое, як жа «Лукашэнка вырашыў „абараніць“ свабоду прэсы».

«Верхняя палата» адхіліла папраўкі ў закон аб друку і вярнула іх у «ніжнюю палату». Чамусьці самому прэзыдэнту яны не спадабаліся — «Рыгоравіч нават заявіў: „Я заўсёды лічыў і лічу, што ў нармальным дэмакратычным грамадзтве павінен прысутнічаць плюралізм думак, у тым ліку і на старонках друкаваных выданьняў“. Ён лічыць пры гэтым, што са свабодай прэсы ўсё ў парадку. А, як піша БЕЛТА, „па доказы хадзіць далёка ня трэба: любое апазыцыйнае выданьне, у тым ліку і „Свабоду“, можна набыць у кіёску прэзыдэнцкай адміністрацыі“».

Няхай так. Але нічога не паведамляецца пра перашкоды, што чыняцца недзяржаўным выданьням. «Свабоду» не жадаюць друкаваць у Доме друку, спаганяюць штрафы за неіснуючыя парушэньні, цягаюць у пракуратуру і заводзяць абсурдныя крымінальныя справы за «клевету на президента», «разжигание», «призывы» і гэтак далей. Значыць, праблема ня толькі ў папраўках, пісаў Мікола Грынявіцкі.

Аляксандар Лукашэнка публічна паабяцаў, што «Народная Воля» атрымае магчымасьць друкавацца ў Беларусі. Больш як год газэта друкуецца за мяжой, Дом друку дамову з рэдакцыяй працягваць ня хоча. Рэдактар кажа: пяць разоў зьвяртаўся да прэзыдэнта, адказу не атрымаў.

Друкавацца за мяжой — лішнія выдаткі, прызнаецца Сярэдзіч. Сам Лукашэнка лічыць наадварот — не было б выгадна друкаваць там, дык не вазіў бы. Значыць, лісты Сярэдзіча чытаў, пра «Народную Волю» ў курсе.

Была сустрэча прадстаўнікоў журналісцкіх арганізацый СНД, Лукашэнка паабяцаў, што «пытаньне вырашыць». «Хай ён друкуе газэту ў Менску і плаціць грошы нам», — загадаў Лукашэнка пры шматлікіх сьведках намесьніку кіраўніка сваёй адміністрацыі Івану Пашкевічу, які паслухмяна кіўнуў галавой«.

Няўжо гэты загад «самога» ня будзе выкананы? — пытаецца аўтар Алесь Паўловіч...

Сустрэча кіраўнікоў парлямэнтаў Цэнтральнаэўрапейскай ініцыятывы ў італьянскім Трыесьце прызнала Вярхоўны Савет 13-га скліканьня адзіным легітымным парлямэнтам у Беларусі. Яго кіраўнік Сямён Шарэцкі вярнуўся з сустрэчы задаволены.

Выступаючы ў Трыесьце, Сямён Шарэцкі адзначыў, што «пасьля дзяржаўнага перавароту ў Беларусі падаўлена работа законнага парлямэнту і мясцовых органаў кіраваньня». Яны ператвораныя ў «прыдатак прэзыдэнцкіх структураў». Са словаў сьпікера Шарэцкага, «лукашызм, як новы від дыктатарскага рэжыму, імкнецца да абсалютызацыі ўлады».

Шарэцкі нагадаў, што «дыктатарскія рэжымы напачатку выступаюць пад маскай законнасьці. У свой час нават Гітлера называлі Адольфам-законьнікам. Аднак „твар дыктатара Лукашэнкі“ пачынаюць распазнаваць ня толькі ў Беларусі, але

і ў Расеі», — пераказваў выступ Шарэцкага Алесь Дашчынскі.

Часам магло здавацца, што газэта выпускаецца найперш для чытача нумар адзін.

Ну і ўявіце сабе такое: ён разгортвае газэту, а там — мама дарагая! Напрыклад, вялікая публікацыя «Чаму Лукашэнка цураецца сваёй сям'і?» з развагамі пра іх узаемаадносіны з жонкай (кастрычнік 1994 году). А гэта ж — грубае парушэньне субардынацыі. Хто дазволіў? Тут вам не Амэрыка!

Быццам у іх спаборніцтва з Герменчуком адбывалася. Хто каго прыгаломшыць.

Палітыкі — хто за мяжой, хто ў прыгнечаным стане, зацкаваныя. Хто пазьней, неўзабаве «зьнікне». Адзін яўны змагар, які падстаўляўся пастаянна, быў навідавоку, — Гермянчук.

## Спатрэбілася ўсяго 15 хвілін

25 лістапада 1997 году, № 130, аўторак. Газэта выйшла з паведамленьнем аб сваёй вымушанай «сьмерці». «Суд выканаў волю прэзыдэнта. СВАБОДУ забаранілі».

Гермянчук пісаў: «Учора Вышэйшы гаспадарчы суд прыняў рашэньне спыніць дзейнасьць газэты СВАБОДА. Прысуд быў абвешчаны ў 14.00 — ужо пасьля падпісаньня нумару ў друк, таму мы ня маем магчымасьці падрабязна распавесьці пра судовы працэс. Але, па сутнасьці, судовага працэсу не было. Судзьдзі М.Клімянковай, якая разглядала справу, спатрэбілася ўсяго 15 хвілін, каб вынесьці рашэньне аб закрыцьці СВАБОДЫ. Судзьдзя

абвясьціла, што рашэньне ўступае ў законную сілу з моманту яго прыняцьця. Гэта значыць, што ад сёньняшняга дня СВАБОДА ня мае права выходзіць у сьвет — ліцэнзіяануляваная.

Шаноўныя чытачы, мы не разьвітаемся з вамі! Рэдакцыя СВАБОДЫ мае намер распачаць выпуск новага выданьня».

Гістарычны факт: «Свабода» яшчэ трапіць аднойчы да чытачоў пасьля таго, як яе «зарэжуць» у судовым памяшканьні.

Пасьля суду Гермянчук скажа: «Мы не зьбіраемся мяняць сваю прафэсію, не зьбіраемся зьяжджаць з краіны».

Стаўленьне да палітычнай эміграцыі было адназначнае: яна не прымалася. Чаму? Для палітыка такі крок — памылковы, наогул тупіковы, лічыў ён. Страчваючы Айчыну, губляеш аснову, — пераказвае ягоную пазыцыю «свабодавец» Алесь Дашчынскі.

Сапраўды, адметная акалічнасьць, што апошні нумар выйшаў на наступны дзень пасьля забароны газэты. Атрымалася вельмі па-герменчукоўску. «Свабоды» ўжо няма, але — вось яна!

Побач з паведамленьнем пра судовы вырак — матэрыял пад загалоўкам: «Мінуў год пасьля прэзыдэнцкага рэфэрэндуму». Сымбалічна: першы лукашэнкаўскі рэфэрэндум — забароненыя кляйноты незалежнай Беларусі: рыцарскі герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг. Першая гадавіна другога рэфэрэндуму — забароненая газэта «Свабода».

Выходзіла яна з 25 сакавіка 1990 году да 25 лістапада 1997-га.

Прэзыдэнт Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы Лені Фішэр адрэагуе: «Закрыцьцё газэты

„Свабода“ — гэта адкрыты выклік міжнароднай супольнасьці...»

«Улада, якая зьнішчае свабоду слова, пацьвярджае сваю таталітарную сутнасьць», — адзначылі ў адмысловай заяве пяцёра рэдактараў вядомых выданьняў Польшчы, Чэхіі, Вугоршчыны, Славаччыны і Расеі. Дэпутаты Бундэстагу, а сярод іх вядомая цяпер Ута Цапф, у сваім лісьце да ўладаў РБ патрабавалі: «Вярніце свабоду „Свабодзе“! Без свабоды прэсы дэмакратыя жыць ня можа».

Аднак кіраўніцтва РБ не надавала значэньня пратэстам. Навошта яму тая дэмакратыя?

Менш як праз два месяцы пачнецца выданьне газэты «Навіны», у шапцы якой яшчэ доўгі час зьяўляўся стары свабодаўскі лягатып, менавіта сама назва — СВАБОДА. Першы нумар «Навінаў» выйшаў 16 студзеня 1998 году.

## Спадзевы на вуліцу

Бюлетэнь «Чацьвёртая ўлада» Беларускай асацыяцыі журналістаў: «Суд над „Свабодай“». Аўтар — Міхаіл Пастухоў, доктар юрыдычных навук, прафэсар:

«Па меры ўмацаваньня ў Беларусі аўтарытарнага рэжыму стаўленьне да незалежнай прэсы і, у прыватнасьці, да газэты „Свабода“ рабілася больш жорсткім». 1996 год — шэсьць праверак падатковых інспэкцый, 1997 — тры праверкі. Агульная сума штрафаў газэце — больш за 700 мільёнаў рублёў.

Міхаіл Пастухоў пералічвае крымінальныя справы: за публікацыю копіі дакумэнта так званай

«Беларускай вызвольнай арміі» ў траўні 1997-га, у чэрвені — за артыкул А.Старыкевіча «Канчатковы дыягназ», у чэрвені — З.Пазьняка «Вызвольны рух», што друкаваўся ў трох нумарах.

Папярэджаньняў было больш.

1996: чатыры папярэджаньні: за артыкул «Як судзілі — ведаем. А хто судзіў?» А.Дашчынскага, за чытацкія лісты ў трох нумарах, за артыкул А.Старыкевіча «Эвангельле ад лукавага». А ў кастрычніку — за экстраны выпуск газэты.

1997: за артыкул В.Раговіча «Вышыбіць конюха з Дому калгасьніка», за сэрыю артыкулаў А.Грузьдзіловіча ў справе экс-старшыні Нацбанку Т.Віньнікавай, за публікацыю копіі дакумэнта так званай «Беларускай вызвольнай арміі». Нарэшце, 19 лістапада — два папярэджаньні ў адзін дзень: за публікацыі А.Невяроўскага «Дзяды ў Менску» і за артыкул В.Казначэева «Імпічмэнт — другая спроба».

Гермянчук бачыў перамены да горшага, але ў яго ўнутры было ўпартае спадзяваньне — не перамагчы сытуацыю, а вытрываць, па магчымасьці перайграць.

Яшчэ былі нейкія гульцы на палітычным полі. І сапраўды не было тады адчуваньня, што — бац і ўсё, што адваротнага шляху няма, разважае Алег Грузьдзіловіч. Не, барацьба працягвалася, пэўны час было спадзяваньне на вулічную актыўнасьць. Газэта сама спрыяла гэтаму, трымала руку на пульсе. Пасьля кожнай акцыі рабілі матэрыялы, друкавалі адразу.

Ігар, між іншым, вельмі жорстка ставіўся да ацэнкі: колькі ўдзельнікаў было ў акцыі пратэ-

сту? Ён трымаўся таго, што лепш не перабольшваць. Не падаваць, што было дваццаць тысяч ці нават пяцьдзясят, як некаторыя рабілі. Пісаць як найдакладней. І самае галоўнае, што акрамя сваёй ацэнкі колькасьці, даваць яшчэ міліцэйскую, падысьці — спытаць.

Іншая рэч, што міліцыянты заўсёды прымяншалі. Але гэта было варта даваць, каб параўнаць, што гавораць два бакі.

Зрэшты, так не адразу сталі рабіць. Некалькі разоў надрукавалі лічбу «пажаданую» — а Ігар крытыкаваў, казаў, што так ня трэба.

Акцыі ішлі адна за адной. І паступова выпрацавалі стандарт больш аб'ектыўнай, больш стрыманай ацэнкі. На першым месцы было — адгукацца на падзеі, зважаць на канкрэтыку, на падрабязнасьці. Патрабаваньні пікетоўцаў. Дзеяньні міліцыі. Усё з дэталямі, з камэнтарамі людзей.

Калі закрылі «Свабоду», рэдакцыя сама зладзіла акцыю на плошчы Якуба Коласа, успамінае Грузьдзіловіч. Невялікі мітынг у падтрымку газэты. Ігар выступаў. Людзей прыйшло няшмат. Думалі, што будзе больш. Хацелася, каб больш. Каб адчуць падтрымку ўвачавідкі. Але была ўжо восень 1997 году. І ўсё роўна — быццам халодны душ: усяго некалькі соцень чалавек.

Так што акцыя адбылася тады малалюдная, яшчэ раз паўтарае Алег Грузьдзіловіч і робіць выснову: «Але гэта было заканамерна. Мы мусілі нарэшце зь нябёс спусьціцца на зямлю і пабачыць, што сытуацыя мяняецца, мяняюцца настроі людзей, што расчараваньне наступае. Але Ігар працягваў змагацца, і пачалі неўзабаве выходзіць „Навіны“».

## Газэта зь пятлёй на шыі

Ёсьць вядомы здымак: на вуліцы ў Празе стаіць Ігар, за сьпінай аўтафургон з надпісам Svoboda. Не сакрэт, Свобада — прозьвішча, зусім ня рэдкае ў чэхаў. Ігар папрасіў зрабіць гэты здымак. Убачыўшы зьнянацку, быў уражаны, як маленькім адкрыцьцём. Спадар Свабода.

Мікалай Аксаміт, калега Ігара ў парлямэнце, успамінае яго як чалавека, «ад якога ішло сьвятло, яго паважалі ўсе, нават артадоксы-камуністы», кажа Аксаміт:

«Калі ён прыносіў сьвежааддрукаваны нумар сваёй газэты, яны першымі кідаліся да яго, каб атрымаць.

„Свабоду“ чыталі ўсе, ад прэм’ер-міністра Кебіча, старшынь абл- і гар-, райвыканкамаў. Яе чыталі ў мэтро і электрычках, у працоўных калектывах. І тое, што ўдалося зрабіць апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, гэта і велізарная заслуга Ігара, менавіта яму і яго газэце мы абавязаныя тым, што на плошчу прыходзілі сотні, тысячы, якія падтрымлівалі нас. І дзякуючы такой моцнай падтрымцы мы здолелі пабудаваць незалежную краіну. Ролю Ігара ў гэтым нельга недаацаніць. Ён да апошняга змагаўся як мог. Бог яму даў талент журналіста, але, на жаль, вельмі кароткае жыцьцё. У маёй памяці ён застанецца ў такі момант: стоячы на сваім дэпутацкім месцы, раздае газэты, і шмат рук цягнуцца па іх. А ён раздае іх і, прымружыўшыся, усьміхаецца. Такім я яго запомніў».

Эмацыйна стрыманы, паважны, інтэлігентны, — такім запомніўся рэдактар Алесю Дашчынскаму.

На стале — «стугоры» папераў, газэт, кніг. Вялізны бел-чырвона-белы сьцяг — на ўсё вакно. Па ім з вуліцы можна было вызначыць — дзе працуе рэдактар. Яны, беларускія сымбалі, складалі яго духоўную сутнасьць, кажа Дашчынскі. І сам Германчук аднойчы заўважыў: «Гэта павінна быць унутры».

Была аднойчы размова пра факсымільнае выданьне «Бібліі» Францішка Скарыны. Мець гэтыя тамы ў хатняй бібліятэцы — гонар для любога беларуса, скажа Ігар.

Германчук імкнуўся да заходняга стандарту журналістыкі, — кажа Алесь Дашчынскі. Што трэба? Трэба «шукаць і гаварыць праўду», казаў ён, гэтым кіруецца ўся свабодная прэса. Марыў зрабіць «Свабоду» самай масавай, каб быў штодзённы выпуск. Аднак яе ўсё мацней бралі ў судовыя яжовыя рукавіцы. І тады ён напіша:

«Газэта працягвае выходзіць легальна, хаця і зь пятлёю на шыі».

Зашмат увагі «ўсенародна абранаму», выказваліся чытачы. Рэдактар тлумачыў: «Нам таксама гэты герой ужо надакучыў. Але ж ён настолькі працавіты чалавек, што амаль кожны дзень выдае сюрпрызы, вартыя ўвагі чытачоў. Ён такі ўсюдыісны, што безь ягонага благаслаўленьня ў гэтай краіне можа хіба што толькі сонца ўзыходзіць».

## Думкі пра часопіс

Зроблены рукой Германчука чарнавік заяўкі на грант.

У прэамбуле гаворыцца: «Газэта СВАБОДА была забаронена белар. уладамі 24 ліст. 1997, але

працягвае выходзіць тры разы на тыдзень у Інтэрнэце. З 15 студзеня 1998 г. рэдакцыя СВАБОДЫ пачне выпускаць газэту „СВАБОДА-Навіны“. Да 1 верасьня 1998 г. плянуецца зрабіць газэту штодзённай.

Паралельна рэдакцыя СВАБОДЫ рыхтуе новы праект — выданьне штотыднёвага беларускага часопіса „ЛюстраДзён“. Кіраўнік праекту — Ігар Гермянчук, галоўны рэдактар газэты СВАБОДА (тэл. сл. 36-89-40, тэл. х. 98-35-85)».

Далей — канкрэтыка, што датычыць самога будучага новага выданьня: «Часопіс „ЛюстраДзён“ (Mirror of Days). Пэрыядычнасьць — 1 раз на тыдзень. Асноўная тэматыка: палітыка, эканоміка, культура, спорт. Прыярытэт — публікацыі падрабязнасьцяў і аналізу бягучых падзей у Беларусі і сьвеце. Усе тэксты з фотаілюстрацыямі.

Аналягічныя штотыднёвікі выходзяць ва ўсіх краінах сьвету. Вядомыя аналягі — Newsweek, Time (ЗША), Spiegel (Нямеччына). Але на беларускім рынку прэсы ніша для падобнага часопіса застаецца свабоднай. Калі гэтую нішу ня зойме незалежнае выданьне, то яго зойме ўрадавае СМІ. (Такія спробы робяцца, але дзяржаўныя органы пакуль не знаходзяць творчую групу журналістаў, здольных рэалізаваць такі праект). Выпуск „ЛюстраДзён“ распачнуць 5 журналістаў СВАБОДЫ з удзелам (на дамоўнай аснове) 5–6 аўтараў-аналітыкаў. Тэрміны рэалізацыі праекту: пілётны (нулявы) нумар часопіса мяркуецца выпусьціць да Дня незалежнасьці — 27 ліпеня 1998 г. З 1 верасьня 1998 г. пачаць рэгулярны штотыднёвы выпуск. За пяць месяцаў

(да лютага 1999 г.) плянуецца зрабіць часопіс самаакупным».

З гэтага нічога ня выйшла. Але сам за сябе кажа запіс на адваротным баку другой старонкі гэтага накіду, там адно толькі слова — «Кур'ер». Ігар вярнуўся да сваіх запісаў, калі выданьне часопіса стала ня проста думкай, жаданьнем, але неабходнасьцю, адзіным магчымым варыянтам.

Другое: узяўшы ў рукі накід, я адразу выразна ўспомніў, што з гэтай назвы — «ЛюстраДзён» — ён і пачынаў, калі шукаў, як будзе называцца ягоны будучы часопіс.

Назва гэтая яму вельмі падабалася са студэнцкіх часоў. «Люстрадзён», вядома, гэта зборнік апавяданьняў Максіма Гарэцкага, ён прыдумаў гэтае слова, злучыўшы два. Потым быў падпольны «Люстрадзён», машынапісны. Памятаю, там быў тэкст пра студэнта, які падпаліў сябе на знак пратэсту ў Коўне, у 1972 годзе.

Назва Ігару падабалася, але ён разумеў, што гэта назва для часопіса ў беларускай Беларусі. А цяпер трэба штосьці больш нэўтральнае.

## «Свабода» ў энцыкляпэдыі

Герменчукова «Свабода» — важная старонка ў гісторыі Беларусі і беларускай журналістыкі. Яна пасьпела трапіць і ў Беларускую энцыкляпэдыю, нібы ўскочыўшы ў апошні вагон.

Нататка памерам васямнаццаць з паловай радкоў. Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі, 6 том, 2001, с. 255.

«„Свабода“, грамадзка-палітычная газэта. Выдавалася ў 1990–97 у Мінску на бел. мове 3 разы на тыдзень. Заснавальнік П.Жук, гал. рэдактар І.Гермянчук. Рэдакцыя „С.“ лічыла сваё выданьне пераемніцай аднайм. газэты, адзіны нумар якой у 1902 падрыхтавалі В.Іваноўскі, В.Валейка, Р.Мілер і А.Пашкевіч (Цётка). Асьвятляла пытаньні грамадзка-паліт., эканам., культ. і духоўнага жыцьця Беларусі, знаёміла чытачоў зь міжнар. падзеямі. Друкавала матэрыялы па гісторыі Беларусі (арт. „Акт 25-га сакавіка і адраджэньне нацыянальнай беларускай культуры“, „Мінскі час“, „Паслы Вялікага княства Літоўскага ў Маскве“). З 16.1.1998 „С.“ выходзіла пад назвай „Навіны“, з 25.2.2000 — „Наша Свабода“». Подпіс: Валерый Грынявецкі.

Ва ўнівэрсальнай Беларускай энцыкляпэдыі нататка пра газэту «Свабода» таксама прысутнічае. Том 14, 2002, с. 243. Тая самая нататка, але скарочаная на траціну. Няма рэдактара і выдаўца, няма назваў матэрыялаў па гісторыі краіны. Адцяты канец — пра «Навіны» і «Нашу Свабоду».

Танцу «сарабанда» энцыкляпэдыя тым часам не пашкадавала 27 радкоў. У нататцы гэтай мноства прозьвішчаў. Напэўна, гэты танец для Беларусі значна важнейшы.

Старыя савецкія мэтады: замоўчваць, выкрэсьліваць, забываць. Людзей, якія самаахвярна працавалі дзеля Бацькаўшчыны. Іхнія імёны палічылі ня вартымі скрыжаляў. Быць захаванымі на старонках гісторыі было дазволена толькі тым, каго прызначаў на пасады асабіста самы галоўны.

## «Навіны» не дацягваюць да ўзроўню «Свабоды»

У наступным годзе, з 16 студзеня, газэта пачне выходзіць пад назвай «Навіны». Праз год пасьля забароны «Свабоды» Ігар у інтэрвію Паліне Качатковай скажа: «Прэзыдэнт Лукашэнка не хавае сваёй незадаволенасьці нашай газэтай, і гэтая незадаволенасьць у свой час скончылася тым, што ён забараніў газэту „Свабода“». Інтэрвію надрукуе бюлетэнь «Права на волю», выдаваны праваабарончым цэнтрам «Вясна». Нагодай стане наступнае здарэньне: у ноч на 1 лістапада 1998 году нехта невядомы праз фортку забраўся ў рэдакцыю «Навінаў», каб скрасьці рэдакцыйныя архівы. Зьніклі сыстэмныя блёкі, факс.

Рэдактар ацаніў страты на тры тысячы даляраў. Ня стала больш як дзьвюх тысяч фатаздымкаў, якія існавалі толькі ў электронным выглядзе. Пасьля гэтага на вокнах кватэры, дзе была рэдакцыя, прымацуюць краты: першы паверх, не высока — над тратуарам.

Германчук сказаў: «Мы заявілі сьледзтву, што не выключаем магчымасьці, што гэтая справа магла быць учыненая адной са спэцслужбаў Рэспублікі Беларусь. Мы настаялі, каб наша вэрсія была адлюстраваная ў пратаколах сьледзтва. Сьледчыя згадзіліся ўпісаць гэтую вэрсію, але сказалі: „Вы ж разумееце, што мы ня маем паўнамоцтваў для расьсьледаваньня гэтай вэрсіі“. Таму мы настаялі, каб у пратакол была ўнесеная яшчэ адна наша пазыцыя: „Мы лічым, што сьледзтва па гэтай справе павінна весьці Генэральная пракуратура“. Таму

што практыка паказвае, што ўсе злачынствы, якія ўчыняліся альбо супраць рэдакцыі нашай газэты, альбо супраць мяне як галоўнага рэдактара, чамусьці расьсьледаваліся менавіта на нізавым узроўні, і чамусьці ўсе яны засталіся нераскрытымі. Сытуацыя такая: у краіне раскрываецца 90–80 працэнтаў злачынстваў, а злачынствы супраць нашай газэты трапляюць у тыя 10–20 працэнтаў, якія не раскрываюць».

У самога Герменчука сыстэмны блёк ужо аднойчы кралі, два гады таму, «з майго прыватнага дому», прызнаўся ён. Цікавіліся: ці не пісаў часам твораў пра Мудзішчава ён сам?

«У нас заўсёды былі няпростыя адносіны з уладай. Пры камуністах гэта было паўпадпольнае выданьне. А з прыходам да ўлады Лукашэнкі газэту стала рабіць нават цяжэй, чым пры камуністах», — расказаў рэдактар пра ўвагу начальства да «Свабоды»:

«Лукашэнка пачаў з таго, што паспрабаваў нас задушыць эканамічна. Былі спэцыяльна сфармаваныя брыгады падатковых інспэктараў, якія прыйшлі ў рэдакцыі незалежных газэт, у тым ліку і ў нашую, з мэтай выявіць падатковыя парушэньні. Ніякіх падатковых парушэньняў яны выявіць не змаглі. Тады яны знайшлі такое, на іх думку, парушэньне, што мы частку газэт распаўсюджваем бясплатна ў рэклямных мэтах. Яны абвінавацілі нас у тым, што мы гэтыя газэты прадалі, а выручку не апрыходавалі. За гэта на нас наклалі велізарны штраф».

Аднойчы на акцыі былі затрыманыя тры журналісты «Свабоды», потым нас сталі высяляць

з памяшканьня, нагадаў Гермянчук: «А затым прэзыдэнт Лукашэнка ўрэшце вырашыў пакласьці канец „Свабодзе“. У выніку пятнаццаціхвіліннага судовага разьбіральніцтва, якое было фармальным, суд забараніў газэту. Фармальна гэта зрабіў суд, хаця дакладна вядома, што гэта распараджэньне Лукашэнкі. Яна выходзіла 8 гадоў, а за 15 хвілін яе забаранілі. Нам давялося ўсё пачынаць з нуля: ад новай назвы і нуля чытачоў. У „Свабоды“ быў наклад 50 тысячаў, а зараз „Навіны“ выходзяць тры разы на тыдзень, але не дацягнулі да ўзроўню „Свабоды“ — маюць наклад 22 тысячы асобнікаў. Ня выключана, што і газэта „Навіны“ будзе забароненая. Але пакуль будзе легальная магчымасьць выпускаць газэту, мы будзем выпускаць яе легальна. Ня будзе такой магчымасьці, мы будзем рабіць нелегальна», — падкрэсьліў ён.

Скончыцца 1998 год, і Жук, заснавальнік газэты, зьнянацку звольніць Герменчука... Газэта тады называлася «Навіны».

## Звольнены «за непрафэсіяналізм»

Успамінае Алег Грузьдзіловіч:

«Прыкрая сытуацыя са зьменай рэдактара, гэта яго яўна падкасіла. Ён адчуваў сябе ня проста рэдактарам, гэта была галоўная справа ягонага жыцьця. Інструмэнт змаганьня, ён так да канца і заставаўся змагаром. А тут інструмэнт выбілі з рук».

І далей: «Каця Высоцкая (яе Жук прыцягнуў да рэдагаваньня) як прафэсіянал была добрая. Але сэнс газэты быў ня проста быць ёю, гэта яшчэ быў

такі палітычны твор. У Каці сваіх палітычных меркаваньняў, пазыцыі, здаецца, не было, гэта хутка адбілася на газэце.

Германчук быў пэрфэкцыяністам, перапісваў, асабліва загалоўкі, шукаў па некалькі варыянтаў. Ніколі не бывала, што з аднаго разу патрапіш. У „Народнай“ (газэце — дзе да „Свабоды“ працаваў Грузьдзіловіч. — С.А.) у рэдактара была свая манера: ён сваё дапісваў у матэрыял, хаця тваё не ламаў. Ігар так не рабіў. Калі перарабляў, асноўныя моманты ўзгадняў. Яму было ўласьціва паклікаць аўтара: а давай зробім вось так. Таго, хто недапрацаваў, называў халяўшчыкам».

Успамінае Іна Жызьнеўская, яна вярстала газэту: «Прыйшоў Ігар Іванавіч. Сабраў рэдакцыю. Ён, атрымліваецца, быў на кантракце, на дамове. А Жук — заснавальнік, мог наняць, а мог звольніць. Сказаў, што яны з заснавальнікам ня могуць паразумецца па агульнай палітыцы, што датычыць зьместу, і таксама па штатным раскладзе, і таму заснавальнік прыняў рашэньне звольніць рэдактара, і ў вас будзе іншы рэдактар... Усе адразу сабраліся сыходзіць. Ён сказаў, што „тады мы ўсё адразу пахаваем, таму, калі ласка, прашу вас працягнуць працу“».

Усе ўсьведамлялі, што Германчука і газэту нельга аддзяліць адно ад аднаго. Гэта не ўкладалася ў галаве.

Вадзім Казначэеў: «Рак — хвароба стрэсу. Гэта вядома. Я ўпэўнены: тое, што звальненьне было для яго наймацнейшым стрэсам — гэта безумоўна. Жук ня меў права гэтага рабіць. Ніякага. Акрамя фармальнага. Як было напачатку? Ігар Герман-

чук — журналіст, Павал Жук — бізнэсмэн, ня больш за тое. Ён ніякага дачыненьня насамрэч да гэтага прадукту ня меў. Меў да яго дачыненьне выключна Ігар Гермянчук, які зрабіў сваю газэту. Жук ня меў наймізэрнага маральнага права гэта рабіць. Я магу гэта сказаць ад свайго імя. Тое, што было зроблена — стала, безумоўна, жорсткім стрэсам, які скончыўся для Ігара фатальна».

Мы сустрэліся аднойчы зь Сяргеем Дубаўцом, каб наведаць магілу Ігара. Дубавец перакананы:

«Для Герменчука, супэрамбітнага ў прафэсіі і абсалютна ўсімі прызнанага за супэррэдактара, гэта быў шок. Той шок, які яго й забіў. Я бачу простую сувязь. Ну адкуль гэты рак? Ад магутнага стрэсу. А большага стрэсу для Ігара быць не магло. Ён баец, яго б нішто не падкасіла. Толькі гэта. Я шмат думаў пра тое, што зь ім здарылася, і прыйшоў да высновы: гэта было прадуманае палітычнае забойства. Самае першае пры гэтай уладзе. Забойства апанэнта. Сам Жук, я добра яго ведаю, да такога дадумацца ня мог. Калі б ён хацеў больш памяркоўнага рэдактара ці калі б яму параілі прыбраць Ігара з пасады, ён бы шукаў нейкага іншага разводу. Усё ж столькі гадоў разам, столькі разам перажылі, разам паезьдзілі па сьвеце. А публічна звольніць супэрпрафэсіянала за непрафэсіяналізм — гэта падысьці і стрэліць у самае сэрца. Таму гэта была замова».

Усходнія могілкі — найбольш прэстыжныя ў сталіцы, у пэўным сэнсе — беларускі пантэон. Мы блукалі сярод помнікаў славутым людзям, і Дубавец згадваў, што Ігар не хацеў гаварыць пра сваё звальненьне нават зь сябрамі — як пра нейкую найвялікшую прыкрасьць: «Мы зь ім гэта

абмяркоўвалі, але ў агульных рысах. Мы ж маглі абмяркоўваць і моўчкі. Я да таго, што паразуменьне ў нас было такое, што можна было паглядзець адзін на аднаго, і ўсё было ясна. Ну, і тое, што гэта я ў свой час прапанаваў Ігару рэдактарства, рабіла гэтую тэму яшчэ больш прыкрай».

Быў цяжкі восеньскі дзень. Сядала сонца. Вецер гнаў па небе рваныя аблокі. Час-часам пырскаў дождж. Навокал пад зямлёю ляжалі тыя, хто мог прагнуць волі, і тыя, хто мог трымаць у яжовых рукавіцах. Тут былі пахаваныя тыя, пра каго пісала «Свабода», той жа гарадзкі галава Паўлаў. І тыя, хто чытаў «Свабоду», і хто друкаваўся ў ёй, як народны пісьменьнік Быкаў. Сам рэдактар спачыў таксама на гэтых могілках, толькі ў іншым сэктары.

## «Сьвецкая хроніка»

Што стала фармальнай падставай для звальненьня? Прахадная нататка пра навагодні карпаратыў у БДУ, дзе навучаўся сын Жука. Так сказаў тады сябрам сам Гермянчук.

Рубрыка «Сьвецкая хроніка». Загаловак «Банкет для начальства»:

«28 сьнежня галоўная навучальная ўстанова краіны — Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт — сьвяткавала надыход Новага году. На вечарыну былі запрошаныя ня ўсе выкладчыкі БДУ, а толькі дэканы факультэтаў і загадчыкі катэдраў. Удзел у вечарыне каштаваў кожнаму зь іх мільён рублёў, астатняе даплачваў унівэрсытэт (па нашых зьвестках, амаль па трыста даляраў „на брата“).

Мерапрыемства праходзіла ў актавай залі БДУ. У якасьці гасьцей прысутнічалі міністар замежных спраў Урал Латыпаў, намесьнік дзяржсакратара Шэймана Анатоль Тозік, некаторыя дэпутаты парлямэнту. З замежных гасьцей вылучаўся намесьнік старшыні расейскай Думы Сяргей Бабурын — ён некалькі разоў выступаў са сцэны і нават іграў на гітары, складаючы канкурэнцыю беларускім і расейскім „зоркам“, якія бесьперапынна выступалі ўвесь вечар.

Стол, па словах удзельнікаў мерапрыемства, ламіўся ад прысмакаў — „было літаральна ўсё“. Выкладчыцкая эліта краіны ела, піла і весялілася да самай раніцы».

Подпіс: Міхась Карповіч.

Апошні нумар «Навінаў», падпісаны Германчуком, выйшаў 30 сьнежня 1998 году. Наклад быў 21710. Пад шыльдай стаяла ранейшае: «СВАБОДА, забаронена 24 лістапада 1997 г.», побач — «Віншуем усіх нашых чытачоў з Калядамі і Новым годам!» Гермянчук выпусьціў 500 «Свабод». Разам з «Навінамі». Шыльда СВАБОДА заставалася да канца на першай старонцы.

На чацьвёртай старонцы ў разьдзеле «Актуаліі» на расейскай мове артыкул «Появится конкурент, „батьке“ — могила». Падзагаловак падкрэсьлены:

«За последние три месяца рейтинг президента Лукашенко упал на 10 процентов».

З тэксту вынікае, што рэйтынг цяпер меншы за 40 адсоткаў, а ў Менску яшчэ меней — каля 30. Кожная другая сям’я ацэньвае сваё эканамічнае становішча як дрэннае або вельмі дрэннае. У краіне каля 2,5 мільёна пэнсіянэраў, пэнсія — 8–10 даляраў.

Прыблізна палова людзей не давярае «мясцовым уладам, міліцыі, судоўніцтву, прэзыдэнцкаму парлямэнту, Нацыянальнаму банку (яшчэ б!), афіцыйным прафсаюзам. А ўсё гэта — „бацькавы дзеці“».

«Таму ня дзіўна, што і прэзыдэнту ўжо не давяраюць больш за 40 адсоткаў выбаршчыкаў, а ў Менску — амаль 49». Подпіс: «Микола Грынявицки».

«Микола Грынявицки», нават у гэтым подпісе бачнае адценьне грэблівасьці адносна прадмету размовы. Своеасаблівая форма герменчукоўскага ёрніцтва.

Гэта апошні тэкст Ігара Герменчука, напісаны для газэты, больш ня будзе. І гэты тэкст на расейскай мове. У гэтым жа нумары ёсьць, праўда, кароткая нататка на беларускай мове пад тым жа псэўданімам. Надрукаваная на першай старонцы пад шыльдай, як даволі важная. «У наступным годзе — рэфэрэндум?»

Падкрэсьлена: «Беларусь плянуюць далучыць да Расеі». І самы пачатак: «Як вядома, 25 сьнежня прэзыдэнты Беларусі і Расеі падпісалі ў Маскве дэклярацыю аб стварэньні ў 1999 годзе саюзнай дзяржавы».

Пагроза была напраўду моцная. Сёньня вядома: Лукашэнка разглядаўся як адзін з двух магчымых пераемнікаў Ельцына, і шанцы меў дастаткова вялікія, але выбар спынілі на Пуціну. Аднак ніхто тады, пры канцы 1998 году, ня мог ведаць, што «саюзная дзяржава» за дваццаць гадоў так і ня стане для Беларусі стратаю незалежнасьці. Хоць перажывалася падзея востра. Як тут не згадаць у ранейшым нумары, за 16 сьнежня, маляваную абвестку, напісаную «ад рукі»: «Прадаецца Рэспублика Беларусь

у харошым састаянии. Абрашчацца па адрасу: г. Минск, бальшой дом у цэнтры. Спрасиць Сашу».

Старонка «Власть и пресса» зьмяшчае хроніку перасьледу журналістаў у час кіраваньня Лукашэнкі. У тым жа апошнім герменчукоўскім нумары. Далей: «„Момент истины" — частное мнение гражданина Старикевича». Што ён пісаў? Што «прыходзіцца канстатаваць канчатковы крах ілюзій аб тым, што Аляксандар Лукашэнка будзе самым трывалым абаронцам сувэрэнітэту Беларусі».

Старыкевіч пісаў, што «права быць багатым і здаровым не дастаецца нікому проста так. Яго трэба заваяваць, адстаяць, выгрызьці зубамі. Нічога немагчымага ў гэтым няма. Рэжым Лукашэнкі — гэта калгас на гліняных нагах. Ён моцны галоўным чынам слабасьцю сваіх праціўнікаў».

Аўтар паведамляў, што гэтым артыкулам ён завяршае свой цыкль, які друкаваўся на працягу 1998 году. Аднак ён не разьвітваецца з чытачамі «Свабоды» і «Навінаў». «Упэўнены, што нашы агульныя намаганьні будуць мець плён: і воля вечна будзе з намі, і гвалту мы дамо адпор. Жыве Беларусь!», — падсумаваў Аляксандар Старыкевіч, наколькі магчыма аптымістычна.

Большая частка апошняга нумару, падпісанага Ігарам, — на расейскай мове, значныя тэксты — амаль усе. Апроч «Рыцараў Вялікага Княства» Ўладзімера Арлова. І такая самая сытуацыя ў папярэдніх нумарах.

Сяргей Дубавец пазьней напіша, што ў «Кур'еры» Гермянчук будзе вымушаны адмяраць суадносіны расейскай мовы зь беларускай па-аптэкарску, каб не адпудзіць рэклямадаўцаў.

Гэта можна зразумець. Але ў «Навінах» ніякай рэклямы рэальна не было і не магло быць: газэта вызначалася як «антыначальніцкая». І ў адпоры начальству спакваля пераходзіла на мову яму зразумелую, на ягоную. Беларуская рабілася быццам мовай толькі для добрых, прыгожых тэкстаў. Каб пісаць пра рыцараў, напрыклад, як зрабіў вядомы пісьменьнік Уладзімер Арлоў. Мовы быццам падзяліліся самі сабой у Герменчуковай душы. Родная — для сьветлага, станоўчага, высокага, няродная — для адмоўнага, гэта мова гвалту, прымусу, рэпрэсій.

## Таямніцы «Банкету для начальства»

Я размаўляў зь дзясяткамі чалавек, хто ведаў Ігара Герменчука. Яны шкадавалі, што Жук так абышоўся зь ім. Аднак ніхто зь іх толкам не зразумеў, ня мог патлумачыць, проста ня ведаў, чаму так здарылася.

Я спрабаваў высьветліць падрабязнасьці ў самога Паўла Жука. Ён настойвае, што падставай стала менавіта публікацыя пра вечарынку для начальства ў БДУ, рэктарам якога тады быў Аляксандар Казулін:

«Казулін прыбягае: „А-я-яй, што ты нарабіў, — тут і суд, і Сібір!“ Я Герменчуку гавару: „Вырашай, што будзем рабіць“. Я так разумею, Казулін тады быў у фаворы ў Лукі, ён усяго баяўся. І тут было тое ж самае, як калі закрылі „Свабоду“ праз публікацыю пра Шэймана. Карацей, задача была — шугануць Герменчука».

Гэтыя словы Жука — «шугануць Герменчука» — разанулі вуха. Магчыма, яны вырваліся ў Паўла выпадкова, але ў іх, ня выключана, соль справы.

І што было далей? — пытаюся я.

Жук: «Прыйшоў той Казулін, пайшлі мы сустракацца зь ім. Герменчуку гавару: „Ну вось глядзі — ці газэта закрываецца, ці ты перабіраесься ў свой бок, вось і ўсё“. Ну, ён і пайшоў, сказаў: „Усё, харашо, я поняў, ухажу“».

Рэдакцыя «Навінаў» займала тады дзьве суседнія кватэры, у адной быў рамонт. Там, «у сваім баку», Ігар Гермянчук пазьней будзе рабіць часопіс «Кур'ер».

Працягваю задаваць пытаньні: «Ці Казулін сам патэлефанаваў? Як гэта было?»

Жук: «Так-так. Рэч у тым, што там быў матэрыял, што запрасілі ці то „Бітлз“, ці „Скорпіёнз“. Сабантуй быў ва ўнівэрсытэце, і яны запрасілі быццам бы нейкую топавую групу, заезд якой менш за дзьвесьце тысяч даляраў не каштуе, разумееш, на карпаратыве. Матэрыял прайшоў праз Герменчука».

Павал працягвае: «Лука чытаў усе газэты. Казулін спалохаўся. І тут стаяла пытаньне: ці зноў закрываем газэту, ці Гермянчук сыходзіць... Казулін мне пазваніў і сказаў: „Паша, хоць ты мне друг, но ісьціна дарожэ. Хто вінаваты ў гэтай фігні? Я тут атрымаў за гэта ад таварыша Лукі. І хочаш ня хочаш, мне ці галаву рэдактара, ці закрывай газэту“. І я Герменчуку гэта прапанаваў, ён сказаў: я поняў усё. Вось і ўсё, што было».

Дык Казулін сам прыяжджаў і была сустрэча? — перапытваю.

«Так, была сустрэча, і пры гэтым усё было сказана», — адказвае Павал Жук.

Сустракаліся ў рэдакцыі? — прашу ўдакладніць.

Жук: «Не, у адной забягалаўцы, скажам так. І ён усё выказаў. Утраіх. Ну, мы з Герменчуком пайшлі, я кажу: ну, думай, што будзем рабіць. Я, кажу, прымаю любое тваё рашэньне. Ты ж улічы, што з адной газэтай ужо праляцелі. Ну, Гермянчук хлопец амбітны, сказаў: я і без засранцаў спраўлюся. Потым, як паказала практыка, ня сільна справіўся. Гэта было ў першыя дні новага году. Так у нас гэта і закончылася. Хаця мы адносіны падтрымоўвалі. Памяшканьні былі побач».

З Аляксандрам Казуліным я гаварыў праз тэлефон.

Дык чаго я чакаю ад яго? — Дапамогі: каб узгадаў пра іхнюю сустрэчу з Герменчуком і Жуком. — «Калі гэта было?» Я адказаў. Не, нічога прыгадаць ня можа. Нават самой сустрэчы.

Што ж, мінула амаль дваццаць гадоў ад публікацыі ў «Навінах». І ў чалавека сапраўды жыцьцё было насычанае. То на кані, то пад канём. Вядома, усіх людзей, сустрэч не запомніш. Адна-адзіная размова магла не пакінуць сьледу.

А публікацыя ў «Навінах» чым не спадабалася? — цікаўлюся далей. «Не, я ня памятаю ніякай публікацыі», — адказвае Аляксандар Казулін, распытаўшы перш мяне самога наконт зьместу.

Нататка сапраўды магла не запомніцца. Не зубастая, ня востра крытычная. Ня кажучы: сустрэча Казуліна з Жуком і Герменчуком у нейкай забягалаўцы выглядае даволі цьмяна. Мне складана ўявіць, што рэктар унівэрсытэту (і міністар адука-

цыі ў адной асобе, тым самым — член ураду) будзе патрабаваць звальненьня рэдактара недзяржаўнай газэты. Прычым праз нейкую амаль неістотную нататку. Выклікаўшы выдаўца з рэдактарам у забягалаўку.

Яшчэ адна загадка: Павал Жук і сёньня паўтарае, што публікацыя была пра запрашэньне ў БДУ дарагога заходняга гурту. Менавіта на навагодні банкет. Толькі: выступалі беларускія і расейскія «зоркі».

І самае галоўнае — адкуль і да чаго тут сама тая куля, тая атручаная страла — «за непрафэсіяналізм»?

## Сьцяну замуравалі

Звальненьне рэдактара засталося белай плямай у сьвядомасьці людзей, якія любілі «Свабоду», чыталі затым «Навіны», і тых, хто асабіста ведаў Германчука. Гэтая падзея абавязкова стане прадметам разгляду дасьледчыкаў незалежнага друку.

Марыя Германчук, жонка Ігара, успамінае сёньня:

«4 студзеня гэта было. Ігар сядзеў на кухні на сваім любімым месцы. Была восьмая гадзіна вечара. Званок. Ігар: „Так, дзядзька, прывітаньне, са сьвятам“. Потым ужо нейк так: „Да, да, да“ (Гэты міжвольны пераход на расейскае аднаскладовае таксама псыхалягічна зразумелы, — пачутая нечаканая, нелягічная, падступная навіна. — С.А.). Зь яго боку не было нічога: „Што ты гаворыш, што ты робіш...“ Ніякага абурэньня. Толькі: „Ну, тваё рашэньне...“»

Што было далей? — прашу ўдакладніць Марыю Гермянчук.

«Паклаў слухаўку. Закурыў, зразумела. Сказаў: „Мяне толькі што звольніў Жук“. Я: не разумею, у чым справа? „Ён сказаў, што ён вымушаны“. Павал сказаў, што ў яго сына вельмі вялікія праблемы ва ўнівэрсытэце, і калі ён, Павал, ня звольніць Герменчука, то Паўлавага сына адлічаць з унівэрсытэту. І што ён павінен нейк сына бараніць, і ён вырашыў, што Герменчуку трэба пайсьці са „Свабоды“-„Навінаў“. Гэта тое, што сказаў Ігар».

Ці пісаў Ігар заяву пра звальненьне «па ўласным жаданьні» на імя Жука, як сьцьвярджае сам Павал?

«Калі Герменчуку гэта не падабалася, хіба б ён яшчэ пісаў заяву? Я ня ведаю, што павінна было б здарыцца, каб ён напісаў заяву. Ён мог бы напісаць толькі тады, калі б яму, Герменчуку, гэта было патрэбна», — разважае Марыя Гермянчук. Ігар не чакаў, што Жук можа так зрабіць. Рэакцыя зь яго боку была «з такой яго троху пыхай: „А раз яму ажно такое ў галаву прыйшло — ну няхай. Звольніў? Добра, няхай. Ну дык і безь цябе абыдземся. І не прападзем. І заяву пісаць: прашу мяне звольніць? Ні халеры!“»

Саму заяву адшукаць немагчыма, бо, як вынікае са словаў Жука, рэдакцыйны архіў зьнік у нетрах КДБ.

Адна падказка, зрэшты, існуе. Словы «звольніў за непрафэсіяналізм». Адкуль яны? Яны — са слоў самога Герменчука. І відавочна — што гэта са зьместу загаду Жука. Павінен жа ён быў напісаць загад па рэдакцыі, звальняючы рэдактара?! Незалежна ад таго, ці паступала ад яго заява. Без загаду

звольніць нельга. І калі б Ігар пісаў заяву «па ўласным жаданьні», як кажа Жук, такая ж фармулёўка павінна была б быць і ў загадзе Жука.

Калі сёньня разважаеш над тым, што адбылося ў рэдакцыі «Навінаў» дваццаць гадоў таму, міжволі адчуваеш нібы камень у чаравіку: штосьці было яшчэ, апроч сына-студэнта, не магло ня быць. Але што? Нейкі ход, патрабаваньне з супрацьлеглага боку. Нагадаю: толькі-толькі праз фортку з рэдакцыі выкрадзеная ўся інфармацыя на электронных носьбітах. А хто валодае інфармацыяй, той кіруе сытуацыяй. Той можа дыктаваць. Напрыклад: газэту закрыюць, калі зьмест будзе па-ранейшаму цалкам залежаць ад Герменчука. А што «Навіны» былі пад пастаянным пільным назіраньнем, — сумневу няма.

З другога боку, падставай магла стаць ня толькі праца рэдактара. Хіба такое немагчыма?

«Маё такое ўражаньне: сын тут ні пры чым, гэта адмазка, — разважае Марыя Гермянчук. — Што датычыць Казуліна — Павал мог прасіць за сына, такое таксама магчыма. Але тое, што Казулін сказаў: пакіну сына, калі ты звольніш Герменчука, — гэта лухта». Былі магчымыя іншыя варыянты, разважае яна, маглі ўзьнікнуць пытаньні і да заснавальніка: «І вось там — у іншых месцах — маглі паставіць пытаньне рубам. А з сынам проста аказалася нагода ў гэты момант. Каб захаваць нейкі твар. І перад рэдакцыяй, і перад іншымі. І, мабыць, перад сабой».

Пад рэдакцыю «Навінаў» у жылым доме былі набытыя дзьве суседнія кватэры. З двума пакоямі і з трыма. Паміж імі, у калідорчыку, разбурылі сьцяну. Атрымалася пяціпакаёўка. Рамонт пачалі

з большай. Уся рэдакцыя мусіла туліцца ў меншай. Цеснавата было. Але наперадзе чакала новая пэрспэктыва — кабінэты, рэдакцыйныя калідоры. Месца, дзе працаваць будзе — адна асалода.

Аднак з ідыліяй ня выйшла. Разбураную сьцяну паміж кватэрамі зноў замуравалі. Цяпер яна ўжо мела новае значэньне, сымбалічна нагадвала пра разрыў.

Апошнім праектам жыцьця Ігара Герменчука стане грамадзка-палітычны часопіс «Кур'ер». Нібы кур'ер паміж свабодай і несвабодай, паміж жыцьцём і сьмерцю.

## Хронікі шалёнага часу

Нібы падручнік найноўшай гісторыі, «Навіны» востра і бескампрамісна адлюстроўвалі падзеі часу.

15 сьнежня 1998 году газэта паведамляла, што Генадзь Карпенка на сустрэчы з дэмакратычным актывам у Гомлі назваў каманду, якая мела б выводзіць Беларусь «з эканамічнага і палітычнага крызісу». Знаёмыя прозьвішчы: Шушкевіч, Пазьняк, Хадыка, Ганчар, Багданкевіч, Чыгір, Саньнікаў, Кез, Захаранка.

Пазьняка ў краіне не было, а з трыма людзьмі са сьпісу і з самім Карпенкам налета здарацца гвалтоўныя рэчы.

Яшчэ раней, 8 сьнежня, газэта паведаміла: былы прэм'ер-міністар Міхаіл Чыгір заявіў, што будзе ўдзельнічаць у чарговых прэзыдэнцкіх выбарах «у якасьці прэтэндэнта на пасаду кіраўніка дзяржавы». Пра гэта Чыгір сказаў у інтэрвію «На-

роднай Волі» і «Свободным новостям», якое выйшла яшчэ 5-га.

Праблема была ў тым, што сам кіраўнік дзяржавы выбары праводзіць не плянаваў. Яго, як выглядала, такім чынам спрабавалі падахвоціць, падштурхнуць. «Цяперашняя ўлада абавязана абʼявіць прэзыдэнцкія выбары і правесьці іх цывілізавана», — сказаў Чыгір.

Першы сакратар КПБ Чыкін заявіў, аднак, што імя наступнага прэзыдэнта ўжо вядомае — гэта Лукашэнка. Астатнія, па словах Чыкіна, — «другая ліга».

2 красавіка наступнага году «Навіны» паведамілі «аб арышце кандыдата ў прэзыдэнты Чыгіра». Адначасова выйшла інфармацыя пра тое, што «старшыня Цэнтравыбаркаму Віктар Ганчар уручыў пасьведчаньні кандыдатаў кіраўнікам перадвыбарчых штабоў Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра». На цырымоніі сабралася больш за дзьвесьце чалавек — палітыкі, журналісты, дыпляматы. «Члены ЦВК і тэрытарыяльных камісій, праверыўшы сапраўднасьць сабраных подпісаў, прынялі рашэньне зарэгістраваць абодвух прэтэндэнтаў у якасьці афіцыйных кандыдатаў у прэзыдэнты», — пісаў Альгерд Невяроўскі.

Між іншым, нумар за 2 красавіка стаў апошнім са старой, герменчукоўскай шыльдай: маленькі герб — справа. Цяпер Пагоня будзе ўсярэдзіне — кропкай над літарай «і» ў назьве «Навіны».

6 красавіка газэта надрукавала нечаканыя зьвесткі: Генадзь Карпенка ў цяжкім стане ў рэанімацыі, некалькі дзён без прытомнасьці. Ён меўся браць удзел у канфэрэнцыі ў Варшаве, дзе зьбіраліся

прэзыдэнты, прэм’еры, палітыкі самага высокага ўзроўню, і ганарыўся, што Беларусь будзе прадстаўляць ён, а не Лукашэнка.

11 траўня загалоўны матэрыял нумару: «Зьнік Юры Захаранка. Пятыя суткі родныя і апэратыўнікі ня могуць знайсьці экс-міністра ўнутраных спраў».

Алег Грузьдзіловіч пісаў: Захаранка зьнік каля дзясятай гадзіны вечара ў пятніцу 7-га. Паставіў машыну ў гараж, «празь дзесяць хвілін буду», — паведаміў жонцы. І ўсё...

Назаўтра жонка зьвернецца ў міліцыю. Апошнім часам Захаранка атрымліваў пагрозы і папярэджаньні, што існуе загад распачаць супраць яго крымінальную справу і чым хутчэй ізаляваць. Меркаваньне жонкі: хутчэй за ўсё, помсьцяць за апазыцыйную дзейнасьць і дапамогу кандыдату ў прэзыдэнты Чыгіру.

Газэта зазначала, што назіральнікі зьвяртаюць увагу на такую акалічнасьць: «Літаральна на працягу аднаго апошняга месяца памёр Генадзь Карпенка, „зьбегла“ Тамара Віньнікава, арыштаваны Міхаіл Чыгір, зьнік Юры Захаранка. Няўжо гэта выпадковы зьбег абставінаў?»

Пазьней зьнікнуць Ганчар і ягоны сябра прадпрымальнік Анатоль Красоўскі.

«Альтэрнатыўныя» выбары скончацца нічым. 21 ліпеня дэпутаты Вярхоўнага Савету 13 скліканьня, «што засталіся на пазыцыях Канстытуцыі 1994 году», прызначаць Шарэцкага выканаўцам абавязкаў прэзыдэнта, пасьля чаго ён адразу выедзе ў Літву. Каб потым апынуцца ў Злучаных Штатах.

Што гэта было? Адна агульная апэрацыя супраць дэмакратычных дзеячоў? Ці здарыўся проста ланцуг выпадковасьцяў?

Лукашэнка абвесьціць наступныя выбары празь сем гадоў пасьля свайго абраньня. Герменчука «выключылі», як выходзіць, першым.

Мэтафара часу: звольнены з «Навінаў» рэдактар «Свабоды». Калі гаварыць наўпрост, назва «Навіны» была прэсная. Ня стала «Свабоды», і страцілася соль.

## «Кур'ер» з апострафам

Першы нумар грамадзка-палітычнага часопіса Герменчука выйдзе ў сакавіку 2000 году. Праз год і два з паловай месяцы пасьля таго, як яго звольніць з «Навінаў» Жук. Можна сказаць, даволі хутка. Але даўся ён вельмі цяжка, «Кур'ер».

Калісьці, на пачатку 1990-х, Ігару вельмі спадабаўся польскі Wprost. Новае зусім выданьне, і небывалы посьпех: наклады, папулярнасьць. Magazyn Gazety Wyborczej, які зьявіўся пазьней, таксама прывабліваў. (І пра перасьлед «Свабоды» пісаў, у рэдакцыі карэспандэнт з фотакарам пабывалі.) Прычым Magazyn быў нават бліжэйшы ў той час і па духу, і як прыклад арганізацыі, бо выходзіў пры раскручанай газэце.

А тут час палітычнай сьцюжы. Пасьля пацешных «прэзыдэнцкіх выбараў», зробленых апазыцыяй. Пачынаць новае выданьне ў тых умовах — справа амаль безнадзейная. Грантадаўцы ставяць умову: выпусьціць хаця б нумар самастойна, а яны пагля-

дзяць. І нікуды ня дзецца, мусіш, бо ты гэта прыдумаў, табе гэта трэба. Больш нікому.

Сядзім зь ім за сталом, памятаю гэты пакой у кватэры, якая яшчэ толькі мелася стаць рэдакцыяй. Ігар расклаў часопісы такога кшталту, як Newsweek. Польскія, маскоўскія, балтыйскія. Сябра з Эстоніі даслаў эстонскі. Краіна невялікая, але нават у іх такое выданьне існуе, і не адно.

Вокладкі — на адзін узор. Ігар разгортвае — і дызайн старонак таксама. Значыць, і яму рыхтаваць згодна са стандартамі. Выдумляць ровар няма патрэбы. Хоць гэта палягчае задачу.

Архіважная справа — назва. Каб зьвяртала ўвагу, каб выданьне прасілася ў рукі. Як некалі «Свабода». Але штосьці больш нэўтральнае трэба. Накшталт «Навінаў». Каб, аднак, больш па-хвацку гучала. Каб быў нейкі рух закладзены, энэргія. Дзьве-тры назвы ў яго ёсьць, але сам ён больш схіляецца да «Кур'ера». Пытаецца: як на мой густ? Я разумею, што яму хочацца, каб назва «не выклікала пытаньняў», плюс «Кур'ер» у абедзьвюх мовах існуе. І пішацца, лічы, аднолькава. Што немалаважна.

Ну што, кажу, прадаваўся ж калісьці ў кіёсках «Курьер ЮНЕСКО», гучала зусім няблага. (Ігар потым, наколькі запомнілася, і назву напіша падобна, курсівам).

Будзе назва «Кур'ер», будзе рэгістрацыя, будзе першы нумар. І прэзэнтацыя ў IREX, у прадстаўніцтве амэрыканскай Рады па міжнародных дасьледаваньнях і абменах. (Якому ўлады пазьней перакрыюць у Беларусі кісларод.) Ігар будзе стрымана задаволены. Але выглядаць будзе хутчэй стомлена, бязь іскры ў вачах.

Было агульнае адчуваньне, што шлях «Кур’ера» лёгкі ня будзе, але хацелася, каб у Ігара ўсё атрымалася. Першы нумар выглядаў выдатна, можна было толькі пазайздросьціць па-добраму, што ён здолеў так якасна ажыцьцявіць задуму. Па-германчукоўску, як сапраўдны шрайбікус. «Заснавальнікі: Ігар Гермянчук, Рыгор Зайцаў». Рыгор Зайцаў, нагадаю, цесьць Ігара.

Зрэшты, я крыху забег наперад. Прэзэнтацыя адбудзецца 7 красавіка, пасьля выхаду першага нумару.

## Часопіс для сярэдняе клясы

Дзякуючы Віталю Цыганкову, аглядальніку Радыё Свабода, мы сёньня можам з дакладнасьцю даведацца, што адчуваў Ігар Гермянчук напярэдадні новай падзеі: першы нумар ягонага часопіса на наступны дзень, 22 сакавіка 2000 году, будзе ляжаць сярод іншых выданьняў у газэтных шапіках. Надрукаваныя адразу пяць тысяч асобнікаў. 48 старонак, каляровая вокладка, чорна-белыя фотаілюстрацыі. Хвалюючы момант. Ня хочацца нават зьяжджаць з рэдакцыі. Як заўтра пойдзе?

«Ва ўступным слове да сваіх чытачоў Ігар Гермянчук заяўляе, што мае на мэце зрабіць „Кур’ер“ штотыднёвым масавым выданьнем. Ён лічыць, што „Кур’ер“ арыентуецца найперш на прафэсійна актыўных людзей, гэтак званую сярэднюю клясу. Гермянчук сьцьвярджае, што ніша для падобнага выданьня ў Беларусі дагэтуль пуставала», — зазначыў Цыганкоў у перадачы Радыё Свабода.

У думках мэта — штотыднёвік. Калі? У будучыні, вядома, але сказаць пра гэта хочацца ўжо сёньня. «Кур'ер» рыхтаваўся яшчэ ўвосень, пры канцы 1999-га, але Дзяржкамітэт друку раптоўна адмяніў рэгістрацыю часопіса і яшчэ некалькіх выданьняў: «рэдакцыі не атрымалі згоду на разьмяшчэньне ад мясцовага органа ўлады». Матэрыялы падрыхтаваныя, рэкляма ёсьць, што самым цяжкім здавалася. Нечакана ўсяго праз паўтара месяца далі адмашку: разьмяшчай, Гермянчук, рэдакцыю ў кватэры, дазваляем.

Добра, дзякуй, але нумар састарэў. І рэкляму хто будзе даваць таму, каму начальства торкае палкі ў колы?

А зараз аўтэнтычныя словы Герменчука, зьнятыя з дыктафона:

«Найперш мы арыентуемся на аўдыторыю людзей прафэсійна актыўных, людзей добра адукаваных, энэргічных. Такога кшталту аўдыторыю ў іншых краінах прынята называць сярэднім клясам. Скажуць, што ў нас няма сярэдняга клясу. Ёсьць у нас сярэдні кляс, і мы на яго найперш арыентуемся, але ўсё ж такі зьбіраемся рабіць часопіс цікавым для максымальна шырокай аўдыторыі. Ніша для падобнага кшталту выданьняў у Беларусі абсалютна вольная. Людзі зараз хочуць нечага якасна новага. Яны ўжо пабачылі аналягічныя выданьні іншых краінаў. Гэта зьява новая на нашым рынку, але ў сьвеце — шырока распаўсюджаная. І таму я ўсё ж такі думаю, што публіка, якая хацела падобнага прадукту, нарэшце яго атрымала».

Так яму бачылася тады. Неўзабаве высьветліцца, што публікі (гэтае слова ён любіў ужываць) гэтай

ня так шмат, на жаль, як хацелася б. Наклад ня будзе распрадавацца.

«Свабода» арыентавалася найперш на палітычна актыўную частку грамадзтва. «Кур'ер» — на прафэсійна актыўную. Такім чынам, ён разьлічвае толькі на частку яе аўдыторыі, — так патлумачыў Гермянчук, чаму «Кур'ер» ня будзе новай «Свабодай».

І — надзвычай важнае пытаньне — пра ўлады. Як будзе «Кур'ер» да іх ставіцца? Гермянчук фармулюе пазыцыю больш прымірэнчую, але гне сваё. Раз часопіс — незалежны, значыць, павінен адпавядаць інтарэсам чытачоў. І залежаць толькі ад іх. Ён будзе імкнуцца даваць максымальна незалежную інфармацыю. Тут Гермянчук акрэсьлівае будучы зьмест: «Выданьне будзе займаць апаніруючую пазыцыю, але, безумоўна, яно арыентуецца на трошку іншую аўдыторыю (чым „Свабода“), таму яно будзе троху больш спакойным. Тут будзе аддавацца перавага найперш якаснай аналітыцы».

На думку рэдактара, праект гэты цалкам жыцьцяздольны. Адкуль такая ўпэўненасьць? У першы нумар удалося сабраць мінімум неабходнай для выхаду рэклямы. Пакуль што мінімум...

«Вядома, ёсьць адзіная праблема, — шчыра прызнаецца Гермянчук. — Усё можна коратка і ясна спыніць: або стварыць такія ўмовы, каб праект ня змог выжыць, або нейкім іншым радыкальным чынам спыніць нас на старце. Я ня думаю, што ўлады пойдуць на нейкі такі радыкальны крок. Ясна, мы не чакаем лёгкага жыцьця, але я думаю, што ўсё будзе нармальна, і праект пасьпяхова выйдзе на тыя мэты, якія мы ставім».

Віталь Цыганкоў падсумаваў: «Гэта, аднак, толькі пэрспэктыва, а пакуль што „Кур'ер“ будзе выходзіць раз на месяц. Так атрымалася, што амаль увесь першы нумар часопіса прысьвечаны грамадзка-палітычным праблемам. Надалей рэдакцыя мяркуе пашыраць колькасьць матэрыялаў пра здароўе, адпачынак, адукацыю, моду ды іншую непалітычную тэматыку».

Гэта быў эфір 21 сакавіка.

Першы нумар быў прэзэнтацыйны. Зроблены з нуля. Захаваўся анонс наступнага нумару, напісаны Герменчуком для рэгіянальных газэт. Неабходна было чым хутчэй раскручваць яго, «час не чакаў», гэта была чыстая праўда.

Германчук зьвяртаўся да кіраўнікоў мясцовай прэсы. Зразумела, ускладаючы спадзяваньні на водгук перш з боку недзяржаўных выданьняў: «Калі ласка, апублікуйце інфармацыю пра выхад у сьвет чарговага нумару часопіса „Кур'ер“. Ён прадаецца па ўсёй Беларусі з 1 чэрвеня. Дасылаем тэкст па-руску і беларуску, а таксама вокладку ў якасьці ілюстрацыі. Жадаем посьпехаў! І.Германчук».

Ён тлумачыў: «Чытачы, якія ўжо знаёмыя з гэтым новым выданьнем, высока ацанілі ягоны ўзровень — гэта якасная журналістыка, прафэсійны дызайн, выдатная паліграфія. Галоўная тэма чарговага нумару — беларускі нацыянальны характар. Гэтую „загадку“ спрабуюць „разгадаць“ у сваіх артыкулах журналісты Віталь Цыганкоў, Юры Дракахруст, Сяргей Астраўцоў, Ірына Халіп. Неадназначна будзе ўспрыняты даволі жорсткі матэрыял Аляксандра Фядуты пра Віктара Ганчара: „Я веру, што ён жывы“, — піша аўтар».

І апошні абзац: «Зь цікавасьцю чытаюцца таксама артыкулы Сямёна Букчына, Канстанціна Скуратовіча, Аляксандра Старыкевіча ды іншых аўтараў. Галоўны рэдактар часопіса Ігар Гермянчук ставіць мэту зрабіць „Кур'ер“ штотыднёвым выданьнем, але да канца гэтага году часопіс будзе выходзіць адзін раз на месяц. Дарэчы, на 2-ое паўгодзьдзе можна аформіць падпіску, яе прымаюць у любым паштовым аддзяленьні да 15 чэрвеня. А пакуль — пытайцеся „Кур'ер“ у кіёсках».

Што сказаць? Напісана бязь іскры, без унутранага агню. Няма ў радках імпэту. Надта шмат давялося выдаткаваць энэргіі і сіл на сам гэты першы нумар.

## Грошы ня ліплі да рук

Не было больш шматтысячнай плошчы перад Домам ураду, не магло быць нумару з заклікам «Ніякай падтрымкі хунце!», ня зьдзьмуўся ГКЧП, ніякіх прычын для радасьці ў самых сьмелых і актыўных не было. «Кур'ер» пачынаў жыць у шэрай рэчаіснасьці, духоўна хісткай. Маральна прыгнечанай. Надзеяў на дэмакратычную эўрапейскую Бацькаўшчыну больш не было, нават калі камусьці не хацелася так думаць, хто супрацівіўся такім высновам.

«Оду да радасьці» сьпявала Эўропа, не Беларусь. У Беларусі на першым месцы былі словы «дысцыпліна і парадак» і што гэта «ўсур'ёз і надоўга». У яе гімнах не было месца аптымізму. І што ў гэтай сытуацыі мог Гермянчук са сваім часопісам? Разварушыць? Даць компас у рукі? Даць надзею?

Ён сам заставаўся ў стрэсе, не адчуваў сябе на кані. Ён зрабіў «якасны прадукт», як сам любіў гаварыць.

Але як знайсьці спажыўца, як прадаць? Так, у той час яшчэ былі сям-там нават незалежныя грамадзка-палітычныя газэты. Няхай пад пастаянным прыгнётам, але яшчэ дыхалі. Пэўнае кола чытачоў яны маглі забясьпечыць і «Кур'еру». Але для сапраўднай раскруткі патрэбна было больш часу, высілкаў, сродкаў, больш шырокая кампанія. А галоўнае — іншыя ўмовы патрабаваліся, іншая Беларусь.

Неўзабаве, калі датрымаць пэрыядычнасьць ня ўдасца, як ён мне казаў, давядзецца рассылаць папярэднія нумары падпісчыкам, якія ўсё ж зьявяцца. Навошта? Яны ж ужо мелі свой асобнік? Каб раздавалі знаёмым.

Першае, пра што згадвае Аляксандар Уліцёнак (заснавальнік і рэдактар газэты «Свободные новости плюс», грамадзкі дзяяч), — гэта тое, што пра Герменчука гаварылі людзі, якія зь ім працавалі. Што гэта быў адзін з рэдкіх рэдактараў, хто абсалютна па-чалавечы ставіўся да сваіх супрацоўнікаў. І ў справе выдачы заробку таксама. «Да яго рук не прыліп ніводзін рубель. Пра некаторых іншых рэдактараў такое сказаць было немагчыма. Калі ён у гэтым сумленны, гэта сьведчыць пра тое, што ён за чалавек».

Для Ігара было вельмі важна зрабіць часопіс, вярнуцца ў прафэсію праз яго. Не газэта, зь якой ён звыкся, а часопіс, зусім іншая спэцыфіка. Так гарэў сваёй ідэяй, гэтым праектам, працягвае Уліцёнак:

«Першы нумар „Кур'ера“ быў проста клясны. Калі я яму гэта зусім шчыра сказаў, у яго проста вочы загарэліся. Спачатку ён разьвёў рукамі, перастань, маўляў, з камплімэнтамі. Але я пачаў пералічваць рубрыкі, аўтараў, якіх ён прыцягнуў. Назваў тэмы. Ён паверыў і сказаў: „Вялікі-вялікі дзякуй, для мяне гэта прынцыпова важная падтрымка“».

Ігар і сам іншых заўсёды хваліў, падбадзёрваў, не баяўся і не саромеўся сказаць добрае слова, згадвае Аляксандар:

«А між іншым, у нашай прафэсіі, ва ўсіх рэдакцыях бракуе аднаго і таго ж — узаемнай павагі, не хапае імпэту сказаць — слухай, які ты клясны матэрыял зрабіў, як выдатна і крэатыўна ў цябе атрымалася. Гермянчук быў адным з тых рэдкіх людзей, хто не баяўся гэта казаць, які хацеў, каб іншыя гарэлі. І таму ён, мабыць, дамогся таго, што ягоная газэта, як і „Свободные новости“, перасягнула стотысячны наклад у тыя самыя непаўторныя гады, калі свабода прэсы разьвівалася».

Прычым Герменчуку было цяжэй: «Свабода» выходзіла на беларускай мове.

Існуе наступны важны момант, адзначае Аляксандар Уліцёнак: «Часта з боку калег я бачыў „падлянку“, ну ня любяць людзі твой посьпех, а ў выпадку Герменчука было зусім інакш: ён ніколі не сказаў крыўднага слова, не пакрывіўся, гледзячы ў мой бок. Было бачна, што ён паважае чужую працу і разумее, што чым больш вакол яго моцных канкурэнтаў, здольных рэдакцый, тым больш гэта актывізуе ягоную творчасьць, падштурхоўвае рабіць новыя крокі. Ён да апошніх сваіх дзён рухаўся наперад. Чалавек, які заўсёды крочыў наперад.

Не спыняўся, не задавальняўся. Чалавек шчыры, яскравы і сьветлы...»

«Кур'ер» стаў вяршыняй прафэсійнай дзейнасьці Ігара Герменчука. «Голас Радзімы», АПН, «Свабода» — увесь свой журналісцкі і рэдактарскі досьвед ён па-майстэрску ўвасобіў у выданьні, узроўню якога не адпавядаў узровень краіны. «Кур'ер» быў занадта яркі, эўрапейскі, якасны, як на панылую навакольную рэчаіснасьць, дзе панавалі закручваньне гаек і паняверка.

Марыя Гермянчук, жонка Ігара, кажа: «Самы гераічны этап — тады, калі ён займаўся „Кур'ерам“. Ціск з усіх бакоў, няма грошай, няма адпаведных умоваў для такога выданьня. Усё цяжка. Час „Кур'ера“ для Ігара прафэсійна — гэта момант ісьціны. „Свабода“ давалася цяжка, але гэта быў час, які спрыяў справе газэты. „Кур'ер“ — тое, пра што ён марыў па-сапраўднаму, да чаго імкнуўся. І „Кур'ер“ яму даваўся значна цяжэй, чым усё астатняе. Ён разумеў, што часу няшмат, умовы цяжкія, гэта былі не „свабодаўскія“ часы».

## «Уцёкі ад свабоды»

Аднойчы я заўважыў у Герменчука кнігу Эрыха Фрома. «Чытаеш?» — «Ды так...» Кнігу дала Паліна Качаткова. Расказала нядаўна мне. «Сам папрасіў?» — «Сам». — «Значыць, зацікавіўся».

Гэта былі «Ўцёкі ад свабоды».

Мы тады закранулі зь ім няхай ня самі «Ўцёкі ад свабоды», а пытаньне — чаму людзям не да смаку бывае свабода...

Час крушэньня надзей, цёмныя гады наступленьня рэакцыі ўспамінае сёньня Алег Трусаў.

Дачыненьні ў іх з Герменчуком былі роўныя заўсёды. Адзінае, што цяпер ён выпускаў не «Свабоду», а «Кур'ер». І гэта паўплывала на адносіны, прызнаецца Трусаў: «Я яго з часопісам рускамоўным не ўхваляў, крытыкаваў. Тут нашы адносіны сапсаваліся. Руская мова пераважала».

Але нельга сёньня не сказаць пра стан Ігара, пра ўражаньне, якое ён тады рабіў: «Наогул ён быў нейкі падаўлены. Калі яго Жук звольніў, ён пасьля гэтага так і не падняўся. Быў зломлены душэўна. І вочы ўжо не гарэлі, не ўсьміхаўся. Можа, і хвароба ўжо была. У параўнаньні з тым, які ён быў раней, яго цяжка было пазнаць. Пасьля скандалу і звальненьня з пасады. Я так думаю, што гэта быў такі ўдар, які, можа, паспрыяў і хваробе».

Чаму Гермянчук захацеў пачытаць Фрома? Адчуваў, што не хапае тэарэтычнага грунту, філязофскага складніка?

Калі людзі захочуць быць заўсёды свабоднымі? Ня хутка, адказваў на ўласнае пытаньне філёзаф. Пакуль чалавек не перарасьце сваю дачалавечую гісторыю, што доўжылася сотні тысяч гадоў. Але разумець прычыны ўцёкаў ад свабоды трэба, каб мець надзею, што вашы дзеяньні некалі дазволяць перамагчы тое, што можна назваць сіламі таталітарызму...

Фром, зрэшты, супакойваў.

Не зважаючы на паразы, свабода штораз прабівала сабе шлях. Дзеля яе перамогі загінула мноства барацьбітоў. Тых людзей, што былі перакананыя: лепей памерці за свабоду, чым жыць безь яе. Аднак,

зноў жа, для адных свабода — спакусьлівая мара, для іншых — пагроза.

Свабода — няпростая навука. А беларуская свабода — асабліва складаны прадмет.

Сам Гермянчук быў з тых, каму наканавана было загінуць за свабоду.

Прага ўлады абуджае ў чалавеку адмоўныя сілы, пра якія мы маглі не падазраваць, казаў Фром. Прага падаўленьня асобы апынаецца на першым месцы. Людзі з комплексамі, у якіх няма ўпэўненасьці ў сабе, жадаюць даказваць, што яны ня горшыя за іншых. На пачатковым узроўні. Затым хочацца прызнаньня, прэстыжу і ўлады. Улады над іншымі.

Што праўда, хаця дзяржава заўсёды трымае людзей у вызначаных рамках, яна адначасова спрыяе стварэньню асобы. Рэчаіснасьць БССР, абыякавая, часта варожая да беларушчыны, стварала ня толькі савецкіх людзей, але таксама і беларусаў, такіх, як Гермянчук. Гісторыя стварае нас, і мы ствараем гісторыю. Калі знаходзім сілы перастаць быць толькі матэрыялам для яе. Так казаў Эрых Фром.

Ігар быў зачараваны назвай кнігі Фрома, як некалі яго зачароўвалі назвы Караткевіча, Наўроцкага, а затым «Замак» Кафкі. На першы погляд, яна была для яго блізкай, амаль сваёй, бо — са «свабодай», аднак разам з тым зьмяшчала ў сабе адмоўны пасыл. Які меў дачыненьне да рэчаіснасьці за вакном.

Жонка Ігара ўспамінае сёньня, што трапны вобраз «уцёкаў ад свабоды» прыцягваў яго ўвагу (усё ж назва была, апроч іншага, прыкладам удалага загалоўка, якія Гермянчук сам любіў прыдумляць. — С.А.). Гульня словаў на вокладцы — гэта яму бы-

ло блізка, аднак да самога твора ён ставіўся хутчэй скептычна. Кніга была напісаная даўно, у іншай рэчаіснасьці. Ігару, — кажа жонка, — бадай, бракавала новага зьместу, скажам, больш сучасных прыкладаў, якія б нагадвалі беларускія рэаліі.

## Бараўляны—Бараўляны..

«Кур'ер» выходзіць год, можна крыху ўздыхнуць з палёгкай. Будучыня, што праўда, не абяцае нічога станоўчага. Выжываньне часопіса не зьнікае з парадку дня. Да яго дадаецца выжываньне фізычнае.

Аднойчы праз тэлефон Ігар стрымана прызнаўся, што ў яго праблемы са здароўем, што чакае апэрацыі.

Наступным разам сказаў, што апэрацыя была, прайшла пасьпяхова. Але зноў не прызнаўся, што зь ім. Я не настойваў.

Чалавеку ўласьціва не перакрэсьліваць надзею, трымацца за яе да апошняга. Пазьней пры сустрэчы я пра ўсё даведаўся. Была другая палова лета, «прэзыдэнцкая кампанія», нарэшце афіцыйныя выбары, першы раз за сем гадоў.

І ў гэты безнадзейны час яму рыхтаваць наступны «Кур'ер».

Бараўляны. Калісьці бліскучая перамога на выбарах. Радасьць, трыюмф. Цяпер думкай хочацца абмінуць тыя Бараўляны. Анкалёгія.

Быў пачатак чэрвеня, 2001 год. Паліна Качаткова зайшла ў «Кур'ер». Гермянчук сядзеў адзін. Над часопісам. Назвы мне дапамажыце прыдумаць, Паліна. Затым: паехалі забярэм часопісы, ёсьць час?

Яму вярталі непрададзеныя з кіёскаў, мусіў забіраць сам. Паехалі на Партызанскі праспэкт. Ад аднаго кіёска да другога. Яна сядзела ў машыне і бачыць зьнянацку, што ён ледзь ідзе, што цяжка яму... Гэта выглядала зусім нечаканым. Толькі празь некаторы час яна даведаецца, што ў яго рак. Пазьней сам прызнаецца: «Першы раз у жыцьці я рабіў выбар, калі не было выбару».

Гэта пра апэрацыю ў Бараўлянах. Але ў ёй быў сэнс. Яна працягнула яму жыцьцё на нейкі час.

Праблемы са здароўем пачаліся яшчэ ў газэце. Першыя трывожныя выпадкі. Жук пра гэта ўспамінае наступнае:

«Я яму прапаноўваў яшчэ ў 1998 годзе прайсьці кляснае абсьледаваньне. З чаго гэта пачалося? У яго ледзь што — ён адразу пачынаў распухаць, нагнаеньні пачыналіся, абсцэсы, прычым зь мінімальнай прычыны. Зуб, напрыклад, вырвалі, ці выпаў, — морда распухла, што яго ў рэанімацыю. Ну, значыць, хранова з імуннай сыстэмай. І я яму прапаноўваў прайсьці абсьледаваньне. „Добра-добра-добра...“ Было пару разоў: дамаўляесься, што ён прыйдзе, — ён не прыходзіць. Мяне адна дзяўчына абвінавваціла, што я вінаваты ў тым, што ён захварэў. Не, у яго схільнасьць да гэтага».

Словы Жука хтосьці можа паставіць пад сумнеў. Што ж, можна зразумець. Здарэньне з зубам, аднак, я памятаю сам. Ігар расказаў пра гэта стрымана, у сваім звычайным стылі, калі я наведаўся з Горадні ў рэдакцыю. Хаця было зразумела, што выпадак яго занепакоіў. Але ня вывеў з раўнавагі. Сёньня разумееш, што тыя выпадкі маглі быць першымі праявамі больш сур’ёзных праблемаў. Аднак Гер-

мянчук не знаходзіў часу на сябе, «Свабода» (якая ўжо называлася тады «Навінамі») паглынала яго з галавой. Яна забірала жыцьцёвыя сілы, яна і была жыцьцём.

Са словаў Ігара памятаю, што ягоны бацька памёр ад раку ў даволі маладым узросьце. Калі так, Ігар сапраўды мог быць у групе рызыкі. І старэйшая сястра ня проста так выбрала працу ў першым анкалягічным дыспансэры (што насупраць Акадэміі навук). Яна памерла, калі толькі перастала існаваць «Свабода». Інсульт. Амаль год была ляжачай хворай. Ігар прысутнічаў пры яе сьмерці. У яе спынілася сэрца. Гэта здарылася ў бальніцы.

## Рыцару кепска

Наступныя пасьля апэрацыі месяцы. Праходзіш хіміятэрапію. Балесна. Радзеюць валасы. Але трэба не пакладаць рук. А ўвосень стала вядома, што пайшлі мэтастазы.

Гэта быў сьнежань 2001-га, калі я бачыў яго адзін з апошніх разоў. Былая кухня ў «Кур’еры». Ён у сваім гарнітуры, пад гальштукам. Але па-ранейшаму з цыгарэтай і кубкам кавы. Валасы на галаве выразна зрадзелі.

Гэта была рэдакцыя, у якой я ніколі нікога не спатыкаў. Апроч яго самога. З былой мітусьнёй «Свабоды»-«Навінаў» у цесных сьценах кватэр — ніякага параўнаньня.

Аднойчы Ігар даў мне ў рукі кніжку: пачытай, дзядзька. Гэта было ў рэдакцыі «Кур’ера». На вокладцы надрукавана: «Хто ёсьць хто ў Беларусі?».

Па-расейску, па-беларуску, па-ангельску. Масква, 1999 год.

На старонцы 39 пачынаецца біяграфічны слупок Ігара, на 40-й заканчваецца. Нарадзіўся 1 студзеня 1961 году ў вёсцы Стракавічы Сьветлагорскага раёну Гомельскай вобласьці. Галоўны рэдактар газэты «Свабода», і пазначаныя гады: «1991–1999». (Адкуль апошняя дата? Яна пазначаная ў працоўнай кніжцы, хаця ніводнага нумару ён ужо больш не падпісаў.) «Навіны» ня ўзгадваюцца. Урэшце, яны былі таксама «Свабодай», той самай, герменчукоўскай. Пакуль ён падпісваў да друку нумары.

«На пачатку 90-х газэта была лідэрам чытацкіх сымпатый. За неаднаразовую публікацыю матэрыялаў антыпрэзыдэнцкай накіраванасьці (з 1994) „Свабода“ 24 лістапада 1997 была забароненая, выходзіла толькі ў інтэрнэце».

А больш яму й не было чаго дадаць. Хто ён цяпер, дзе працуе? Пакуль нідзе, пакуль што ставарае сабе гэтае працоўнае месца, новае. «1991–1999». Усё апошняе жыцьцё зьмясьцілася ў «Свабодзе». Усё асноўнае жыцьцё.

Рыцару кепска... Як было «маладому вераб’ю кепска», пісаў зь Ялты калісьці бацьку Адаму Ягоравічу Максім-кніжнік, калі паміраў ля сіняга мора. Любімы верш «У краіне сьветлай, дзе я ўміраю...» Так кранальна, чульліва напісаны. Ці было Максіму лягчэй зь яго хваробай? З сухотамі. Самотна — так. А ці лягчэй? Чым з ракам? Ён адзін паміраў. Ты — не адзін, але зыход ня будзе іншым. Ня хочаш слова гэтага, за дужкі выстаўляеш, але прысутнасьць штохвіліны адчуваеш, пазбыцца немагчыма. Гэх, дачакалася Беларусь «залацістага яснага дня» —

і назад у былое балота. У шарую гадзіну гісторыі. І паміраць гэтаю парою так балюча, няўтульна і скрушна. Пакінуць сваю краіну без надзеі.

Тэлефон — сыгнал нямоцны, як голас Ігара. Тэлефон у сьціплым доме ў тых Калодзішчах, дзе прайшло сьвядомае жыцьцё. Ужо існаваў і мабільны нумар, velcom, з шасьцёркі.

Родная вёска Ігара была побач з горадам. У вясковай хаце прайшло дзяцінства. І памёр ён у вёсцы, але ня ў роднай. А ў горадзе быў пахаваны, і ў горадзе праводзілі ў апошні шлях.

Ён цярпеў, сьціснуўшы зубы. Сьцяўшыся ў сабе. Трымаўся да скрайняга болю. Каб выклікаць хуткую чым радзей.

Існуе шкала інтэнсіўнасьці болю пры анкалёгіі: ад нуля да дзесяці. Калі боль перавышае шэсьць балаў, колюць моцныя апіёіды. Але яму не выпісвалі іх і не калолі. Ён не хадзіў па дактарах. А без рэцэпта нельга. І калі прыяжджала хуткая, калолі звычайныя лекі ад болю. Ён трымаўся на нагах да апошняга і ляжаў толькі некалькі дзён пры канцы красавіка. Гэта былі адны зь яго апошніх дзён.

Жыцьцёвая сіла згасала ў ім.

Красавік 2002-га. Больш няма надзеі. Сам-насам са сваімі думкамі. Са сваім «я». Са сваім сумленьнем. Са сваім лёсам.

Дэпутацтва скончылася, часу не паболела, жыцьцё амаль дарэшты паглынала газэта. Жыў у спартанскіх умовах і паміраў у спартанскіх. Дом быў звычайны, без выгодаў. Хоць для яго гэта былі звыклыя ўмовы. Адно толькі — горад быў няблізка. Ад станцыі кілямэтар, затым цераз чыгунку — і вуліца Шырокая.

Калега ў Вярхоўным Савеце і ў журналістыцы Мікола Маркевіч успамінае: «За некалькі дзён да яго сьмерці адбылася тэлефонная размова ў нас. І я так найграна: ну, Ігар, як справы? І ўразіў кволы голас: Мікола, кажа, вельмі баліць. Выходзіць, падбадзёрваць няма сэнсу...

Ён паказаў сваім змаганьнем з хваробай, што значыць сапраўдны беларускі дух, мужнасьць, адвага. А мог ён гэта вельмі прыгожа зрабіць. Паміраюць тысячы людзей, а ён пакінуў сьлед сваім прыкладам. Яго жыцьцё — прыклад для тых, хто прыйдзе парадкаваць нашу краіну: як адносіцца да сваёй справы, як жыць, і калі будзе надыходзіць час — як паміраць. Патрэбныя прыклады для пераймання, патрэбныя станоўчыя прыклады. Ён даў такі прыклад».

## Ніхто не парае, пазбыцціся як

У яго быў свой стыль. Свая пастава. Пачцівы. Бескарысьлівы. Крыху пэдант. Просты ў адносінах. Але звычайна без залішняга панібрацтва. Шчыры, не зашпілены на гузікі. Хаця мог бываць падкрэсьлена грэблівым.

Рух часу запавольваўся для яго, Зямля сыходзіла з-пад ног.

Больш не стаяць, не адчуваць нагамі, не трымацца на ёй. Не бараніць сваю рыцарскую Беларусь. У сьвядомасьці праплываў бязгучна, як калісьці на тэлеэкране на Новы год, вершнік. Рыцар збройны на кані зь мячом. Дзесяць гадоў назад... Ён памрэ ў думках зь ім, хоць гэта больш ня будзе

мець значэньня. З рыцарам, без, паміраае наш Ігар. Балесныя радкі Янкі Купалы са студэнцкіх часоў застрэмілі ў галаве:

*У нашым краі пануе чужак,*
*Ніхто не парае, пазбыціся як.*

Ніхто.

Гермянчук нагадваў яму Каліноўскага, прызнаецца Алег Трусаў.

Менавіта Каліноўскага ў тым адзіным фільме, што выйшаў на экраны пры канцы беларусізацыі — у 1928 годзе:

«Нешта было ў ім ад Каліноўскага. І высокі рост, і прычоска. І погляд. Каліноўскага самога ў нас, вядома, ніхто ня бачыў. Тыя здымкі, якія ёсьць, не зусім у ягоным стылі, а па фільму крыху падобны, на маю думку. Нават манерай прамаўляць...»

І невыпадковае супадзеньне: яны абодва пры ўладзе Лукашэнкі — асобы непажаданыя. Кастусь і Ігар.

У яго лёс Адама Міхніка мог бы быць, каб не памёр, разважае Алег Трусаў пра асобу Герменчука. Ён бы не пайшоў у палітыку, ён бы цяпер меў газэту зь вялізным накладам. Каб усё было нармальна, ён бы быў адным з найлепшых выдаўцоў. Нечым яны падобныя зь Міхнікам як рэдактары...

«Я ж Міхніка ведаю. Ён пачынаў з падпольнага лістка. Лёс падобны. Проста Міхніку пашанцавала, а Герменчуку — не. Яны, вядома, былі знаёмыя. Я думаю, што Міхнік яму й дапамагаў. Ён рэгулярна прыяжджаў у Беларусь. Апошняе інтэрвію браў у мяне перад галадоўкай у фае парлямэнту. Калі мы зьбіраліся абвяшчаць галадоўку, апошнім жур-

налістам, якога я там бачыў, быў Адам Міхнік», — узгадвае Алег Трусаў.

Была нават арыентацыя на Міхнікаву «Газэту Выборчу»: пры Герменчуку «Свабода» спачатку пераймала яе вёрстку — зусім новую, адметную, як на той час.

«Сьлед у нашай журналістыцы ён пакінуў на ўсё жыцьцё. Калі будзем пісаць падручнікі па журналістыцы, будзе партрэт Герменчука, газэта, і нават той часопіс таксама. Але ў цяперашніх выданьнях яго няма і пры гэтым рэжыме ня будзе. А калі памяняецца, то і вуліца Герменчука будзе, усё будзе. Усё наперадзе».

Журналіст Вадзім Казначэеў працаваў у «Свабодзе» і быў адзіным творчым супрацоўнікам у «Кур'еры», у яго на вачах Гермянчук сыходзіў з жыцьця. За дзень да сьмерці Ігар яшчэ быў у рэдакцыі, апошні раз. Прыяжджаў заўсёды сам. Вадзім зьдзіўляўся — як гэта ў яго атрымліваецца? Гермянчук на гэта: «А мне лягчэй гэтак. Што я сядаю ў машыну, еду. А так бы я хутчэй сканаў». Рэдакцыя на першым паверсе. І галоўнай цяжкасьцю для яго было спусьціцца ўніз, пара прыступак. І адчыніць машыну. У гэтым яму трэба было дапамагчы. Пры тым, што сам з просьбаю не зьвяртаўся. Гэта было не ў яго стылі. А калі машына адчыненая, сядаў і ехаў.

Аднойчы ён напіша, што ў яго рак, фатальная хвароба, і жыць яму застаецца няшмат... Гэта была выдумка, мастацкая проза. Ён так напісаў у тыя часы, калі ў яго ня зьніклі пісьменьніцкія амбіцыі. Пра такія рэчы мы звычайна стараемся, па магчымасьці, ня думаць... Аднак жа для адметнага літа-

ратурнага твору патрэбны нечаканы, запамінальны пачатак.

Ігар жыў некалі ў сястры, яна працавала ў анкалёгіі, ён ведаў — што там і як. Агульнавядомым было і слова «Бараўляны». У Бараўлянах? Значыць, справы кепскія. Шанцы, хутчэй за ўсё, ніклыя. Колькі бараўлянскіх гісторый хадзіла, ходзіць і будзе хадзіць па сталіцы. І на адлегласьці ад яе. Пра Бараўляны вядома ўсёй Беларусі.

Мне вельмі кепска, я паміраю, у мяне рак, — вывела рука, маладая і моцная.

Жорны гісторыі прыпыніць бы хоць да раніцы. Не пішы, дзядзька, не пішы! Памарудзь крышку, не рабі гэтага. Устань, зрабі кавы. Выйдзі закуры. Але ён ня чуе і — напісаў. А раз яно здарылася, ён, як бывае з паэтамі, прадбачыў свой канец. Слова зрабілася дзеяньнем, адмоўным чынам. Атручанай стралой.

Паміраючы, перадаў «Кур’ер» Аляксандру Вальвачову. Патэлефанаваў, папрасіў аб сустрэчы. І па тэлефоне сказаў адразу, што хворы безнадзейна, з адпаведным прагнозам дактароў. Праўда, тады сказаў, што дактары яму адпускаюць паўгода. Хацеў верыць.

Змаглі сустрэцца толькі два разы. Таму што прагноз дактароў, пра які ён казаў, ня спраўдзіўся.

Першая сустрэча была хутчэй на пачатку сакавіка, прыгадвае Вальвачоў. Ну вельмі хутка адбылося, кажа ён, нечакана хутка.

Памёр з «Кур’ерам» у руках. Гэта здарылася 29 красавіка 2002 году, у сярэдзіне дня. Не ў сталічным шпіталі, пад доглядам дактароў. Наводшыбе памёр, але дома.

Ня стала аднаго з годных сыноў Бацькаўшчыны. Аднаго з тых, дзякуючы каму ўсе беларусы атрымалі нарэшце сваю краіну ў дзяржаўных межах, не адміністрацыйных. Хто змагаўся за яе, за яе свабоду, сапраўды не шкадуючы сябе. Такім ён застанецца ў нашай памяці.

«Найлепшыя паміраюць маладымі», як у адной песьні Scorpions.

## Усё жыцьцё па адной вуліцы

Фотакару Сяргею Грыцу падабалася, што Германчук заўсёды быў у гарнітуры, пад гальштукам. Нават вецер ці мароз, куртка не зашпільваецца, але выдатная кашуля, гальштук, гарнітур. «Як дэндзі». Ніколі ня лаяўся матам, быў вясёлы, іранічны. Калі прад'яўляў прэтэнзіі: «Чаго не працуеш, дзе здымкі?» — то гэта было вясёла-абурана: «Што такое? Чым вы займаецеся, дзе здымкі?» І Грыц стараўся адсочваць сытуацыю з думкай: гэта я для яго здыму, гэта — не...

Для многіх, хто працаваў нават у розных газэтах, Германчук як рэдактар застаўся ў памяці самым адметным. Іншых такіх не бывала.

1 траўня 2002 году. Дзень пахаваньня.

На стале, за якім ён калісьці пісаў, здымак Ігара, вялікі, каляровы. Аўтарства Грыца. Зроблены ў рэдакцыі «Кур'ера». Апошні здымак: пасьля хіміятэрапіі валасы радзейшыя. Але мужны, «германчукоўскі» выгляд. З выклікам уваччу. Машастовая жалобная стужка. І гэтыя даўкія, з камяком у горле навіны: да апошняга вытрымліваў жахлівы боль.

Ускрылі: саркома, іншыя органы пашкоджаныя, паўсюль мэтастазы.

Дом Герменчукоў на Шырокай. Зашклёная вэранда. Дзьверы. Пакойчык са сталом і лядоўня «Мінск». Тут сьнедалі і вячэралі. За гэтым сталом ён пісаў. Зьлева куханька. Газавая пліта, печка, ракавіна. За сталовай — наступны прахадны пакойчык. Абапал на сьценах паліцы з кнігамі. Такія ў нас усіх былі: на мэталічнай раме, паліраваныя. Ягоныя — яшчэ са студэнцкага інтэрнату. Зьлева невялікі пакой: ложак, здаецца, таксама кніжная паліца.

Наступнае памяшканьне, крыху большае. Гасьцёўня. З канапай і тэлевізарам. І адкрытая труна з Герменчуком...

Ён перад вачыма. Але яго больш няма. І ня будзе. Усьведамленьне гэтага сьціскае сэрца.

Сяргей Грыц: «Калі даведаўся аб сьмерці, чым мог дапамог. Ігар ляжаў, хата цёплая, а тры дні яшчэ, трэба нешта рабіць. Знайшоў хлопца ў бальніцы, якая каля Акадэміі навук. Малады. Узяў яго, прывёз. Кажа: ну, выйдзіце хвілін на дзесяць, на пятнаццаць. Выйшлі. Ён штосьці там зрабіў, можна здагадацца што. Выйшаў з пакецікам. У яго быў чамаданчык з інструмэнтамі. І потым Ігар да пахаваньня ляжаў, ляжаў як малады...»

Час быў везьці ў Менск, у Палац мастацтваў, яго чакалі там людзі, беларусы.

Мы заходзілі ў аўтобусік з труной, у першыя дзьверы. Я прапускаў. І зьнянацку ўбачыў, што пярэдні бампэр адарваны справа. Гэта разанула. У такім катафалку Беларусь праводзіць свайго сына.

Аўтобус зь нябожчыкам паехаў па Шырокай, да пераезду, па рэйках і — налева — уздоўж чыгункі, як штодня Ігар езьдзіў на працу ў Менск, у рэдакцыю. Каб не даехаць да яе (да апошняга адрасу газэты, а затым «Кур'ера» — было літаральна руку працягнуць ад Палаца мастацтва), але і не вярнуцца дамоў.

«Кур'ер» быў у будынку, што на рагу Бядулі і Бранявога завулка, на першым паверсе. Таму часта паміж сабой гаварылі: у Бранявым, хаця сапраўдны адрас быў — Бядулі. Кватэра была рэдакцыяй. Яму патрэбна было месца для часопіса і юрыдычны адрас...

Ніхто не разганяў гэтым разам і з рук сьцягоў не вырываў. Не было ні варанкоў, ні міліцэйскіх твараў. Луналі бел-чырвона-белыя сьцягі.

Выглядала відавочным, што была каманда не чапаць, не перашкаджаць. І каманда была, хутчэй за ўсё, ад «чытача нумар адзін».

А чаго перашкаджаць, зрэшты? Хаваюць аднаго зь непрыхільнікаў. Хай хаваюць.

Палац мастацтва. На невысокай сцэне труна з Герменчуком. Побач калегі, палітыкі. У ганаровай варце. Поўная заля народу. Гавораць прамовы. Вадзім Казначэеў, які быў зь Ігарам да канца. Палічыў патрэбным сказаць слова Станіслаў Шушкевіч. Памятаю Фядуту. Узважаныя, справядлівыя словы.

Ён зрабіў сабе імя, і Ігар цаніў ягонае пяро, замаўляў для «Кур'ера» топавыя тэмы. У нейкі момант зьявіўся Жук...

Труну выносяць на вуліцу. Сьцягі. Гэта побач з «Голасам Радзімы». Труна праплывае дваццаць мэтраў на адкрытым паветры. Каб апынуцца ўну-

тры пахавальнага «пазіка». Пад вокнамі былога кабінэту Ігара ў «Голасе Радзімы». Дваццаць гадоў мінула, як ён прынёс сюды сваю першую нататку. Усяго дваццаць.

У горадзе выходны, «чырвоны дзень календара».

Праспэкт Францішка Скарыны, тады яшчэ Скарыны, да зьмены назвы заставаліся тры гады. У апошні шлях па Скарынаўскім. Крамка «Саюздруку», дзе купляў прэсу, на хвіліну пакінуўшы рэдакцыю. Дзьверы АПН. «Букініст», у якім любіў затрымацца. А пад'есьці любіў побач, у «Бульбянай».

Толькі рэдакцыя «Свабоды» па дарозе ні разу ня трапілася. Не было яе, раней за яго сышла.

Журфак, дзе вучыўся, Дом ураду, дзе працаваў у парлямэнце, засталіся на той самай лініі, але ззаду. Дом друку толькі што прамінулі. Ад Маскоўскай вуліцы па праспэкце міма «Маскоўскіх» («Усходніх») могілак дарога вяла дахаты. Атрымліваецца, усё жыцьцё ўздоўж галоўнай вуліцы краіны, на яе тратуарах і асфальце. Дзе ў кіёсках прадавалася «Свабода», дзе (на пляцы Коласа) зьбіраліся людзі, каб падтрымаць яе. Усё той жа праспэкт, па якім яшчэ днямі, змагаючы ў сабе боль, езьдзіў у «Кур'ер».

Міма брамы Ўсходніх могілак, дзе яму застацца назаўсёды, кожны дзень езьдзіў на працу ў горад і вяртаўся дахаты. Але аднойчы давялося затрымацца за брамай назаўжды. Лёс застацца на паўдарозе. Паміж домам і рэдакцыяй. Стаць бронзавым помнікам.

Вытанчаны, завостраны твар, мэтаімклівы погляд. Рамантычны, ранімы, сьветлы.

«Ты быў як месяц адзінокі, самотна жыў, самотна ўмёр». Ён любіў гэты верш. Адзінокі — у сэнсе вышэй за многіх іншых людзей, адметны ад іх, адрозны.

Марыя Гермянчук нагадвае яшчэ радкі з трыялету Багдановіча — «Калісь глядзеў на сонца я, мне сонца асьляпіла вочы», які Ігару вельмі падабаўся. «І ў гэтых словах уся яго душа і ўвесь ягоны лёс», — падкрэсьлівае яна.

Сьціслы надпіс на помніку: «Ігар Гермянчук. 1.01.1961–29.04.2002».

## Сьляды, сьцёртыя на сьцежках

Паліне Качатковай запала ў памяць, як маці Ігара на сорак дзён ля сынавай магілы ўголас бедавала па ім, галосячы тое, што галасілі на пахаваньні продкі ў даўнейшыя часы, — «пра сьляды, сьцёртыя на сьцежках». Паліну ўразілі яе словы. Сваёй глыбінёй, фальклёрнасьцю. Пракаветнасьцю.

Маці ягоную апошні раз Віктар Раманішка са Сьветлагорску бачыў пасьля сьмерці Ігара. Яна сядзела змарнелая, пастарэлая. А так заўсёды з усьмешкай была, вясёлая. Спачатку плакала тады, калі Віктар яе наведаў, потым размаўлялі, яна старалася пасьміхацца. Яна яшчэ нямала пражыла пасьля яго, кажа Раманішка.

Што напісаў Уладзімер Арлоў у кнізе «Імёны Свабоды» пра Ігара? «Дактары сьцьвярджаюць, што ягонае сэрца спыніла невылечная хвароба. А мне здаецца, ён проста задыхнуўся ад вострага недахопу Свабоды».

Незалежная Беларусь сталася мэтаю і зьместам ягонага жыцьця зь юначых гадоў, падсумаваў пісьменьнік. Ён быў з тых, хто «вяртаў нашую краіну на палітычную мапу сьвету». І яшчэ асабісты ўспамін: «Думаючы пра Ігара Герменчука, я найперш згадваю ягоныя вочы — дапытліва-засяроджаныя, але разам з тым нязьменна ўсьмешлівыя і сагрэтыя іроніяй. Вочы ўнутрана свабоднага чалавека».

Аднойчы піцерскі рок-музыкант Шаўчук з гуртом «ДДТ» засьпявае ў Менску сваю песьню пра свабоду: «Свобода, свобода, ты нам рассказала, какого мы рода...»

Гэта ж таксама пра нас, пра насельніцтва БССР, якому свабода дала нарэшце магчымасьць зразумець, што яно — беларускі народ. Сваю песьню Шаўчук напіша празь дзесяць гадоў пасьля сьмерці Герменчука. І яна быццам прысьвечаная яму, быццам пра яго. Свабода б'ецца пад сэрцам, прызнаецца лірычны герой.

Вуліца Герменчука... У вольнай Беларусі вуліцы назавуць імёнамі тых, хто сапраўды змагаўся за незалежнасьць краіны, — напіша ў фэйсбуку, рэагуючы на сьвяткаваньне афіцыйнага «Дня незалежнасьці», журналіст Радыё Свабода Сяргей Навумчык. Былы аднакурсьнік і паплечнік Ігара.

«Да Незалежнасьці ні парад, ні разявакі, якія прыйшлі паглядзець на танкі, ні „вялікая перамога“, ні генэралы, ні чалавек у форме генэралісімуса ня маюць ніякага дачыненьня, ні на грам. Сёньня публікую фота дэпутатаў зь ліку апазыцыі БНФ, якія пайшлі з жыцьця, яны дамагліся Незалежнасьці. Пра некаторых зь іх забыліся нават апазы-

цыйныя актывісты — але гадоў праз 50 ім будуць помнікі і вуліцы (іншага стаўленьня ў дэмакратычнай краіне да стваральнікаў гэтай краіны проста ня можа быць). Ігар Гермянчук, Ігар Пырх, Галіна Сямдзянава, Барыс Гюнтэр, Генадзь Грушавы. Вечная ім памяць і нашая падзяка. Жыве Беларусь!» — напісаў Навумчык.

Гермянчук? У ім зьдзіўляла яго баявітасьць. Адам Глобус, пісьменьнік, мастак, кажа, што паважае людзей, якія здатныя біцца. Вось чалавек едзе на машыне і раптам бачыць, што рабуюць нейкі склад ці краму. 99 адсоткаў нашых людзей ціха пройдуць ці праедуць, зробяць выгляд, што гэтага ня бачаць. «А Ігар мог спыніць машыну, спытаць: што вы, сукі, тут робіце? Чаму рабуеце краму? Рызыкнуць. І нават атрымаць па галаве, такое было, яго пабілі за гэта. Ён ніколі ня быў раўнадушны да праяў такога нэгатыўнага жыцьця. І гэта важна, што чалавек можа ў адзіночку супрацьстаяць цэлай бандзе».

«Калі нават па ім стралялі, ён пра гэта пераказваў з гумарам, бязь зьнешняга драматызму. Што мяне таксама дзівіла. Расказваў, як знайшоў гэтую кулю. Прынамсі, баявы характар — для яго заўсёды гэта было важна».

Гермянчук пасьля сваёй сьмерці працягваў прысутнічаць у думках Глобуса. Аднойчы ў «Жывым журнале» зьявіцца рэфлексія: «Гермянчук і сьмерць».

«На пахаваньні журналіста Ігара Герменчука ўспомнілася пытаньне стоікаў... Няўжо ты ня ведаў, што тваё дзіця сьмяротнае? Ведаў. Як ведаю пра сьмяротнасьць сяброў. Менавіта каля труны

Герменчука ўбачылася і адчулася сьмяротнасьць Айчыны. І што? Хай даруюць мне сябры-паэты, на іх хаўтуры не пайду. На пахаваньні Бацькаўшчыны мяне таксама ня будзе».

Значна пазьней Глобус напіша іншае, пад назвай «Гермянчук і замова».

«Звоніць Ігар Гермянчук — галоўны рэдактар газэты „Свабода“. Просіць, каб я напісаў думкі пра бандыцкі напад Расеі на Ўкраіну. Ігар даведаўся, што я цяпер не зьвязаны шчыльна ні з адным пэрыядычным выданьнем, таму і заахвочвае пачаць актуальную калёнку ў баявой „Свабодзе“. Адмаўляцца я не адмаўляюся. Канечне, лепей бы мне прапанавалі пісаць пра жыцьцё мастакоў, пра багемны побыт артыстаў ды пра здарэньні зь літаратарамі, але і такая палітызаваная прапанова Ігара падаецца своечасовай. Я абяцаю, што абавязкова напішу калёнку і днямі прынясу ў рэдакцыю. Ігар пачынае казаць, што прыходзіць да яго ня трэба. Ён так тэмпэрамэнтна адмаўляецца ад нашай сустрэчы, што я раптам згадваю — рэдактара Герменчука даўно няма сярод жывых. Гэтая згадка і выкінула мяне зь цяжкага сну ў начную рэальнасьць. Субота, 15 сакавіка 2014 г.».

Выдавец недзяржаўнае прэсы Пётар Марцаў раскажа аднойчы журналістцы Радыё Свабода Сьвятлане Курс:

«Мы зь Ігарам сустрэліся, калі адбылося нечаканае рэзкае падзеньне накладу „Свабоды“, якая доўгі час была сымбалем адраджэньня. У яе быў вялікі наклад у пачатку 1990-х, і яна мела вялікае значэньне для грамадзтва. Потым адбыліся зьмены на газэтным рынку, і выдавец, Павал Жук, а такса-

ма, магчыма, Ігар запрасілі мяне, каб дапамагчы знайсьці агульную мову. Хто ведае Ігара, той заўважыў, што гэта прынцыповы, адкрыты, эмацыйны чалавек. Дачыняцца зь ім цяжка, калі ён упэўнены ва ўласнай рацыі. Аднойчы мы груба пасварыліся і сядзелі адзін насупраць аднаго і саплі. Адчувалася, што калі б хто-небудзь сказаў слова, другі ўстаў бы, сышоў і не вярнуўся. Аднак неяк мы адзін аднаго перасаплі. Чалавек быў аддадзены справе. Яго ў значна меншай меры цікавілі іншыя рэчы — можа, нават палітыка ня так цікавіла, як уласная газэта. Грошы яго дакладна ня так ужо цікавілі, у адрозьненьне ад бальшыні нашых калегаў».

Аднойчы журналіст Павал Шарамет пакіне ў сацыяльных сетках кароткія радкі: «Мой таварыш і адзін са стаўпоў незалежнай журналістыкі ў Беларусі сёньня памёр ад вострага лейкозу. Жахлівая страта!». І паставіць здымак Пятра Марцава. Гэта будзе 13 верасьня 2014 году.

Гермянчук, Марцаў, Шарамет. Гэта былі зусім розныя зоркі на мэдыйным небасхіле. Але ўсе зыркія па-свойму. Нельга аспрэчыць. Той, хто хоча быць першым у гэтай небясьпечнай справе ці папросту ня можа ня быць ім, прыцягвае маланкі, выклікае агонь на сябе. Даўжэй за іншых пратрымаўся на гэтым «мінным» мэдыяполі Павал Шарамет. І ягоная сьмерць была найбольш гвалтоўнай, страшнай, загадкавай. Першым пайшоў з жыцьця Гермянчук.

Беларусі такіх людзей, як Ігар, катастрафічна не хапае, кажа Сяргей Грыц:

«І тады так было, і сёньня так ёсьць. Гэта быў разумны, мужны чалавек. Асоба. Які мог павесьці

за сабою людзей. Я памятаю, ён нейк нават са мной пажартаваў: „Ты памятай, што ты размаўляеш з будучым прэзыдэнтам Беларусі“».

Гэта вытрымкі з эсэ Дубаўца:

«У кожным сваім інтэрвію Ігар паўтараў: галоўнае — прафэсіяналізм. А ўжо што такое журналісцкі прафэсіяналізм, ён за гады сваёй працы і зразумеў, і акрэсьліў для сябе дасканала. Гэта быў якраз той выпадак, калі ўсе сілы былі кінутыя на адзін фронт, калі яйкі былі складзеныя ў адзін кошык, калі брамніка замянілі шостым палявым гульцом. Ня столькі „поўная самааддача“, але поўная канцэнтрацыя асобы на адным кірунку. Што ў такіх выпадках бывае — ведаюць усе. Пан або прапаў. Ён так і жыў — максымальна сканцэнтраваны на мэце, заўсёды адкрыты наперад.

А завалілі яго ззаду. З крыл. А які яшчэ найбольшы стрэс мог быць для Ігара, што абсалютызаваў свой журналісцкі палёт і беззапаветна верыў у сілу сваіх крылаў, як не „адстаўка з паста рэдактара за непрафэсіяналізм“? У герояў не бывае маленькіх пачуцьцяў. Таму адстаўка з прафэсіі была ўспрынятая як адстаўка з жыцьця...»

## Дыплём ягонага імя

2005 год, 3 траўня, аўторак. Усясьветны дзень свабоды прэсы. У Горадні ўручылі дыплём імя Ігара Герменчука «За адданасьць прынцыпам свабоды слова». Упершыню. Атрымала Алена Раўбецкая, яна рэдагавала газэту «Биржа информации».

Дыплём заснавалі супольна нарвэскія «Дом правоў чалавека» і ПЭН-клюб. Гэта было зроблена напярэдадні, сам дыплём даставяць у Беларусь з Осла толькі заўтра, патлумачыла старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна.

Калі будзе трэці рэфэрэндум Лукашэнкі — у 2004-м, каб мог кіраваць неабмежавана, — «Биржу информации» прыпыняць. Зробіць гэта Міністэрства інфармацыі. За крытычную публікацыю пра мэту гэтага мерапрыемства. А потым будзе забарона друкаваць. І газэты ня стане.

Яшчэ праз два гады ўзнагароду імя Герменчука ўручаць Іосіфу Сярэдзічу, галоўнаму рэдактару «Народнай волі». З нагоды Міжнароднага дня салідарнасьці журналістаў, 8 верасьня.

Жанна Літвіна тады скажа: «Ігар Гермянчук — гэта адно з імёнаў, якія зьяўляюцца сымбалямі беларускай журналістыкі. Вельмі важна, каб мы яго не забылі і каб яго ня сьцерлі нашыя штодзённыя клопаты. І абсалютна натуральна, што дыплём яго імя ўручаецца чалавеку, які мужна трымаецца прынцыпаў свабоды слова і адстойваў сваю рэдакцыю, нягледзячы на ўсе перашкоды».

А вось што мовіў сам Іосіф Сярэдзіч: «Я ганаруся, што трымаю дыплём імя Ігара Герменчука. Я добра ведаў гэтага чалавека, які быў ня проста журналістам, які цудоўна пісаў і прафэсійна рэдагаваў газэту, але і перажываў за ўсё, што адбываецца зь яго краінай. Гэта чалавек, які паклаў сваё жыцьцё за ўсталяваньне дэмакратыі і свабоды слова ў Беларусі».

Больш узнагароджваньняў ня будзе. На жаль.

Сам Германчук быў адзначаны дыплёмам ПЭН-цэнтру імя Алеся Адамовіча. За сваю «Свабоду». З расшыфроўкай: «За высокі прафэсіяналізм у барацьбе супраць аўтарытарнай дыктатуры ў Беларусі». Гэта адбылося ў 1996-м.

Алесь Дашчынскі на маё пытаньне, які Ігар быў у штодзённай працы, сказаў: ты ведаеш, ён быў закрыты чалавек...

Таму што прафэсія журналіста — задаваць пытаньні, а не адказваць?

Сапраўды, вельмі закрытым ён быў, згаджаецца Марыя Германчук і тлумачыць: «Прыватнае штодзённае жыцьцё Ігара заўсёды было толькі сямейнай справай». І дадамо наступныя яе словы: «А сям’я для яго самога была тым месцам, дзе ён быў патрэбны хоць які: здаровы ці хворы, дэпутат, рэдактар — неістотна, галоўнае, ён быў бацькам сыну і каханым для жонкі».

Вадзім Казначэеў: «Ён заўжды казаў: „Тое, што гэта патрэбна з палітычных, чалавечых ці яшчэ якіх-небудзь прычын — гэта ўсё не падстава, каб пісаць, бо галоўнае — трэба зрабіць якасны журналісцкі матэрыял. Знаходзьце фішку“. Гэтае „знаходзьце фішку“ было — скрозь. То бок — падача, „цікавосткі“, як ён казаў. Бяз гэтага нічога не атрымаецца. І ён меў рацыю. Газэта „Свабода“ ніколі не была ідэалягічным прадуктам, гэта была найперш газэта. Агульнанацыянальная. Для якой трэба, калі ты хочаш напісаць матэрыял, каб ён быў „чытэльны“».

«Для мяне Германчук — гэта чалавек шматзначны», — падводзіць рысу Казначэеў.

## Мірскія мэтамарфозы

16 сьнежня 2010 году Аляксандар Лукашэнка выкарыстае замак у Міры для перадвыбарчага выступу. Гэта будуць яго чацьвёртыя выбары. Да візыту адрэстаўравалі першую частку помніка.

Спачатку гаварыў прыгожа. Пра аднаўленьне повязі часоў, пра адраджэньне гістарычнай самасьвядомасьці і веры ў тое, што беларусы — народ герояў і тытанаў духу. І што продкі перадалі ім у спадчыну мару аб свабоднай і незалежнай Айчыне. Ну, і што рэстаўрацыя каштавала аграмадных грошай. (СМІ пры нагодзе нагадалі яшчэ: усё-ткі лічыцца, што цэнтар Эўропы знаходзіцца менавіта тут, у Міры, ня дзе-небудзь.) Гаварыў па-расейску.

Наступныя пытаньні-адказы былі ў рэчышчы бягучай прэзыдэнцкай кампаніі, якая набліжалася да заслоны:

«„Оппозиционеры почему провоцируют? Ну, им нужны провокации. Они прекрасно понимают, что, наверное, им ничего не светит в эти выборы, поэтому нужны провокации“, — считает Глава государства.

Александр Лукашенко отметил, что имеются конкретные факты: „И как пытаются... на площади что-то спровоцировать, и так далее. Пусть не отбрыкиваются, мы знаем конкретные факты. Если только пойдут на это — мало не покажется!“».

Для Ігара Мірскі замак стаў крыніцай натхненьня да беларушчыны і свабоды, для ягонага апанэнта — месцам сілы для захаваньня асабістай улады. Умацаваньне духу ў адным выпадку, замацаваньне сваіх рычагоў — у другім.

А праз два дні, 19 сьнежня, у дзень прэзыдэнцкіх выбараў, на плошчы Незалежнасьці адбудзецца чарговае пабоішча. Тое, што некалі ноччу ў 1995-м зрабілі з дэпутатамі, у гэтым самым месцы зробяць з народам. Былі затрыманыя сотні пратэстоўцаў, многія трапілі ў турму.

Статус помніка будзе з часам афіцыйна падвышаны. 11 верасьня 2016-га дэпутаткай Палаты ў Наваградзкай акрузе стане дырэктарка музэю «Замкавы комплекс „Мір“».

Цяпер ён адбудаваны цалкам. І музэй тут, і рэстарацыя, і гатэлік. Як цацка вялізных памераў. Але сапраўдныя муры, якія некалі зачаравалі Ігара сваёй эпічнай веліччу, не заўсёды відаць. Хаця ўнутры, пад тынкам, яны ёсьць, як працягвае прысутнічаць «Свабода» пад скурай несвабоднай рэспублікі.

Мірскі замак — ён таксама шматзначны.

Калі шчыра: што такое гісторыя беларускай прэсы? Гэта шлях ад «Мужыцкай праўды» Каліноўскага да «Свабоды» Герменчука. Няпросты шлях, але — наперад, да незалежнасьці. Праз змаганьне, празь перашкоды, празь церні. «Каго любіш?» — «Люблю Беларусь». — «Дык узаемна». У ім была пасіянарнасьць. Як была яна і ў Каліноўскім зь ягонай «Мужыцкай праўдай». Гэта адрозьнівае, вылучае героя. Ён гатовы ісьці да канца, ён не збаіцца, не ўцячэ.

«Хочаш ведаць ПРАЎДУ? Выпісвай газэту СВАБОДА» — прыдумаў аднойчы Гермянчук рэклямны заклік.

Якая можа быць праўда без свабоды?

## Удар маланкі

Збройнага рыцара на кані ў якасьці дзяржаўнага герба «Пагоня» даў будучым беларусам вялікі князь Віцень. 1291 год. Віцень і сам быў рыцар і пераможца, заўсёды на чале свайго войска. Змагаўся з Тэўтонскім ордэнам.

Загінуў Віцень як дуб магутны, што стаіць асобна ў полі. Калі вяртаўся ў свой Наваградак, быў забіты маланкай.

Магчыма, пасьля гэтага гвалтоўнага здарэньня ў сярэднія вякі ўзьнікла незвычайная легенда: маланка пацэліла ў рыцара і агарнула летаргічным сном. Прынамсі, так перадае гісторыю швайцарскі рэжысэр Том Луц.

Сцэнічная дзея «Праект незвычайных праяваў надвор’я» зьмяшчае ў сабе дзіўныя спалучэньні. У аснове дзеі — кніга вядомага амэрыканскага фізыка Ўільяма Р. Корліса.

Людзі заўсёды гавораць пра надвор’е, а што надвор’е гаворыць пра людзей? І зьяўляюцца «людзі надвор’я». Каб расказаць.

Уявіце сабе музычны інструмэнт: скрыпка, аб’яднаная з трубой. На такіх прыладах граюць «мужчыны надвор’я» і «жанчыны надвор’я», а адна зь іх — сьпявае. Яна выйшла на сцэну ў рыцарскіх латах і шаломе, што адпавядае гісторыі, якую падае Корліс. Гэта дзіўны расказ пра сярэднявечнага рыцара, які выжыў пасьля ўдару маланкі. Апынуўшыся ў летаргічным сьне, ён вярнуўся да прытомнасьці толькі ў нашы дні.

Відовішча апісаў The Hollywood Reporter: «Рыцар паступова вызваляецца ад шалома і латаў і транс-

фармуецца ў прыўкрасную жанчыну з чароўным голасам». Хто яна для нас? Старажытная багіня Мара? Народзіны, плоднасьць, сьмерць — яе абавязкі. І лучнасьць паміж двума сьветамі — жывых і мёртвых.

Гермянчук любіў такія гісторыі яшчэ са студэнцкіх часоў, калі яны зь сябрамі ў дзьве-тры рукі пісалі супольныя творы пра розныя незвычайныя трансфармацыі, зьдзіўляючы адзін аднаго раптоўнымі паваротамі сюжэту. І стаўшы рэдактарам, ён не забываўся пра даўнейшую мару ствараць фантастычную прозу «для сябе».

Забіўшы Віценя, старажытны бог Пярун даў яму летаргію як надзею на будучыню, на пераемнасьць. І праз стагодзьдзі пасьля Віценя прачнуўся рыцар Вацлаў Іваноўскі, які прыдумаў СВАБОДУ і зрабіў усё, каб вярнулася Пагоня. Але новы ўдар маланкі пацэліў у рыцара ў 1943-м. Бег часу паскорыўся, і абудзіўся наступны рыцар, Ігар Гермянчук, каб вярнуць Пагоню і СВАБОДУ. І вярнуў. І зноў Пярун сваім ударам прыпыніў ходу гісторыі.

Маланкі б'юць штораз часьцей, і рыцар вяртаецца штораз хутчэй. Каб аднойчы вярнуцца назаўжды.

# Паказьнік асобаў

**А**



**Б**

**І**



**К**

**Ф**



**Х**



**Ц**



**Ч**



**Ш**

## Пра аўтара

Сяргей Астраўцоў нарадзіўся ў 1959 годзе ў Менску. Служыў у арміі. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Жыве ў Горадні. Рэдагаваў газэту «Пагоня» і літаратурны альманах «Новы Замак». Быў уласным карэспандэнтам газэт «Свабода», «Навіны», «Наша Свабода». З 1993 году супрацоўнічае з Радыё Свабода.

Пад псэўданімам Сяргей Астравец выпусьціў кнігі прозы: «Янычары», «Цэнзарскія нажніцы» (адзначана «Гліняным Вялесам»), «Кактэйль Молатава», «Каты Ёзафа Ратцынгера», «Райскія яблычкі», «Жалезная заслона з арнамэнтам», «Саргасава мора» і кнігу эсэ, зацемак, мэмуараў «Лісты да хома саветыкуса», прысьвечаную памяці Ігара Герменчука.

Удзельнік устаноўчых сходаў клюбу «Паходня» (1986) і БАЖ (1995). Сябра «Тутэйшых» (1989-1990), СБП і Беларускага ПЭН-цэнтру.

## Summary

One of the key figures in the 1991 battle for Belarus's independence was Ihar Hiermianchuk (1961–2002) — editor-in-chief of the independent newspaper "Svaboda," deputy of the first Belarus parliament (1990–1995), and member of the opposition BPF party.

This book explores the roots of Hiermianchuk's development — his youthful passionate interest in Belarusian history; the influence of friends, fellow students and professors during his years as a journalism student at Belarus state university; his experience as a soldier in the soviet military; his early involvement in the underground dissident movement, and altercations with the KGB; and, finally, his victorious election to parliament.

At its height, Hiermianchuk's newspaper "Svaboda" had a record circulation of 100,000 copies. Popular among those in society who leaned democratic, it was also quite widely read by government officials.

In April 1995, Hiermianchuk and several parliamentary colleagues staged a hunger strike in protest over a referendum about to be conducted by the country's president, Alexander Lukashenka. Armed men in masks tore into the parliamentary chamber, attacking and beating the protesting deputies. Hiermianchuk suffered the brunt of these blows by putting up a fight and attempting to unmask the assailants.

For years, both "Svaboda" and its editor were subject to unrelenting harassment — bank accounts were seized, computers confiscated, summonses delivered, investigations opened, KGB interrogations conducted. In 1998, a Belarusian court finally ordered a ban on further publication of «Svaboda».

Yet Hiermianchuk remained undaunted. The newspaper quickly resurfaced under a new name, "Naviny," and, its principled, impassioned and feisty editor churned out one hard-hitting issue after another.

In 1999, however, Hiermianchuk was suddenly fired by "Naviny"'s publisher on grounds of "unprofessionalism."

Author Siarhiej Astrautsou delves into the circumstances of that disappointing episode and explores Hiermianchuk's ensuing forays into independent journalism.

As Ihar Hiermianchuk's erstwhile university classmate and "Svaboda" colleague, Astrautsou is uniquely qualified to tell the story of a dedicated and passionate man who accomplished much in his short time on earth.

*

Siarhiej Astrautsou lives and works as a journalist in the city of Horadnia, Belarus.





Малы Ігар Гермянчук (у цэнтры) з братамі

На вечаровым аддзяленьні журфаку, 1978 г.





Сяргей Дубавец і Ігар Гермянчук у Міры, 1978 г.











Журфак БДУ, фотасправа, партрэтны здымак, 1978 г.

Вільня, каля касьцёла Сьвятой Ганны. Ігар прыехаў адведаць у войску Сяргея Дубаўца. Зіма 1979 г.

У войску, 1981 г.





Вечарына паэзіі Максіма Багдановіча на журфаку БДУ, 1982 г. Сяргей Трусевіч, Віялета Ефіменка, Ларыса Малашэня, Тацяна Сапач, Ігар Гермянчук, Сяргей Дубавец

Зборы на Купальле, 1982 г.







На Купальлі. Заслаўе, 1982 г.

Кветкі Янку Купалу. Вязынка, 1982 г. Ігар Гермянчук разам з Галінай Пахолкай і Тацянай Сапач

На магіле Францішка Багушэвіча. Жупраны, 1982 г.






Разам з захавальнікам сядзібы Багушэвіча Міхалам Ляпехам. Кушляны, 1982 г.

Вялікдзень у Трабах, 1982 г. Ігар разам з Тацянай Сапач і Сяргеем Дубаўцом





Шлюб Ігара Германчука з Марыяй Зайцавай. Менск, 1983 г.

На вайсковай катэдры БДУ. Сяргей Астраўцоў і Ігар Гермянчук, ззаду Сяргей Дубавец, 1983 г.



Белоруссия
Мирский замок
Фото А. Захарченко

Тече!

Можешь поздравить — сегодня у меня родился сын. Вес 3.00 кг., рост 50 см. Словом, норма. Правда, всё это произошло несколько неожиданно, на десять дней раньше, чем мы ждали. Поэтому сейчас весь в заботах.

И ещё одно. Теперь (с 10.08.) живу по новому адресу: 220030. Минск, ул. К. Маркса, 45, кв. 8. Но это тоже временно. Ищу постоянную квартиру. Пока самые надёжные мои координаты — служебный адрес.

Будь здоров!

P.S. В сентябре надо смотреть: „кто?“ „что?“ и „как?“

12 августа 1984 года.

І. Герм…





Паштоўка ад Ігара Маргусу Вялья пасьля нараджэньня сына Міраслава, 12 жніўня 1984 г.

Вандроўка па Нёмане, 3 верасьня 1984 г.





Вандроўка па Нёмане, 3 верасьня 1984 г.





МАНАЛЁГ ІГАРА ГЕРМЕНЧУКА

Я трапіў у сёла журбы,
я сам у гэтым вінаваты,
а быў, здаецца, учора — быў
на радасьці, сяброў багаты.

Заўчасна разараць сіло
я мог бы, ды баюся болю —
яно да жылаў прырасло,
як роздум мой прырос да столі

пусты і быццам бы ня мой,
як знак сьціхотнага вар'яцтва
і брыдкі на вачох, як лой
ці кроў на езуіцкіх пальцах.

Адкуль, адкуль прыйшло яно?
Калі з граху, дык грэх мой —
шчасьце...
Я сам, я сам прыдбаў яго —
гаворана віноўнай месьці.

Анатоль Сыс




Маргус Вялья ў рэдакцыі раённай газэты. Горад Хаапсалу, 1984 г.

Арыгінал верша Анатоля Сыса «Маналёг Ігара Герменчука»

Вокладка кнігі Франца Кафкі «Замак» па-польску



ПОМНИТЕ, ЧТО ОТДАВАЯ ГОЛОС ЗА ИГОРЯ ГЕРМЕНЧУКА, ВЫ ГОЛОСУЕТЕ ЗА БУДУЩЕЕ СВОЕЙ РЕСПУБЛИКИ — СВОБОДНОЙ И ДЕМОКРАТИЧЕСКОЙ, ЭКОНОМИЧЕСКИ ПРОЦВЕТАЮЩЕЙ И СОЦИАЛЬНО СПРАВЕДЛИВОЙ.

Среди 14 кандидатов, которые баллотируются в Верховный Совет БССР по Боровлянскому избирательному округу, ЕСТЬ ТОЛЬКО ОДИН, КТО ВЫДВИНУТ НЕПОСРЕДСТВЕННО НАСЕЛЕНИЕМ. Это —

Герменчук
Игорь
Иванович

собственный корреспондент Агентства печати Новости по Белорусской ССР (газета «Московские новости»), проживает в пос. Колодищи.

И. Герменчуку — 29 лет. Родился в крестьянской семье на Гомельщине. Белорус. В 16-летнем возрасте, после окончания средней школы, начал работать плотником на стройке. Два года служил в Советской Армии.

В 1984 году окончил дневное отделение факультета журналистики Белгосуниверситета. Работал корреспондентом в республиканской прессе. Сейчас третий год работает в Агентстве печати Новости — собственный корреспондент АПН по Белоруссии.

В 1988 году вступил в КПСС с целью «способствовать обновлению в обществе и в самой партии» — так подчеркнул в заявлении.

Жена — инженер-эколог. Сыну — 5 лет.

Листовка издана по инициативе Колодищанского клуба избирателей.





Улётка кандыдата ў дэпутаты Ігара Герменчука, надрукаваная ў Хаапсалу ў Эстоніі накладам 20 тысяч асобнікаў, сакавік 1990 г.

Ігар Гермянчук. Менск, 4 кастрычніка 1990 г. Фота: Маргус Вялья

Ігар Гермянчук у Вярхоўным Савеце. Фота: Уладзімер Сапагоў






З Маргусам Вялья ў Траецкім прадмесьці ў Менску, 3 кастрычніка 1990 г. Фота: Урмас Лаўры

З Маргусам Вялья ў Калодзішчах каля дома Ігара, 3 кастрычніка 1990 г. Фота: Урмас Лаўры






У Авальнай залі. Выступ ад мікрафона, 1991 г. Фота з тэлеэкрана

У Вільні каля тэлевізійнай вежы, 13 красавіка 1991 г. Фота: Маргус Вялья





БЕЛАРУСКАЯ - ГАЗЭТА

# СВАБОДА

№11 ЖНІВЕНЬ 1991

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902 · ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

ВЫДАВЕЦ ПАВАЛ ЖУК
РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА

АДРАС ДЛЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ: 220045, МЕНСК, П/С 17.
ФАКС (0172) 36-22-05

КОШТ 50 КАП.

## НІЯКАЙ ПАДТРЫМКІ ХУНЬЦЕ!

## ШТО СКАЖА БЕЛАРУСЬ?

Увечары 19 жнійня на сумесным паседжаньні кіраўніцтва БНФ "Адраджэньне", БСДГ, АДПБ, НДПБ і Менскага гарадзкога страйкаму было вырашана падтрымаць заклік Барыса Ельцына распачаць бестэрміновы страйк на рабочых месцах.

Ці ж можна выпіць мора...

## АПАЗЫЦЫЯ ПАТРАБУЕ СКЛІКАНЬНЯ СЭСІІ

Раніцай 19 жнійня да старшыні Вярхоўнага Савету БССР М.Дземянцея зьвярнулася група народных дэпутатаў рэспублікі: Л.Баршчэўскі, Ю.Беленькі, І.Герменчук, В.Голубеў, Ул.Заблоцкі, С.Навумчык. Ад імя апазыцыі яны запатрабавалі тэрмінова склікаць надзвычайную сэсію Вярхоўнага Савета БССР.

У інтэрвію СВАБОДЗЕ народны дэпутат БССР Ул.Заблоцкі заявіў:

З жонкай Марыяй. Вільня, 13 красавіка 1991 г. Фота: Маргус Вялья

Нумар «Свабоды», які выйшаў у часе жнівеньскага путчу, 1991 г.





Дэпутаты зганяюць з трыбуны першага сакратара ЦК КПБ А. Малафеева, 25 жніўня 1991 г.

Зь Янкам Запруднікам у Нью-Ёрку, 1992 г.






Ігар Гермянчук і Павал Жук у студыі Радыё Свабода ў Нью-Ёрку, 1992 г.

Ігар Гермянчук і Павал Жук каля магілы Радаслава Астроўскага. ЗША, 1992 г.





Дэпутаты Лявон Баршчэўскі, Ігар Гермянчук, Лявон Дзейка, Віктар Какоўка. Прыняцьце прысягі ў Дзень беларускай вайсковай славы, 8 верасьня 1992 г.
Здымак атрыманы ад Паліны Качатковаи

Зь Янкам Запруднікам на Іванаўскай у Менску побач з будынкам, у якім была рэдакцыя «Свабоды», 1993 г.





Аляксандар Дабравольскі, Алег Трусаў, Ігар Гермянчук, Зянон Пазьняк. III Усебеларуская палітычная канфэрэнцыя, 1993 г.

Валянцін Голубеў, Юры Хадыка, Ігар Гермянчук, Зянон Пазьняк. Сяргей Навумчык, Уладзімер Заблоцкі, Лявон Баршчэўскі на сустрэчы ў Акадэміі Навук Беларусі, 1993 г.
Фота: Уладзімер Кармілкін





Ігар Германчук выступае ў судзе, трымаючы ў руцэ нумар «Свабоды», 1993 г.

У судзе. Побач зь Ігарам журналіст Аляксандар Старыкевіч. 1993 г.





Галадоўка дэпутатаў Вярхоўнага Савету: Зянон Пазьняк, Лявонці Зданевіч, Валянцін Голубеў, Мікалай Крыжаноўскі, Ігар Гермянчук, Мікола Маркевіч, Сяргей Папкоў. За трыбунай Аляксандар Лукашэнка, 11 красавіка 1995 г.

Ігар Гермянчук. Фота: Уладзімер Сапагоў



СВАБОДА

15 красавіка 1995 г.

№15

Кошт 300 рублёў

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 60 000

Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56

Тэл./факс 36-24-41

Ігар ГЕРМЯНЧУК

Банда Лукашэнкі выканала загад свайго гаспадара

Але гэта ўсяго толькі пачатак

13 красавіка мне ў рэдакцыю патэлефанаваў старэйшы сьледчы па асабліва важных справах пры Генэральнай пракуратуры Я.Бролішс і прапанаваў паехаць зь ім, каб зрабіць судова-мэдычную экспэртызу (г.зн. зьняць пабоі). Экспэрт зафіксаваў дзесяць сьлядоў, якія пакінулі на мне прэзыдэнцкія падонкі ў чорных масках і наморднікаў. Але я ведаю, што іншыя мае калегі (З.Пазьняк, Л.Барщчэўскі, А.Шут) пацярпелі ў тую ноч яшчэ болей.

Сьледчы сказаў, што Генэральная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу і распачала папярэдняе сьледзтва "па факту насільля, ужытага супраць дэпутатаў". Ён папрасіў падысьці ў бліжэйшыя дні да яго і расказаць пра ўсё, што адбылося.

Між тым, я лічу, што будзе карысным даведацца пра гэта не толькі сьледчаму, але і чытацкай публіцы. Бо атрымалася так, што пра гэтыя падзеі добра ведаюць практычна ва ўсім сьвеце, але нікога не ведаюць у нас. Заходнія СМІ апэратыўна і падрабязна паведамлялі і пра галадоўку дэпутатаў і пра начны напад на іх (вытрымкі з гэтых публікацыяў вы можаце пачытаць на 6-й паласе гэтага нумара). А беларуская афіцыйная прэса альбо рабіла выгляд, нібыта нічога не адбылося, альбо займалася звыклай для яе хлусьнёю. Таму большасьць людзей яшчэ і сёньня практычна нічога не ведаюць нават аб прычынах, якія вымусілі дэпутатаў распачаць галадоўку. Таму, відавочна, ёсьць сэнс апублікаваць цалкам заяву 18-ці дэпутатаў, якую абвесьціў фракцыі 11 красавіка з трыбуны сэсіі лідэр Апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк. Вось яе тэкст:

*"Спадары дэпутаты!*

*Мінула амаль пяць гадоў дзейнасьці Вярхоўнага Савету, у якім усё вызначала і вызначае былая камуністычна-наменклатурная большасьць.*

*Які ж вынік вашай дзейнасьці за пяць гадоў, спадары дэпутаты? Што вы нарабілі, што натварылі?*

*Пяць гадоў назад у нас былі аднолькавыя жыцьцёвыя ўмовы, як і ў краінах Балтыі.*

(Заканчэньне на стар.2)



На здымках: Так пачыналася галадоўка. Увечары дэпутаты зьбіраліся класьціся спаць.

Васіль БЫКАЎ:

"Краінай кіруе хунта"

Вельмі хацелася б памыліцца, згледзець усё як эпізод у нягростых калізіях палітычнага змаганьня на Беларусі, але, здаецца, памыліцца тут немагчыма. Тое, што адбылося за апошнія суткі, ёсьць не што іншае, чым прэлюдыя фашыстоўскага перавароту, калі група асобаў учыніе крывавую лазьню ў сьценах парламенту і захоплівае ўсю паўнату ўлады ў краіне.

Нядаўна гэтаксама рабілася ў шэрагу лацінаамэрыканскіх краінаў, у чорнай Афрыцы, некаторых краінах Азіі. Але што цікава — нідзе той дыктатарска-фашыстоўскі рэжым не затрымаўся надоўга. У крайнім выпадку яго хутка зьмянялі такі ж, хоць і пад іншым кіраўніцтвам, які ставіўся да сваіх папярэднікаў гэтаксама безьлітасна, як тыя ставіліся да сваіх.

У нас жа вельмі непрыемна і нават страшна, што ўсё тое інсьпіравана зьверху, вад кіраўніцтвам быццам бы дэмакратычна абранага прэзідэнта, у руках якога і без таго засяроджана велізарная сіла. Раней ён тую сілу пагрозьліва рэалізоўваў на плошчах ды вуліцах, цяпер чарга дайшла да парламанцкіх залаў. Нават кішэнны па-сутнасьці, паслухмяны і прокамуністычны Вярхоўны Савет стаў для яго перашкодай. Але перашкодай на шляху куды? Ведама ж, да ўсталяваньня асабістай дыктатуры, каб "усур'ёз і надоўга". Сёньня ён перамог рукамі "гарылаў" у чорных масках. Ужо відаць, што на Беларусі не будзе парламанту, не будзе выбараў, зьнікнуць рэшткі вольнай прэсы. Краінай закіруе прэзідэнцкая хунта. А як кіруюць хунты, мы добра ведаем зь нядаўняга вопыту.

Беларусь падае яшчэ глыбей у прорву палітыка-эканамічнага крызісу, на выйсьце з якога страчваюцца апошнія спадзяваньні.

Што ж, можна хіба павіншаваць беларусаў зь мінулымі выбарамі. Горай не зробіш — для сябе, для грамадзкасьці, для нашчадкаў таксама.

12 красавіка 1995 г.

Васіль БЫКАЎ

Заява амбасады Злучаных Штатаў Амэрыкі аб палітычных падзеях у Беларусі

Пасольства Злучаных Штатаў Амэрыкі з велізарнай заклапочанасьцю разглядае развіцьцё палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Асаблівую трывогу Пасольства выклікалі паведамленьні пра прымяненьне сілы ў адносінах да дэпутатаў Вярхоўнага Савету ў зале паседжаньняў.

Злучаныя Штаты настойліва заклікаюць да вырашэньня палітычных праблемаў мірным і дэмакратычным шляхам, цалкам кіруючыся правамі чалавека ў адпаведнасьці з міжнароднымі пагадненьнямі, якія падпісала Беларусь.

Першая старонка нумару «Свабоды» пра бясчынства ў Вярхоўным Савеце






Свабодаўцы і чытачы. Пікет пасьля закрыцьця газэты «Свабода». Менск, плошча Якуба Коласа, 1997 г.

Ігар Гермянчук і Сяргей Астраўцоў у рэдакцыі «Свабоды» на Іванаўскай. Канец 1997 г.



*Палявание на «Хартыю-97» (стар. 2)*
*Часіна вялікага тэрору: беларускі барыянт (стар. 4-5)*

# СВАБОДА

Аўторак, 25 лістапада 1997 г. | № 130 | Кошт свабодны

## Суд выканаў волю прэзідэнта
## СВАБОДУ забаранілі

**Учора Вышэйшы гаспадарчы суд прыняў рашэнне спыніць дзейнасць газеты СВАБОДА. Прысуд быў абвешчаны ў 14:00 — ужо пасля падпісання нумару ў друк, таму мы не маем магчымасці падрабязна распавесці пра судовы працэс. Але, па сутнасці, судовага працэсу не было. Суддзі М.Клімянковай, якая разглядала справу, спатрэбілася ўсяго 15 хвілін, каб вынесці рашэнне аб закрыцці СВАБОДЫ. Суддзя абвесціла, што рашэнне ўступае ў законную сілу з моманту яго прыняцця. Гэта значыць, што ад сёняшняга дня СВАБОДА не мае права выходзіць у свет — ліцэнзія анулявана.**

**Шаноўныя чытачы, мы не развітваемся з Вамі! Рэдакцыя СВАБОДЫ мае намер распачаць выпуск новага выдання.**

## Мінуў роўна год

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

## Журналіст ледзьве не трапіў у «клетку»

## Ірыну Халіп абвінавачваюць у хуліганстве

*Следчы Магарыл заяўляе, што яго пабіла жанчына*






Першая старонка апошняга нумару газэты «Свабода»

У Празе. Канец 1990-х





У рэдакцыі часопіса «Кур’ер». Канец 2001 г. Фота: Сяргей Грыц

Помнік на магіле Ігара Герменчука на Ўсходніх могілках
у Менску. Аўтар помніка Лявонці Зданевіч.
Фота: Сяргей Астраўцоў

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы…**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.



*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.



*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.